# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ВОСЬМЫ



## ЛІПЕНЬ
## 1929

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК

# НА МЕНСКІМ БРУКУ [1])

**Цішка Гартны**

I

Аўгень Проваў, вытворац працы, абкружаны .тэхнікамі і дзесятнікамі, абглядаў папраўлены вучастак дарогі.

Роўнаю струною расьцягнулася зафашыненае месца нядаўна раскіданай грэблі. Жоўты пясок, гладка абабіты лапатамі, пераліваўся на сонцы залатымі россыпамі. Узбочныя канавы конусам сходзілі да аршыннае глыбіні, адшнуроўваючы цёмную лінію, як анталяжы, на ўзроўні зьніжанага грунту поплаву. Рабочыя з атраду часткаю корпаліся пры зборы ў адно месца непадабраных ралак, трэсак і кускоў дзярыны, часткаю гутарылі, курачы цыгаркі, часткаю на адгоне некалькіх крокаў хадзілі за камісіяй.

— Нам застаецца перакапаць аб'езды, прыраўняць дарогу ад станцыі да мястэчка і—гайда далей,—паведаміў вытворац, спыніўшыся пасярэдзіне папраўленага вучастку.

— Ну, а з палоннымі як?—запытаў Бросьня.

— Нойдам і ім працу... Магчыма, вам прыдзецца паехаць абсьледаваць к сялу Вішнеўскаму... Ёсьць усе даныя, што сюдэю пройдзе асноўны маршрут...

— А ці пасьпеем мы да восеннай слоці ўвіхнуцца. Здарэньні на фронце ашаламляюча разьвінаюцца. Немцы падбліжаюцца да Ліды, наступаюць на Пінск, забралі Ваўкавыск...

— Мусім справіцца...

— Пры нашых людзях гэта вельмі цяжка.

— Што-а?

Бросьня азірнуўся назад, дзе наперадзе кучкі рабочых стаяў Рыгор. Вытворац хітра прасачыў за няўмеру старанным тэхнікам і рашуча зьбіў яго намер.

— Вайсковая дысцыпліна нікому не патурае.

Рыгор убачыў кіслую міну Бросьні і гідліва адвярнуўся да рабочых.

Рабочыя зацята абгаварвалі апошнія здарэньні на фронце. Ні пляны вытворца ў наступным, ні абгледжаны вучастак скончанае працы іх ня

[1]) Урывак з трэцяе часткі роману „Сокі цаліны"—„Крыжавыя дарогі".

цікавілі. Ваенізаваная, яна хоць і забясьпечвала ад жахаў фронту, усё-ж яго пасуваньне ўглыб краіны балюча адбівалася на настроях рабочых. Усе яны паходзілі з мясцовасьцяй, якія часткаю адышлі пад фронт, а часткаю непасрэдна з ім межавалі. Амаль ня кожны з іх тым ці іншым з свае працы, з свайго ашчэднага набытку, а то і жыцьцём сваяка ці семяніна заплаціў за няпрытомны ўчынак драпежных авантурнікаў. Дзе-ж канчатак крывавай завірухі?

На задаволеным і спакойным твары Аўгеня Провага мэрам-бы ня прыкметна было клопату пра гэта. Выкананае атрадам заданьне ўпісвала ў яго актыў новую лічбу і гэтым абмяжоўвала яго ад шырэйшых заданьняў ды глыбейшых думак. Гэта адзнавалі многія з рабочых, нядбайна праводзячы яго з рэвізійнага абгляду.

Пара стройных здаровых коняй хутка несла інжынэра—начальніка з месца работы ў канцылярыю.

— Што яму да вайны і што вайне да яго?—меркаваў Сёмка, абапёршыся на дзяржаньне жалезьняка.

— А ці-ж табе вядомы яго думкі?—не згаджаўся яго сусед.

— Мне і ведаць ня трэба—відаць з надворнага выгляду.

— Ха-ха-ха! Ці-ж можна суздром...

— У кожным разе вайна, галоўным чынам, б'е па нас,—перабіў Сёмка суседа.

— Гэта вядома!

— Пара было-б стукнуць і па ёй!

Малады здаровы дзяцюк усадзіў лёза жалезьняка ў смалістую хваіну.

— Вайна ня хвоя,—пажартаваў Сёмка.

Рабочыя расьсьмяяліся. Але іх сьмех тут-жа быў пераняты тэхнікавым загадам узяцца за перакладку аб'езнай дарожкі.

Хутка грамадка рабочых разьбілася на стройныя рады, якія паважна закалыхаліся над чорнаю зямлёю.

Рыгор прыстаў да першага раду і з асаблівым захапленьнем убіваў у рыхлую зямлю востры жалязьняк.

Пудовыя крыгі тарфаванае зямлі ўзмахам яго рук апісвалі сажэнныя дугі.

Ужо глыбокія раўчукі выглядалі дастатковай перашкодаю для праезду, калі новы абоз бежанцаў спыніўся перад першым радам рабочых.

— Назад, дзядзькі!—выгукнуў адзін з іх.

Падводы адна за другою сталі спыняцца. Неўзабаве ўсьцяж значнага адгону шляху зграмаздзалася каля сотні вазоў. Падняўся крык, які гнаў патрывожаных людзей наперад, да месца, якое перагарадзіла іх дарогу.

— У чым справа-а?—гудзелі дзесяткі галасоў, злосна трасучы ў паветры пугамі ды палкамі.

Рыгор не пасьпеў падняць рукі, каб супакоіць тых, што крычалі, як здаровая палка аднаго з іх апусьцілася на плечы яго суседа. Той крыкнуў і спрытна падняў уверх жалязьняк.

— Пастой!—прытрымаў яго Рыгор.

— А ты, дзядзька...

Селянін, што ўдарыў палкаю, рапгам прысьмірэў і пільна ўставіўся ўзрокамі ў Рыгора.

— Рыгор?!—зьдзіўлена выгукнуў ён.

— Дзядзька Сідор? Што з вамі?!

— Ах, сынок мой, даруй мяне, няпрытомнага...—пачаў апраўдвацца селянін, кінуўшыся на Рыгора і павісшы ў яго на шыі.

Зацікаўленая здарэньнем грамада сялян некалькі хвілін моўчкі глядзела на Рыгора з Сідорам, пасьля спакойліва пачала адыходзіць да сваіх вазоў, якія павярталі на папраўлены шлях.

Сідор апошнім адышоў ад рабочых, умольна перапрашаючы пакрыўджанага. На яго зьбянтэжаным твары мясьціўся едкі сорам з бяспомачнай разгубленасьцю.

— Паверыш, Рыгор, я сам не валадаю сабою. Змучаны, прыбіты няшчасьцем, я згубіў сваю людзкасьць... Бачыш, да чаго дайшоў,—паказаў ён на парваныя радняныя порткі.—З Пецярбургу і проста ў дарогу. А куды? У дагон за Гэляю... Так і ня чуваць, дзе апынулася яе цела?... Эх-ха-а! Сыно-ок, мой!

Побач грукацелі зьбітыя колы на новых фашынах. Доўгі шэры цуг бежанскага каравану ўяжджаў сваёй галавою ў вузкую прагаліну лесу. Мо' на гоны ад іх матнулася ў паветры белая дзеравячына, некалькі разоў схіліўшыся да долу. Сьледам да іх дайшоў аслаблены адгонам вокліч:

— До-а-р-р! Дзі-ы-а!

— Завуць!—выпрастаўся Сідор і, зьняўшы скамечаную шапку, колеру прасохшага чорназёму, пераскочыў канаву.

— Правядзі, Рыгор,—пазваў ён спусьціўшы хвілінку.

Рыгор уваткнуў жалязьняк у зямлю і нагнаў Сідора.

— Ага-а, бок, дзядзька! Я і забыў—і Сёмка тут-жа...

— І Сёмка-а? Хведа-араў?..

Сідор падняў угору плечы, скрывіў голаў і застаўся так стаяць, пакуль Рыгор ня гукнуў Сёмку.

Зьдзіўлены раптоўнасьцю Рыгоравага паведамленьня, Сёмка, кульгаючы, падбег да іх і вытарашчанымі вачмі паглядзеў на Сідора.

— Няўжо вы, дзядзька, дагэтуль заставаліся ў Сілцох?—суха запытаў ён.

— Дзе-э там!—разуверана матнуў рукою Сідор.—Праз тыдзень пасьля цябе выбраўся ў дарогу і ўсё яшчэ еду. Бачыш, колькі часу зьеў адгон ад Сілцоў дагэтуль... Справы-ж, браце-э...—Уваччу Сідора паказаліся сьлёзы.—Вось быў на нейкі час устраг на працу ў фаль-

барку Зграі, вёрст сорак адгэтуль, а далей гаспадар разьлічыў... І цяпер еду з чужымі, адзін, як воўк, ну, зусім без усялякіх спадзяванак на прыпынак... Вунь Бокі ды Гладышы паасталёўваліся даўно, а гэта-а...— Іду-а-а!—гукнуў ён усьцяж абозу...—А ты як-жа апынуўся тут на працы?..—пацікавіўся Сідор.

— Дзякуючы Рыгору... Выратаваў ён мяне, дзядзька. А я ўжо думаў...

Сідор стаяў, як на шарніры: яго ўскудлачаная галава нясупынна адварочвалася ад Рыгора ды Сёмкі і вочы лавілі скрадзеныя лесам пярэднія падводы.

— Ай ды добра сынку, добра...—спачуваў ён Сёмку, выказваючы сваю спагаду няскладнымі сказамі нэрвовае гутаркі...—Добра-а, а мне-э...

Ён раптам сарваўся і, не разьвітаўшыся нават, кінуўся бегчы за падводамі, у бок лесу. Прамінуўшы да дзесяці падвод, ён напэўна апамятаўся і спыніўся, замахаўшы шапкаю. Калі Рыгор з Сёмкам, не зважаючы на гэта, павярнулі назад, та яны не прайшлі і трох сажняў, як ззаду іх пачуўся Сідораў голас:

— Не адкажэце, небажаты, пазычыць мне якую траячку дробных... Ведаеце, родныя мае, гроша меднага ня маю... Згіну ў дарозе, калі не пасобіце...

Рыгор з Сёмкам пераглянуліся. Але пры Сёмку нічога ня было і ён ніякавата маўчаў, чакаючы выручкі ад Рыгора. Той шукаў, у кішэнях і брашчаў медзякамі.

— Даруйце, дзядзька, толькі і маю каля рубля з сабою,—падаючы Сідору жменю дробных, перапрасіў Рыгор.

— Ну, дзякую і за гэта, сынок... дзякую... хоць на які пачак махоркі... А то што меў, як прахам разьляцелася... Жа-арты-і, гэткая дарога! Пецярбург і назад у Сілцы, а колькі, як з Сілцоў... Вярну, браце, калі бог дасьць будзе здароўе і ўся гэта завіруха сьціхне...

— Ці-ж варта пра гэта казаць... парахуемся, дзядзька, абы ўсё добра было...

Сідорава шапка, спрытна зьнялася з галавы, апісала замыславатую фігуру і Сідор кінуўся ад іх у подбежкі за падводамі. Хутка ўзьняты абозам пыл сьцёр вострыя рысы яго постаці.

— З якое гаспадаркі і да жабрацтва! Вось яно да чаго можна дайсьці,—задуменна паспагадаў Сёмка і паглядзеў на зямлю, пасыпаную жоўтым пяском.

— Вайна, таварыш! Ці мала такіх, як Сідор!..

— Цяжка, Рыгор, вой, як цяжка!.. Часамі пачнеш думаць, ажно галава закружыцца... Вось дзе пролетарства—дык пролетарства... Падумай, што я або гэты Сідор зараз варты?.. Куды яму прыткнуцца ў чужым, невядомым краі? Каб рамесьнік які, каб меў дзе-колечы родных, сякія-такія грошы ў кішэні, а то... І выказаць нельга! Дзякую, браток, табе,

шчыра дзякую, што ты выручыў мяне з бяды... Не зрабі ты гэтага— хто яго ведае, што-б са мною сталася... На гэты дзень... А ты...

Рыгор абарваў яго споведзь крутым махам рукі. Аднак Сёмкавы развагі не знаходзілі ў ім важкіх абвяржэньняў. Сапраўды, што ён мог акрэсьленага сказаць у яго ўцеху? Голае, адцягненае слова бадзёрасьці было ў яго і з ім адным Рыгор зьвярнуўся да таварыша:

— А ты надзейней глядзі ў будучыню! Яшчэ ўсё не пражыта!

У Рыгоравым сказе зьвінела сталёвая ўпэўненасьць, ад якое нельга было захавацца сумнаватаму настрою, але далей за ёю было нявыразна.

— Да ўжо-ж!—праказаў Сёмка.

Яго словы расплыліся ў сольным запеве, які зрушыў з месца грамадку рабочых, што скончыўшы працу рушылі на спачынак.

Павісшае на скрыжаваных верхавінах лесу чырвонае сонца, мыла халодныя лёзы паднятых угору жалезьнякоў...

Тэхнік Бросьня хмура паглядаў у бок Рыгора, які ішоў з Сёмкам на адгоне некалькіх сажняў ад рабочых.

II

Вясёлы твар Рыгоравай гаспадыні выдаваўся белым месяцам на фоне цёмнага квадрату адчыненых дзьвярэй.

— Ну, і навін-жа ў вас будзе сёньня!—сустрэла яна Рыгора.

І не пасьпеў той разьвітацца з Сёмкам, як заўжды закасаная рука маладзіцы працягнула яму к твару жмут газэт і лістоў.

— Тут, напэўна, ёсьць ліст і ад сястры. Цікава, як яна там жыве! Х-а-роша-а-я дзяўчына! Вот ад першага разу спадабалася... ды годзе-э... Што-ж ты зробіш—ёсьць такія людзі... Няпраўда, мо?..

Яна была ў фаворы і гаварыла бойка, захопна, перагарадзіўшы Рыгору дарогу. Яе хітрыя зоркія палкія вочы крыжавалі яго вострымі ўзрокамі...

Але не стаяць-жа было Рыгору перад рэзвай гаспадыняй, як перад папом на споведзі—і ён зламаў ніякавасьць у абыходзінах з жанчынаю, ступіўшы рашучым крокам наперад. Маладзіца мэрам-бы і чакала таго— спрытна адхілілася ўбок і прапусьціла падсуседа ў кватэру. На нейкі час яна як зьнікла...

А Рыгор, увайшоўшы да сябе, баржджэй хапіўся за лісты. Непарушную ціш пакоіку прарваў траскучы шорпат дранай паперы. Але не пасьпелі Рыгоравы вочы апусьціць напружаныя ўзрокі ў скрадзеныя змрокам радкі ліста, як крохкія стукі ажыўшай гаспадыні павярнулі яго галаў да сьценкі.

— Чую!

— Вячэра на стале астывае...

— Зараз!

— Прашу вас, мой падсуседзе...

Рыгор скамячыў ліст і ўсунуў яго ў кішэню, мяркуючы прагледзець за вячэраю. Аднак, гаспадыня гэтаму перашкодзіла: яна, мэрам-бы ў помсту за перарваную гутарку ў дзьвярах, не закрыла рота, пакуль Рыгор ня скончыў вячэру і не вярнуўся ў свой пакой. За якіх дваццаць хвілін ён пачуў процьму казачных навін, сплеценых рэзваю маладзіцаю ў мудрыя комбінацыі фантастычных зьявішч. У іх вінігрэце знайшлі сабе месца і двор, і мястэчка, і фронт, і Менск, яе муж, і вытворца, людзі і месцы, пра якіх Рыгору ня было жаднае цікавасьці і якія ня болей цікавілі лепяткую гаспадыню.

— Вам не заснуць будзе доўга!—заключыла яна, калі Рыгор, не даслухаўшы, пакінуў яе адну.

Настарожанае вуха гаспадыні дарма чакала адказу.

Рыгор моўчкі прайшоў да сябе і, засьвяціўшы агарак сьвечкі, зноў хапіўся за чытаньне.

Распакованы перад вячэраю ліст быў з Пецярбургу. Яго пісаў Артур Цьвібель. Як і што яму стаў вядомым Рыгораў адрас—цяжка было дазнацца. Рыгор дапускаў, што Цьвібелю яго даў Анікей, які знаў, дзе знаходзіцца Рыгор. Ды дарма—гэта толькі на момант адняло Рыгораву ўвагу—цікавейшым быў самы зьмест цьвібелеўскага ліста. З яго Рыгор праведаў аб апошніх навінах з жыцьця Пецярбургу. Таварыш паведамляў пра настроі рабочых, пра пашыраныя гутаркі наконт сэпаратнага замірэньня, пра таемнасьці прыдворнага жыцьця, у асяродку якога вярцелася імпозантная фігура распусьніка Распуціна.

Ліст востра заінтрыгаваў Рыгора, Пецярбург уварваўся ў яго нутро і завалодаў Рыгоравым пачуцьцём. Ён не дачытаў ліста і на нейкі час перакінуўся ў думках да берагоў Нявы, на шырокі і бурлівы Неўскі, за заставы, на Выбарскую старану.

Выразны жывы вобраз сталіцы напоўніў яго істоту дынамікаю разьюшанага жыцьця. Бясспрэчна, што на яе струнах адчуваецца найцянейшае калыханьне лёсу ўсяе дзяржавы. Сталіца зьяўляецца рупарам усіх падзей і ў гэтым рупары гучыць сабранае рэха іх вынікаў. Жыць у Пецярбурзе—знаходзіцца ў асяродку гэтых вынікаў, быць непасрэдным удзельнікам рознастайных пэртурбацый палітычнага і грамадзкага жыцьця.

Насьпяваньне багатых зьместам здарэньняў, пікантная неакрэсьленасьць іх уплыву, шырокія магчымасьці разгарненьня рабочага руху—усё-ўсё гэта раптам вырасла перад ім з маленькага таварышавага ліста ў нешта вялізнае і жывое і завалодала Рыгорам. Ці ён спадзяваўся едучы ў атрад, так доўга ў ім затрымацца? А то-ж мінула столькі часу, як глухая провінцыя зассала яго ў сваю дрыгву і адрэзала ад трапяткіх, пытаньняў бягучага жыцьця! Да чаго ўсе гэтыя Аўгені Провавы, Бросьні, іх стан і іх злосьць; навошта тая надмерная ўвага, зьвязаная з тратаю часу і энэргіі на гутаркі, просьбы і сваркі з гэтымі фактычна нікчэмнымі чынушамі?.. Надало яму паслухаць Паўла і кінуць Пецярбург, каб у падобныя гістарычныя часы, сыці з шырокага шляху ўзрастаючага

змаганьня. Самаахова? Пляваць! Каму гэта патрэбна! Ды хто-б, зрабіўшы на яго замах, дасягнуў-бы мэты? Ён мог-бы лёгка асталявацца дзе-колечы ў іншым раёне Пецярбургу, на тым ці іншым заводзе, ці знайсьці месца ў мілітарызаванай установе... А ехаць...

Раптам ліст Цьвібеля зноў прыцягнуў да сябе Рыгораву ўвагу: апошняя старонка была прысьвечана прыватнаму жыцьцю таварыша. Цьвібель скардзіўся на Рыгоравага знаёмага, што той ня выканаў абяцанкі і не памог яму, Цьвібелю, стала ўладзіцца на заводзе. Ужо болей двух месяцаў, як ён бяз працы; дарагоўля выцягнула з яго апошнія магчымасьці для далейшага жыцьця і ён—(няўжо?)—упрасіў латыскі бежанскі камітэт прыглядзець за сям'ёю, а сам пашоў у латыскія стралкі. „Я доўга думаў над гэтым, аднак іначай ня мог нічога іншага зрабіць, як спыніцца на апошнім“. „Чаму ня мог? Няўжо Артура пагнала ў войска яго скрутнае становішча? Ці можа ім кіравалі іншыя думкі? Чаму ўжо трэці з яго знаёмых апыняецца ў шэрагах латыскіх палкоў?“

На гэтым развага наконт Цьвібелевых паводзін адляцела да століка разам з кінутым лістом. Другі ліст чакаў свае чаргі, лёгка падняўшыся з вакна праваю рукою Рыгора.

На штэмплі—Масква...

Рыгор, перад тым, як чытаць, прыслухаўся чагосьці. За сьценкаю нікога. За вакном—зорнае неба...

Раптам каля акна забрахаў сабака. Чаго ён тут?..

Масква! Напэўна, піша Пятрусь!

Так—характар Пятрусёў.

Рыгор з прагавітасьцю накінуўся на роўныя радкі ліста.

Ї Пятрусёва істота—побач з ім. Вось ён таварыш і сябра, з яго жыцьцём у Маскве пад чужым імем. Служба ў народным банку, новыя знаёмыя; цікавая грамадзкая праца; ажаніўся; мае быць у кастрычніку месяцы ў Менску...

Стукнулі дзьверы?..

„А як я? Што мне сказаць пра сябе? Як і раней, калі ня горш?“

Пятрусёў ліст, аднак, ня прынёс новага хваляваньня. Ад яго павеяла буднямі, калі ня браць пад увагу хаценьня ўгледзецца з Пятрусём, як з таварышам і сябрам. Цікава, бязумоўна цікава, як адбіліся на ім апошнія здарэньні з яго жыцьця...

У кастрычніку будзе ў Менску! К таму часу перабярэцца ў Менск і Рыгор. Ну, а як будзе стрэцца? Трэба Пятрусю адпісаць...

Ужо дачытаны ліст знаходзіўся на поўдарозе да месца, дзе ляжаў Цьвібеляў, калі Рыгору раптам узьбегла на памяць Рыма.

Ён двойчы каўзануў узрокамі па лісту і не знайшоў, як і першы раз, гэтага імя...

Як-жа думаць, ці Пятрусь узяў яе, ці можа?..

Цікава, як з Рымаю!

Няўжо?..

Шорпат трэцяга конвэрту зьліўся з расьцяжным тонам нясканчанага запытаньня.

Блакітны лісток паперы з бедным зьместам. Простае, няроўнае пісаньне—вядома што Ліба.

„Ты не перадумаў, усё-ж, таго, на чым мы ўмовіліся?

Нуджу без цябе і з нецярплівасьцю чакаю твайго прыезду... Ваджу чародамі па раненых. Цесныя менскія панэлі апрацівелі мне да... Ці можа апрацівелі тыя абставіны майго зацяжнага шпітальнага жыцьця? Ня ведаю сама...

Той „чырвоны сьмех“, які нязмоўчна гучыць у маім вушшу... Ад яго зьвіняць шпітальныя вокны, ім запоўнена цяжкае шпітальнае паветра.

Але ўвесь Менск—адзін шпіталь... Нідзе ня дзенешся... Наўкола параненыя, і тыя што на чарзе...

Я часта наведваю вакзал і гляджу, цікаўна, ці ня ўбачу цябе. Дапушчаю, што возьмеш і прыедзеш не паведаміўшы. Ці праўда. Рыгор?..

Без таварыша... Бяз блізкага чалавека цяжка робіцца жыць.

Аднак... жаночыя капрызы... часамі задурышся і сама сабе ня рада—ты мой муж...

Няўжо ды ты мой муж?.. Не бяры ўсур'ёз...

Прыяжджай, каб не абрасьці мохам.

Цалую—Ліба“...

Рыгор аддаўся ўмільнасьці... Асалода пацалунку...—Ліба!

Лі-ыба-а—ты?

Нячутна адчыненыя дзьверы прапусьцілі гаспадыніну ўзлахмачаную галаву ў Рыгораў пакой.

Асьцярожлівае запытаньне, аднак было гулкім у застоенай цішы і Рыгор зьбянтэжана павярнуўся да дзьвярэй.

— Гэта вы?

— Выбачайце, вы не чакалі?

— Вам што патрэбна?

— Можа будзеце піць гарбату?

Іншым тонам:

— А ці-ж ужо пара?

— Дзесятая на сходзе... А калі хочаце, я малака прынясу?

— Калі можна—сырадою.

— Пэўна-ж...

Гаспадыня зьнікла. Але Рыгор не пасьпеў вярнуцца да перабітае думкі, як яна зноў стаяла перад ім. Падаючы малако, маладзіца з адбіткам трывожнасьці ў голасе праказала:

— А немцы ўжо каля Баранавіч. Аканом вярнуўся з мястэчка і казаў... Вільня таксама забрата... Што-а гэта толькі будзе-э, Рыгор Міхасевіч? Глядзеце, праз які тыдзень і Менск апыніцца ў іх... І, калі, крый божа чаго, прыдзецца ўцякаць, я сама ня ведаю, як тады быць... Ці-ж хто спадзяваўся гэтага?

— Ня думаю, каб да таго дайшло.

— І мне здаецца,—ласьне ўжо здарыцца нешта надзвычайнае... Усё-ж такі, ад Баранавіч да Менску болей сотні вёрст, а ад Менску да нас... Няўжо такі...

— Сьпеце сьмела...

Рыгор засьмяяўся і гэта гаспадыню ў момант перанастроіла. Яна падбегла да стала і пільна аглядзела паложаныя на ім лісты.

— А сястра ня піша?..

— Якраз піша ды кланяецца вам...

— Ласьне?—палісьцілася маладзіца.

— Ня хлушу.

— Перадайце і ёй уклон ад мяне, калі пісацьмеце... Ды ўжо-ж, думаю, напішаце?.. Чалавек, якому нельга не адпісаць...

— Напішу і перадам уклон.

Цікавасьць гаспадыні была задаволена. Яна прыняла з Рыгоравых рук пасуду і вышла з пакою. Але за дзьвярыма апамяталася і ўголас папрасіла:

— Перадасьце заўтра ранкам навіны.

— Абавязкова!—запэўніў Рыгор, ужо пасьпеўшы разгарнуць газэту.

„Біржоўка“ ў навінах дня амаль ня поўнасьцю падмацоўвала гаспадыніна паведамленьне. Ваенныя падзеі набліжаліся да Менску. Немцы абышлі Сьвянцяны, перайшлі на левы бераг Віліі, апынуліся каля Ліды. Пад пагрозаю пераможнага ворага страсянула жахам нядаўна дзёрскія, самаўпэўненыя сэрцы айчынных патрыотаў. Усерасійскія земскі і гарадзкі зьезды выкінулі чульлівы лёзунг „радзіма ў небясьпецы!“ А цьвёрдалобы, зблытаны ў падзеях урад вуснамі цара абвясьціў маніфэст аб прызвах ратнікаў апалчэньня другога разраду...

Размах здарэньняў гаварыў сам за сябе...

Пагрозны, атулены змрокам невядомасьці пытальнік концэнтраваў на сабе Рыгоравы думкі і ўзрокі.

За ім, у цемры ночы, раскрыжаванай, ляжала яго змучаная радзіма.

## III

Тая-ж будняя, з голымі хваёвымі сталамі канцылярыя вытворцы; але ў ёй замест аднаго чалавека, як то знайшоў у першы раз Рыгор,— з чатыры. Трое маўклівых мужчын над цёмнымі справамі і чацьвертая рухавая машыністка. Стукі клявіятуры ніжуць роўныя радкі дробных літар. У стуку—аднастайнасьць, як аднастайнасьць у словах і сказах казённых паведамленьняў. Павейвае сумам, хоць у прасторныя вокны льлецца досыць сьвятла. На вуліцы і ў двары—крыкі і бегатня дзяцей. Раз-по-разу возьмуць ды адцягнуць яны ўвагу машыністкі ці руплівага дзелавода. Порсткі вёрт, звычайна, правядзецца нявыразнай вымовай па адрасу бясклопатных дзяцей. На далей—цішыня з нямоўчнымі стукамі

машынкі. Паперак—толькі глядзі—не ababраццa. З двух бакоў падсоўваюць іх на маленькі столік машыністкі.

Праз кожную гадзіну, а мо' і часьцей, ідуць загады ад Аўгеня Провага. Вытворца важна выходзіць з свайго габінэту, аддасьць загад і, праверыўшы прысутных, зьнікае туды адкуль зьявіўся. Калі пры ўваходзе ў канцылярыю дзьверы габінэту адчыняюцца нячутна, то пры выхадзе яны стукаюць сухім трэскам. Трэск заўсюды падобны, стандартаваны і адваротны болей усяго для машыністкі. Нэрвовая, яна так і скаланецца, абы заўважыць зьнікаючую постаць вытворцы...

Дзьверы ад ганку ў канцылярыю характарны іншым стукам. Устаўленыя зьверху чатыры шыбіны рознастайняць яго бразкучым звонам шкла. У дадатак, растузаная клямка, выпадаючы з рук, далучае свой патройны бразг у агульную сымфонію гукаў. Абое яны парушаюць цягу канцылярскае працы—чатыры істоты, як па камандзе, паднімаюць ад паперы галовы і глядзяць у бок дзьвярэй. Хто-б у іх не ўвайшоў—настрой паднімаецца—сьвежы чалавек адчыняе губы і разам са словамі прыносіць пах сьвежага паветра местачковае вуліцы.

На гэты дзень пакуль выпаў усяго адзін наведвальнік. Зайшоў якісьці селянін прасіцца на працу ў атрад. Яму адмовілі. Ён пастаяў, паматаў безнадзейна лахматаю галавою і вышаў. І з таго часу—нікога. А на гадзіньніку—дванаццатая.

Што за асаблівы дзень! Машыністка не ўцярпела і паглядзела ў акно—мігнуўся чалавек у адзеньні старшага рабочага. Хто-б то быў? Яна ведае ўсіх з атраду і вось адзін з іх...

Гама апісаных зыкаў у дзьвярах ад ганку пацягла да сябе ўзрокі чацьвярых людзей.

Увайшоў Рыгор.

Машыністка скрала свавольную ўхмылку і зачасьціла перабор клявіятуры. Але скошаныя вочы яе глядзелі да дзьвярэй, дзе рухала стройная постаць старшага рабочага атраду. Блішчастыя гузікі на жакетцы пасуваліся да першага стала, за якім сядзеў чалавек па чыну нешта накшталт кіраўніка справамі. Машыністка не пасьпела выбраць моманту, каб сьмялей на яго паглядзець, як Рыгор загутарыў наконт камандыровачнага пасьведчаньня і літару. Кіраўнік спраў, як відаць было з яго слоў, знаходзіўся ў курсе Рыгоравай справы. З блянкам у руцэ ён падбег да машыністкі і стаў дыктаваць ёй зьмест камандыровачнай у кіраўніцтва начальніка работ III арміі—Менск. Рука жанчыны ёмка выбівала завучаны зварот—пальцы самі падалі на літары, даючы магчымасьць іх валадару спакойна паглядаць на Рыгора. Той сядзеў і сачыў за пaперaю аглядаючыся на вокны. Як паказалася Рыгору, нельга было ўпікаць кіраўніка спраў за маруднасьць—той спрытна спраўляўся з паперамі. Ня мінула поўгадзіны, як ён пакінуў машыністку і шмыгнуў у габінэт вытворцы. Рыгор задаволена паглядзеў яму ўсьлед і скрытна засьмяяўся.

Але раптам з яго сьмехам зьлілося густое, адрыўнае, тупаньне многалікіх ног і гучны выкрык.

— „О-ай!..“

Рыгор першым, а за ім трое службоўцаў, паўставалі з месцаў і працягнулі голавы да вакон.

Каля ганку канцылярыі стаяла грамадка людзей, аднак бедна адзетых, у бесказырках. Вакол іх таўклося процьма местачковых дзяцей і дарослых, якія цікава разглядалі іх потныя, пачырванелыя твары.

Яшчэ не пасьпеў Рыгор са службоўцамі заключыць, што гэта за людзі, калі ў канцылярыю віхрам уварваўся з кніжкаю пад пахаю ўзброены салдат і ўголас прагукаў:

— Каму здаць палонных?

На яго выгук выбег са свайго габінэту Аўгень Проваў і працягнуў салдату руку.

— Чаму так позна?—запытаў ён, ня думаючы пра тое, што салдату гэта мала вядома.

— Не магу знаць, ваш благародзьдзе!—адчаканіў салдат.

— Так, я і знаў, што...

Вытворац ня скончыў і абярнуўся да Рыгора.

— У нас усё не да часу. Калі ў асноўным вучастак канчаем, шлюць палонных.

Ён расьпісаўся ў кніжцы і перадаў яе назад салдату.

— Прыкажаце-ж?..

Аўгень Проваў замест адказу матнуў рукой.

Салдат адышоў да акна і настарожна, статуем замёр на месцы.

— Давядзецца накіраваць у двор... Але дзе іх будзе разьмясьціць?

Вытворац скрывіў нездаволена твар і пачухаў патыліцу.

— Калі будзеце ад'яжджаць, не забудзьце заскочыць да мяне,—праказаў ён да Рыгора, а сьледам адвярнуўся да салдата:

— Адвесьці ў двор!..

— С-лушша-ю-аз!

Рыгор забраў свае паперы і вышаў на ганак. Салдат раўняў палонных у дарогу.

Зморaныя, задрыпаныя ў дарозе, аброслыя і панурыя, палонныя рухава хавалі ў парваныя кішэні аблезлых шынэляў недакураныя люлькі, раўняючыся пад гукі расійскае каманды. Пяцёра ўзброеных канвойнікаў пашырылі ацяты вакол палонных круг, нязьмігутна сочачы за бяззбройным „ворагам“. І зусім не да часу і ні да месца былі занадта суровыя іх узрокі ды напружанае трыманьне вінтовак. Яшчэ болей лішнімі паказвалася строгая муштра камандуючага імі салдата, які храбра абводзіў шарэнгу зьвярыным узрокам, бессаромна штурхаючы не пасьпеўшых выраўняцца згодна яго ранжыру. Кожны гэткі штуршок выклікаў з боку гледачоў зычны разьліў рогату, а ў палонных — выраз затоенае злосьці.

Тою-ж злосьцю быў абураны і Рыгор. Ён нэрвова азіраўся на дзьверы канцылярыі, шукаючы ў іх вытворцу, каб апэляваць на салдацкую жорсткасьць у адносінах да палонных, але не знаходзіў яго. Тады ён ня стрымаўся і нечакана для ўсіх рвануўся з месца і ў момант апынуўся каля бравага тылавіка; той ня згледзеў, тузаючы за стрыфель аднаго з палонных, як Рыгорава здаровая рука моцна адштурхнула яго ад пакрыўджанага. Салдат замёр, скмеціўшы перад носам злосны твар Рыгора, і ня ведаючы што рабіць. Чыноўнічая форма напалохала яго, прымусіўшы тую руку, што тузала палоннага, пакорліва падняцца ўгору і ўзяць пад казырок.

— Ці-ж можна так бяз жалю?—сур'ёзна выгукнуў Рыгор.

— Вінават-с, ваш...

Рыгор абярнуўся да пакрыўджанага салдатам палоннага і ня ўсьпеў спыніцца на ім вачмі, як пачуў з яго губ вокліч:

— Рыго-ор!

Зьдзіўлены нечаканасьцю гэтага, Рыгор зрабіў крок да абазваўшага.

— Рудольф?

— Так, я!

Суцешная ўхмылка заліла твар палоннага. Пачуцьцё таварыскасьці перамагло баязьлівасьць дысцыпліны і ён працягнуў Рыгору руку.

Дзесяткі вачэй пільна сачылі за нязвычайным здарэньнем. Нярухома стаяў салдат, ня спускаючы рукі ад казырка і балюча пераживаючы бачанае перад сабою.

— Вольна. Вядзі палонных па назначэньню! А з гэтым пайду я!— загадаў Рыгор.

— Ш-ш—агг-ам, арш!—хвалюючыся, скамандаваў канвойны, і колёна гучна адбіла першы крок, заглушыўшы ім стук дзьвярэй канцылярыі, праз якія выбег на ганак вытворца.

— На адну хвілінку!—пазваў ён Рыгора, які не пасьпеў з Рудольфам крануць з месца.

Рыгор падышоў да Аўгеня Провава і ўзяў з яго рук запячатаны ліст.

— А гэты чаго застаўся?—паказаў вытворца на Рудольфа.

— Гэтага я павяду пад сваім канвоем,—адказаў Рыгор.

— ??

— Дзівіцеся?

— У чым справа?

— Правінаваціўся!—пасьмяяўся Рыгор.

Вытворца разгубленымі ўзрокамі праводзіў Рыгора, які на вачу Аўгеня Провава і дзесяткаў мяшчан узяў Рудольфа пад паху і пашоў усьлед аддаленай колёны палонных.

Задні канвойнік, з вінтоўкай на плячы, украдчыва азіраўся на іх, не разумеючы наяўнага парушэньня дысцыпліны з Рыгоравага боку.

Ніякавата адчуваў сябе і Рудольф. Ён паскараў крокі, цягнучы Рыгора і няўверана перагаварваўся з ім. Але Рыгор яго разважаў, пасьмейваючыся з адыгранай ім гісторыі.

— Паглядзі, што значыць рашучасьць і сьмеласьць! Мяртвіць на месцы палахлівых.

— Спрытна... Гэта можна толькі ў Расіі.

— Усюды адно і тое...

— Але ў Нямеччыне-э...

— Кінь...

— За гэты час я вывучыў нямецкую дысцыпліну, як належыць...

Рудольф нясьмела ўхмыльнуўся.

— Вось, бач, як перакруцілася калясо!—дадаў ён.

— Надзвычай цікава! Каб хто сказаў, палічыў-бы казкаю...

— Я сам дзіўлюся... Сапраўды—казачна... Гісторыя, якая варта-а...

Яны ўперліся вачыма ў дагнаную колёну палонных. Гэта было пры ўзыходзе першых шэрагаў на забруджаныя аполкі мосту. Канвойныя сьвечкамі пасталі з абодвух бакоў колёны, абапёршыся на няўстойныя парэнчы. Узятыя на падрыхтоўку вінтоўкі бліскучымі штыхамі пагражалі кожнаму, хто-б вышаў з шэрагаў кірункам да рэчкі. Аднак, насторожанасьць канвойных абышлася бяз ужытку. Ды яна была зусім лішняй ва ўмовах, якія адгароджвалі заспакоеную думку ад драпежнага подыху сьмерці. Пачуцьцё самазахаваньня абмацвала ўнутры кожнага палоннага пункты апоры, хоць нявыразнасьць наступнага і калыхала яе ўстоямі.

Асеньняе надвор'е з цёплым летнім сонцам, з пахам зложанай у бабкі і распространай ярыны, з зеленьню адрослай атавы, з няўмоўчным цвырканьнем вераб'ёў і скакунцоў, навейвала на выхапленых з кіпцюроў сьмерці палонных радасныя думкі аб працягу жыцьця. Шырокая ровень поплаву і густая купка дваровага саду, чыстае ўлоньне рэчкі асоцыявалі ў іх памяці прускую і саксонскую раўніны; узгорак каля апрысаджанага шляху, самыя прысады і маладая дуброва за мястэчкам—напаміналі хвалістую Цюрынгію...

Крохкая, але ўпартая надзея глядзела з панурых, прытупленых вачэй палонных. Гэта надзея скрадала шурпатасьці вайсковых умоў чужое краіны, драпежныя ўзрокі фанатычных патрыотаў, фэльдфэбэльскую дзікасьць муштраў і беспагаднасьць да голаду і холаду ўжо бясшкодных людзей...

— Сто-ай! В-во-альна-а!

Рэха тупату ног пракацілася па шырокім дзядзінцы. З усіх канцоў яго накіравалі да атраду дзеці і дарослыя. Разам з імі падышоў і тэхнік Бросьня.

Той самы канвойны, які зьявіўся ў канцылярыю вытворцы, а пасьля папаў у герої адыгранай Рыгорам гісторыі, падаў яму кніжку.

Бросьня разгарнуў яе і стаў разглядаць. Яго адвагу адняў на сябе паложаны Рыгорам на кніжку ліст...

## IV

Ад Рудольфа пахла потам. Заношаная гімнасьцёрка муляла шыю чорным бліскучым каўняром. Палатаныя на каленах порткі, вынашаныя да махроў абмоткі, адтапыраныя падэшвы на вышмуленых чаравіках,— усё адзеньне ўцалку шаржыравала стройнага і чыстага раней немца—бурса. Цяжка было прывыкнуць воку бачыць перад сабой аброслы рыжым бруднаватым валасеньнем белы далікатны Рудольфаў твар, які ўпарта змагаўся сваёю прывабнасьцю, сваімі сымпатычнымі рысамі з беднатою ўсяе постаці.

Гэта выразна адчуваў сам Рудольф, баючыся шаргануцца аб Рыгораў ложак і не асьмельваючыся прысесьці на крэсьле.

Ён стаяў каля акна і стараўся як мага звузіцца, патанчэць, каб менш заняць месца ў Рыгоравым пакоі. Апошні выглядаў у Рудольфавым вачу нечым, ня горшым ад княжацкіх палацаў, поўным салодкага прытулку і гасьціннага спакою. Ужо даўно іх Рудольф ня бачыў. Памятая падушка на ложку, незнаёмая ні бацькавай кватэры ў Смагіне, ні Рудольфаваму пакою ў Пецярбурзе, зараз маніла яго да сябе, расплываючыся затуманеным месяцам.

— Садзіся, чаго стаіш. Тут канвойнага няма!—пажартаваў Рыгор.

— Дзякуй, пастаю!

— Яшчэ чаго! Кінь упартасьць!

Рудольф адсунуў крэсла ад ложка, паглядзеў на яго і асьцярожліва сеў.

Ён умацаваўся на крэсьле толькі тады, калі Рыгор выбег з пакою, каб папрасіць у гаспадыні гарбаты. Абставіны Рыгоравай каморкі, ціхая гутарка з гаспадыняй увялі Рудольфа ў каляіну спакою.

— Ты значна перайначыўся!—падаў Рыгор, вярнуўшыся ў пакой.

— Я думаю...

Рудольф аглядзеўся ў зацемненае акно.

— Апошні год—клубок страшных здарэньняў... Я хапаюся за галаў, калі знаходжу спакойлівую хвілінку, каб азірнуцца назад. Дзіўлюся, як і што гэта заблыталася так і як я мог вытрымаць гэткія трудныя выпрабаваньні...

— Выпрабаваньні, кажаш?

— Непажаданыя нікому.

Рыгоравы вочы пільна глядзелі ў заспакоены, крыху прасьветлены твар Рудольфа Шульца.

— Памятаеш, калі я заяжджаў да цябе разьвітвацца?.. Тады-ж я не пасьпеў выпіць шклянкі гарбаты, каб не спазьніцца на цягнік... Ледзьве даехаў на вакзал... А праз двое сутак я ўжо быў у глыбокай провінцыі, у глухім Прыуральскім гарадку... Нас апынулася там восем чалавек. Ўяві сабе, як нас сустрэлі. Боязна было хадзіць вуліцаю... Нас праводзілі, як дзікіх заморскіх зьвяроў. Абывацелі кідалі на нас злосныя

ўзрокі, справоджваючы іх агідным пляваньнем, насьміханьнем, жартамі. Паліцыя-ж гэтаму патурала. Яна штучна распальвала зьвярыную нянавісьць да нас, узмацняла цяжкасьці адшукаць тую ці іншую працу... Вой, як я пакутаваў, пакуль сяк-так учапіўся за ашчэдныя магчымасьці пражыць... Таму і ня дзіва, што выпадкова атрыманыя чуткі пра абмен зьявіліся для мяне сапраўдным збавіцелем. Я хапіўся за гэта, як той, што топіцца, за саломку. З вялікімі цяжкасьцямі, з неймавернымі хітрыкамі я дамогся залічыць сябе ў чацьвертую катэгорыю, і быў высланы праз Швэцыю ў Нямеччыну...

У лютым я праяжджаў Пецярбург... Го, як прогся я стрэцца з табою! Але ніяк гэтага нельга было зрабіць... Нас не адпускалі ні на крок, і толькі два няпоўных дні я пасоп пецярбурскім паветрам... На параходзе я адчуў сябе вольным, толькі балюча сачыла думка пра родных. Якаво з імі? Дзе яны і што яны? Апошні ліст я меў перад ад'ездам у высылку, а далей—ні чуткі...

— Дазвольце ўвайсьці!

Рыгор сарваўся з месца, на якім ён стаяў, як заварожаны Рудольфавым апавяданьнем, і адчыніў дзьверы.

Гаспадыня ўнесла дзьве поўных талеркі кіслага малака. Паставіўшы іх на стале, яна сьледам даставіла міску паранай бульбы.

— Гарбату вы любіце нарэшце?—запытала яна Рыгора.

Але гаспадыніны вочы абміналі Рыгора і ўпіраліся ўзрокамі ў Рудольфа. Маладзіцаю валодала зьмешанае пачуцьцё цікавасьці і баязьлівасьці. Рахманае сядзеньне немца-палоннага ў яе кватэры было крыху дзіўным, крыху пікантным. Усё-ж яе вострыя ўзрокі не знаходзілі на ім яўных адзнак зьвярынасьці. Няпрыкметна было, таксама, жадных праяў тае экзотычнае драпежнасьці, пра якую маладзіца многа наслухалася ў царкве і на месцы ў мястэчку. Узбуджаная ў ёй злосьць і нянавісьць да немцаў, значна падмацованая забраньнем мужа ў армію, зараз расплылася ў мяккім пачуцьці жаноча-людзкое спагады.

— Можа ваш знаёмы зьеў-бы сала?—запытала гаспадыня ў Рыгора, ня спускаючы ўзрокаў з Рудольфа. Рудольф заварушыўся на крэсьле і ўдзячліва схінуўся ў бок гаспадыні.

— Дзякую шчыра!

Гаспадыня зьдзіўлена адступіла на крок да дзьвярэй. Немец казаў на зразумелай ёй мове. Пашыраныя вочы чакалі ад Рыгора адказу.

— Калі можна дайце крыжэнік...

Маладзіца лёгка зьбегла з Рыгоравага пакою.

У той час, пакуль яна даставала сала, нельга было дагадацца ці яна ў сябе.

— Добрая ў цябе гаспадыня? Сялянка?

— Не магу паскардзіцца. Гэта не пецярбурская ведзьма. Дваровая. Гаспадара забралі ў войска, а яна жыве адна... Як і з чаго жыве—ня ведаю...

— Працуе, напэўна?

— Ды ўжо-ж...

Нячутнымі крокамі маладзіца зноў прайшла ў пакой і кашлянула.

— Вось вам, халоднае...

— Добра... дзякую...

Рыгор прыняў з гаспадыніных рук новую талерку і, ня ведаючы, як яе зьмесьціць на застаўленым століку, перадаў Рудольфу.

— Хоць на акне пастаў.

— А калі трэ‘ будзе гарбата—пазавеце.

— Дзякуем...

Рудольф жадна хапіўся за яду. Але, ядучы, ня мог трымацца, каб не працягваць апавяданьня. З перарывамі, глытаючы словы, ён на працягу вячэры пасьпеў апісаць дарогу ад Пецярбургу да Гамбургу.

— І каб сказаў, што Нямеччына падмацавала мае надзеі—ані! На першым-жа кроку мяне здушыла ваеннае паветра, прасякнутае крывёю, заолёгічнай нянавісьцю да расійцаў і французаў. Я адчуў сябе ў жалезных ланцугох суровае, пагалоўнае ваеншчыны... Яна бразгала шпорамі, стукала падкаванымі абсацамі, блішчэла залатымі эпалетамі і сталёвымі рулямі вінтовак, кулямётаў, ды гармат. Разьюшаны вайсковаю гарачкаю, нашпігаваны таннай патрыотычнасьцю, у вобдыме навісшых недастач—гэткім стрэў мяне Бэрлін... Але мне ня прышлося доўга разглядаць яго ваенізаванае жыцьцё... Ужо праз тыдзень я быў шэраю, нявыразнаю між тысячамі іншых, ядынкаю ляндштурмнага палка. Нада мною навіс небасхіл у выглядзе шэрай, мулкай і адваротнай нямецкай каскі. У процьме вайсковых падзей, як ва ўзьнятым самуме, кружылася бягучае жыцьцё.

Поле руцянела густым жытам і ценькаю ярыною, калі наш эшалён перабягаў ад гораду да гораду, кірункам да Рэйну... Чыстая вада рэчкі, як і адвеку, спакойліва абмывала заасфальтаваныя берагі... Руіны фэўдальных замкаў нядбайна глядзелі ў яе люстра, слухаючы нясупынную стукатню дзень і ноч рухаючых цягнікоў... З-пад Аеахна, з Лётарынгіі, з-пад сьцен Льежу плылі эшалёны параненых. Іх модлы ляцелі к небу, наганяючы шпіцы Кёльнскага сабору... Пасьля позыцыі пад Вэрдэнам... Штурмы, горы забітых, павісшых на электрызаваных драцяных загарадках, у забэтонаваных акопах... Траскатня самалётаў і грамавое буханьне 42-цалёвак.

— Будзем піць гарбату?

— Можна.

Рыгор пастукаў.

— Зараз!—пачулася з-за сьценкі.

— Уражаньне—мэрам цябе засадзілі ў сталёвы кацёл і грукаюць па ім малатамі. У зацяжным, надрыўным гуку тонуць усякія жаданьні і расплываецца сэнс жыцьця...

— Вось вам!

Маладзіца паставіла дзьве поўных шклянкі ў цесныя прагалінкі паміж талерак, пасьля забразгала імі ў руках.

Рудольф пры кожным стуку нэрвова ўздрыгваў, закусваючы губы ад ніякаватага адчуваньня.

— Можа ваш знаёмы захоча застацца начаваць, то скажэце—я прыгатую пасьцель?

— Дзякуем! Не маракуйце за турбацыю, якую ўжо прынесьлі вам.

— Ды то-ж нічога, хай бог крые... людзкая справа...

Гаспадыня закончыла сказ за дзьвярыма, але ён расплыўся ў далейшых словах Рудольфа:

— Я ня думаў, што Вэрдэнскія позыцыі адпусьцяць мяне жывога. Мае вочы бачылі цесныя завалы ў нязьлічоных трупах маіх таварышоў. ...Страшэнныя вобразы загубленых за няма нішто людзей затулялі крохкія рваныя мары пра Смагін, Пецярбург, Стокгольм, Гамбург, Бэрлін, Кёльн і Рэйн... І вось—сярод цёмнае ночы, пры трапяткіх праменьнях прожэктараў і выбухах фэйерверачных ракет—мы адступілі...

Далей цягнік, новыя гарады, ляндшафты. І на другі дзень к вечару мы на балотных раўнінах Курляндыі... З цягніка—проста на позыцыі. На золку—атака. Перада мною—знаёмыя твары прамігаўшых у Пецярбурзе салдат. Няўжо іх браць у цэль і засьцілаць мёртвымі целамі патоптаныя паплавы?.. Але рука націскае курок і на маім вачу... Нне-э я падаюся ўправа, дзе націск расійцаў робіцца больш напружаным, ахоплівае наша крыло і, нарэшце, цэлую роту аддзяляе ад папхнутай назад колёны... У абед—я палонны...

— Можа пераначуеш?—Рыгор паглядзеў на ложак.

— Ня варта рабіць табе няпрыемнасьці... Кінь, Рыгор, я лепш пайду на сена...

— Возьмеш коўдру?

Ён тут-жа садраў яе з пасьцелі і згарнуў у камяк.

— Ды ці варт...

— Кінь скромнічаць...

— І вось—тры месяцы, як я палонны. Палонным унтар-афіцэрам... Заслужыў пад Вэрдэнам. . Два месяцы трымалі ў Смаленску, пасьля перакінулі ў Менск... Ці варта казаць пра становішча палоннага? Ты сам бачыў...

Рудольф матнуў рукою і падняўся з крэсла.

— А цяпер дзякую, браце, за ўсё—і пайду... Дык вось гісторыя апошняга году майго жыцьця...—праказаў ён, выходзячы з пакою:—пачуць-бы тваю?

— Раскажу!.. Тут знойдам часу—гэта не пад Вэрдэнам...

Браскотка вартавога крала апошні сказ Рыгора.

Рудольф схаваўся ў цемні ночы.

## V

Шэры золак затуманенае раніцы абяліў невялічкае акенца Рыгоравага пакою. Мокрае, пачарнеўшае, а дзе і рудаватае лісьце вольх атрахала буйныя каплі вады. Панікла віселі жоўтыя ды чырвоныя яргіні,

гледзячы ў абгрызеныя голавы буракоў і капусты. Лапатаў крыльлямі раскатурханы певень. Вось ён голасна засьпяваў ды напалохаў прабягаўшага разораю сабаку. Сабака падняў галаў да седала і адказаў патройным брэхам.

— Не даюць спаць, каб яны падохлі,—скрозь сон вылаяўся Рыгор і павярнуўся на другі бок.

Але толькі на момант зьнябыўся, як пастукалі ў дзьверы.

— Хто там?

— Можна?

У запытаньні зьлілося два розных галасы, якіх Рыгор не разабраў.

— Я зараз,—адказаў ён і падняўся.

Праз хвілін пяць стук паўтарыўся.

Хутка апранаючы жукетку, Рыгор адсунуў дзьверы.

— Уваходзьце!

— Ты, пэўна, думаў, што гэта гаспадыня?—праказаў увайшоўшы пярэднім Сёмка.

— А, прызнацца, ня ведаў, хто за дзьвярыма.

За Сёмкам пераступіў парог Рудольф.

— Яшчэ спаў?

— Сабака абудзіў.

— А пара ўставаць. Сёньня-ж едзеш?

Сёмка пытальна паглядзеў у Рыгораў заспаны твар.

— Так, рэчы запакованы.

Ён паказаў на куфэрак.

— Дык бывай здароў, таварышу!—працягнуў Сёмка Рыгору руку.

— Дзякую, вельмі дзякую за тваю дапамогу мне. Каб ня ты—хто ведае, дзе я быў-бы і што-б са мною сталася... Ты выратаваў... І прашу, дазволь напісаць у скрутную хвіліну... Бывай!..

Яны пацалаваліся.

— Таксама дзякую,—заняў Рудольф Сёмкава месца:—я шчыра задаволены нашым спатканьнем. Яно палажыла новую мяжу ў маім шэрым, паднявольным жыцьці палоннага... За мяжою—цёмны змрок безнадзейнасьці, наперадзе—хто адгадае?—магчыма стрэнецца і шчасная хвіліна. Дазволь і мне пісаць. Ужо адна твая прысутнасьць недалёка мяне дае палёгку ў маім моральным адчуваньні...

Рыгор пацалаваўся з Рудольфам.

— Няхай наш пацалунак паслужыць сымболем братаньню тысяч нямецкіх і расійскіх салдат...

— Бывай, шчасьлівае дарогі,—пажадалі Рыгору таварышы, выходзячы з яго пакою.

Рыгор правёў іх за дзьверы.

Дзядзінцам маршавалі на працу, зьмяшаўшыся ў адну грамадку, рабочыя атраду і палонныя. Наводдаль ад палонных ішло пяцера канвойных з рэвольвэрамі пры боку. Атрадаўцы несьлі жалезьнякі, пілы, сякеры.

Адзін высьвістваў „каробачку“, другі заводзіў мотывы з вальсу „На сопках Манчжурыі“. Разрэджаны туман агаляў празрыстую пляміну сіняга лазурку. Пляма выглядала глыбокай ямай, берагі якое былі нібы засьнежанымі адгор‘ямі.

Рыгор абвёў разьвітальным узрокам калыхлівую грамадку людзей, дваровыя будынкі, неба і вярнуўся да сябе.

Гадзіньнік паказваў восем. Дзьве з паловаю гадзіны заставаліся на сьнеданьне, разьлік з гаспадыняй, дарогу да станцыі. Часу хапала, і ён, не сьпяшаючыся, прыбраўся ды зайшоў да гаспадыні.

Тая рухава ўвіхалася для стала, гатуючы Рыгору сьнеданьне. Белы абрус прыдаваў пакою ціхую, інтымную ўрачыстасьць, якая, аднак, не адпавядала спакойліва-настарожанаму настрою маладзіцы.

— Шкода мне вас, Рыгор Міхасевіч,—стрэла яна свайго кватаранта.

— Нічога ня зробіш.

— То-ж ведама, але... Хаця-ж не ўспамінайце блага... А калі, часамі, здарыцца быць у нашых мясцох, тады сьмела, ня стукаючы ў дзьверы, да нас... Але, калі яно здарыцца... Адагнаная хвалямі трэска, рэдка варочаецца к берагу... Ці ня праўда, мо‘?.. Прашу вас, Рыгор Міхасевіч, пад‘ядайце. Да Менску невядома ці давядзецца закусіць... Пеце малако—такі-та-ж вы яго гэтак любіце... Шкада мне вас... Зжылася, ведаеце, за гэту пару... А вы ў Менску, сапраўды, надоўга спыніцеся?

— Калі добра іціме...

— Ды з гэткім чалавекам, як вы, хто можа сварыцца?..

— Ёсьць розныя людзі...

— То вядомая рэч... Вось, папрашу вас, Рыгор Міхасевіч, можа трапункам напаткаеце ў Менску...

Гаспадыня нэрвова затрапятала рукамі і сама сябе ўпікнула:

— Ї маю-ж, аднак, я розум... Цьфу!

Калі Рыгор падняўся з-за стала, каб падзякаваць і заплаціць гаспадыні, тая падала яму белы невялічкі клумачак, гасьцінна праказаўшы:

— Вазьмеце, калі ласка, гэта вам на дарогу.

Яе ўвага кранула Рыгора і ён ня мог адказацца.

Шчыры поціск гаспадынінай рукі быў аддзякаю за гэта.

Але аддзяка пацягнула далейшую ўслужлівасьць маладзіцы: загрукацеўшыя пад падвоканьню калёсы пагналі яе ў Рыгораў пакой па яго рэчы. Каля пяці хвілін ішла тузаніна між гаспадыняй і Рыгорам і ўсё-ж Рыгор ня мог нічога зрабіць, каб перашкодзіць маладзіцы вынесьці яго куфэрак.

— Навошта гэта, сапраўды,—пераказваў ён яшчэ каля падводы.

Аднак, яго словы ня мелі жаднага ўплыву на ўслужлівую гаспадыню. Тым болей яна на іх не зважала, калі пачула спагаду да сябе з боку падбегшай Волькі. Жанчыны ўдзьвёх спрытным прыёмам улажылі Рыгораў куфэрак на воз і акрылі яго дзяругаю.

— У Менску адзін цягацьмеш яго,—пажартавала Волька.

— Вядома што...

Аставалася зьдзіўлена маўчаць, што Рыгор і рабіў, умайстроўваючыся на возе. І толькі, як рушылі коні, ён некалькі разоў разьвітальна кіўнуў з месца галавою, пажадаўшы:

— Аставайцеся здаровы!

— Не забывай, Рыгор!—папрасіла Волька, нахмурана гледзячы ўсьлед падводы.—Можа, часамі, стрэнеш дзе Зосю—дык кланяйся і перадай, як мы жывем...

— Не забудзьце пакланіцца сястрыцы!—папрасіла ад сябе гаспадыня.

Хутка ў руках абедзьвюх жанчын маталіся белыя хустачкі. Рыгор глядзеў на іх, трымаючы ўровень галавы зьнятую шапку. Простыя, але шчырыя ды замілаваныя праводзіны моцна краталі яго.

Самі-ж па сабе ўмовы тутэйшага жыцьця не выклікалі Рыгоравай спагады. Было досыць пражытага часу, каб імі здаволіцца і іх дасканала вывучыць. Аднак, кола знаёмых, нечакана згуртаванае каля Рыгора, стварала ўмовы, якія скрашвалі аднастайнасьць глухое мясьціны. Іх блізкасьць і павага к яму сьціралі сьляды адваротнага пачуцьця ад спатканьняў з Бросьняю.

Рыгор адчуваў кабечую тужлівасьць, якая болей усяго валодала Волькай. Выяжджаючы з агароджы саду, ён яшчэ раз абярнуўся ўбок дзядзінцу, але густая сьцяна ліп, непарушная ў ціхую пагоду, хавала за сабою і Вольку з гаспадыняй, і дзядзінец, і дваровыя будынкі і пражыты ў ім час.

Як і едучы вясною ў атрад, вузкая дарожка праз паплавы, праз гарбаты мосьцік, між далёка адсунутых за мястэчка гародаў, гэта дарожка мігала ў яго вачу абыклымі калдобінкамі, рассыпчатым суглінкам, бародкамі парослых абочын. Поплаў зелянеў і скрадаў доўгі адрэз часу ад вясны да восені, а пажатыя нівы адзначалі яго розьніцу. Восеньню павявала і з гародаў, але Рыгоравы вочы толькі абегам лавілі тоўстыя галоўкі капусты, жоўтыя ды чорна-зялёныя гарбузы. Абыкласьць летняга завяданьня, знаёмы настрой, што яго родзіць, патуханьне яскравых фарбаў квітучага лета, кратала яго ціхім даткненьнем павуціньня.

Местачковыя будынкі зьмянілі яго самаадчуваньне. Ад іх павеяла Сілцамі, Смагінам, даўно пакінутымі мястэчкамі, доля якіх цяперака яму невядома. Але яны, адноўленыя ў яго вачу дакладным падабенствам, былі жывымі і блізкімі.

— Хвілінку!

Вокліч, што пачуўся зьлева, адцяг Рыгора ад разварушаных дарожным настроем думак.

— Стой!—гукнуў ён фурману.

Вымуштраваныя ў руках вымагальнага фурмана коні адбілі стройны крок на месцы.

— Едзеце?

Вытворац працы працягнуў Рыгору руку з сінім квадрацікам паперы заціснутай у два пальцы.

— Аддасьце Прахору Стукалку, кіраўніку канцылярыі. З ім і лепей усяго мець справу, бо ад яго многае залежыць у вашым прызначэньні. Дарэчы, я ў лісьце рэкомэндую вас з лепшага боку... Прахор Хведаравіч—душа чалавек. Вы знойдзеце ў ім сябра і колегу... Цалкам ваша падабенства... Але, калі ласка, прасеце ад мяне, каб ён і мае просьбы не забыў. . Бывайце...

— Дзякую за ўвагу... І... не палічэце надазойлівым, калі што-колечы з маім бежанцам, закіньце слова...

— Буду мець у воку... Ад'е...

Аўгень Проваў крута павярнуў ад воза і хутка схаваўся з Рыгоравых вачэй.

Наперадзе цягнулася гразкая вуліца, канец якое, за апошнімі будынкамі ўпіраўся ў грудок. Гэта з таго грудка пры першым уезьдзе ў мястэчка, Рыгор разьзіраў захапляўшы яго ляндшафт.

На гэты раз Рыгор абмежаваўся двума повертамі галавы, кінографічным абегам узроку—чаму мястэчка, прысады, двор, аддаленыя лясы і рэчка зьліліся ў адно плямістае палатно.

Сьвісток манэўровага цягніка на станцыі адагнаў і ад гэтага Рыгоравы думкі.

Ён загадзя прыгатаваў фурману дробных і сваячасова намерыўся ўставаць, толькі конскія падковы бразнулі па прыстацыённым бруку.

— Вам пасобіць?—запытаў Рыгора фурман...

— Не, не, не! Спраўлюся сам. Дзякуй, браток! Вяртайся ў двор.

Рыгор перадаў яму некалькі срэбных манэтак.

Фурман спрытна схаваў іх у кішэні і ўзяў пад казырок.

— Шчасьліва даехаць... Сьпяшайцеся браць білет, а то скора прыдзе цягнік,—парадзіў ён у аддзяку.

Рыгоравы крокі заглухлі ў конскім тупаце і ў стуку калёс.

## VI

Ліба няўверанаю хадою накіроўвала да Віленскага вакзалу. Выходзячы з Падгорнай, яна паглядзела на гадзіньнік. Няўжо сапсаваўся? Ці можа яна зарана вышла? Да цягніка—добрая гадзіна... Ды што цягнік? Ласьне ўчора і пазаўчора яна таксама ня прыходзіла да яго прыбыцьця, пільна прапускала ўсіх прывезеных ім пасажыраў і з тым, што прышла, варочалася назад. Напэўна, Рыгора нешта затрымала ў атрадзе. Іначай-бы ён ужо быў у Менску... А можа?

Зялёныя дрэвы Каломенскага бульвару манілі на вольныя месцы незамешчаных лавак. Лепей пасядзець з поўгадзіны, чым варочацца ў лазарэт.

Яна накіравала праз вуліцу да бульвару, калі яе пазвалі:

— Сястрыца, выбачайце!

Ліба ўздрыганула ад нечаканасьці і спынілася. Агледзецца назад было позна, бо гукаўшы мужчына ў форме чыноўніка дарожнага ведамства, тут-жа, з боку яе браў пад казырок.

— Здаецца не абмыляюся?

— Што вам ад мяне патрэбна?—варожа запытала Ліба, гледзячы на чыноўніка...

— Я перапрашаю...

І ці то жаночая падатлівасьць перад мужчынаю, ці інстынктыўнае адчуваньне знаёмае ноткі ў голасе чыноўніка, а мо' іншае нешта прымусіла Лібу ўважліва паглядзець яму ў твар.

— Ох, гэта твар Паўла?

— Але вы ня хочаце са мною гаварыць?

— Вы так неспадзявана!

— У вас вялікая перамена!

— Хто-б то думаў—у гэткім месцы.

— Вы на бульвар?

— Дзе вы гінеце, што столькі часу ў Менску і ні гуку... Як мігнуўся на станцыі, пры ад'езьдзе са Ступак—дык мэрам у воду...

— Пачакайце лаяць Ліба...

Яны падышлі да лаўкі і спыніліся.

— Вас мала лаяць, вас трэба біць. Таварыш называецца... Сядайце-э...

Бабулька пільна паглядзела на іх і далікатна пасунулася на край лаўкі...

— Можа выберам лепшую?

— Мне няма калі доўга сядзець...

— Са мною?

— Кіньце выдумляць.. Давайце лепш разам спатыкаць Рыгора!

— Рыгора?! Ён едзе ў Менск?

— Ужо тыдзень, як едзе... Рыгор едзе, а Павал жыве—тымчасам— ні таго, ні другога....

— Дайце сказаць ... Дык можа параісьці на вакзал?

Ліба прысела побач і хапіла Паўла за руку.

— Зараз... вось скажэце, дзе вы прападаеце?

— Плаваю ў паветры... Выабразіце сабе, не пасьпеў сыйсьці з вакзалу, як мне білет у рукі—і едзь у Маскву. А з Масквы—у Казань, у Ніжні... Паверыце, ня меў вольнае часінкі, каб хоць адкрытку кінуць... вам або Рыгору... Чую, што стрэўшы яго мецьму другую споведзь... А, прынамсі, і на столечкі віны... Вось заўтра-ж зноў на цягнік і ў Віцебск...

— Разносіце жыцьцё па сьвеце...

— Так, расьсяваю бясьсьледна... А вы тут...

— А я тут... Праводзьце на вакзал... Таварыш прыяжджае, а вы нібыта той...

— Што вы, Ліба!.. Мяне цікавіць ня меней, калі ня болей... Нарэшце едзе-а...

— Я вымусіла.

Ліба асалодна зарагатала, абвесіўшыся на Паўлавай руцэ.

— У вас прабіваецца жаночая дыктатарства...

— А вам гэта не да спадобы?

Праехала некалькі рамізьнікаў к вакзалу... Яны ўскорылі хаду. Гудок, які вяшчаў прыбыцьцё цягніка, стрэў іх на ўсходах у будынак вакзалу.

З вакзалу дыхнула густым, спэцыфічным імпэтам неправетранай казармы. Яны перш памкнуліся прайсьці на пэрон праз трэцюю клясу, адале мусілі павярнуць у першую. Напакованая людзьмі, як бочка селядцамі—трэцяя кляса прыпыніла іх у дзьвярах. У другой таксама ня відаць было вольнае мясьціны. Усе буфэтныя сталы, лаўкі, што прызначаны для чаканьня,—былі выкарыстаны поўнасьцю. Людзі стаялі і тупалі ў прагалінах між сталоў і крэсел, нясьціхана швэндаючыся ў дзьвярах. Стаяў кірмашовы шолам, у якім губіўся стук падышоўшага цягніка.

— Нам лепей стаць пры выхадных дзьвярах,—парадзіў Павал.

— А я ўжо ня ведаю...

Яны вышлі з першае клясы, але пасажыры, хлынуўшы ў вакзал, не далі прайсьці да намечанага месца.

— Глядзеце адсюль...

— Вам каго? Ха-ха-ха!.. Памыйка, калі не абмыляюся?—праказаў хтосьці з-заду іх.

Павал агляну́ўся.

— Прахор Хведаравіч?

— Як бачыце. Гэта-ж праводзіў знаёмага—едзе ў Харкаў. А вы чаго?

— Я сустракаю... свайго таварыша... Да вас едзе... Выпадкова даведаўся...

— Да нас?

Прахор Хведаравіч узяў пад казырок і пашыўся да выхаду. Павал успомніў, што якраз трэба было запытаць у яго наконт пазаўтрашняй камандыроўкі, і зрабіў намер кінуцца ўдагонкі.

— Ты куды гэта?—хапіў яго за руку Рыгор. У гэты-ж момант накіравала за ім і Лібіна рука, але яе адгарнуў у бок якісьці здаравенны салдат. Гэты-ж салдат схаваў за сабою і Лібу.

— Адзін?—запытаў Рыгор.

— З Лібаю!

Яны пачалі разглядаць навокал сябе, але нацiск задніх пасажыраў не даваў ім спыніцца, адначасна робячы сьцяну між імі і Лібай.

— Толькі-што стаяла пры мне. Прынамсі, праз яе і я тут апыніўся, а так ня ведаў...

— Ня ведаў?

— Зразумела. Толькі заўчора вярнуўся з камандыроўкі... За гэты час, калі цікавішся, я поўрасіі аб'езьдзіў... Ты думаеш, чаму я табе ня пісаў ні слова...

— Ды я ўжо вастрыў на цябе зубы... Ці ня Ліба, вуньдзека?—кінуў Рыгор галавою ў бок дзьвярэй, за якімі бачылася белая пляма касынкі...

— Напэўна.

— Ліба Шлёмаўна!—гукнуў Рыгор, зьвярнуўшы на сябе ўвагу з боку вакольных пасажыраў.

Наперадзе паднялася ўгорку рука з хусьцінкай.

— Вярні налева!

Чамадан мяшае...

Павал адвярнуўся ад Рыгора, каб пацiснуцца наўскасок, але яго рукі, адтапырыўшы локці для пракладкі дарогі, тут-жа апусьціліся па швах. Сьцяна людзей, што рухала наперад, раптам таўханулася назад, ажно Рыгор ледзьве ўтрымаўся на нагах.

— Што-а за штукі-ы!—злосна выгукнуў ён.

Але яго гук зьнік у многагалосным, успуджаным гомане, які пранёсься над галовамі натаўпу. „А-алн... Пла-ан... рра-а-ра-н“—чуліся ў ім нявыразныя склады страшнага слова.

Хутка гэта слова расшыфравалі ўсе, хто застаўся ў будынку вакзалу і напалохана чакаў жахлівае хвіліны...

Заспакоеньне прынёс выразны гук стрэлаў, які чуўся дзесьці недалёка ад вакзалу. З якое прычыны стралялі, ніхто пэўна ня ведаў, аднак усе ў адзін голас сьцьвярджалі, што то б'юць па аэропляне.

На пятым залпе, мэрам па прыказу, натоўп з вясёлымі крыкамі хлынуў з вакзалу. Ад націску і замяшаньня некалькі чалавек падмялі пад ногі.

У радасных крыках збавеньня ад няшчасьця, што нёс з сабою аэроплян, выпукляліся балючыя енкі прыдушаных. На іх ніхто не зважаў, ужо на першым кроку за парогам дзьвярэй, задзіраючы голаў угору.

З надсільнай напружанасьцю, адціснутыя адзін ад другога, выкарабкаліся Рыгор з Паўлам к боку ад струменю людзей і тут-жа абое трапілі на Лібу. Яна ўкорліва заўважыла Паўлу:

— Вы знарок схаваліся ад мяне!

— І ў думках ня было; што вы, Ліба Шлёмаўна!

— Ну, дзе-ж вы згінулі; не пасьпела азірнуцца, як зьнік, мэрам у ваду...

Мы вас шукалі і звалі...

— Ды я чула, а далей? Аэропляну збаяліся? Ва-а-яккі-ж!

— Нас зацёрлі, як у жорны...

— А я на адкрытым месцы прастаяла і хоць-бы што... Дзіўныя людзі, аэроплян на вярсту, а яны на ўцекі...

— Самазахаваньне,—пасьмяяўся Рыгор.

— Пазваць рамізьніка?—запытаў Павал і тут-жа дадаў:

— Але я з вамі не паеду: мне трэба зайсьці ў кіраўніцтва работамі, да Стукалкі.

— Да Стукалкі?—перапытаў Рыгор.

— Так, гэта загадчык канцыляры і кіраўніцтва... Маю справу... Між іншым—цікавы чалавек... Вось той, што стрэў мяне на вакзале,—растлумачыў Павал Лібе.

— Я маю да яго ліст ад Аўгена Провага,—паведаміў Рыгор:—які ён з сябе, гэты Стукалка?

— Высокі, сухарлявы, з рыжаватай францускаю бародкай і доўгімі вострымі вусамі. Косы на галаве маленькім вожыкам, у пэнснэ.

— Ну, выгляд яго плюгавы,—скрывілася Ліба.

— Гэта з жаночага пункту гледжаньня.

— Я-б не сказала, што толькі так...

Двое рамізьнікаў, што падвезьлі да вакзалу чатырох афіцэраў, запрапанавалі свае паслугі.

Рыгор уздымам рукі затрымаў задняга.

— Куды-ж ехаць?—запытаў ён Лібу.

— Да мяне...

— ?

— Чаго-ж дзівішся?! У цеснаце—ня ў крыўдзе. Сядай... Праводзьце нас, Павал...

Пакуль яны ўсядаліся, каля іх апынуўся высокага росту, аброслы, як цыган, у зношаным суконным адзеньні чалавек.

— Выбачайце мяне,—абярнуўся ён да ўсіх, углядаючыся ў Рыгора:—я хачу запытаць...

— Праяжджай-ай!..—данёсься з ганку прыказны голас гарадавіка...

Рамізьнік тузануў лейцамі, але той, што падбег, не разгубіўся: ён стаў на падножцы вазка і паўтарыў сказаныя словы.

— А вам што ад нас трэба?—недаверліва адказаў Павал.

— Я перапрашаю, мне здалося, што вы... Рыгор Нязвычны?—

Вытарашчыўшы вочы, Рыгор зьбянтэжана ўглядзеўся ў твар незнаёмага.

— Стой!—гукнуў ён рамізьніку.

Павал, на кожны выпадак, прыняў абаронччую позу.

— Янкі Кліна не пазнаеш?

— Няўжо гэта?..

З шэрых шустрых воч незнаёмага, з яго таўставатага носа, з ямачак каля губ—вырас перад Рыгорам знаёмы вобраз яго таварыша.

— Як жывеш і як апынуўся ў Менску?—паціскаючы Клінаву руку, пытаў Рыгор.

Ліба спакойліва ўсьміхалася, Павал адчуваў сябе няёмка пасьля выяўленай западозранасьці...

— Гоняць, вось, у Гомель... Забралі ў армію, як ратніка другога разраду... Я апынуўся з бацькамі ў Воршы і быў паступіў у бровар... Пасьля... А ты-ж як трапіў сюды з Пецярбургу?

— Як бачыш...

— Едам, барын,—панукнуў рамізьнік...

— Я вельмі рады, што стрэў... Перш сумляваўся, а адале думаю—давай запытаю... Хоць адрас скажы, можа ліст кіну...

— Пішы да патрабаваньня—вярней усяго.

Янка Клін зьняў шапку, і калі рамізьнік крануў з месца, галасьней праказаў.

— Ня так даўно Зосю бачыў... Ехала са сваімі на Смаленск...

— Але я з-за вас спазьнюся ў кіраўніцтва,—перабіў іх Павал.

## VII

Цесны, сьветлы і прытульны пакоік Лібы выходзіў невялікім акном на Юраўскую вуліцу. Калі Рыгор, паставіўшы пры ім свой куфэрак, паглядзеў у акно—то ўпёрся ўзрокамі ў тры крыжы невядомай яму царквы. Направа ад яе высілася якаясьці касьцельнага стылю, пачарнеўшая ад часу будыніна. Востраю процілежнасьцю ёй выглядаў старэнькі дзеравяны домік візаві акна, з якога ён глядзеў.

— У цябе добры выгляд з акна.

— Гэта першае, што ты заўважыў?

— Ня толькі гэта...

Ён ніякавата адвярнуўся ад вакна і прайшоўся пакоікам. Зьнячэўку стукнуўся аб камод, які звужаў праход да нельга.

— Аднак ты непаваротны,—пажартавала Ліба.

— Павернешся ў цябе...

Яна засьмяялася.

— Не да спадобы?

Рыгор разглядаў беднае абсталяваньне Лібінага пакою. Старэнькі пачарнелы ложак, камод, столік, два крэслы—гэта быў увесь асортымэнт мэблі. Да яе залічалася пагнутая драцяная вешалка, аблезлае, забруджанае мухамі люстра і пару старых, паморшчаных пад рамкамі олеографій.

— Тут блізка ёсьць готэль?

— Чаму?—занедаволілася Ліба.

— Я не хачу цябе цясьніць...

— Гэта як разумець?

— Ды гаспадыня...

— Што за далікатнасьць, Рыгор!

— Ніякае далікатнасьці! Я хачу, каб табе лепш...

— Дзякую за дбаньне—толькі ня рыпайся... Гарбату піцьмеш?

— Давай пойдам паабедаць...

— Я цябе падвяду да сталоўкі, аддам ключ, а сама наведаю лазарэт...

— Паабедаем удваіх...

— Я ўжо і так спазьнілася, Рыгор... Папрасіла, ідучы на вакзал, таварышку і тая, пэўна, праклінае мяне... А можа абход, крый бяды...

У дзьвярах іх сустрэла пажылая, нізкая кабета.

— Гэта мой зямляк... Ён на нейкі час спыніўся ў мяне... Майце, Сара Восіпаўна, на ўвазе...

— Ды ўжо-ж... няхай, чаму не... што мне мяшае... Можа-ж трэба будзе другая пасьцель?—спакойліва адказала яна.

— Калі я не застануся нанач на службе—то папрашу вас... Прыгатуйце, на ўсякі выпадак...

— Што мне гатовіць—у мяне заўсёды напагатове... А вы-ж, сястра, ключ перадалі гаспадзіну?..

— Так...

Нізкая жанчына адчыніла ім дзьверы і праказала пажаданьне:

— Гуляйце на здароўе!

— Гэта гаспадыня?—цікавіўся Рыгор.

— Але...

— Цікавая асоба...

— Кінулася ў вочы?

Яны прайшлі на Губарнатарскую, пасьля завярнулі па Захараўскай.

Тротуары абедзьвюх вуліц былі ўсеяны людзьмі. Вакол адчуваўся фронт, які дапамінаў пра сябе вялікаю колькасьцю ваеншчыны, вайсковага чынавенства і салдат. На рагу Губарнатарскай і Захараўскай стаялі грамадкі людзей, якія задзіралі галавы ўгору і тыкалі пальцамі ў неба. Хлапчукі-газэтчыкі драліся на ўсё горла, выгукваючы апошнія навіны з фронту. Сярод розных паведамленьняў са штабу галоўнакамандуючага, празвоньвала вушы вестка аб налёце нямецкага аэропляну. „Арапляян над Менскам. Аэррапп-янн ннад Ме-эн-скаамм“.

Ліба падвяла Рыгора да Захараўскага завулку, паказала на дом, у якім месьцілася сталоўка, а сама пашла далей.

Рыгор прайшоў у нізкі цемнаваты пакой, у якім было расстаўлена да дзесяці засланых белымі сурвэткамі столікаў. Ужо была другая гадзіна і людзей у сталоўцы было нямнога. Дзякуючы гэтаму, ён выбраў рагавы столік і заказаў сабе абед. Маладая поўнатварая, пачырваненая падавальніца са знарочыстай ухмылкай, але з дбайлівасьцю падала яму адну за другой тры стравы. Усе яны прышліся Рыгору да густу, і ён пахваліў падавальніцу. Яна нічога не адказала і з тэю-ж замацованаю раз назаўсёды ўхмылкаю адышлася ў другі куток ды прысела. Але, седзячы, яна раз-по-разу глядзела на Рыгора. Гэта яго заінтрыгавала, і ён дазволіў сабе падыйсьці да падавальніцы і запытаць:

— Мне здаецца, што я вас дзесьці сустракаў?

Афіцыяльная ўхмылка зьмянілася лісьліва-радасным сьмяшком і сымпатычная падавальніца кокетліва адказала:

— Я вас ведаю па Смагіну... Ваш твар настолькі мне запамятаўся, што я вас пазнаю ўсюды і заўсёды...

— У Смагіне?!—зацікавіўся Рыгор.

— Так, калі памятаеце, на сходцы ў ляску... Здаецца, нават, вы і прамову там казалі? Ці ў гэтым ужо мыляюся?..

— А ваша прозьвішча?

— Ды яно вам нічога ня скажа.

— Аднак—цікава ведаць...

— Злата Мельнік... Вы, зразумела, ня чулі... Вы кватаравалі ў Шлёмы карчмара... Яго дачка Ліба—слаўная дзяўчына—зараз сястрою недзе ў Пецярбурзе...

Падавальніцу паклікалі на кухню:

— Выбачайце мяне, я на момант,—перапрасіла яна.

Белы фартух мігнуўся перад Рыгорам і схаваўся за дзьвярыма. Рыгор зацікаўлена глядзеў туды, дзе схавалася вяртлявая падавальніца. Тое, што яна спаткалася з ім на сходцы ў лесе—яго інтрыгавала. Было ясна, што Ліба яе ведае. Але-ж яна нічога яму пра гэта не сказала, праводзячы ў сталоўку. Дзеля Лібы будзе навіна...

— А вы даўно ўжо, як у Менску?—запытаў Рыгор падавальніцу, як толькі яна вышла з кухні.

— Каля году... Летась восеньню выехала з Смагіна... Пасьля пад'ехалі з бежанцамі мае бацькі...

— Вам-жа цяжка ў сталоўцы працаваць.

— А што-ж зрабіць—дзе-колечы працаваць трэба...

У сталоўку ўвайшло трое новых чалавек. Агледзеўшыся наўкола, яны занялі трэці ад іх столік. Рыгорава сагутарніца хутка ўзьнялася з месца і накіравала да наведвальнікаў. Але другая падавальніца пераняла яе.

— Я за цябе падам, Злата...

Злата вярнулася да Рыгора.

— Вас добра ведае мой муж...

— ?!

— Вы, напэўна, памятаеце Сімана Галаса?

— Вы жонка Сімана Галаса?

— Трапілася, бачыце.

Злата весела зарагатала.

— Перадам яму ад вас уклон...—дадала яна.

— Нізенькі... і прасеце... А ён ня тут абедае, часамі?

— Часамі, а часамі і без абеду...

Злату зноў пазвалі на кухню.

Рыгору ніякавата было яе чакаць, але таксама ня ёмка было і выйсьці, не разьвітаўшыся з жонкаю таварыша. Пры гэтым не мяшала-б згаварыцца пра спатканьне з Сіманам.

Ён на момант зацікавіўся думкаю, ці не паведаміць Злаце пра Лібіну прысутнасьць у Менску, адале раздумаў.

— Я заўтра зайду да вас на абед; можа-б меў час і Сіман прысьці?—запытаў ён падавальніцу, калі яна вышла з кухні.

— Добра, я скажу яму пра вас.

Рыгор узяў пад казырок і павярнуў да дзьвярэй. І толькі ён адчыніў іх, каб пераступіць парог на вуліцу, як яму перагарадзіў дарогу, паварачваючы ў харчоўку якісьці чалавек.

— Перапрашаю!—папрасіў ён выбачэньня ад Рыгора.

Рыгор паднёс руку да шапкі і прапусьціў стрэчнага. У гэты момант ззаду яго аклікнулі:

— На адну хвілінку!

Каля яго стаяла знаёмая яму падавальніца.

— Калі ласка! Як раз прышоў мой муж. Вунь ён сядзіць...

Злата з вясёлай усьмешкай ткнула пальцам на сталовую.

— Шанцуе!—праказаў Рыгор і падышоў да стала, за якім сядзеў Сіман.

— Рыгор?—падняўся той і ад шчырасьці затрос Рыгораву руку.

— Неспадзявана як!—выгукнуў ён яшчэ мацней. Але мэрам-бы спалохаўся свайго гуку і порсткім узрокам павёў па сталоўцы.

— Злата, падай сюды пару бутэлек піва.

— Чакай,—перапыніў яго Рыгор: я ўжо паабедаў.

— Вось і добра... мая жонка, пазнайся!..

Рыгор падняўся з крэсла і працягнуў знаёмай падавальніцы руку.

— Я ўжо пасьпеў пазнацца. Ха-ха-ха!

— Ласьне?

Сіман паглядзеў на жонку.

— Ён ня хлусіць?

— На гэты раз не...

— А заўсёды, хочаце сказаць...

Злата сьмяючыся пабегла да буфэту.

— Выпадкова, ведаеш... Прыгледзеўся—і пазнаў па твары... І не абмыліўся—спатыкаліся,—памятаеш, у Смагінскім лесе?..

— Добрая ў цябе памяць.

Злата прынесла піва.

Сіман разьліў па шклянках і падняў адну над сталом.

— За цікавае спатканьне!.. А ты, Злата, ня вып'еш?

— Ты не глядзі на мяне—я занятая...

Яна ня зводзіла вачэй з Рыгора.

— Ужо каля двух гадоў, як бачыліся! І што за гэты час начаўплося!

Абое стукнуліся шклянкамі і засаб выпілі.

— За лепшую будучыню, Рыгор...

— Ну, як ты жывеш, скажы хаця? Жонка скардзілася як мэрам-бы...

— Я жартавала,—пераняла Злата і адбегла ад стала.

— Няцікава жыву...

Сіман шапнуў Рыгору на вуха:

— Усё яшчэ на нелегальным...

— А працуеш дзе?

— Лекцыі даю... Маю некалькі вучняў і гэтым... У ліхой бядзе... Якраз жаніўся... Жонка, бачыш, во дзе вымушана працаваць... А каб не працавала—туга, брат... Але ты...

Сіман дасьледвальным узрокам агледзеў Рыгора.

— У ваеншчыну падаўся?

— Як бачыш... І думаеш праз каго?

— Скажы.

— Памыйка спакусіў. Стрэў мяне ў Пецярбурзе—во, так, во, як я цябе, і давай агітаваць... На гэты раз я ня мог устаяць і здаўся... Якраз з заводу разьлічылі, і чаму-ж бы... Так месяцаў каля чатырох дачыў...

— А дзе-ж цяпер Памыйка?

— Таксама ў Менску... Сустракаў мяне сёньня з Лібаю.

— Значыць уся Смагінская хэўра сабралася!!—і зноў перайшоў на вышэйшую ноту сваго голасу Сіман:

— Вось дык гісторыя! За яе мудрыя законы!

Ён зрабіў да таго гучны чок, што наведвальнікі як адзін абярнуліся ў іх бок.

— Пабіў шклянку?—запытала падбегшы да стала Злата.

— А калі і пабілі адну!.. Значыць і Ліба тут!

Сіман узяўся двума пальцамі за вузенькую французскую бародку і з свайго блядога, інтэлігентнага твару, зрабіў дэмонскую міну.

— Цябе гэта дзівіць?

— Ну, Ліба-ж сястрою?

— Так...

Рыгор хвілінку памаўчаў.

— Прызнаюся табе, Сіман, Ліба мяне спаланіла... Я моцна яе кахаю, калі хочаш ведаць...

— Яна—мілы чалавек... Шкада мне...

— Пойдам дахаты?—перабіла Злата.

— Ты ўжо вольная?

— Кончыла... Ах, як я сёньня стамілася,—ты ня знаеш, Сіман...

— Чула Злата, Ліба Крамнік тут...

— Цяпер-жа сьвет, як шалёны віхар... Хто думаў, што стрэну іх.

— Гэтага мала,—падаў Рыгор,—а вось нядаўна, зусім перад маім ад'ездам у Менск, я раптам напаткаў Рудольфа Шульца... Прыгналі атрад палонных і, паверыш, ён сярод іх...

— Што ты кажаш?!

— Шаломная нечаканасьць, кажу табе!..

Парываючыся есьці, яны праседзелі да вечара. Ужо ў вокны сталоўкі пралазіў змрок, калі Злата адарвала іх ад стала.

VIII

Сіман Галас з жонкаю давялі Рыгора да Лібінай кватэры.

— Заходзь з Лібаю да нас...

— Абавязкова... Дайце толькі агледзецца...

Разьвітаўшыся, Рыгор падняўся на другі паверх і пазваніў.

Тоўстая, нізкая кабета адчыніла яму дзьверы.

— Сястра вас чакала-чакала і недзе вышла... Дзе вы яе згубілі?..

— Яна даўно прыходзіла?

— З гадзіну таму... У вас ключ ёсьць? Праходзьце ў яе пакой...

Гаспадыня забегла Рыгору наперад і адамкнула Лібін пакой.

— Я вам прыстрою канапку... вось каля гэтае сьцяны... А можа сястра захоча ў сталовай пераначаваць? Тут ужо ваша справа—я не хачу, бачыце, пакрыўдзіць ніводнага... Вы стукнеце мне?

— Добра...

Рыгор зачыніў за гаспадыняй дзьверы і падышоў да акна. Перапле-цены нечаканасьцямі дзень разрываў яго думкі на часткі. Менск зразу па-варочваў яго настрой у другі бок—провінцыяльная заспакоенасьць няма-ведама дзе і дзелася. Насычаны прыфрантовай нэрвовасьцю—горад адбіваў у сваім жыцьці сударжны пульс акрываўленай краіны. У многа-лікіх стрэчах выразна выяўляўся лёс яго радзімы—выгнанай на вандроўку. Расьсеяныя па сьвеце яе сыны, аднак, ня кідалі надзеі парваць з роднымі месцамі. Яны шукалі сабе прытулку і апоры на коўзкіх скатах рубяжоў, абы можна было адчуваць пад нагамі знаёмы грунт, устоі; яшчэ ня губіліся апошнія магчымасьці замацаваць маленькі кавалачак свае зямлі, ухапіўшыся за які можна было-б сапці родным паветрам. А далей—далей вострыя ўзрокі перасягалі фронтавую мяжу і песьцілі душу непатухлаю вераю ў блізкае наступнае. Якім яно прыдзе ў іх радзіму? Што за песьні справодзіцьмуць яго прыход?

Палкасьць веры шчыльна зьлівалася з променем гаручага захаду. Цераз чорную рысу высокае камяніцы Рыгоравы ўзрокі ўпіваліся ў чыр-воны водбліск затуленага ёю сонца. У яго істоце бушавалі хвалі салод-кага натхненьня...

Ён адчуваў сябе прывязаным да падлогі і трэба было прагучэць стройнай песьні салдат, якія праходзілі вуліцаю, каб ён паварушыўся і адцягнуў думкі да суворае сапраўднасьці.

Салдаты адпраўляліся на фронт—бо ішлі пры амуніцыі, нават з він-тоўкамі, у новых шынэлях. Іх песьня гучэла бадзёрымі напевамі з раз-ухабістым зацяганьнем канцовых нотак. У зьлітнасьці людзкіх галасоў для большай зухаватасьці сьпеву ўліваліся вострыя сьвісты. Рытмічны тупат сотняў салдацкіх ног паднімаўся ўгору ад брудных каменьняў бру-ку і стукаў Рыгору ў вушы.

Салдаты ішлі каля дзесяці хвілін і цеганіна іх праходу прыцягала да сябе Рыгораву ўвагу. Ён не адхіляўся ад акна, настарожана слухаючы заціхаўшыя водгукі, тупат і песьні.

Уваходу Лібы ён не заўважыў. Ї толькі асьцярожліва-далікатны яе штуршок вывеў Рыгора з нярухомасьці.

— Думаеш? Пра што ты думаеш?

Ліба палажыла яму на плячо руку і ўмільна, ласкава паглядзела яму ў вочы.

— Паабедаў?

— Нічога—сталоўка ня дрэнная.

— Але дзе ты быў так доўга? Няўжо праседзеў у сталоўцы? Чакала я, чакала і не дачакалася.

Рыгор гасьцінна засьмяяўся.

— У сталоўцы прасядзеў каля дзьвюх гадзін.

— З якое гэта прычыны?

— Меў цікавую стрэчу...

— Няўжо?..—давай сядзем...

Яны адступіліся да ложка і ўселіся побач.

— Я выпадкам напаткаў Сімана Галаса.

— ?!

Лібін твар абярнуўся ў зьдзіўленае запытаньне, пад якім забегала лёгкая трывожнасьць.

— Ён і жаніўся тут.

— Жаніўся? Што-а ты-ы ка-жа-аш?

— На Злаце Мельнік.

Паведамленьне Рыгора да таго захапіла Лібу, што яна вышла з ранейшага настрою, устала і пачала тупаць па пакоі.

— Ніколі не паверыла-б, каб хто сказаў мне гэта...—пацiскала яна плячыма і расьсеяна кідала ва ўсе бакі ўзрокамі.—Сіман і Злата! Ха-ха-ха! Ї ў Менску? Але-ж чаму мне не давялося ні з водным стрэцца? Цікава! Што-ж хаця робіць Галас? Не казаў.

Рыгор падзяліўся з Лібаю апісаньнем спатканьня перш са Златаю, а пасьля з Сіманам, гутаркамі з імі і заключыў двуслоўным сказам:

— Закон жыцьця!

Лібе гэтага было мала; яна не пакідала гутаркі пра Сімана Галаса датуль, пакуль уваход у пакой гаспадыні кватэры не зьмяніў яе тэмы.

— Выбачайце,— сказала яна, разглядаючы ў шэрым змроку дваіх прысутных:—я ўжо зьбіраюся спаць і прасіла-б вас, калі што трэба—то кажэце зараз... Няхай-бы вы запалілі сьвятло!..

— Дзякуем, пакуль, здаецца, нічога...

— Засьвяці агонь...

— А спаць як?

Тоўстая кароткая кабета, не дачакаўшыся адказу, дадала:

— Калі сястра не захоча спаць у сталовай, то прашу ўнесьці ў пакой канапку і... я падушку дам сваю...—і вышла.

Ліба засьвяціла агонь і пабегла за гаспадыняй.

— Калі ласка, ці ня можна гарбаты?—праказала яна за дзьвярыма.

— Трэба ўнесьці канапку?—ні то парадзіла, ні то запытала Ліба, вярнуўшыся ў пакой.

Рыгор згадзіўся і праз некалькі хвілін парваная, брудная канапка стаяла ў Лібіным пакоі. Адзін канец яе ўпіраўся ў камод, другі—у сьценку ад калідору, а між ложкам і канапкаю сьвіцілася вузкая разорына праходу.

— Было-бы лепей, каб вы яе пасунулі да акна, па той бок камоду,—парадзіла гаспадыня, прынёсшы гарбаты.

Ліба адказала на гэта пагаворкаю:

— У цеснаце—ня ў крыўдзе.

Пагаворка прышлася гаспадыні па нутры тым болей, што яна выбаўляла яе ад клопату слаць пасьцель Лібе ў сталовай.

— Асабліва маладым людзям,—пажартавала яна на выхадзе.

Гаспадынін жарт быў апошнім фактарам староньняга сьвету, які наведаў Лібін пакой. Далей нівошта не перашкодзіла ёй выпіць з Рыгорам гарбаты і аддаць патрэбны час для інтымнай, хвалюючай гутаркі, тэмы якое выплывалі з іх блізкіх, цёплых сяброўскіх адносін.

Затуленая зялёным абажурам лямпа ўзмацняла вакольную цішу, якая прыдавала іх спакойнай гутарцы сталёвую выразнасьць. Сумнаватае сьвятло скрадала вострыя куты рысаў, і міны іх твараў рызыкавалі адбіцца выключна ва ўзаемных узроках кожнага. Настрой падрыхтаваў глебу для адкрытых выказаў пачуцьця, да выразных, акрэсьленых слоў і сказаў.

— Можа ты не чакаў ад мяне таго, што я вырашыла зараз табе сказаць,—пачала Ліба і зусім ня сумелася, калі Рыгор коратка ды рашуча адказаў:

— Я зайшоў да цябе менавіта таму, каб пачуць усё, што ты маеш і што ты хочаш сказаць.

— Я цябе люблю, Рыгор, як дагэтуль нікога ня любіла. Паверыш?

Каля пяці хвілін пашло на тое, каб сказанае Лібаю было дапоўнена наступнымі двума словамі:

— А ты?

Але ня мінула і цэлай хвіліны, калі Рыгоравы вусны выпусьцілі ня меней шчырае прызнаньне.

— І я цябе люблю, як нікога ня любіў. Ні Зося, ні Ганна, ні Наталя ня выклікалі ў мяне таго сьвядомага пачуцьця адданасьці, якое знайшлося для цябе... Мая ранейшая любоў—гэта ўступы да любові цяперашняй... За ёю—пустэч, бяздоньне... Паверыш?

Пацалунак, які выплыў з іх прызнаньня, як фэнікс з попелу, быў галасьнейшым за словы гутаркі...

Калі іх губы разьняліся, абое аглянуліся на сьценку, за якою храпела гаспадыня. Але падазронасьць, што хто падслухаў, раптам патанула ў сугучным сьмелым рогаце.

— Я толькі ў паядканым жыцьці і магу знайсьці сваё шчасьце. Я веру сама, што сапраўдная любоў павінна прайсьці праз доўгія іспыты. Да яе мусіць падгатаваць чалавека само жыцьцё... У адносінах мяне— наша стрэча па дарозе ў Ступкі вырашыла гэта пытаньне... Ты згодзен са мною, Рыгор?

— Я многае згубіў, пакуль цябе знайшоў. Ужо адно гэта кажа за тваю каштоўнасьць у маіх вачох... Далейшыя мае думкі накіраваны толькі ў адну кропку—гэта да таго, як-бы надаўжэй захаваць цябе... маёю сяброўкаю, таварышам маім... маім вечным спадарожнікам... Я-б не хацеў таіць рознастайных нечаканасьцяй у наступным, але ведаю, што ты з імі лічышся сама. Ты павінна знаць маё нутраное я, мае імкненьні, мой ідэал, мае погляды на сьвет і на жыцьцё—усё гэта не выключае цябе, як сэрца, з мае істоты... Сягоньнешняе—бягучае, будзённае, як падстава, як апора, з якое мы змагаемся за заўтрашняе... Разумееш, Ліба?

— Ня пытайся, Рыгор. Ты не павінен забыць майго першага ўзроку, які я падаравала табе, падаючы,—памятаеш,—сьнеданьне. У тым узроку быў зародак таго, што зараз вырасла ў моцнае, вялікае, непарушнае пачуцьцё шчырае любасьці... Я разумею цябе, бо памятаю тваё хваляваньне ў дзень Першага мая, твае словы на сходцы ў Смагінскім лесе падзеі ў Рызе і ў Пецярбурзе... Няхай наступнае іх удвоіць, утроіць— я не пахіснуся, не дапушчу крануць сумненьню стойкага сэрца... Мяне лучыць з табою не сягоньнешняе маё і агульнае, а агульнае і маё заўтрашняга дня... Не сумняваешся, Рыгор?..

Дванаццатая гадзіна, выбітая на вежы, сьведчыла падвойны пацалунак, як аброк, што перадавалі яго Рыгор Лібе, а Ліба Рыгору.

За сьцяною чуўся той-жа крэкт гаспадыні, але ўрачыстасьць прызнаньня рэзваю бадзёрасьцю разганяла спакой завяданьня.

— Будзі мяне, Ліба, у дзевяць, я мушу ісьці ў кіраўніцтва.

— Хочаш, у восьмай разбуджу, калі сама ціму ў лазарэт?

— Здаюся на цябе...

## IX

Вузкія тротуары Губарнатарскае вуліцы ледзьве ўмяшчалі натоўп пешаходаў. Вялікая колькасьць вайскоўцаў заўважна пярэсьціла чорныя сілуэты цывільных. Чыстае восенскае неба разьлівала сонечнае сьвятло па ломаным бруку. Яго праменьні асьвятлялі каламутныя жаральцы памыяў, што цяклі між тротуараў, як і трывожныя, няпэўныя за сваё наступнае, твары афіцэраў, палкоўнікаў, генэралў. Апошнія на хаду шасталі сьвежымі газэтамі, нядбайна ківалі галовамі пры адданьні ім чэсьці і хаваліся за рагі дамоў папярэчных вуліц. Земгусары

адбівалі сваім выглядам спакойлівы настрой забясьпекі. На іх блішчастых палетах цеплаватае сонца ганяла зайчыкаў, якіх ня было каму палохаць. Служба не перашкодзіла земгусарам урваць гадзінку-другую часу на зазірк у кавярню. За круглымі мармуровымі столікамі з каваю па-варшаўску, яны праседжвалі лібэральныя думкі і опозыцыйныя настроі разам з клопатамі пра салдатаў—у акопах.

На скрыжаваньні Губарнатарскае і Захараўскай над гімназычным парканам віселі апошнія навіны. Іх выкрыквалі і газэтчыкі, але кожны пешаход лічыў сваім абавязкам праверыць крыкуноў на адказным аншлягу.

Роўна ў дзесяць гадзін Рыгор вышаў з Юраўскай на Губарнатарскую. Дайшоўшы да першае кавярні, ён заскочыў выпіць шклянку кавы. На гэта пашло каля чвэрткі гадзіны. Далей спыніўся перад навінамі. „Расія і Італія абвясьцілі вайну Баўгарыі“, стаяла ў першым радку зьверху. Выдзеленая буйнейшымі літарамі—гэта навіна забівала ўсе іншыя. Вакол яе гутарылі ў сабранай грамадцы. Пара пажылых палкоўнікаў, што стаялі з боку Рыгора, вылаяліся агіднымі словамі па адрасу Баўгарыі. Нейкі чыноўнік, па форме з контрольнае палаты, паціскаў плячыма, дзівячыся, што робіцца ў сьвеце. Бясьпечны дыскантовы галасок сястры, якую падвёў да навін зухавы казачы сотнік, сьмяяўся з задзёру баўгарскага Карлушы. Зьнянацку дысонансам прагучэў пытальны сказ якогасьці мужычка, з торбаю на плячах: „І да чаго толькі гэта дойдзе?“ Мужычка абмылі спачуваючыя ўзрокі не адных цывільных. Храбрыя палкоўнікі пераглянуліся з сабою і загадкова паківалі галовамі.

Рыгор абышоўся маўчанкай, хоць мужычок і падвастрыў яго ахвоты выказаць сваю думку. Але ён ня мог ручыць, што на яго сказ адгукнуцца тым-жа, чым на словы мужычка, і пашоў кірункам да кіраўніцтва работамі.

Ён знаходзіўся зусім недалёка ад будынку, дзе зьмяшчалася кіраўніцтва, калі напатканая сястра вярнула яго да ўчарашняй гутаркі з Лібаю. Мігам у Рыгоравым выабражэньні прабегла карціна мінулай ночы, слова ў слова прагучэлі ў яго вушах адпаведныя, рашучыя дыялёгі паміж ім ды Лібаю. Мэрам-бы хто хапіў Рыгора за руку і прыпыніў—ён пракалоў узрокам даўжыню Захараўскай і праз хвіліну зрабіў упэўнены крок наперад. На другім кроку ён задаволена ўхмыльнуўся, праказаўшы ў адказ на ўбачэньне таўхануўшага яго гімназістага: „Адказныя справы ў жыцьці адзінкі, як і ў жыцьці грамады, вырашаюцца вельмі проста ды лёгка. Яны заўсёды нечаканы і застаюць раптоўна“. З гэтага сказу паплыў струмень думак і плянаваньняў, якія закружыліся вакол Лібы, перараджваючыся ў будзённыя хлопаты пабудовы сямейнага жыцьця. Навіна іх, зьмешаная з пікантнасьцю ўзятых абавязкаў, варушыла Рыгоравым нутром і плячыма.

Рыгор пачуў сябе крыху вальнейшым, калі ўвайшоў у канцылярыю кіраўніцтва работамі. Стукатня машынак, службовая бегатня, незнаёмыя твары службоўцаў вярнулі Рыгора да бягучае сапраўднасьці.

— Выбачайце!—перапрасіў ён якогасьці пісца, запыніўшы яго пры дзьвярах...—Мне трэба Прахора Хведаравіча Стукалку.

— А навошта ён вам?—запытаў пісец і раптам, збаяўшыся свайго пытаньня—дадаў, ткнуўшы ў паветры пальцам:

— Прахор Хведаравіч вуньдзека сядзяць!

Рыгор падзякаваў і прайшоў да паказанага месца.

— Я да вас ад Аўгеня Провага!—

Стукалка далікатна схінуўся і працягнуў Рыгору руку.

— Ці ня вы ўчора прыехалі ў Менск?

— Вам паведамляў Памыйка?

— Мы ўжо падбалі пра месца вам.

— Калі ласка—ад Аўгеня Провага.

Рыгор падаў Стукалку ліст.

— Дзякую. Напэўна сумавалі там у глушы? Праўда, затое спакайней. Сядайце, прашу вас...

Стукалка хутка прачытаў ліст, скамячыў яго і адправіў у кішэню.

— Мне пра вас Памыйка многае расказваў. Добра... Я вельмі рады, што мне давядзецца з вамі працаваць... Нябось, Аўгень Проваў слаўны чалавек? Мы з ім сябры здаўнага... Та-ак... Дык скажэце, ці вы хацелі-б па грашовай частцы, ці па адміністрацыйнай?

— Глядзеце, дзе лепш,—пасьмяяўся Рыгор.

— У нас аднак нядрэнна... Я думаю нейкі час папрацуеце ў агульнай канцылярыі, а там пераменім...

Да Стукалкі падышло некалькі службоўцаў з паперамі.

— Па нядзелі прыходзьце на службу... Я вельмі рады...—сказаў ён, устаючы з крэсла.

Рыгор разьвітаўся і накіраваў да дзьвярэй.

Але ён яшчэ ня вышаў з-за сталоў, як яму перагарадзіў дарогу знаёмы яму маленькі чалавек з Беларускага бежанскага камітэту.

— І вы тут?

— Як бачыце. А як гэта вы сюды папалі?

Маленькі чалавек рэзва затросься ўсёю постацьцю, міла засьмяяўся і адказаў:

— А ўсё з-за камітэцкіх спраў. Патрошку пашыраемся. Вось гэтымі днямі я даведаўся з прыватных крыніц, што маюць асыгнаваць на бежанскую справу вялікія сумы. Я і прыехаў у Менск, каб тут наладзіць супольную заяву... Вы, часамі, не наведвалі Менскага беларускага камітэту?

— Бачыце, я толькі ўчора пераехаў у Менск. Дагэтуль працаваў дзесятнікам на Ступкінскім вучастку за Менскам.

— Я зайздрошчу вам!..—спагадліва выказаў маленькі чалавек:—Мне самому так хочацца ў Беларусь, што я ня ведаю, дзе дзецца. Гэта дарма, што яе амаль усю разбурылі, здраталі, а ўсё-ж яна наша радзіма... Хочацца сапці яе паветрам, бачыць яе мукі і ў роднай глебе сеяць насеньне цьвёрдых надзей на лепшую будучыню... Мы тут павінны пра-

цаваць, а ня вывозіць свае сілы на сторану... Вы добра зрабілі, што перабраліся ў Менск...

— Як вам сказаць... Пакуль яшчэ я не нагледзіў нічога гэткага, што-б казала за вас... Мне чамусьці думаецца, што лепшае прыдзе з Пецярбургу...

— Мыляецеся... А ў тым...

Маленькі чалавек на момант задумаўся, пасьля іншым тонам паведаміў:

— Ага, бок, маю вам перадаць уклон ад вашага таварыша... Ня так даўно заходзіў на Знаменскую і пытаў кагосьці... не памятаю каго... Ды самога таварыша прозьвішча запамятаваў. З Масквы прыяжджаў.,.

— З Масквы? Дагадваюся...

Яны разьвіталіся.

Маленькі чалавек уподбежкі накіраваўся да першага стала, а Рыгор вышаў на вуліцу. Але для яго было зусім неспадзяваным, калі на адгоне кварталу ў яго збоку пачуўся нядаўна заціхшы голас прадстаўніка Беларускага бежанскага камітэту.

— Калі вы думаеце пра Пецярбург, то ці не ўзяліся-б вы часамі за маю працу па камітэту? Я-б вельмі вас прасіў. Мне да таго цяжка, што я з радасьцю ўцёк-бы сюды ў Менск...

— Я не абяцаю вам гэтага...

— То давайце мы так скомбінуем,—настойваў маленькі чалавек.

— Вы зьвяжэцеся з Менскім камітэтам, а я вымалю замест вас другога чалавека сабе на замену...

Рыгор і на гэту пропозыцыю ня даў акрэсьленага адказу. Гэта астудзіла маленькага чалавека, і ён перайшоў на іншыя тэмы. Аднак, кожная з новых тэм, няйначай стыкалася з бежанскімі справамі, а тыя цягнулі за сабою скаргі на цяжкасьць працы ў камітэце. Нельга было западозрыць шчырасьці ў яго споведзі, тым болей Рыгору, які з большага ведаў становішча камітэту і заданьні, якія перад ім стаялі. Знаёмы быў Рыгор і з працаю маленькага чалавека ў камітэце. Яго праца была варта пахвалы, і Рыгор хапіўся за гэты сродак, каб узбадзёрыць размоўніка.

— Вы робіце вялікую справу! Толькі паніклы не захоча яе належна ацаніць... Я з ахвотаю прыду вам на дапамогу, калі ўмовы прымусяць мяне вярнуцца ў Пецярбург.

Маленькі чалавек мэрам-бы гэтага і чакаў. Ён зразу спыніўся, з падзякай Рыгору падаў руку і крута павярнуў назад. Калі праўдзівая ўвага да яго прымусіла Рыгора абярнуцца, то ён ужо бачыў маленькага чалавека на гоні ад сябе.

— Сапраўды працуе з пачуцьцём і самаадданасьцю,—уголас выказаўся ён пра сябе. І не пасьпеў зрабіць кроку з новаю думкай, як знаёмы жаночы голас пераняў яго сказам:

— За кім вы так пільна ўзіраецеся?

Сьледам, ня даўшы Рыгору павярнуць галавы, порсткая рука прасунулася яму пад паху.

— Ну, якавы справы?

Ліба была ў вясёлым настроі і ласкава зазірала Рыгору ў твар.

— Я сёньня проста шчасьлівая—гэта-ж цэлага поўдня я вольная.

— Як гэта табе так пашанцавала?

— Выпісалі з майго аддзяленьня амаль ня дваццаць чалавек.

— А ўсё-ж засталося ў лазарэце людзей...

— Алеся даглядае за імі... Ну, а як твае справы? Што-ж ты ня кажаш нічога?

— У панядзелак іду на службу.

— А працу вызначылі?

— Знойдзецца. Ёсьць некалькі месцаў, на выбар... Ці-ж у гэтым рэч?

— Твая справа... Прынамсі, за гэтыя дні варта было-б падшукаць новую кватэру... Ты пра гэта ня думаў?

Рыгор пацісну Лібіну руку і жартаўліва праказаў:

— Не пасьпеў пакуль, мая дбайная гаспадынька...

— Ня тое, што...

Рыгоравы жарты выклікалі на Лібіным твары лёгкія пошугі сарамлівае ружы.

— Разумею цябе і згодзен з табою цалкам... Асноўнае зроблена, а там усё пойдзе сваёй чаргою... Ці не пара было-б абедаць?

— Давай—пойдам!

Яны завярнулі ў знаёмы Рыгору перавулак.

## X

— Як па-твойму, Ліба, так будзе нічога? А можа пасунуць яшчэ крыху да акна? Толькі не даставацьме шнур. Няхай стаіць так...

Рыгор адступіўся да канапкі, на якой сядзела Ліба з газэтаю ў руках, і паглядзеў адтуль, як стаяў стол.

З правага акна, на паколаных шыбах якога ляжаў тоўстым пластам сьнег, падала сталёвая палоса сьвятла. Але востры рог прыаконьніка роўнай лінейкай адразаў яго правую палавіну. Стажок паложаных на стале кніжак трапляў у зацямненьне, якое скрадала ня толькі назвы кніжак, але і малюнкі іх вокладак.

— Трэба адсунуць крыху назад—тады болей на стол будзе сьвятла. Няпраўда мо?

Ліба паднялася і пільным розьзіркам праверыла Рыгоравы меркаваньні.

— Ня так сьвятло, як холад. З акна-ж неміласэрна дзьме. Па-першае, трэба было-б уставіць новыя шыбы ды пазатыкаць паміж рам... Які недагляд, а гэткія грошы дзяруць... Адсунь стол на корх-другі назад...

Яна падышла да акна, праверыла рамы і шуфлядкі, папробавала шчыльней прычыніць дубэльты, і нездаволена кіўнула галавою:

— Менск, што-ж ты ад яго хочаш! Яшчэ добра, што і гэткую каморку ўдалося знайсьці. Як-ні-як, а сьвятла багата, прасторная. А чаго-ж ад старога дому хацець!

— Зразумела... Бачыш, домаўласьнікі не адстаюць ад іншых гандляроў. Даражэе мяса, дровы, крамніна—чаму-ж адставаць кватэрам?.. Ды горад набіты да адказу...

Рыгор адсунуў стол назад, а ложак пацягнуў крыху да вакна.

— Ды ці ня ўсёроўна, як што будзе стаяць!? Адзін корх бліжэй, пару кархоў далей...

Ліба ўголас засьмяялася.

— Які ты цудны, Рыгор!.. Сядай ды раскажы мне што новае... Мы-ж з табою так мала бачымся...

— Некалі, Ліба!

Ён прысеў і ценька датуліўся галавою Лібіных грудзей. Тая выпусьціла з рук нячытаную газэту і абвіла яго шыю тонкаю белаю рукою. Пальцы рукі краталі яго губы, якія адказвалі прагным варушэньнем.

— Ты паглядзі, адно, Рыгор, як хутка праляцела каля двух месяцаў з таго часу, калі мы пачалі наша супольнае жыцьцё! Я не пасьпела агледзецца, а тымчасам...

— Кажы, я слухаю...

— Прызнайся мне, ты думаў, што ўсё так проста ды так незаўважна перапляцецца адно з другім, і мы станем...

— Чым?

Лібіна рука крыху падалася наперад, гэтак, што далонь прышлася на Рыгоравы вусны, якія знайшлі пад ёю ўтульнае месца...

— Табе ня хочацца слухаць, Рыгор?

— Кажы, кажы, Ліба...

Рыгор вызваліў руку і перацяў ёю Лібіну стройную паясьніцу.

— Каб я думаў ці чакаў, магчыма ўсё-б яно іначай пашло...

— Іначай?.. Выходзіць, што ўсяму прычынаю адзін цёмны выпадак?

— Выпадак, але той, якім кіруецца наша жыцьцё... Калі ён і быў цёмны, то я асьвяціў яго сваёю сьвядомасьцю... Якія, аднак, вы жанкі чулыя!..

— Ты глядзіш на мяне выключна, як на жанчыну? І не саромеешся казаць гэтага?

— Адкуль ты бярэш усё гэта, Ліба? Было-б так, я абмежаваўся-б адным-двума спатканьнямі з табою... Я не раскідаю свайго пачуцьця на вецер і не таргую словамі, як лыкам... Да цябе я прышоў праз доўгія, спакусныя іспыты... Ды што казаць...

На Рыгоравым лобе лягла выразная пячатка Лібінага пацалунку. Ён быў ціхі, але шчыры і зацяглы, з сілаю, якая на нейкі час перацяла іх глыбокія ўздыхі і заваражыла прасторны пакой салодкаю маўчанкаю.

— Мы шчасьлівыя, з табою, Рыгор! А ёсьць людзі—і колькі гэткіх людзей!—што гадамі ня бачылі сваіх жанок, дзяцей... Ды можа ня ўбачаць!..

— Ты хочаш узяць часьціну віны за вайну на сябе?

— Як табе сказаць...

— Мы выкупім яе, Ліба, тым змаганьнем, якое часткаю вялі, часткаю мусім яшчэ весьці... Адна наша нянавісьць да вайны можа компэнсаваць дзесяткі крывавых сутычак...

Ліба замаўчала. Яе рука апусьцілася на скамечаную газэту і зашамала ёю.

— Трэба напружней змагацца... Нехта стукае?

Мінутная іх настарожлівасьць перарвалася паўторным стукам.

— Адчыні, Рыгор!

— Прашу заходзіць!—гукнуў ён, зрабіўшы пару крокаў да дзьвярэй:— Запалі агонь, Ліба!

Яна не пасьпела абмацаць штэпсэль, як у пакой увайшоў чалавек, якога ў вячэрнім змроку нельга было зразу распазнаць.

— Нарэшце знайшоў!.. Добры вечар у хату! Ну, і забраліся-ж!

У голасе ўвайшоўшага гучэла нешта знаёмае, але не па голасу Рыгор пазнаў Пятруся. Запаленая Лібай электрыка выявіла да драбнейшых рысаў Пятрусёў твар, на якім бегала вясёлая ўхмылка.

— Сапраўды, што нарэшце! А пісаў-жа, што будзеш у Менску многа раней... Маю гонар пазнаёміць з маёю жонкаю...

— З жонкаю?! Так-такі і законнаю жонкаю?!

Пятрусь прывітаўся з Лібаю і агледзеў пакой.

— Скідайце паліто,—запрапанавала Ліба,—я пастараюся гарбаты...

Яна пачакала, пакуль Пятрусь распрануўся, пасьля выбегла з пакою.

— Законная... Яно-ж гэтак—адно другога ўзаконілі. Прызнацца, я пра гэта пакуль і ня думаю,—вытлумачыў Рыгор.

— Цяпер яно і не патрэбна, але з часам...

— А з часам паглядзімо...

— І жонка так думае, як і ты?—пацікавіўся Пятрусь.

— Прынамсі я ня бачу ў ёй сумненьня... Ды яна ў мяне герой... Прайшла добрую школу...

Ліба вярнулася з гарбатаю.

— Я думаю, ня лішняй будзе з марозу шклянка цёплае гарбаты,— абярнулася яна да Пятруся,

— Згаджаюся—дзякую.

П'ючы гарбату, Пятрусь рэвізаваў узрокам абсталяваньне пакою і вясёлую, упадобную яму гаспадыню. Ён не чакаў, што прыяцель спаткае яго ў сямейных абставінах. Да гэтага ня было жадных адзнак таму. Ды па настроі Рыгора Пятрусь ня мог дапусьціць хуткае перамены ў яго жыцьці. Тымчасам факт паказваў сваё. Пятрусь спачувальна глядзеў на таварышавы паводзіны, хоць прысутнасьць пры Рыгору Лібы, відаць было па ўсім, мала ўплывала на Рыгораў нутраны сьвет. Умовы, што зьяўляліся сьведкамі новага жыцьця, далёка не пасавалі да маладых асоб, якія сядзелі пры ім, мэрам-бы сышоўшыся з прычыны яго наведаў.

Крыху папушчаная Лібаю вольнасьць, як неагледжаная блюзка ды неакуратна прычэсаныя косы хоць і намякалі на перажытае Пятрусём, але рухавыя павароты Рыгора, яго лунаньне ў гутарцы далёка па-замежамі наўкольнае конкрэтнасьці, загладжвалі гэта. Камод ды стол, канапка і ложак, пяць ужываных крэсел мала адрозьнівалі памяшканьне для дваіх ад памяшканьня для аднаго. Усяго і служыла гэта абсталяваньне дзеля адноснага дапамінку Рыгора пра яго мужнія абавязкі. А калі і Ліба ня дужа заўзята пільнавала гэтага, тады за камодам ды канапкаю аставаліся сухія функцыі сьцясьненьня гаспадара. О, не, Пятрусь ужо пасьпеў шмат далей перагнаць Рыгора! Яму хапіла часу, каб абкруціць сябе досыць надзейна клопатамі заўзятага семяніна. Што таму пасабляла—гадаць ня трэ' было доўга. Пятрусь выразна бачыў прычыну гэтага і ў абставінах свайго жыцьця, якое зьвязала яго нелегальнасьцю, ва ўмовах непаседнае службы, каторая кідала ў разьезды і, нарэшце, спадчына, вынесеная з вастрогу. Усё паказанае з невялікім дадаткам Пятрусёвае ўступчывасьці, значна пасунула яго ў бок сямейнае клапатніны. Чамусьці ў прысутнасьці Рыгора з Лібаю гэта вельмі выразна замуляла ў яго нутры. Паведзеная гутарка на тэму бягучага жыцьця ня стрымала Пятруся ад самапапроку. Ён даў месца ў сваім нутры для вострых упікаў за недагледжанае патуханьне сваіх ранейшых настрояў. Але побач з гэтым гутарка з Рыгорам, ахапіўшы шырокае кола бягучых зьяў і будучых заданьняў, дала яму набой для ўсхваляваньня і аброку да аднаўленьня ранейшай актыўнасьці.

— Так,—завяраў Пятрусь перад адходам.—Я пераеду ў Пецярбург. Мяне цягне туды ня менш твайго... Толькі...

— Вось гэта толькі і не дазваляе табе пакінуць Масквы.

— Дык парадзь мне, Рыгор, што рабіць...

— Якая-ж тут рада—чакай яшчэ нейкі час...

— Няўжо ім у галаве за мною сачыць? Вось быў-жа я надоечы ў Пецярбурзе і праз пяць дзён—ніякага знаку сочкі...

— Запэўняць, браце, цяжка...

— А так-бы паехаў перш я, а сьледам выцягнуў-бы і вас. У мяне там наклёўвае некалькі добрых месц... Разумееш, за гэты час пасьпеў зарэкомэндаваць сябе перад кіраўніцтвам установы; а частыя камандыроўкі далі магчымасьць знайсьці добрае знаёмства... Вы-б паехалі, Ліба Шлёмаўна?

— Яшчэ з якою-б ахвотай! Прызнацца, мне Менск зусім не падабаецца... Вось бачыце, пакою людзкага не знайсьці... Пайсьці няма куды... Нуда, смурод, людзкая санлівасьць... Ой, ехалі-б вы хутчэй, Пятрусь... А то мне Рыгора не ўгаварыць...

— Што-а?

Рыгор зрабіў фальшыва-сур'ёзную міну і ўзрокам Мэфістофэля пагледзеў на Лібу.

— Не згаджаецца...

— Ты не чакацьмеш, як я прыкажу складвацца,—пажартаваў Рыгор.

— Паду-у-мма-еш! Адкуль ты набраўся гэтае сьмеласьці?..

— Ліба Шлёмаўна прэтэндуе на матрыярхат...

— Згодзімся, што да гэтага яшчэ далёка, але...

— Але не бяз дыктатарскіх ухілаў...

Яны весела засьмяяліся. Адбітак гэтага сьмеху Пятрусь вынес на сваім твары з Рыгоравага пакою.

— Да спатканьня ў Пецярбурзе,—пажадаў ён Лібе, якая правяла яго з кватэры.

## ВІНО БУШУЕ

**М. Грамыка**

*(Комэдыя ў 4-х дзеях з сучаснага жыцьця)*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Сьнігіроў Павал Піліпавіч, профэсар, нежанаты.
Ясінскі Андрэй Андрэевіч, доцэнт, партыец.
Галёнка Іван Іван. } асыстэнты.
Панаў
Галіна Тодараўна, жонка Ясінскага.
Ірына, дачка яго, піонэрка.
Брацянкоў } тэхнічныя працаўнікі.
Дзежка
Лімпіяда
Урбановіч Марына, студэнтка, партыйка.
Прасінская Вольга } студэнткі.
Мірчык Тамара
Будоль Ганна
Ганіч Тацяна, няпрыгожая
Бабіновіч Васіль, моцны, нязграбны } студэнты.
Дубень Янка
Млынкоў
Сьцяпан Гаўрылік
Алесь Гаўрылік
Гаўрылік Аўгень } бацькі, сяляне.
Гаўрылік Наста
Студэнты, студэнткі, музыкі.

*Дзея адбываецца ў наш час.*

ДАДАТАК

*Студэнцкая песьня на мотыў* „Gaudeamus“
(„Гаудэамус“).

I

Нам весела, бо для нас
У жыцьці шлях шырокі,—*(Два разы)*
За гадамі маладосьці

Калі ў дождж ня ломіць косьці,—
Прыдзе час соцстраху. *(Два разы).*

II

Мы навуку панясем
Па кутох далёкіх,
Дапаможам ў будаваньні
Новых лепшых форм яднаньня,—
Што слыве Комунай.

III

Нам вясёла, бо для нас
Сонца і дзяўчаты,—
За гадамі буйнай сілы,
Калі нас прымаюць міла,—
Прыдзе час соцбесу...

IV

Хай жывуць правадыры
Ц. К. і Ц. В. К. *(Чытаць ЦЭКА і ЦЭВЭКА).*
Мы сыны працоўных гушчаў—
Фабрык, вёсак, стэпаў, пушчаў,—
Ды шляхоў шырокіх.

V

Хай жывуць працаўнікі
Усіх галін навукі,—
У нашым ясным сьветаглядзе
Пэсымісты ў заняпадзе—
Мы матэрыялісты.

## ДЗЕЯ 1-ая

Студэнцкі інтэрнат. Ложкі, сталы.

*(Янка Дубень, Гаўрылік Алесь)*

Алесь *(уваходзіць шпарка).* Яначка, слаўны мой, сымпатычны, ароматычны. *(Круціць таго).*

Янка. Кінь, Алесь! Ну! А то...

Алесь. Зразумей! Радасна жыць. Вось я іду па вуліцы, а мне згары за каўнэр: кап, кап, кап... Чорт яго ведае, што там накапала. Я спачатку лаянуўся,—ёлкі-палкі і г. д., а пасьля сьмешна стала: гэта-ж сонца. Зраньня сняжок выпаў, а зараз сонца, ну і... Эх, Яначка, якая гэта сіла—сонца!

Янка. Ды ну цябе ў... кіслату. Сонца, сонца!.. Мне арганіку здаваць трэба.

Алесь. Ну, і здавай,—усёроўна правалішся, папомніш маё слова.

Янка *(чытае)*. Мураўіны алдэгід. Мураўіны алдэгід можна здабыць... мураўіны алдэгід можна здабыць...

Алесь. З мураўёў вядома, назьбіраць, націснуць—і гатова. Ха-ха...

Янка. Цьфу! Яго можна здабыць, прапускаючы мэтыль-сьпірытус праз плятыну... праз плятыну... праз гэтую, перагрэтую... Так, яшчэ раз і мураўіны алдэгід...

Алесь. Сам ты алдэгід, хэмія пахучая. Вось што, Тамара Мірчык не заходзіла?

Янка *(кідае кніжку, наступае)*. А-га! Я ўжо даўно прыглядаўся да вашых фігляў-мігляў. Ды вось які ты астраном! Та-та-та! Вось ён чаму пра сонца. Закапала яму згары... Куды табе закапала?

Алесь. Чакай, чакай, Яначка, у чым справа? Я-ж толькі папытаўся... Можа ты сам... можа яна табе...

Янка. Што „ты сам“, што „яна мне“,—нічога. Ха-ха! *(Абодва сьмяюцца)*. Нічога яна мне, дурны ты! Дый я ёй нічога. Ды наогул гэта для мяне ня існуе.

Алесь. Што „гэта“? каханьне?

Янка. Хоць-бы сабе каханьне, любошчы там розныя з жанчынамі і наогул з дзяўчатамі.

Алесь. Ты хочаш сказаць: з дзяўчатамі і наогул з дзяўчынамі, бо дзяўчына, разважаючы лёгічна, ёсьць частка цэлага паняцьця—жанчына.

Янка. Мне здаецца, што цэлае хутчэй дзяўчына... Ды чаго ты чэпішся да мяне? Для мяне гэта ўсё ня важна.

Алесь. Дазволь! А пытаньне роду, пытаньне плоці, як кажуць парасійску—палавой вапрос? Як-жа ты яго разьвяжаш?

Янка. Што? Залозы там гэтыя самыя, каморачкі набраклі? Ха! Падумаць! Ну, а калі ты, скажам, галодны, дык няўжо так і накінешся на абы-які кавалак мяса?

Алесь. Але-ж, нарэшце, пад'ясі, так ці інакш пасьнедаеш ці павячэраеш. Ага, а што?!

Янка. Дурны ты, як той нябесны месяц. Галадуюць, калі трэба, скажам, вязьні ў турмах. Дык-жа голад жыцьцю пагражае, а гэтыя твае любошчы,—ані! Перацярпі які дзянёк-другі,—яшчэ лепей сябе адчуваць будзеш, у галаве прыбудзе. *(Чытае)*. ...Мураўіны алдэгід можна здабыць.

Алесь. Чорт хэмічны! З табой дыскусаваць,—трэба бобу наесьціся. *(З кута, з-пад коўдры напявае Млынкоў)*. Млынкоў.

Янка. Ён заўсёды так.

Млынкоў *(напявае)*. Дубень Янка алдэгід з хэміяй пад ручку, скуль узяўся Маін-Рыд і махнуў анучкай...

Янка. Чаго-ж ты маўчаў, прытаіўся, як злодзей?

Млынкоў. Прабач, як пісьменьнік. Цікава, як вы наконта ўсяго такога іншага. *(Вылазіць з-пад коўдры)*.

Янка. Няпрыгожа гэта, нядобра.

Млынкоў. А як-жа іначай наглядаць жыцьцё, як ты яго апішаш?

Янка. Ты можа і мяне апішаш?

Млынкоў. І апішу, ты цікавы тып.

Янка. Пішы, пішы, усёроўна я твайго нічога ня чытаю.

Млынкоў Ня сочыш за сучаснай літаратурай, адстаеш ад жыцьця.

Алесь. Ха! Ня чытаць тваіх твораў, значыць, адстаць ад жыцьця? Бачылі?

Янка. А ты хэмічныя бюлетэні чытаеш?

Млынкоў. Спэцлітарутура,—толькі.

Янка. Ну, а мне цікава, як які-небудзь Сымон пасварыўся з Габрусём дзеля Марыські, ай-ай.

Млынкоў. Калі Марыська будзе табе падабацца,—зацікавішся.

Янка. І не падумаю! Мураўіны алдэгід...

Млынкоў. З хэміяй пад ручку... *(Перадражнівае)*.

Янка. Адчапецеся вы абодва?

Алесь. А я што табе раблю, бачылі.

Млынкоў. Сяду і занатую: „у гэты момант яго вочы гарэлі, як бунзэнаўскі пальнік...“

*(Уваходзіць Гаўрылік Сьцяпан)*

Сьцяпан. Здасьце! Ах, кампанія. І брацец тут,—замячацельна, замячацельна. Што вы пішаце, Млынкоў? І вабшчэ, пачаму вы здесь сідзіце?

Янка. А дзе нам сядзець? А дзе ты сядзіш?

Сьцяпан. Я... я, так сказаць, в састаяніі стаяньня...

Янка. Не, ты ў стане сядзеньня, да яшчэ паміж двох крэслаў.

Сьцяпан. Ах, я ведаю, ведаю, аб чым вы, таварыш Дубень. Пра беларускасьць і так далее...

Янка. Ага аж да Італіі.

Сьцяпан. Досыць аднаго братца вам,—он будзет сідзець з вамі тут у „роднай“ Беларусі, а я, так сказаць, гражданін вселеннай, так сказаць... Мая родзіна—планета Зямля.

Янка. Так сказаць.

Алесь. Чаго-ж ты выхваляешся? Мы ўсе на зямлі нарадзіліся, не на Марсе-ж.

*(Бабіновіч Васіль)*

Сьцяпан *(да Алеся)*. Ты памалківай. Я на семь лет старэй за цябе. Дас, таварыш Дубень, мая родзіна—планета Зямля. Это звучит гордо: зямля.

Бабіновіч. Зямля, планіда, а ты на ёй—гніда. (*Цісьне Сьцяпана, абдымаючы)*.

Сьцяпан. Ай! Фізічаская сіла, больше нічего. Голая фізічаская сіла.

Бабіновіч. Я зусім ня голая сіла, што ты.

Сьцяпан. Ай! Мядзьведзь, бораў!

Бабіновіч. Ну, яшчэ дадай: зубар, лось... Чаго-ж ты, сыночак зямлі, пішчыш?

Сьцяпан. Ай!..

Бабіновіч. Гэта, гучыць горда: ай! (*Усе сьмяюцца*). Ну, ідзі сабе, ідзі!

Сьцяпан. (*адышоўшы*). Паціснуць здаравецкім кулачышчам пячонку, знаеце, яшчэ не довад, знаеце, таварышы. Это слабы довад процiў меня.

Янка. Як паціснуць, залежыць ад гэтага.

Сьцяпан. А я гавару: нічево вы са мной не зделаеце. Не хачу і не хачу. Адрэжце мне палавіну языка, а я ўсёроўна другой палавінай буду гаварыць па рускі, і зачоты здаваць.

Бабіновіч. А вы чулі, хлопцы, як ён вымавіў: „усёроўна“?

Сьцяпан. З вамі пажывеш, чорт ведае, як гаварыць будзеш. Вот кончу і в Томск паеду, в Технaлагічаскі, і пляваць...

Янка. Ня плюй, сам нап‘ешся.

Сьцяпан. Нап‘юся, толькі ня вашага, а свайго. (*Выходзіць пад сьмех*).

Бабіновіч. Ну, і браток у цябе!

Алесь. Ат!

(*Стук у сьцяну*).

Алесь. Дзяўчаты стукаюць. Што? Ня чуем, галасьней. Хто стукае?

Янка. Табе ня ўсёроўна.

Алесь. Адгадаць? Ну, яшчэ раз стукніце! Тамара Мірчык. (*Глухі сьмех за сьцяной*).

Бабіновіч. Памыліўся, Гаўрылік. Глядзеце, імя ведае, мала яму фаміліі.

Алесь. Дальбог, яна. Ня хоча прызнацца толькі.

Бабіновіч. А ну, я. Слухаю, хто ў тэлефона? Адгадаць? Магім. Такая: сама, значыцца, нішто сабе, поўнаформіе і вабчэ, а вочы, дык таго лепей! — шэравата-бур-малінавыя з сінцом... (*сьмех*). Змоўклі. Скончана, братка Гаўрылік.

Янка. Пакрыўдзілася, ясна. Дый ты, Бабіновіч; „поўнаформіе“. Навошта гэта было казаць?

Алесь. Ён не памыліўся, далібог, не.

Бабіновіч. Ну, ідзі, хэмія, выбачся за мяне. Я-б сам пашоў, ды яшчэ напалохаю дзяўчат.

Янка. Што? На іхнюю палавіну ісьці? Пашлі вы ўсе... далібог, хлопцы, пашлі-б вы куды, хоць-бы сабе і ў жаночы калідор. Мне органіку трэба. (*Голас. Студэнткі гуртам*).

Тамара. Хто ў вас тут нахал, га? Хто?

Бабіновіч. Ды мы ўсе нахалы, асабліва вунь гэны. (*Паказвае на Янку*).

Будоль Ганна (*сантымэнтальна*). Толькі ня вы, таварыш Бабіновіч, не паверу.

Бабіновіч. Я і кажу: асабліва ён.

Тамара (*да Янкі*). Гэта вы гаварылі з намі праз сьценку? Што за глупствы вы гаварылі? І вам ня сорам, таварыш?

— і вам ня сорам...
— сьвядомы чалавек...
— студэнт...
— здаецца, матэматык...

Янка (*з адчаем*). Я хэмік.

Тамара. Усёроўна. Хэмія таксама навука. Дык вы што-ж гэта? Што за дурныя жарты. Вы дзе жывяце?

Янка. У інтэрнаце.

Тамара. Я не аб тым. Вы не прыкідайцеся наіўным. Вы жывяце ў Савецкай краіне, ці ў якой-небудзь там... ну, усёроўна. Га? (*Студэнты кладуцца са сьмеху*). Сьвядомая грамадзянка Савецкай рэспублікі не дазволіць так з сабой жартаваць. Мы вам пастукалі, як таварышом, хацелі прапанаваць вам організаваць разам маёўку, а вы... Мы не дазволім.

Алесь. Таварыш Мірчык! Тамара! Ды вы... пачакайце... ой, не магу... Тамара!

Тамара. А-а, і вы тут? Добрая рэч. Ну, я з вамі ні слова цяпер. (*Да Янкі*). Вы зразумелі ўсю сваю...

Янка. Ды дазвольце, нарэшце. Я таксама сьвядомы грамадзянін Савецкай рэспублікі. Я таксама не дазволю. Што вам ад мяне трэба, таварышы студэнткі?

Тацяна Ганіч. Што нам трэба ад яго, чулі? Нічога нам ад вас ня трэба! Хэмік, падумаеш!

Будоль. Спэцыяльнасьць тут ні прычым. Я на літаратурна-лінгвістычным.

Млынкоў. Гэта значыць, у перакладзе, язычным—літаратурна-язычным.

Тамара. Глупства вы кажаце, лінгвістычным і ўсё. (*Да Ганіч*). Дай мне з ім скончыць. (*Да Янкі*). Зараз-жа прасеце прабачэньня ў нас, як прадстаўніц жаночага колідору, зараж-жа!

Янка. Не, прабачайце. Я ў вас прабачэньня ніякага прасіць ня буду, прабачайце.

Бабіновіч. Сып, Янка, сып.

Будоль. Ах, таварыш Бабіновіч... Вам такія выразы не да твару.

Бабіновіч. І не да фігуры, можа?

Янка. Ды наогул, якое вы маеце права? На якой падставе? Хто вам даў поўнамоцтвы, каб так урывацца ў пакой, дзе мужчыны? Дый наогул... Я мог-бы быць тут... без...

Тацяна Ганіч. Пфа! Цікава нам, без чаго ён там мог быць. Мы зараз выйдзем і ніколі да вас ні нагою.

Іншыя. Ні нагою! Самі-ж пастукаеце ў сьценку.

Тацяна. Я нават адсунуся ад сваёй сьценкі,—фу! Аказваецца, вось хто тут,—хэмік, падумаеш!

Тамара. (*да Янкі*). Ну? Доўга мы будзем чакаць? (*Да іншых*). А вы чаго зубаскаліце, таварышы? Сорам, фэ, фэ!

Алесь. Таварыш Тамара! Ды чакайце, ой, не магу!

Тамара. Нам чакаць няма чаго. Хадзем! Ганьба, фу!

Алесь. Тамара! Слухайце, Тамара. Ой, не магу. Дык-жа стукаў вам ня ён і гаварыў ня ён, а я, ды вось хто (*на Бабіновіча. Студэнткі спыніліся, азірнуліся*).

Бабіновіч. Блізка да ісьціны: першы стукнуў ён, падмог я, ну, а яму (*на Янку*) выпаў прыемны лёс пагутарыць з вамі. Бачыце, які ён шчасьлівы? Так і сьвеціцца, як купальскі чарвячок.

Будоль. Ах, няўжо вы першы стукалі? Не паверу. Вы такі солідны.

Янка. Пашлі вы ўсе... да органічнай хэміі, вось што. Мне няма часу.

Будоль (*да Бабіновіча*). Спынеце вашага таварыша, вы-ж такі... ён-жа лаецца.

Тацяна. І брыдка так—фэ!

Тамара. Ну, ён нічога такога не сказаў.

Тацяна. Ён зусім іншае хацеў сказаць, я ведаю.

Янка. Адкуль вы можаце ведаць? Вы нічога ня ведаеце!

Галасы. Ха-ха-ха!

Бабіновіч. Вось гэта, дык аналіз тваёй лаянкі, Янка.

Тацяна. Ведаю. Ня меней вас, і задачы здаю. Вы хацелі брыдкае сказаць.

Бабіновіч. Ну, і дзяўчаты, любата.

Алесь. Мы-ж даўно ня бачыліся.

Тамара. Пойдзем!

Усе. Пойдзем!

Тамара. Вы ня думайце, што нас лёгка зьбіць з нагі рознымі вашымі бяссэнснымі славечкамі. Мы яшчэ паставім пытаньне аб ужываньні розных славечак, як...

Бабіновіч. Як органічная хэмія, напрыклад.

Будоль. Вы востры, як...

Бабіновіч. Алдэгід.

(*На парозе раптам усе сьмяюцца*).

Млынкоў. Бачыў ты іх! Тут, браткі, і я ўжо губляюся, як кажуць.

Бабіновіч. Бо ты пісьменьнік.

Янка. Ч-чорт ведае, што такое! На якое мне ўсё гэта ліха? Прычапіліся, халеры спадні́чныя!

Алесь. Ой, пакінь, не магу!

Бабіновіч (*да Янкі*). Ды ты чаго разбушаваўся, як піўныя дрожджы? Дзяўчаты, як дзяўчаты, слаўныя. Наскочылі на нас, як таварышы, проста, бяз гэтых сантымэнтаў, і правільна адчыталі нас. А ты...

Янка. Без сантымэнтаў! Ды ты што хацеў, каб яны мне морду набілі, ці што? *(Адыходзіць)*. Мураўіны алдэгід можна здабыць...

Млынкоў. Такі выпадак. Трэба запісаць.

Алесь *(да Бабіновіча)*. Якая з іх табе болей падабаецца?

Бабіновіч. Ты хочаш, каб я сказаў: Тамара Мірчык. Не, браток, хоць яна наогул нішто, з ініцыятывай, ну, і вочы і г. д... Жанчына, братка, гэта зло,—так думае Янка Дубень. Дык трэба выбіраць меншае. Вось і я выбраў-бы гэтую, ну, што вось тут круцілася... Словам, самую малую з іх.

Алесь. Ганіч Тацяну?

Бабіновіч. Ня ведаю, як іх там зваць, можа Ганіч. Не, я, браток, жартую,—ніводная з тых, што тут былі, мне не падабаецца.

Алесь. Затое ты, здаецца, падабаешся гэтай, курносай.

Бабіновіч. Здаецца, на жаль.

Алесь. Ну, а табе хто? Ня з гэтых, а так?

Бабіновіч. Багата будзеш ведаць, хэмікам зробішся.

(*Студэнткі вярнуліся*).

Тамара. Ну, ладна, таварышы. Мы на 70% жартавалі з гэтым усім. Глупства, вядома, як кажуць, буржуазныя забабоны.

Тацяна. Усё-ж, каб той *(на Янку)* ня сьмеў так выражацца.

Тамара. Ладна, скончана. Трэба пагутарыць, як арганізуемся мы, інтарнат, на гэтую маёўку і яшчэ ёсьць пытаньні...

Будоль. У вас, ці ў нас зьбярэмся? (*Да Бабіновіча*). А вы будзеце за старшыню.

Бабіновіч. Не, ужо лепей вы.

Алесь. Давайце тут, у нас.

Янка (*з кута*). У іх лепей.

Усе. Ха-ха!

Янка. Лінуць-бы на вас усіх... Мураўіным алдэгідам.

(*На ўваходзе: Марына Урбановіч, доцэнт Ясінскі, сяляне Гаўрылікі*).

Марына. Дзень добры, таварышы. Дазвольце да вас гасьцей прывесьці, з вёскі. Пытаюцца, дзе інтарнат (*Падкрэсьлівае*). Тут, кажуць сыны іхныя, двое...

Бацька Гаўрылік. Так, таварышы, двох Гаўрылікаў.

Алесь. Татка, маці! *(Абымаюцца)*.

Маці. Алесечка! Дзякуй таварышом, вось гэным, і ніхто ня ведае. Ад самага вакзалу ішлі, пакуль яны не паказалі.

Бацька. Што ты маці—паказалі... Праводзілі, як бачыш.

Маці. Ды бачу... самая інтэрнацыя.

Бацька. А дзе-ж Стахван?

Алесь. Недзе вышаў. Ну, сядайце, ну, хоць сюды, да мяне, на ложак. (*Ідуць*).

Маці. Розныя людзі бываюць, ведаеш сынок. Пытаемся, дзе інтэрнацыя...

Алесь. А вы пыталіся, дзе студэнты жывуць?

Маці. Не.

*(Адыходзяць. У гэты момант).*

Галасы.— Таварыш Ясінскі!
— Дзядзька Ясінскі!
— Проша да нас!
— Калі ласка!
— Паглядзеце, як мы жывем.

Ясінскі. Добра, добра, дзякуй. Я так... мімаходам. Ну, што-ж, нішто, здаецца ў вас, весела.

Тамара. Вы ня думайце, дзядзька Ясінскі, што мы часта іх разважаем,—ані.

Таццяна. Мы нават пасварыліся з імі надоечы. Асабліва з тым... (*на Янку*).

Янка. Зноў да мяне. Таварыш Ясінскі, нічога падобнага. Мне надта цікава.

Ясінскі. Ого, я бачу, хто ў вас тут прыгнечаныя, а хто прыгнятальнікі.

Янка. Проста захватваюць наша памяшканьне, няма куды дзецца.

Ясінскі. Імпэрыялістыя, словам. *(Сьмех).* Ну, я пайду. Бывайце здаровы, таварышы. *(Зірнуў на Урбановіч).*

Марына. Я... таксама...

Тамара. Ты можа засталася-б паінформаваць, як у вас адносна маёўкі...

Марына. Ну, добра, толькі хутчэй... што вас цікавіць?

Студэнткі—Дзядзька Ясінскі, заўтра будзеце прымаць залікі?
— Ой, страшна.
— Правалімся.

Ясінскі. Буду, буду, у дзесяць гадзін. (*Выходзіць*).

Марына. Якую інформацыю вам, аб чым?

Тамара. Можа вы сьпяшаецеся, тав. Урбановіч? Можа вам трэба разам з таварышом Ясінскім?

Марына. Бяз глупства, калі ласка. (*Бабіновіч прыслухоўваецца*). Я ў студкоме, як табе вядома, Ясінскі—у дэканаце. Мы спатыкаемся па справах, якія ў нас ёсьць. І годзі аб гэтым.

Таццяна. Ой, якая сур'ёзная! Вас трэба было-б да нас сюды, хоць на тыдзень... у інтэрнацыю.

Марына. Што за жарты! Падыйдзі, ды навучы, як казаць правільна. Цябе-ж вучылі.

Тамара. Вось што, тут госьці,—пойдзем да нас, таварышы.

Будоль. (*да Бабіновіча*). Пойдзем да нас!

Бабіновіч. Да вас з вялікай прыемнасьцю. Усе хадзем, хадзем!

Алесь (*на момант кідаючы бацькоў, да Бабіновіча*). Я зараз братка з бацькамі пагутару толькі. Калі ўбачыш дзе брата, пашлі яго сюды, скажы—бацькі. Ды што з табой, Васіль?

Бабіновіч. А што са мной, ну? Чаго табе?

Алесь Ага! Та-та-та! Разумею.

Бабіновіч (*дражнячы*). Та-та-та! Тамарай тваю зваць, так?

Алесь. Ну, Тамарай.

Бабіновіч. А мне падабаецца болей „ма-ма-ма". Ты хлапчына, ні чарта не разумееш. (*Выходзіць*).

Алесь. Ма-ма-ма? Хто-ж гэта такая?

Маці (*з кута*). Што, сыночак, мяне клічаш?

Алесь. Не, матуля, гэта я так, прыпамінаю адно імя.

Бацька. Пэўне-ж, дзяўчына. Ну, і ладныя-ж яны тут у вас, студэнткі гэтыя самыя. Не глядзі, што вучоныя, а спрыту колькі: віць, віць, віць! круць, круць! (*Паказвае*).

Маці. Бачыў ты! Стары ты ўжо, каб цябе немач! (*Жартліва пхае ў сьпіну*). Ляксандрачка! Я вам абаім тут вось напякла тое-сёе. (*Дастае*).

Бацька. Што ты з ёю зробіш сынок? Вядома, жанчына, маці, дык яно гэта... А бацька што? Хіба тутуном патрактаваць.

Маці. Вядома ў горадзе смачней напякуць, дзе-ж вы бачылі раўнаць! Ну, але-ж пакаштуйце свайго, дзіравенскага.

Алесь. Дзякую, матулечка, дзякую, татка. Ого! Яшчэ і як гэта ўсё прыдасца да нашага абеду. (*Са смакам адкусвае, хавае. Бацькі глядзяць. З-пад коўдры ў куце смачны цмок; Млынкоў ня вытрымаў*). Млынкоў, ты тут?

Млынкоў. Тут!

Алесь. Дык чаго-ж ты маўчаў, хадзі частавацца нашым вясковым.

Млынкоў. Дзякую, Гаўрылік, я гэта так...

Алесь. Ды вылазь, хадзі сюды!

Бацькі. Проша, калі ласка, таварыш студэнт... нашага вясковага пакаштуйце.

Млынкоў. (*рэкомэндуецца*). Млынкоў.

Алесь. Ён у нас пісьменьнік.

Маці. А-а! Але-ж, мусіць, у вас усе ўжо пісьменныя, ці гэта як?

Бацька. Ды не, маці, гэта тыя, што ў газэце пішуць.

Млынкоў. Во, во, і наогул. Я фактычна яшчэ нідзе не друкаваўся.

Алесь. Але надзею маеш, праўда? (*За сьцяной музыка*). Нашыя музыкі да дзяўчат зайшлі, там, мусіць, цэлае ігрышча.

Маці. Каб-жа-ж у нас ды так ігралі, дзе вы бачылі!

Бацька. Струмантаў болей. Можа мы табе, сынок, замінаем тут?

Алесь. Не, што вы! Зараз-жа павінен Сьцяпан зайсьці.

Бацька. Але-ж нешта няма. Мусіць, заняты вельмі. Дык вось што, сынок, як-бы нам паначаваць дзе?

Алесь. Гэта можна будзе... можна тут.

Бацька. Каб у „Дом селяніна“, казалі добра там.

Алесь. Можна і туды, можна і тут; я што-небудзь зраблю зараз.

Маці. Не, ужо туды лепей. Мы-б са старым... разам...

Бацька. Ага, сынок! А ты Сьцяпану скажаш, каб туды прышоў, калі захоча. А то тут і табе, і нам сьцясьніцельна.

Алесь. Дык добра, добра. Я тады адвяду вас, тут недалёка... (*Зьбіраюцца. Млынкоў памагае, праводзіць у калідор, варочаецца, запісвае. Чуючы галасы, хаваецца*).

(*Сьцяпан Гаўрылік. Вольга Прасінская*).

Сьцяпан. Захадзіце, я січас найду, запіскі. Захадзіце-жа, Ольга.

Вольга. Я тут пачакаю, хутчэй.

Сьцяпан. Захадзіце, што вы.

Вольга. Кіньце! Тут у вас мужчыны, няёмка...

Сьцяпан. Ні душы. Усе там, за сьценкай, длінны калідор... Слышыце іграют... Ну, пасматрыце, как я тут устроілся, вот здесь...

Вольга. Ну? што цікавага?

Сьцяпан. Цікавага, цікавага! Неужелі нічево? А? Вот мой столік... Хаціце, фотографіі пакажу... цікавыя, как вы гаварыце...

Вольга. Ну, што асаблівага? Якія фотографіі... Ды хутчэй давайце запіскі.

Сьцяпан. Вот, пожалуйста, взглянице, я отвернусь. (*Дае фотографії*).

Вольга. Фу, голыя нейкія... (*Глядзіць*).

Сьцяпан. Ну, і велікалепна. А какія формы, какое цела—как слановая косьць! Красота! А вот это... поцалуй... называецца. Вы так цалавалісь когда-нібудзь? А Олечка?

Вольга. Нічога не разумею, што тут... Ой, фу! (*Кідае*).

Сьцяпан. Нічево не фу. Какая вы! Проста із манастырскай абіцелі. Фу! Пацалуй—это всё. Без нево—нічево, пустота. Самае радаснае, остра-радаснае ў жызьні,—пацалуй, вот такой, как здесь.

Вольга. Дзе гэта вы вычыталі? Давайце запіскі.

Сьцяпан. Всё остальное: наука, соцыялізм і прочая газэтная матэрыя,—толькі антракты і скучныя, Олечка, антракты ў адной яркай п'есе, каторая называецца—любоў.

Вольга. Дзе-ж тут любоў? Каханьне значыць?

Сьцяпан. Прологом, вступленіем к этой п'есе і есьць пацалуй. (*Цалуе ў шыю*).

Вольга. Ну, яшчэ што. Сюды могуць увайсьці. Давайце сшытак, чуеце!

Сьцяпан. Ні душы жывой! Олечка, маленькі пацалуй, сладкі, как мёд, п'яняшчый, как... (*Цалуе, падаючы да ног*).

Вольга. Фу! Фу! Сорам! *(Бароніцца).*

Сьцяпан. Олечка, Олечка мілая. Мы-же вольныя людзі. Аставім эти прадрасудкі. Толька раз каленка, каленка пацалаваць. (*Цягнецца. З-пад коўдры Млынкоў чыхае*).

Вольга. Ай! (*Уцякае*).

Сьцяпан *(кідаецца).* Хто? Хто гэта? Ты... Ты... сво... сьвіньня.

Млынкоў. Нічога падобнага! Што мне чыхнуць няможна на сваім ложку?

Сьцяпан. Чыхнуць! Чыхнуць! Пісака!

Млынкоў А ты хацеў гэта... так... адразу... без чарэмхі, га? Ды не давялося. Ха-ха-ха.

(*За сьцяной музыка глухая*).

Сьцяпан. Пі... пісака!

ЗАСЛОНА.

## ДЗЕЯ 2-ая

Сцэна—габінэт профэсара. У кутку трэба даць у разрэзе кавалак кватэры доцэнта Ясінскага.

(*Брацянкоў, Дзежка*).

Брацянкоў (*прыбірае*). Ты мне кажаш: ніверсьціцет. А як я быў яшчэ ў камерчаскім, дык ты думаеш што? Ня горай за ніверсьціцет. Па-першае—гаспада прападавацрлі. Каўнер— чорны бархат. Нагавіцы—зялёныя, гузікі—зіхацяць. Форменнасьць была. А цяпер: ці гэта профэсар, ці асісьцент, ці студэнт—усёроўна. Ні гузіка не адрозьніш.

Дзежка. Ну, сказаў: не адрозьніш. Ён як прыдзе, брат, дык адразу туд-сюд: чаму, кажа, у вас гэтая вадкасьць мутная. А студэнту, што ні даў—добра. Хэмік, брат.

Брацянкоў. Хэмік. А я табе кажу, хоць-бы наш кабінэт... Скажам, сабака... Ну, добра... Ну, за што ты яго мучыш, га? Што ты „навука“, дык маеш права мучыць стварэньне? Што яна „зоолёгія“? Дык чым-жа яна вінавата, што яна зоолёгія?

Дзежка. Дзіўлюся табе, Брацянкоў. Каля зоолёгіі служыш, а не разумееш у ёй—ані-ні, нібы, выбачай, які матэматык.

Брацянкоў. Матэматыкі ты не чапай—там Лімпіяда, ёй што, дошку выцерла, зэдлікі перасунала,—гатова!—Я, брат, за жывёлай мучаніцай гляджу. Белых пацукоў накармі, сабакам опэрацыю перавяжы... Падумаць толькі! Выразаюць залозку за залозкай. Адну выразаў—хвастом ня віляе, другую выразаў—ня брэша.

Дзежка. Бо гэта, брат, і ёсьць навука. Гэта самая апошняя навука.

Брацянкоў. Да пачакай, не замінай. Што з таго, што навука? Ёнжа мне, ці табе ня можа выразаць таго, што сабаку?

Дзежка. Ну, дык што? І добра, што ня можа.

Брацянкоў. Добра! Навука для каго: для сабакі ці для чалавека?

Дзежка. Ведама, для чалавека.

Брацянкоў. Вось-жа. Дык як-жа ён можа вывад зрабіць ад сабакі ды да чалавека?

Дзежка. Во і можа, во і можа! Гэта я і хацеў сказаць.

Брацянкоў. Ага! Ага! Сабаку выражаш—ня брэша, а чалавеку тое самае выраж,—забрэша. Што тады?

Дзежка. Як гэта забрэша? Ня можа быць таго.

Брацянкоў. А ты выразаў? А твой профэсар можа выразаць?

Дзежка. Мой гэтым не займаецца.

Брацянкоў. Ага! Ну, дык ты са мной і не спрачайся. Я ўсё чуў, ведаю. Паслухаць, што цяпер студэнтам расказваюць. Выходзіць па-іхнаму, у сярэдзіне ў нас агормоны сядзяць.

Дзежка. Я пра гэтае слова чуў, як твой профэсар з маім размаўлялі.

Брацянкоў. Гэта глупства, нічога ня значыць, пустата; агормоны сядзяць, сокі выпускаюць і ад гэтага розныя няпрыемнасьці ў чалавека. Падумаць!

Дзежка. Во, во! Прыкладам у дзяўчыны можа зарадзіцца дзіцё.

Брацянкоў. У дзяўчыны, бяз мужчынскае дапамогі?

Дзежка. А вось-жа! Трапіць такі гормон да яе. Яна і ведаць ня будзе... і гатова.

Брацянкоў. Ды дзе гэта было? Калі?

Дзежка. Будзе, таварыш Брацянкоў! На тое і сабак мучаць, выразаюць...

Брацянкоў. Ага! значыць, зоолёгіі ў іх дапытваюцца. Хіба што! (*Пры апошніх словах зьяўляецца профэсар Сьнігіроў*).

*(Профэсар, Брацянкоў, Дзежка).*

Профэсар. Таварыш, э-э, Браценкаф, вы пацуком давалі корму?

Брацянкоў. А як-жа, Павал Піліпавіч. Усё, як належыць: грэчкі, потым пячонкі варанай. (*Дзежка ўходзіць*).

Профэсар. Гэта добра, гэта добра... Так... А вы... Браценкаф, любіце пачытаць? Вы, здаецца, цікавіцесь навукай?

Брацянкоў. А як-жа, Павал Піліпавіч... З вялікай ахвотай магу памагчы навуцы... а толькі...

Профэсар. Што? кажэце, Браценкаф, не саромцесь... Я чуў вашую размову з вашым колегам, таварышом...

Брацянкоў. Гэта Дзежка з хэміі...

Профэсар. Ну, так. Я чуў, што вы стараліся разьвязаць сур'ёзныя, важныя навуковыя ээ... проблемы... ну пытаньні...

Брацянкоў. Мы, таварыш профэсар, нічога такога не разьвязвалі... А толькі я кажу, вы мяне выбачце, Павал Піліпавіч, а толькі навошта зоолёгію мучыць, Павал Піліпавіч?

Профэсар. Дазвольце... Браценкаф... Вы... вы блутаеце... у вас ня яснае мысьленьне... Мучыць зоолёгію ніяк няможна... Зоолёгія—навука, адцягненае паняцьце...

Брацянкоў. Я-ж ведаю, Павал Піліпавіч. Наглядаў. Вось так адцягнеце, дый... таго,—чык па опэрацыі.

Профэсар. Поўная блытаніна паняцьцяў. Вось што! Я вам дам адну кніжачку... Прачытайце (*шукае*) „Асновы прыродазнаўства“. Популярная форма.

Брацянкоў. Дзякуй, Павал Піліпавіч. Калі форменна, дык гэта добрая кніжка... (*Разглядае, у поўголаса*). Ну, так, сабака! (*Уздыхнуў*). З усёй прэпарацыяй.

Профэсар. Ну, пойдзем, паглядзім нашую „зоолёгію“, як вы кажаце...

Брацянкоў. Па-праўдзе, Павал Піліпавіч... Мучыць навошта яе? Мучыць яе зусім не патрэбна (*Выходзяць*).

(*Галёнка, Панаў*).

Галёнка. На кой чорт мне, скажы на міласьць, эта беларусізацыя. Чалавек я чыста рускай, Астраханской губерніі.

Панаў. Фамілія твая, как будта не астраханская... Галёнка даже кажется, что-то значыт па-беларускі.

Галёнка. Фамілія... Што значыт фамілія в сравненіі са всей псіхофізіологіческой сушчносьцью? Да, наконец, весьма вазможна: какой-нібудзь мой прадзед, с каторым у меня нічево обшчево...

Панаў. Это плохо характерызует тваю прабабушку...

Галёнка. Оставь. Так вот... может быть он і был родам з Севера-Западного краю... Што із тово.

Панаў. О-о! Тады я з табой павінен гаварыць па-беларуску.

Галёнка. Оставь шутить!

Панаў. Я не жартую. Чаму я, сапраўдны вялікарус, ня бачу нічога страшнага ў беларусізацыі?..

Галёнка. Ты выключэньне... Ты можаш заніматься сваімі гормонамі і вместе с тем пачытывать эті іхніе слоўнічкі і граматичкі і т. д.

Панаў. Да! І добра сябе адчуваю і не замінае мне ані...

Галёнка. Оставь хоть со мной эті словечкі, на что мне это, на что? Я должен гаварыть: „калі ласка“ вместо „пожалуста“.

Панаў. Між іншым, заўваж: „калі ласка“—надзвычайна музычна гучыць.

Галёнка. Чорт с нім! Почему я должен менять язык Пушкіна на чорт знает что. Дзень добры—вместо здравствуйте. Як—вместо как, конь—вместо лошадь.

Панаў. А ведь і ў Пушкіна—конь.

Галёнка. Вочы вместо глаза.

Панаў. О-о! Зноў поэтычна. І зноў-жа ў Лермантава. Ха-ха! Сам сябе б'еш, астраханец.

Галёнка. Давольна! Пaследній годік! на Волгу-матушку. Дастатачна наігралісь.

*(Вольга Прасінская, Галёнка, Панаў),*

Прасінская. Прабачайце, профэсара можна бачыць?

Панаў. Мы самі толькі што прышлі. Здаецца, яго яшчэ няма.

Галёнка. А вам па какому делу?

Прасінская. Тут заліковыя кніжкі, я хацела...

Галёнка (*да Панава*). Это зачетные, что лі?..

Прасінская. Ну, так, заліковыя кніжкі...

Панаў. А вось тут яны, на стале, здаецца, пашукайце. (*Тая шукае, некалькі раз выпадкова зірнула. Панаў ціха*). Мы зараз спытаемся, што значыт твая фамілія, добра?

Галёнка. Пажалста! нічево не значит.

Панаў. Разьвяжэце, калі ласка, нашую спрэчку,—я кажу, што фамілія Івана Іванавіча—Галёнка, что-то значыт па-беларуску?

Прасінская. Галёнка?!—Косьць!.. вось тут. (*Пaказвае сабе на нагу, шпарка выходзіць*).

Панаў. А што?

Галёнка. Это не важно. Но как она здорово это сказала... вось тут. Кажется, фамілія её Прасінская.

Панаў. Ого-го! Астраханскае сэрца тваё, здаецца... таго-с...

Галёнка. Глупасьці! Стану я из-за какой-небудзь „тутэйшай“, как оні гаварят, ломаць себя.

Панаў. Язык ня зломіцца.

Галёнка. Да не стану. А ў нас там татарачкі есть, пачишче.

Панаў. А язык ламаць ня прыдзецца, ха-ха-ха! (*Выходзіць*).

*(Сьцяпан Гаўрылік, Галёнка).*

Сьцяпан. Здрасьце. Профэсар здесь?

Галёнка. Нету профэсара... Вам заліковую кніжку?..

Сьцяпан. Да, мне зачетную кніжку...

Галёнка. На стале, кажется... Скажыце, вы беларус?

Сьцяпан. Я? Да... собственно... я здесь родідся.

Галёнка. Но ведь, вот вы по русскі говорите всё-такі.

Сьцяпан. Да, конечно... хоця акцент, гаварят, выдает... но я еду ў Сібір, в технологіческій.

Галёнка. Хорошо делаете... Я тоже, вероятно, скоро выеду отсюда. Вести занятия на белмове,—нет уж, извините.

Сьцяпан. И к чему это? Все студенты говорят по русскі.

Галёнка. Ну, не скажыте. Вот только што была тут... студентка Прасінская...

Сьцяпан. Прасінская? Вольга?

Галёнка. Я уже не знаю,—Вольга она или Ольга, но она говорит по беларуски... к сожалению.

Сьцяпан. Да... Прасінская... яна даўно заходзіла?

Галёнка. Недавно... она кончает курс?

Сьцяпан. Так... то есть, хто яе ведае. То есть, кто ее знает... кажется, кончает... А што?

Галёнка. Нічево, так. Она откуда же родом?

Сьцяпан. Вы пра Вольгу Прасінскую?

Галёнка. Ну да, да.

Сьцяпан. Не інтересаваўся, знаеце.

Галёнка. Я заінтересовался, из какой области белоруссы говорят по-беларусскі?

Сьцяпан. То есть, як хто, то есть как кто... Это от области не зависит.

Галёнка. Так... Она у меня, кажется, не атрабатывала практических...

Сьцяпан. Вы пра Вольгу Прасінскую...

Галёнка. Но ведь мы о ней говорим с вами?

Сьцяпан. Аб ёй, аб ёй... так... Я, прабачайце, не інтересаваўся яе практыкумам.

Галёнка. А чем-же вы интересовались в данном случае?..

Сьцяпан. Ніякага даже данного случая не было...

Галёнка. Ніякага (*Падкрэсьлівае*).

Сьцяпан. То есть нікакова, да.

(*Галёнка, Сьцяпан, Дзежка*).

Дзежка. Іван Іванавіч, вас просяць наш профэсар... да нас...

Галёнка. Іду! (*Выходзіць*).

Дзежка. (*да Сьцяпана*). Ваша фамілія Гаўрылік?

Сьцяпан. Гаўрылік. А што? Хто-небудзь ажыдае мяне?

Дзежка. Двое—стары і старая...

Сьцяпан. Госпадзі, і сюды прыпёрлісь!

(*Маці, Бацька, Сьцяпан*).

Маці. Сьцяпаначка!

Сьцяпан. А-а! Гэта вы! Мне гаварыў Алесь. (*Цалуюцца*).

Бацька. Чаму-ж ты ня прышоў учора ў „Дом селяніна“? Няўжо-ж такі заняты? Га?

Сьцяпан. Да ведаеце... страшэнна, страшэнна... Многа вучыцца... Скончу унівэрсытэт і ў Сібір...

Маці. Як? Што ты сынок, чаго?

Бацька. Хіба там лепей?

Сьцяпан. Лепей, ні лепей, а еду туды. Мне тут цесна, на этай Беларусі.

Маці. Скажы, падумай. Ад навукі, значыцца... у Сібіру слабадней. Ай-ай-ай, блізкі сьвет. Сыночак.

Сьцяпан. Ну, што? Таму і еду, што далёка.

Бацька. Хіба ты па зямельнай часьці?

Сьцяпан. А прычым тут зямля? Вы, прабачайце, нічога не разумееце. Я хачу на інжынэра вучыцца, тут няма як... А затым... я вабшчэ не панімаю: я пашоў вучыцца не для таго, што б... я парваў з дзярэўняй і з усім дзеравенскім, разумееце?

Бацька. Ну, маці, хадзем! Бывай, Сьцяпан, здаровы...

Сьцяпан. Вы-ж яшчэ ня зараз на вакзал... Я зайду...

Бацька. Ды не клапаціся, сынок, ня трэба, я ня вельмі і заходзіць хацеў, каб не турбаваць цябе... Гэта маці...

Маці. А як-жа! У Сібір едзе. Ці пабачу калі? (*Плача*).

Сьцяпан. Ну вот, яшчэ чаго не хапала. Проста скандал з вамі...

Бацька. Хадзем, маці, кінь плакаць...

*(Сьнігіроў, Брацянкоў).*

Сьнігіроў. Ну, вось і добра. Пацучкі—так па-вашаму? — падкарміліся, а заўтра мы іх і таго... (*Заўважыў*). Вы да мяне?

Сьцяпан. Ізьвініце, профэсар. Я за кніжкай к вам...

Сьнігіроў. Кніжку вам падпісаў. (*Шукае. Да сялян*). А ваша таксама?..

Бацька. Не, мы... так... да сына... прабачайце...

Сьцяпан. Ізьвініце, профэсар, эта... ко мне... случайно сюды...

Маці. Гэта—наш сын...

Сьнігіроў. Нічога, нічога. Што-ж!

Маці. Мы тут па справах у горад... вядома аб зямлі, як дзіравенскія ну і сыноў пабачыць захацелася.

Сьцяпан. Ах! Давольна! Пойдзем!

Сьнігіроў. Нет почему-ж? Інтересна пазнаёміцца з беларускімі сялянамі.

Бацька. Ды што-ж, таварыш профэсар, тут асабліва анцереснага, як і ўсе сяляне, так і мы... Дык ужо выбачце нас... заставайцеся.

Маці. Што я вас буду (*выходзяць*) прасіць... каб Сьцяпанку, таварыш профэсар, у Сібір ня ехаць, ці ня можа ён такія экзаменты здаць?

Сьцяпан. (*вярнуўся па матку*). Мамаша, мамаша! (*Цягне*).

Сьнігіроў. Не от меня это зависит... э-э, таварышы... Я ведь не адміністратар, я фізіолог.

Маці. Ён у нас і з фізыкі таксама няўдалы... усё хварэў, як малы быў... куды яму ў Сібір...

Сьнігіроў. Я право нічего тут не... не параю...

Сьцяпан. Ах!

Бацька. Маці, годзі дакучаць! Хадзем!

Маці. Ат, усе мужчыны роўныя: і вучоныя і ня вучоныя, чуласьці няма: ня сэрца, а невядома што ў вас там трапечацца.

Сьцяпан. Мамаша!.. (*Выходзяць*).

Сьнігіроў. (*да Брацянкова*). Што значыць „чуласьць“?

Брацянкоў Чуласьць? Ну, скажам, вы, Павал Піліпавіч, сабачку опэрацыяй зьністожылі... Ну, ён, вядома ня будзе ўжо гэта самае...

Сьнігіроў. А-а. Разумею, разумею.

(*Сьнігіроў, Урбановіч, Брацянкоў*).

Урбановіч. Можна?

Сьнігіроў. Калі ласка.

Урбановіч. Я хачу здаць вам, профэсар, анатомію. Я не натуралістка, мне кароткі курс.

Сьнігіроў. Калі ласка! (*Паказвае сесьці*).

Брацянкоў. Я пайду сваіх хворых дагледжу, сабак...

Сьнігіроў. Добра! Добра! Беламу тужэй перавяжэце жывот.

Брацянкоў (*уздыхнуўшы*). Перавяжу, вядома...

Сьнігіроў. Ну, добра. Так што-ж у вас запытацца?.. Ну, скажэце аб костках... э-э... таза...

Урбановіч. Лагво. Ну, значыць, мы маем, па-першае, лагвовую паверхню... потым розьверць крыжавога ходу, самы крыжавы ход... потым...

Сьнігіроў. Ну, добра. Таз вы ўсвоілі... Ну, а скажэце пра рэбры...

Урбановіч. Рэбры падзяляюцца на сапраўдныя і несапраўдныя—кожнае рабро мае галоўку, шыйку і цела...

Сьнігіроў. Можа быць скажаце, як па латыні косьці.

Урбановіч. Осса.

Сьнігіроў. Ну, зусім добра. Вы па якой спэцыяльнасьці?

Урбановіч. Гістарычка.

Сьнігіроў. Зусім, зусім добра для гістарычкі... Ну, скажэце, праўда, пытаньне не анатамічнае... Што вас асабліва цікавіць у гісторыі, якая эпоха?

Урбановіч. Мяне, што цікавіць асабліва?

Сьнігіроў. Ну, так, якая эпоха?

Урбановіч. Сучасная.

Сьнігіроў. Дазвольце, якая-ж тут гісторыя? Гісторыя—тое, што далёка ад нас...

Урбановіч. Ня зусім так. Сёнешняе заўтра ўжо будзе гісторыяй—гэта раз; па другое,—каб пазнаць яго, трэба ведаць гісторыю. Адсюль гістарычны матэрыялізм.

Сьнігіроў. А вы—матэрыялістка?

Урбановіч. Таксама, як і вы, профэсар...

Сьнігіроў. Як разумець матэрыялізм? Яшчэ далёка, далёка ня ўсё пазнана. Асабліва, што да законаў жыцьця.

Урбановіч. Вы віталісты? Жыцьцёвую сілу прызнаецё?

Сьнігіроў. Жыцьцё ёсьць жыцьцё,—вось што я прызнаю...

Урбановіч. Але пазнаць яго можна і трэба?

Сьнігіроў. Так, можна пазнаць, але... яшчэ далёка.

Урбановіч. Усё-ж, значыць, „жыцьцёвая сіла“—матэрыяльна? Значыць, нічым па сутнасьці ня розьніцца ад іншых форм матэрыялізму?

Сьнігіроў. Як сказаць... Мяне цікавіць, чаму сучасная моладзь, так ухапілася за матэрыялізм? Наша пакаленьне нават у навуцы было больш... ну, ідэалістычным, калі хочаце...

Урбановіч. Ваша пакаленьне было далей ад рэволюцыі, ад пабеды яе, ад разьвязваньня соцыяльных пытаньняў... Думаецца мне, што гэта галоўная прычына... хаця я яшчэ ня цьвёрда ў дыялектычным матэрыялізьме...

Сьнігіроў. Наадварот, вы надзвычайна добра ўмееце весьці дыялёг, для сваіх гадоў—вядома, і... і знаходзіць слабыя месцы свайго працаўніка...

Урбановіч. Для сваіх гадоў праўда?..

Сьнігіроў. Так... вашая моладасьць сама сабой складае цэлую... тэорыю і філёзофію... Моладасьць... вашая...

*(Тыя-ж і Брацянкоў і Ясінскі).*

Брацянкоў. Падцягнуў бандажы беламу сабаку, Павал Піліпавіч...

Сьнігіроў. Ну, добра, добра... Падцягнеце яшчэ чорнаму...

Брацянкоў. У чорнага усё ў парадку, Павал Піліпавіч. Вы-ж яшчэ на ім навуку не паказвалі.

Сьнігіроў. А так, так... ну, словам, там што-небудзь папраўце...

Ясінскі. Дзень добры, Павал Піліпавіч!..

Сьнігіроў. А-а, Андрэй Андрэевіч.

Урбановіч. Мне ўжо можна?

Сьнігіроў. Так... А я вам запісаў у кніжачку?

Урбановіч. Не яшчэ...

Сьнігіроў. А-а, так, так... Зараз, зараз...

Ясінскі. Дзень добры (*Вітаецца з Урбановіч за руку*), Павал Піліпавіч, вам хутка прыдзецца прачытаць лекцыю ў парадку шэфства—на тэму: „Матэрыялізм і сучасная фізыолёгія“—нічога ня маеце?

Сьнігіроў. Матэрыялізм і сучасная фізыолёгія... ага... так, так.. Толькі не цяпер, Андрэй Андрэевіч, не цяпер... Так, праз... ну... месяц.

Ясінскі. Ну, добра... (*Да Урбановіч*). Мне трэба з вамі пагутарыць... адносна дакладу аб працы студэнцтва на вёсцы...

Сьнігіроў. (*Да Урбановіч*). Я таксама з вамі хацеў... хаця... пасьля... як-небудзь...

Урбановіч. (*Да Ясінскага*). Я пачакаю. (*Адыходзіць у другі канец*).

Галёнка. Павал Піліпавіч. (*Заўважыўшы*). Здрасьце! Там этот, как его Братенкоф... перепутал всё... всех собак... нічего не разбереш...

Сьнігіроў. Я разберусь, я разберусь, я яму сказаў...

Ясінскі. А калі Іван Іванавіч пачне практыкавацца на мове выкладаньня.

Галёнка. Я то есть? Атнасітельна беларусознавства?..

Ясінскі. Ну, так... З восені, як вам вядома, пытаньне гэтае павінна быць разьвязана канчаткова.

Галёнка. Вазможна, но только не для меня...

Ясінскі. Пераводзіцеся, мусіць? Тады іншая справа.

Галёнка. Так, я решил... Мне, знаеце, это совершенно невозможно...

Ясінскі. А вось, Павал Піліпавіч, Панаў, яны таксама не беларусы, але...

Галёнка. Не знаю, не знаю... у ніх асобенные языкі, вазможна.

Сьнігіроў. То есть, як асобенныя? Не разумею вас.

Галёнка. Не знаю, не знаю.

Брацянкоў. Павал Піліпавіч, белы сабака зноў брахаць пачаў.

Сьнігіроў. Што? Ня можа быць.

Галёнка. Я вам гаварыў...

Сьнігіроў. Тады я іду, прабачайце. (*Да Урбановіч*). Я зараз. (*Выходзіць з Галёнкам і Брацянковым*).

Ясінскі. Добра, што спаткаліся... Я хацеў вам, таварыш Марына, сказаць пра некаторую навіну, навіну... у мяне, у сям'е...

Урбановіч. Што? Слухаю з увагай, Андрэй Андрэевіч.

Ясінскі. Мая жана, Галіна Тодараўна...

Урбановіч. Ха! Прабачайце, таварыш Ясінскі. Мяне дзівіць, як гэта жанатыя мужчыны, нават такія, як вы,—у размовах з... ну, знаёмымі дзяўчынамі, любяць напомніць пра сваю жонку...

Ясінскі. Вось як! Можа быць... Я за сабою такога нібы і ні заўважваў... прынамсі з вамі.

Урбановіч. Не заўважыў... так... Дык вось я і кажу: тут наглядаецца, як-бы нейкае сваяўласьцівае выхваляньне. Вось, мною, мужчынам, колькі жанчын цікавіцца...

Ясінскі. Ды вы, таварыш Марына, проста псыхолёг, ня толькі марксысты... (*Званок у тэлефон. Падыходзіць*)... Альлё, так... Я... А, ты, Галіна... (*Сцэна ў кватэры, якая асьветлена*).

(*Галіна і Ірына (піонэрка)*.

Галіна. Ты, Андрэй? Так... Я вось што хачу сказаць табе... Я хацела напісаць, але навошта, калі ёсьць тэлефон... праз чвэрць гадзіны мы едзем з Ірай на вакзал і потым далей... Не, ня трэба... катэгорычна... Так лепей для ўсіх нас... Гэта ня тое ўсё... Так, мы ведаем адзін аднаго і паважаем прынамсі, да гэтага часу... Можа быць адпачыць трэба табе, мне... Што?.. Не, не прыяжджай.

Ірына. Скажы, мама, што піонэры ўмеюць цярпець, калі ім балюча. Я буду сумаваць па татку, але ня трэба, каб ён быў зараз...

Галіна. Так... Пачакай... Добра... Іра? Так, Іра таксама... Ты крыху не даглядзеў яе за працай... І наогул быў заняты апошні час...

Ірына. Скажы, мама, што я вырасла, татка даўно ня мераў мяне.

Галіна. Добра.

Ясінскі *(у тэлефона. У бок Урбановіч).* Галіна Тодараўна зьбіраецца выехаць. Можа быць, ты і права, Галіна... Пры той суровасьці, якую мы ўстанавілі адносна нашага ўзаемнага пачуцьця.. Мне будзе цяжка... бяз Ірыны... Што? Ах так.. Н-ну... адрас твой? Спадзяюся, што адпачынак твой ненадоўга... Што?

Галіна. Ня ведаю... Іра будзе пісаць табе... скажу на разьвітаньне... Здраджваць можна жонцы, але не свайму дзіцяці... Жонка можа даравацъ адхіленьне ў бок, дачка—ніколі. Бывай.

Ясінскі *(ціха).* Бывай! Галіна Тодараўна надзвычайна просталінейны чалавек... Патрабавальны да сябе і да іншых: альбо ўсё, альбо нічога.

Урбановіч. Разумею такіх... Альбо ўсё, альбо нічога.

Ясінскі. Так і яна сказала.

Урбановіч. Ну вось мы з ёй сышліся... Калі едзе вашая жонка?

Ясінскі. Ды зараз вось, зараз... Ужо на вакзале мусіць.

Урбановіч. Што-ж вы стаіце? Чакаеце?

Ясінскі. Вы ня чулі?.. па тэлефону... Сам ня ведаю... Ну, паеду, там паглядзім... бывайце...

Урбановіч. Вы ўжо, толькі што, сказалі тое самае па тэлефону...

Ясінскі. Што-ж я вам павінен сказаць?..

Урбановіч. Ня ведаю, ня тое самае ва ўсякім разе... *(Адыходзіць. Ясінскі выходзіць).*

Бабіновіч *(уваходзіць павольна, як мядзьведзь).* Дзень добры! *(Не адказвае яму).* Профэсар тут? *(Не адказвае. Падыходзіць ззаду).* Ня той самы ва ўсякім разе.

Урбановіч. Фу, як вы мяне напужалі, таварыш Бабіновіч. Праўда, што ня той самы.

Бабіновіч. Зусім іншы, зусім.

Урбановіч. Адкуль вы ўзяліся?

Бабіновіч. О-о! Гэта было даўно, 27 год назад.

Урбановіч. Я не аб тым! *(Хлопае яго заліковай кніжкай).*

Бабіновіч *(пакорна падстаўляючы галаву).* Сюды яшчэ можна і сюды... Калі ласка. Хлопайце. Я злопаю, усёроўна...

*ЗАСЛОНА.*

## ДЗЕЯ III-яя

Лябораторыя

*(Галёнка і Панаў).*

Галёнка *(чытае ў голас кавалкі з граматыкі Лёсіка. Праходзіць праз пакой. Панаў заняты каля стала).*

Панаў. Што? Што ты там чытаеш?

Галёнка. Нічево особеннаво. Рыхтуюсь да заняткаў са студэнтамі па арганічнай хіміі.

Панаў. Ах, рыхтуешся? *(Падкрэсьлівае)* і, здаецца, па граматыцы Лёсіка?

Галёнка. Нічога падобнага! Ды нарэшце, хоць-бы і так?

Панаў. А Вольга як?

Галёнка. Прычым тут Вольга?

Панаў. Ха-ха-ха! Ясна, ні прычым.

Галёнка. Нічога сьмешнага! А калі я там галадаваць буду? Дый наогул... нічога сьмешнага. Сьвядомасьць вызначаецца быціем. Разумееш?

Панаў. Я гэта даўно зразумеў і граматыку Лёсіка вызудзіў.

Галёнка. То скажы мне такую рэч... Ольга будзе... Вольга, так? Прыдыханьне...

Панаў. Прыдыханьне.

Галёнка. Оля—Воля?

Панаў. Воля.

Галёнка. Значыць, Волга, гэта па-беларуску, а па-расійску трэба Ольга, так? Чорт, я зусім зьбіўся.

Панаў. Ха-ха-ха! *(Пры гэтых словах уваходзяць: Вольга Прасінская, Ганіч Таццяна, Янка Дубень. Панаў не заўважае іх, Галёнка бачыць).* Ха-ха-ха! Дык Ольга—Вольга, а Волга Олга.

Галёнка. Давольно, досыць... на заняткі ідуць.

Панаў. Вольга Прасінская з прыдыханьнем.

Галёнка. Кк... кх... *(Дубень паказвае на Прасінскую гестамі).*

Дубень. Кхэ, кхэ! Задачкі здаць хэмічныя. Мы да дзядзькі Панава.

Панаў. А-а! Калі ласка... Ну, што ў вас?

Прасінская. У мяне... зараз скажу... *(Чытае па лісточку).*

Дубень. У мяне спачатку не адцэджвалася нічога, а пасьля, як асеў у мяне асадак... Словам, у мяне...

Панаў. Так... правільна...

Ганіч. А ў мяне—мураўіны альдэгід...

Дубень. Дазвольце—і ў мяне мураўіны альдэгід... Як-жа так?

Панаў. А вы разам аналіз рабілі?

Дубень. Нічога падобнага, дзядзька Панаў!

Ганіч. Нічога падобнага, дзядзька Панаў...

П а н а ў. А-а, так... так... я вам даў адну задачу.

Д у б е н ь. Значыць правільна?

П а н а ў. Правільна, правільна ў абоіх.

Г а н і ч. А што! *(Да Дубені).*

Д у б е н ь. А што! *(Да Тацяны).*

(*Уваходзяць студэнты, студэнткі. Шум. Малады голас*).

П а н а ў. Каму яшчэ задачу?

Г а л а с ы. Мне, мне! *(Той дае ў шкляначках).*

*(Пачынаюцца заняткі каля сталоў, вараць, грэюць над печкай... колбы... пасуда).*

Г а н і ч *(да Дубені)*... Нам лепш перамяніцца месцамі, бо зноў скажуць...

Д у б е н ь. Хай гавораць, я нікуды не пайду, гэта маё месца.

Г а н і ч. Калі так, і я не пайду, гэта маё месца.

Д у б е н ь. Калі ласка. Калі ласка. У кожнага свая задача.

Г а н і ч. Ведама свая, і вы нічога ня пытайце ў мяне.

Д у б е н ь. Я ў вас? Пхэ! Хэмік знайшоўся! Я і бяз вас аналіз зраблю.

Г а н і ч. А я бяз вас. *(Працуюць пад ціхі сьпеў іншых, які па-крысе ўзмацняецца. Пяюць. Зацягвае адзін, напрыклад, Бабіновіч).*

Песьню старцаў з „рэлігійнай“ формай, але па сутнасьці і асаблівай манеры пяяць—антырэлігійную:

— „Ах, вы людзі добрыя, людзі вы харошыя, раскажыце вы нам, што значыць „раз“?

Хор адказвае:

„Адзін бог-самавоф, адзін бог самавоф, над зямлёю правіць бог“...

— „Ах, вы людзі добрыя *(і гэтак далей)* што значыць два?

— „Естества двох господзь, адзін бог самавоф, над зямлёю правіць бог“.

— „Ах вы людзі...

што значыць тры?“

— Во трох ліцах бажаство, естества двох господзь, адзін бог-самавоф *(і так паўтараюцца словы папярэдніх куплетаў).*

На запытаньне. „Што такое чатыры?“

Хор адказвае:

— Чатыры „ваянгельля“ ва трох ліцах бажаство... і г. д.

На пяць,—„пяць, пяць кніжыеў“.

На шэсьць,—Шастакрылы Серафім.

На сем,—Сем сьвятых сабор аццец.

На восем,—Восем концаў на крыжу.

На дзевяць,— Дзевяць чыноў ангельскіх, стольки-жа архангельскіх.

На дзесяць,—Тры дзярэўні, два сяла, дзесяць дзевак, адзін я, дзевяць чыноў ангельскіх, столькі-ж архангельскіх *(і г. д., усе куплеты ад канца да пачатку паўтарае. хор).*

Песьню пяюць спачатку разьмерна, на царкоўны лад, пасьля пераходзяць на тэмп вясёлы, заліхвацкі.

Усе. Сем сьвятых сабор ацец, шастакрылы Серафім, п'яць, п'яць кніжыеў, чатыры ваянгельля і г. д.

Адзін. Што значыць дзесяць...

Усе. Тры дзярэўні, два сяла, дзесяць дзевак, адзін я... Ах навука хэмія, сугубая хэмія.

Голас. На штаны мне лінуў. Халера кіслотная.

Другі. А ты, калі хэміяй займаешся, скідай штаны.

Прасінская. Таварышы, бяз глупства.

Ганіч. *(нясьмела).* Таварыш Дубень... што гэта можа быць па-вашаму?

Дубень *(глядзіць).* Жалеза, самае тыповае жалеза.

Ганіч. Дзякую!

Дубень *(да яе).* У вас як... алюміні... так, як у мяне. *(Паказвае).*

Ганіч. Так. Тыповы алюміні.

Дубень. Дзякую! *(Сьпеў. Пад ціхі сьпеў у куце, выходзіць на авансцэну Вольга Прасінская разглядаючы пры сьвеце кольбу... З дзьвярэй ціха крадзецца да яе Сьцяпан Гаўрылік).*

Сьцяпан. Олечка! *(Тая нібы ня чуе).* Олечка! *(Нечакана круты паварот, з пагрозай абліць яго, той шарахаецца).*

Олечка, што вы! Вы маглі абліць мяне... вашай кіслатой.

Прасінская. І абальлю.

Сьцяпан. Но зачем-же? Я вас люблю, Олечка.

Прасінская. Магчыма... але я вас—не! Ідзеце адсюль і разглядайце свае фотографіі...

Сьцяпан. Вам панравілась, Олечка?

Прасінская. Я праз іх зразумела вас, і яны, і вы сталі мне агідны.

Сьцяпан. Олечка, севодня в 7 часоў...

Прасінская. Вось, як ліну! *(Ьльле з кольбы, але Сьцяпан вывернуўся і кіслата папала крыху на Галёнку, які толькі-што ўвайшоў у дзьверы).* Ай! прабачайце...

Галёнка. Нічога, нічога! *(Спуджаны).* А можа вы кіслатой, тады я... мне на руку... якой кіслатой?

Прасінская. Ды гэта вінная кіслата... ха-ха-ха... *(Адбягае).*

Галёнка. Ах, толькі ўсяго? *(Абтрэпаецца сьмялей. Да Сьцяпана).* Здаецца, па вашаму адрасу, таварыш ээ... Гаўрылік... вам належала...

Сьцяпан. Я ўступаю сваё права, Іван Іванавіч, калі ласка.

Галёнка. А вы, я чую ўжываеце беларускія выразы, хоць і зьбіраецеся ў Томскі тэхнолёгічны.

Сьцяпан. А вы, Іван Іванавіч, нават дасканала спрактыкаваліся, хоць і зьбіраліся на Волгу, здаецца.

Галёнка. Пазвольце, таварыш, вам заявіць, што я значна старшэ за вас... дас... і сам гаспадар свайму слову і выбару: учора я зьбіраўся на Волгу, сёньня на...

Сьцяпан. З „л“ мяккім на Вольгу вы хочаце сказаць?

Галёнка. Што? Што такое?.. Не разумею! *(Пакуль яны сварацца, прыходзіць Прасінская і Панаў, жвава гаворачы і паказваючы на шклянкі).*

Сьцяпан *(гестам паказвае на іх).*

Галёнка. Што? Што вы хочаце сказаць?

Сьцяпан. Што міма вас праплывае Волга.

Галёнка. Як міма вас Вольга *(Выходзіць сярдзіта).*

Алесь. *(у дзьвярах).* Слухай, Стэфка, бацька і маці едуць зараз... Маці хоча цябе бачыць... перад Сібірам тваім... бацька... ня надта...

Сьцяпан. А божа-ж мой, ды туды я ня еду... Сібір! Сібір! *(Бацька і маці ў дзьвярах).*

Маці *(з асьцярогай).* А божа-ж мой, што-ж гэта такое? Аптэка, ні аптэка, а лекамі пахне.

Алесь. Лябораторыя тут, хэмія.

Бацька. Хай сабе, гэта нічога, што хэмія. Хай сабе працуюць, практыкуюцца. *(Студэнты заўважыўшы).*

Голас *(Бабіновіча).* О, вёска да нас у госьці,—гэта я разумею!

Другі. Калі ласка!

Алесь. Дазвольце, таварышы, пазнаёміць, гэта мае бацькі... нашыя, і яго таксама. *(Паказвае на Сьцяпана).*

Галасы. А-а! Ну, добра...

Бацька. Вы ўжо прабачайце, таварышы студэнты... Па простаму мы... цікава, дзе гэта ды чым сыны займаюцца... Але, бачым—нішто, ня гуляеце тут... Гэта добра... Вучэцеся, таварышы маладыя, нашыя сыны... Гэта я не за сябе толькі.

Бабіновіч. Гэта ад вёскі, ад вёскі, дзядзька,—правільна, слухаем!

Алесь. Ну, татка, прыдзецца вам сказаць прамову. Да нашай студэнтэрыі...

Бацька. Прамову ні прамову, але слова магу.

Галасы. Просім!

Бацька. Дык вось. Як мы, вёска, без кулакоў вядома.

Галасы. Правільна...

Бацька. Дык просім вас, дзеткі, нашыя дарагія студэнты і студэнтачкі...

Галасы. Ого!..

Бацька. Н-да! Просім вас—працуйце, вучэцеся, каб нам там лепш жылося, каб удабрэньне, лектрыфікацыя, каб значыцца, нам вальне...

гэта ад старога ўсяго... Словам, працуйце на карысьць савецкае наша ўлады!..

Галасы. Урр-а!

Маці *(хоча казаць, Сьцяпан ня пускае)*...

Алесь. Ды кінь, Стэфка! матуля—кажэце.

Галасы. О-о! Просім!

Маці *(як-бы плачучы)*. Вучэцеся дзеткі, каб на гэтай самай стрыкацыі, на лераплані—у Сібір можна было-б зьлётаць...

Галасы. Ого, маці! Добра!

Маці. Ага, дзеткі мае. Да сыночка, да Стафанчыка.

Сьцяпан. Ды я ня еду.

Маці *(ня слухаючы)*. Ды каб назад... Сюды... Во...

Галасы. Добра, будзе, маці, ёсьць.

Бабіновіч. Дык дазвольце цяпер мне. Мы таксама, большасьць з нас, маем такіх бацькоў, як вы, але, на жаль, ня ўсе так вось наведваюць сваіх дзяцей, так цікавяцца нашай працай, нашым жыцьцём. Сыны вёскі, мы, павучыўшыся, зробімся ўжо работнікамі гораду, рабочымі... і гэта ўжо ёсьць першая сувязь, рабочага гораду з бядняцкай вёскай І мы будзем старацца гэтую сувязь зрабіць і мацнейшай, і цікавейшай: каб горад зрабіўся квітнеючым садам, а вёска электрыфікаванай, калектыўнай фабрыкай збожжа.

Галасы. Ура!

Бацька. Правільна! Збожжавай фабрыкай. Гані і гані зерняткі.

Маці. Ды каб машынкай, стрыкацыяй гэтай сьвіньням замешваць.

Галасы. Ого! Добра!

Бацька. Ну, за гэтым—заставайцеся здаровы. Пойдзем, маці! *(„Бывайце“... цісնуць рукі)*.

Тамара *(да Алеся)*. Я выпадкова бачыла ўсю сцэну. Вы малайчына, таварыш Гаўрылік! Вы, проста... слаўны...

Алесь. Ну? Праўда, Тамарачка?

Тамара. Ідзеце, ідзеце, праводзьце бацькоў! *(Жартліва пхае яго)*.

Алесь. Тамарачка! Скажу! Такі выпадак. Я даўно зьбіраюся сказаць...

Тамара. Ды пасьля, пасьля, ідзеце!

Алесь. Не, ня трэба зараз. Давайце пазаксімся з вамі.

Тамара. Што? мне яшчэ два залікі, а ён з глупствам. Пашоў...

Алесь. Я ўжо і бацьком сказаў... Татка кажа: што з таго, што ня нашае веры... Цяпер адна вера...

Тамара. Пашоў...

*(Ясінскі і Урбановіч, праходзячы)*.

Ясінскі. Не, усё-ж такія сцэны радасны для мяне. Хай тут ёсьць і наіўнасьць, але-ж важна тое, што нашая навука—не замкнутая ў касту, яна як рэчкі, уліваецца ў вялікае мора працы.

Урбановіч. Вы поэта, таварыш Ясінскі...

Ясінскі. Думаю, ня болей і ня меней за вас, тав. Урбановіч... Мы павінны злучаць многае, умець мысьліць вобразамі, гэта ва ўсякім разе...

Урбановіч. І мараходам быць і цесьляю, і поэтам, і фабрычным работнікам. Вы праўду кажаце, няма часу спэцыялізавацца... пакуль што... Нам наогул няма часу...

Ясінскі. Нам мала часу, вы хочаце сказаць, тав. Галіна.

Урбановіч. Настолькі мала, тав. Ясінскі, што мы блытаем імёны, хоць гэта ня важна...

Ясінскі. Марына? Як-жа?

Урбановіч. Вы сказалі Галіна. Што піша Галіна Тодараўна?

Ясінскі. Галіна... Тодараўна... Яна фактычна нічога ня піша, піша Іра, дачка мая, піша, што мама займаецца стэнографіяй...

Урбановіч. Правільна робіць! Толькі, па-мойму, яна магла-б заняцца і тут...

Ясінскі. Ёй ня было патрэбы займацца гэтым тут, значыць, яна і не магла.

Урбановіч. Жанчына павінна быць абсолютна незалежнай матэрыяльна, каб ня быць толькі жонкай.

Ясінскі. У комуністычнай грамадзе так і будзе, таварыш Марына, але зараз... у пераходны пэрыод...

Урбановіч. Пераходны пэрыод,—для цэлай грамады; кожны пасобку павінен зрабіць яго найкарацейшым... для сябе, прынамсі.

Ясінскі. Ня ведаю. Пытаньне дыскусыйнае.

Урбановіч. Для мяне—не.

Ясінскі. Тэорыя, хоць і добрая. Цікава, як вы праведзяце яе ў практыку?

Урбановіч. З кім я пайду, той паможа мне зрабіць гэта.

Ясінскі. Вы ў гэтым упэўнены?

Урбановіч. Іначай я з ім не пайду. Прадметная камісія там будзе?

Ясінскі. Там. *(Ідуць пад шум студэнтаў). Работы ідуць далей. Здаюцца задачы Панаву... Падыходзяць Дубень і Таццяна Ганіч).*

Панаў. Вы зноў разам, таварыш? Няўжо зноў я вам даў аднолькавую задачу?

Дубень. Не, задачы розныя, але толькі мы... гэта... разам... Ды мне фактычна ўсёроўна...

Ганіч. Мне таксама... Толькі мы разам, за адным сталом. *(Тыя, што працуюць, зацягваюць „Баразёнку"... Пачынае Бабіновіч, пяюць ня ўсе, некалькі галасоў).*

Галасы. Ну, годзі! Скончыў. Абедаць, хлопцы! *(Скідаюць халаты. Разыходзяцца).*

*(Дзежка і Лімпіяда).*

Дзежка. Вы памажаце мне, Лімпіядачка, прыбраць хэмію, а я вам матэматыку прыбяру... Зараз тут прадметная камісія будзе.

Лімпіяда. Добра, давай, што табе? Ну, і насмуродзілі-ж!

Дзежка. Хэмія—нічога ня зробіш. Навука, Лімпіядачка, з аналізам...

Лімпіяда. З якім гэта яшчэ аналізам... словам, наўчыўся нямаведама якім... У мяне ў аўдыторыі таксама розныя гаворацца... Але я так: у адно вуха ўвойдзе, у другое выйдзе. Можа яно там, па-вучонаму, і нішто, а мне, па-дзявоцтву, дык часам брыдка і слухаць...

Дзежка. Не магу даць веры, Лімпіядачка, як гэта па-дзявоцтву брыдка слухаць?

Лімпіяда. А так, што брыдка... Building Стануць перад дошкай студэнт і студэнтка, скажам... спрачаюцца, спрачаюцца, а тады ён і кажа... ат, сорам і паўтарыць нават.

Дзежка. Што-ж гэта такое ён можа сказаць перад дошкай? Людзі-ж яны з навуковай падрыхтоўкай.

Лімпіяда. А вось табе і падрыхтоўка; трэба, кажа, цяпер пімпердзікуляр паставіць... Ат!..

Дзежка. Н-да, у нас на хэміі такіх слоў ня ўжываюць... Але ўсё-ж я вам скажу, Лімпіядачка, яны хоць і з гэтымі словамі рознымі, ды народ вясёлы. Чулі, як сьпявалі „Баразёнка вузенька“? га?

Лімпіяда. Чула, чаму не. Гэта яшчэ што,—„баразёнка“,—гэта і ў нас сьпяваюць... яны аднойчы засьпявалі нешта нейкае, я прыслухалася, ну, лаянка: мальма твая матар, што ты скажаш?

Дзежка. Скажу на гэта так, Лімпіядачка, навука—навукай, а хэмічная сіла бярэ сваё. Колькі я разоў падглядаў: толькі задачу здадуць, абы ўдваіх засталіся, зараз—цмок, у самую, перапрашаючы, шчаку, з вашага дазволу, вось так... (*Цалуе*).

Лімпіяда. Пфу! Засьлініў. (*Брацянкоў бачыў сцэну*).

Брацянкоў. Н-да... а мой профэсар не заходзіў сюды?

Дзежка. Не, пакуль што не існавалі тут...

Брацянкоў. Н-да... А ўсё-ж, таварышы, н-да... у хэмічным габінэце ды гэтую самую зоолёгію разводзіць... н-да... не гадзіцца...

Дзежка. Ну, ты і скажаш, Брацянкоў, проста нялоўка.

Лімпіяда. Пфу! Каб на вас, смурод з вашай хэміяй, з вашай зоолёгіяй,—той і той цалавацца лезуць. (*Выходзіць*).

Дзежка. Што-ж гэта выходзіць?..

Брацянкоў. А тое выходзіць: па зоолёгіі—дзіцё, а па закону—аліманты.

*(Сьнігіроў, Ясінскі, Урбановіч з бакавых дзьвярэй).*

Снігіроў. Я згодзен прачытаць лекцыю на вашую тэму, таварыш Ясінскі... хоць заўтра.

Ясінскі. Добра. Думаю, без намёку на асобную жыцьцёвую сілу, віталізм і г. д. што? Праўда, Павел Піліпавіч?

Профэсар. Так. Вы праўду кажаце. У маім сьветаглядзе былі некаторыя элемэнты навуковага ідэалізму... Цікавіцеся ведаць, што кан-

чаткова пераканала мяне ў магутнасьці матэрыялістычнага, скажу дакладна, марксыцкага сьветагляду?

Ясінскі. Нават марксыцкага? Вядома, цікаўлюся, Павал Піліпавіч, кожны больш-менш выдатны навуковы работнік, пераходзячы цалкам на наш бок, павялічвае тым і нашыя і свае навуковыя сілы,—я ў гэтым упэўнены. Ну, дык, што канчаткова ўсталявала вас?

Профэсар. Блізкасьць да сучаснай моладзі... У наш час было меней веры ў жыцьцё,—адсюль незадаволенасьць, расчараваньне... Ну, і ідэалізм. Таварыш Урбановіч надзвычайна добра растлумачыла неяк мне...

Урбановіч. Я? Вы перавялічваеце мае сілы, як дыялектыка...

Профэсар. Пацьвердзіце, таварыш Ясінскі, можа таварыш Урбановіч весьці дыскусіі?

Ясінскі. Здаецца, здольна, наколькі мне вядома.

*(Дзежка).*

Дзежка. Таварыш Ясінскі, да вас там прышлі.

Ясінскі. Ага! Ну, я зараз... Вы пачынайце пасяджэньне, Павал Піліпавіч, калі зьбяруцца.

Сьнігіроў. Добра! *(Ясінскі выходзіць).*

Урбановіч. Для мяне вялікая прыемнасьць, профэсар, што вы зьвярнулі некаторую ўвагу на мае словы тады.

Сьнігіроў. Я зьвярнуў тады ўвагу ня толькі на вашыя словы.

Урбановіч. Як вас разумець, профэсар?

Профэсар. Як разумець? Я зразумеў, што ў рэальным, матэрыяльным, так многа свае нутраное сілы, што яно ня мае патрэбы яшчэ ў іншай сіле... Я зразумеў гэта, гледзячы на вас. Па-другое... тут, бачыце, я ўжо ня ведаю, як вам сказаць... Я стары, яшче дарэволюцыйны профэсар і стары, дарэволюцыйны халасьцяк.

Урбановіч. Здаецца, на сьветагляд гэта апошняе не павінна мець уплыву, профэсар?

Сьнігіроў. Уплывае, слаўны малады колега, уплывае... Я думаў, што для мяне засталася толькі навука, мае досьледы над жывёламі... Я ня ставіў сваю работу ў сувязь з нечым агульным, вялікім. Вы сваім беспасрэдным і разам з тым ідэйным жыцьцём прымусілі мяне падумаць ня толькі аб сваіх экспэрымэнтах, але і аб сваім сьветаглядзе, аб сваім месцы ў соцыяльным організьме...

Урбановіч. Я вельмі рада, профэсар, што іграла пры гэтым процэсе вашай псыхікі некаторую ролю...

Сьнігіроў. Значную, слаўны малады колега мой, значную.

Урбановіч. Ня я адна, але моладзь наогул, як вы і сказалі...

Сьнігіроў. Вы на 90 процантаў... Можа быць, мне належыць проста сказаць вам тое, што я адчуваю... але я больш прызвычаіўся мець справу ў сваіх экспэрымэнтах з...

Урбановіч. З сабакамі.

Сьнігіроў. Я крыху ня тое хацеў сказаць, малады колега мой... Вы жартуеце... Што-ж, стары профэсар і халасьцяк, які не адважваецца сказаць тое, што адчувае, варты таго, каб з яго сьмяяцца.

Урбановіч. Дарэмна, профэсар, дарэмна... Я якраз жартую і сьмяюся з тым, каго ня лічу за старога!

*(Брацянкоў з сабакамі, якому перавязаны жывот).*

Брацянкоў. Павал Піліпавіч! Так жаласна брэша, так жаласна, ну, як скардзіцца на апэрацыю... Можа вы паглядзелі-б, далі-б яму чаго?

Сьнігіроў. Ну, чаго-ж вы яго сюды, таварыш Брацянкоў? Навошта? Ах вы, які жаласьлівы... Ну, што тут? Ну, што з ім? *(Да Урбановіч).* Я зараз... я зараз... *(Выходзіць. Уваходзіць Ясінскі, асыстэнты, Бабіновіч).*

Ясінскі. Яшчэ не пачыналі? Ідзем. Дзе Павал Піліпавіч?

Урбановіч. Пашоў супакоіць хворага сабачку.

Бабіновіч. Ад сваіх-жа ўласных экспэрымэнтаў.

Ясінскі *(ціха да Урбановіч).* Наш старча зьбіраецца рабіць досьледы, прынамсі, псыхічныя, ня толькі над сабачкамі... так, здаецца?

Урбановіч. Чаму не! Іншы думае, што сам робіць досьлед, а на справе ў гэты момант досьледы робяцца, якраз над ім самым.

Ясінскі. Намёк?

Урбановіч. Можа быць...

Ясінскі. Я сам умею наглядаць... і бачыць тое, што мне патрэбна...

Урбановіч. Умееце бачыць тое, чаго можа і няма сапраўды?

Ясінскі. Ня думаю, каб тыя, каго я наглядаю, умелі так добра іграць ролю...

Урбановіч. Ня думайце сабе, колькі хочацца.

Ясінскі. Мы пачынаем пікіравацца, як кажуць... Мне здаецца, сяброўства паміж намі нічым ня можа быць парушана...

Урбановіч. Сяброўства ў агульнай рабоце — гэта так. Але... для адпачынку мусіць у нас ня хопіць агульнага часу...

Ясінскі. Пасьля пасяджэньня пагаворым яшчэ? Таварыш Марына, выйдзем разам?

Урбановіч. Ня ведаю.

*(Профэсар).*

Сьнігіроў. Яшчэ не пачыналі? Ах, гэты мой Брацэнкоф. *(Да Урбановіч).* Так... я вам нешта хацеў сказаць...

Урбановіч. Можа пасьля пасяджэньня, профэсар?

Ясінскі. Так, пара пачынаць. *(Ідуць... Урбановіч адыходзіць у бок, каля сталоў).*

*(Будоль уваходзіць у сьмешным хваляваньні).*

Будоль. А-а, гэта вы, таварыш Урбановіч, гэта добра... скажэце, пасяджэньне прадметнай камісіі скончылася?..

Урбановіч. Толькі пачалося...

Будоль. Вы пойдзеце туды?

Урбановіч. Пайду.

Будоль. Паклічце, калі пойдзеце, Бабіновіча... Такі... высокі... солідны.

Урбановіч. Знаю, знаю яго.

Будоль. Ага! Скажэце... Будоль просіць на мінуту... Я буду ў калідоры.

Урбановіч. Добра.

*(Будоль шпарка выбягае. Урбановіч і Бабіновіч у дзьвярах).*

Урбановіч. Вас чакае Будоль там...

Бабіновіч. Будоль? Нумарок. А я наглядаў вас праз дзьверы...

Урбановіч. Ну, і што?

Бабіновіч. Ня трэба сумаваць аб тым, чаму дапамагчы ня можаш.

Урбановіч. А лепш дапамагчы таму, хто сабраўся сумаваць так?

Бабіновіч. Я? Як гэта вы... адразу так?

Урбановіч. Што? Дагадалася? *(Робіць знак разьвітаньня, убягае ў залю пасяджэньня).*

Будоль. Таварыш Бабіновіч! Таварыш Бабіновіч! Я вас чакаю... тут...

Бабіновіч. Вы?

Будоль. Ну, я, а хто-ж?

Бабіновіч. Ага! Ну, добра, дык пачакайце яшчэ столькі-ж.

*ЗАСЛОНА*

## ДЗЕЯ IV-ая

Беларускі лясны ляндшафт. Дарога. Маёўка. Чуваць музыка, сьпевы, галасы. Дзея ідзе жвава. з уздымам.

*(Праходзяць Алесь Гаўрылік, Тамара Мірчук).*

Алесь. Тамарачка. Добра тут, праўда?

Тамара. Добра.

Алесь. Ніякі стэп, ніякае мора ня можа параўнацца з нашым лесам. Праўда, Тамарачка?

Тамара. А вы бачылі мора?

Алесь. Ды не, дзе я мог бачыць, калі? Вось зараз, як скончыў, ды мы з вамі пазаксімся...

Тамара. Кіньце, Алесь, пра гэта. Мне яшчэ дыплёмку трэба напісаць...

Алесь. Ого! Дык чакаць яшчэ? Мне таксама дыплёмку трэба, разам пісаць будзем...

Тамара. З вамі напішаш, якраз. І што вы там рознага глупства сваім бацьком нагаварылі?

Алесь. Зусім ня глупства. Бацька выбар мой, як кажуць, благаславіў. Цяпер, ка-а, адна вера—ха-ха! *(Абое сьмяюцца)*. Дык трэба, каб і наогул было ў нас усё агульнае, га, Тамарачка?

Тамара. Пойдзем! Чуеце, наш лягер, здаецца, падымаецца на новае месца...

Алесь. Хай падымаецца. Гляньце, як сонца скрозь ліству сьмяецца, як вы, Тамарачка.

Тамара. А можа, як вы, Алесь? ха-ха. *(Сьмяюцца)*. Ну, пойдзем, нашыя далёка адыйдуць.

Алесь. Хіба тут ня добра нам?

Тамара. Добра, добра...

Алесь. Трэба, каб яшчэ было лепей.

Тамара. Ня трэба!

Алесь. Трэба, Тамарачка, любая мая! *(Цалуе)*.

Тамара. Ну вось! Я так і думала. Пойдзем!

Алесь. Заўтра ў Загс, Тамарачка, болей не магу. Заўтра ў Загс, а сёньня яшчэ пацалунак... адзін разочак.

Тамара. Гэта ўжо будзе два.

Алесь. Хай будзе тры! Верыш мне, Тамара? Чаму гэта ў лесе няма загсаў?

Тамара. Глупства кажаце! Ня веру? Каб ня верыла, няўжо... ат, дурны хлопчык! Вось! *(Цалуе яго)*.

Алесь. Тамарачка, любая, залатая мая! *(Цалуюцца шчыра. Галасы)*.

Тамара. Ідуць сюды, Алесь! *(Зьнікаюць у гушчары)*.

*(Янка Дубень, Таццяна Ганіч)*.

Янка. Нічога падобнага. Я раней узяў гэтую тэму, а вы ўжо пасьля прышлі... Ды наогул, я буду пісаць работу толькі з хэміі.

Таццяна. Скажэце! Я таксама хачу пісаць кандыдацкае толькі з хэміі.

Янка. Вы можаце ўзяць і батанічную тэму, вам усёроўна.

Таццяна. Можаце браць сабе заолёгічную, калі хочаце, я нічога ня маю...

Янка. Дзіўна, як гэта вы можаце мець што-небудзь супроць маёй тэмы?

Таццяна. А вось захачу, і буду мець супроць, што тады? Вось захачу!

Янка (*крыху пужліва*). Як вы можаце захацець? Гэта немагчыма.

Таццяна. Што немагчыма? Вось дзівак! Скажэце, таварыш Дубень, вы... заўсёды такі?

Янка. Які гэта такі, не разумею?

Таццяна. Што, каб вам падабалася якая-небудзь дзяўчына?

Янка. Ну?

Таццяна. Вы-б і з ёю так вось трымалі сябе... спрачаліся... словам... так...

Янка. Якраз я б так і трымаўся.

Тацяна. Ха-ха-ха! Я вас і злавіла!

Янка. У чым? Нічога падобнага. Воўсе не злавіла, нічога падобнага.

Тацяна. Ну, добра, я жартую. *(Садзяцца).* Вы куды далей зьбіраецеся, таварыш Дубень?

Янка. Сам ня ведаю. Мне прапанавалі застацца пры катэдры асьпірантам... А вы?

Тацяна. Сама ня ведаю. Мусіць, на провінцыю прыдзецца, куды-небудзь у Мазыршчыну, Полаччыну...

Янка. На провінцыю? Што-ж, і там жыць можна, працаваць... Нават цікава.

Тацяна. Вядома! Сумаваць ня буду. Зараз-жа краязнаўствам займуся, організую там што-якое, калі няма нічога. Ого! Яшчэ як весела будзе! Новыя людзі, новыя знаёмствы... Ого!

Янка. Так. А чаму-б вам не пастарацца тут, у цэнтры як-небудзь, а?

Тацяна. Тут? А чаго? Што тут цікавага? І хто тут цікавы?

Янка. Як хто? Тут усё-ж ёсьць...

Тацяна. Ну, хто тут цікавы? Хто?

Янка. Тут... ну, ці мала тут цікавых людзей... і гледзячы з якога боку?

Тацяна. Ды з якога хаця. Ну, хто?

Янка. Ну, хто. А скуль я ведаю?

Тацяна. Ха-ха! Ёсьць, ёсьць тут цікавыя, нішто... Крыху дзівакі толькі.

Янка. Пра мяне вы?

Тацяна. А хоць-бы і пра вас, тады што?

Янка. Нічога... Я і кажу: трэба вам тут застацца. Разам-бы тэму апрацоўвалі... Калі хэмічную тэму, дык толькі тут і можна; дзе-ж на провінцыі?

Тацяна. А калі ботанічную?

Янка. А навошта вам ботанічная?

Тацяна. Ха-ха-ха!

Янка. Ха-ха! Вось дзівачка, чаго сьмеяцеся? З мяне?

Тацяна. Вядома з вас.

Янка. Так і заўсёды будзеце сьмяяцца з мяне?

Тацяна. Не, не заўсёды. Толькі тады, калі вы будзеце такі сьмешны, комічны.

Янка. А я, часам, бываю і трагічны, каб вы ведалі.

Тацяна. Ой, як страшна!

Янка. А вось я зараз вазьму ды і...

Тацяна. Што?

Янка. Дый скажу вам такое, што вы зараз уцякаць, да грамады.

Тацяна. Ну? Цікава!

Янка. Я вас... *(Нахіляецца).*

Тацяна. Што? Ня чую! (*Нахіляецца да яго*).

Янка (*шэпча, нахіліўшыся. Трэск сухога гальля. Азіраюцца разам. Падымаюцца*). Гэта Млынкоў. Ён, я пэўны. Выходзь, Млынкоў, усёроўна бачу, што ты.

Млынкоў (*з запісной кніжачкай, нялоўка*). Дзе ты бачыў мяне? Ты так, наўгад сказаў, што я. Праўда?

Янка. Наўгад. Ты, Млынкоў, памыліўся. У нас нічога такога, да.

Млынкоў. „Нічога такога" таксама для мяне цікава. Ха-ха! Вось, брат, штука ў чым.

Янка. Цьфу ты, чорт паперны!

Млынкоў. Ха-ха! Як ён лаецца здорава,—запішу.

Янка. Кінь! Зараз паламлю і твой аловак і...

Млынкоў. Што ты!? Бачылі?

Тацяна. Ого, які вы! Вы мне зусім падабаецеся такі.

Янка. Чаго-ж ён... чорт ведае, што запісвае.

Млынкоў. Я надоечы зусім загсаўскую сцэнку запісаў, вось тут якраз, дзе вы сядзелі.

Тацяна. Тут? Хто? Скажэце, Млынкоў?

Млынкоў. Пісьменьніцкая тайна. Нізашто на сьвеце!

Тацяна. Ну, а калі я вас моцна папрашу, га?

Янка. Ого, якая вы! Вы мне зусім не падабаецеся... такая.

Тацяна. Ня буду, ня буду болей... такая... (*Выходзяць*).

*(Дзежка, Брацянкоў і Лімпіяда).*

Брацянкоў. Ты, таварыш Дзежка, кажаш,—мясцком. Ладна. Што ёсьць мясцком?

Дзежка. Як гэта, што ёсьць мясцком? Мясцком гэта... гэта па саюзнай лініі... Праўда, Лімпіядачка?

Лімпіяда. Для мяне лініі ўсе роўныя. Я сама сабе сваю лінію вяду.

Дзежка. Правільна, таварыш Лімпіяда, правільна! Але-ж няможна так ставіць пытаньне: трэба і аб тым падумаць, што паболей за я, ды за сваё.

Лімпіяда. Вы мяне знаеце, я вас—і надта нават добра.

Брацянкоў. Ты, таварыш Дзежка, не адказаў, што ёсьць мясцком. Дык я адкажу табе і разьясьню... Мясцком—гэта саюзная лінія, правільна. Што азначае саюзная лінія? Бараніць анцірэсы членаў свайго саюзу. Я—член.

Дзежка. Вядома член. Што-ж казаць тут.

Брацянкоў. Так, правільна. Ну, а то, таварыш Дзежка, наш мясцком, бароніш мае анцірэсы?

Дзежка. Я? Ну, наогул мясцком... Калі хто цябе пакрыўдзіць на службе, у працы, ну і наогул... Вядома.

Брацянкоў. Наогул? Наогул мясцком і ўсё наогул? Мы цябе выбіралі, так?

Дзежка. Вы хацелі, што-ж я.

Брацянкоў. І я выбіраў. У першым нават радзе сядзеў, руку аж во як падняў. Дзежку, Дзежку! А ты? Ты на мяне ўважаеш? Ты мне саступаеш? Ты скажы тут пры Лімпіядзе, у лесе, як мясцком арганізаваў, канешне, маёўку. Усе габінэты—зоолёгія, хэмія, ну, іншыя там... Ты саступаеш мне?

Дзежка. Як гэта—саступаеш? У чым саступаць, таварыш Брацянкоў?

Брацянкоў. У чым саступаць? І ты ня ведаеш у чым? Будзем казаць так: хто з нас старэйшы?

Дзежка. Вядома, вы, таварыш Брацянкоў.

Брацянкоў. Хто яшчэ ў камэрчаскім служыў з гаспадамі прападавацелямі?

Дзежка. Я ня служыў, вядома.

Брацянкоў. Вось-жа і яно! Цяпер скажам так: чыя навука старэйшая,—хэмія ці зоолёгія? Зоолёгія старэйшая.

Дзежка. Вы ўжо прабачайце, я сачу за навукай. Хэмія старэйшая. Яшчэ ў Эгіпце фараоны займаліся хэміяй.

Лімпіяда. Цьфу! Да фараонаў дагаварыліся. Ды чаго вы спрачаецеся? Чаго вам не хапае?

Брацянкоў. Вы, Лімпіяда, не мяшайцеся. Тут якраз пра вас габінэты ў спрэчку ўвайшлі,—нда!

Дзежка. Дзіўныя рэчы вы гаворыце, таварыш Брацянкоў. Проста зразумець цяжка, што і аб чым. Калі вы на таварыша Лімпіяду намёк кіруеце, дык дазвольце вас паінформаваць, што па савецкіх законах яны, то есьць іхны пол, самыя роўнапраўныя грамадзяне, і я проста дзіўлюся...

Лімпіяда. Ты ня дзівіся! Я па ўсякіх законах сябе ў крыўду ня дам, а па савецкіх, дык і надта. А маё слова такое. Абодва вы мужчыны, у палажэньні, службу маеце... Які сур'ёзна падыйдзе, той дзяўчыне і любы... А што гады, ды там якая навука старэй, дык я лічу гэта—глупства. Вось мой сказ і пайду я ад вас, і дагаварэцеся вы сабе самі. (*Скора выходзіць. Брацянкоў і Дзежка ў нечаканасьці—ідуць за ёй*).

Брацянкоў. Бачыў ты такую зоолёгію? Тут, брат...

Дзежка. Так пытаньне ставіць ня можна, як вы, таварыш Брацянкоў...

*(Марына Урбановіч і Галіна Тодараўна).*

Галіна. Мы прайшлі з Андрэем усе тры стадыі адносін паміж жанчынай і мужчынам.

Урбановіч. Якія, Галіна Тодараўна?

Галіна. Спачатку прыяцелі, а потым каханкі, нарэшце, таварышы. Так, я думаю, з такім настроем я зноў прыехала сюды.

Урбановіч. Мне падабаецца вашая Ірачка, такая слаўная, маладая падружка ваша.

Галіна. Так, яна ў мяне слаўная... Скажэце, таварыш Марына, проста і ясна, не як жанчына жанчыне... На якой стадыі вашыя адносіны?

Урбановіч. З кім, Галіна Тодараўна?

Галіна. З маім мужам Андрэем?

Урбановіч. Галіна Тодараўна! Вам толькі здаецца, што вы гаворыце са мной не як жанчына... Вы хутка зьбіліся нават на жончын тон...

Галіна. Вам толькі здаецца, што вы добра адрозьніваеце па тону жонку ад жанчыны і абедзьвюх ад чалавека. Вы занадта маладыя для такой справы.

Урбановіч. У нас яшчэ лічыцца за правіла, што малодшы павінен моўчкі выслухоўваць абразьлівыя словы ад чалавека, які меў выпадак раней зарэгістравацца на сьвеце.

Галіна. Зарэгістравацца,—ха! Ну, ня злуйцеся, малады сябра мой, ня злуйцеся! Зразумейце, што я не хачу абразіць вас, задаючы вам такое пытаньне. Зразумейце, што ніхто, апрача вас, ня можа мне адказаць на яго...

Урбановіч. Андрэй Андрэевіч перш за ўсё.

Галіна. Так і відаць, што вы яшчэ зусім маладая... Гэта не загана, вядома, не.

Урбановіч. Я вам скажу адно: мне падабаўся Андрэй Андрэевіч Болей я нічога не скажу і ня ведаю.

Галіна. Падабаўся? І вы яму таксама?

Урбановіч. Болей нічога ня ведаю.

(*Ззаду іх галасы чуваць*).

Галіна. Андрэй і Іра... (*Уваходзяць Ясінскі і Ірына*).

Ірына. Не, татка, праўда. Я лічу, што цалавацца з чужым чалавекам негігіенічна.

Ясінскі. Негігіенічна? Вядома, негігіенічна, дачушка.

Ірына. А тымчасам, ёсьць такія несьвядомыя... студэнты нашыя некаторыя... Я сягоньня бачыла, татка, праўда... І галоўнае, татка,—у самыя губы,—фу! Так негігіенічна.

Ясінскі. Так, дачушка, правільна: у самыя губы гэта... гэта негігіенічна. Хто там уперадзе, мама?

Ірына. Мама і тая прыгожая студэнтка—Урбановіч... Яна не цалуецца, мусіць, праўда, татка?

Ясінскі. Яна? Так, яна... не цалуецца.

Ірына. Малайчына! Яна мне падабаецца, а табе, татка?

Ясінскі. Мне? Мне таксама, дачушка.

Ірына. А маме? (*Выходзяць*).

*(Профэсар Сьнігіроў, асыстэнты, студэнты; сярод апошніх Бабіновіч. Профэсар абкружаны імі).*

Профэсар. Дарагія таварышы мае! Маладыя, слаўныя таварышы мае! Я адчуваю сябе сярод вас добра. Я сам маладзею душой і целам.

Бабіновіч. Нават целам, профэсар?

Профэсар. Вас дзівіць? Амаладжацца можна ня толькі праз *(азірнуўшыся)*... праз опэрацыю доктара Штэйнаха, але і праз уздым некаторых псыхічных цэнтраў. Думаю, што ёсьць сувязь паміж цэнтрамі сымпатыі і павялічэньнем жыцьцёвай сілы організму...

Бабіновіч. А ўжо ўстаноўлены цэнтры сымпатыі, профэсар?

Профэсар. Я якраз цікаўлюся пытаньнем аб цэнтрах сымпатый. Устанавіць дакладна іх пакуль-што не давялося. Ясна адно, што гормон... *(Азірнуўшыся на студэнтак)*... э-э.. некаторых залоз адыгрывае тут галоўную ролю...

Вольга. Як усё-ж дзіўна думаць, што прыхільнасьць да якога-небудзь чалавека, ну, сымпатыя залежыць ад нейкага там гормона...

Панаў. Мы яшчэ не прызвычаліся да навуковага мысьленьня ў пытаньнях каханьня і г. д... У нас яшчэ жыве романтычны сьветагляд нашых прабабушак... А па-праўдзе, ня ўсёроўна, чым выклікаецца сымпатыя,—абы яна была, праўда? *(Да Вольгі).*

Вольга. Можа і праўда.

Профэсар. Зусім правільна, маладыя, слаўныя таварышы мае! Будзе час, я яго прачуваю,—будзе час, калі сымпатыі будуць узьнікаць адвольна, праз прышчэпку таго ці іншага гормона тэй ці іншай асобе...

*(У часе яго монолёгу збоку набліжаюцца Дзежка, Брацянкоў, Лімпіяда. Брацянкоў прыслухоўваецца).*

Бабіновіч. Каму-ж будуць прышчапляць гормоны, профэсар? Таму, хто хоча закахацца, ці таму, у каго ён хоча закахацца?

Профэсар. Абоім, малады колега мой, абоім. Так, я прачуваю той час. Тады самая маладая, самая прыгожая дзяўчына павінна будзе захапіцца чалавекам... э-э... калі гэта будзе патрэбна для яго працы...

Бабіновіч. Для працы гэтага чалавека? Хоць-бы ён быў стары, няцікавы? Ну, а як-жа? Ці ўзбагаціцца ад гэтага жыцьцё той маладой, прыгожай?

Профэсар. Вы кажаце аб крайнасьцях. Маладая асоба будзе жыць жыцьцём таго... чалавека. Ды, апрача таго,—што ёсьць старасьць?.. *(Выходзяць).*

Брацянкоў. Чулі? Будзе час, што прышчэпяць табе куды трэба гормона і ты пакахаеш, каго трэба. Справядліва будзе, ні то што...

Лімпіяда. Ніколі ня дамся. Каб мне які стары профэсар ды прышчапляў? Ніколі ня дамся!

Дзежка. Вы, таварыш Лімпіяда, развajaеце, як жанчына... нда, якая працуе толькі пры габінэце матэматыкі. Трэба пытаньне ставіць шырэй і глыбей.

Брацянкоў. Правільна!

*(Праходзяць. Група студэнтаў са сьпевамі, напр., рэволюц. карманьёлы, гаудэамус і г. д.).*

*(Сьпяпан Гаўрылік, Галёнка),*

Сьцяпан. Ну, што-ж вы на Волгу, нарэшце, едзеце, Іван Іванавіч?

Галёнка. Сягодня тут так добра, так многа слаўных дзяўчат, што пра Волгу я крыху забыўся...

Сьцяпан. Дзіўна толькі, што адна слаўная дзяўчына ня з намі, Іван Іванавіч,—што? Ха-ха-ха!

Галёнка. Вы намякаеце на Прасінскую...

Сьцяпан. Волечку...

Галёнка. Вы болей зацікаўлены у сей асобе, таварыш Гаўрылік, наколькі я змог заўважыць...

Сьцяпан. Сія асоба захапілася Панавым. Я скараюся перад больш кваліфікаваным таварышом. Вам, мусіць, цяжэй перанесьці такі ўдар?

Галёнка. Мне ня цікава вам даводзіць, але і вы самі разумееце, што каб я захацеў...

Сьцяпан. Хаценьня тут яшчэ малавата... Я па сабе ведаю... ха!

*(Будоль заклапочана выбягае).*

Будоль. Скажэце, вы ня бачылі, куды пайшоў профэсар Сьнігіроў з групай студэнтаў?

Сьцяпан. А-а! Таварыш Будоль, давайце разам шукаць, добра?

Будоль. Я сама... мне трэба бачыць Бабіновіча...

Сьцяпан. Я так і думаў. Мы яго знойдзем толькі разам,—добра?

Будоль. Ну, добра... Толькі глядзеце, я баюся далёка ў лес...

Сьцяпан. Ну, са мною? *(Бягуць некалькі дзяўчат).*

Адна. Іван Іванавіч, што-ж вы адзін?

Галёнка. Тут і аднаму добра.

Другая. Пойдзем туды, там скокі, цікава.

Адна. Там і Вольга Прасінская, ха-ха-ха!

Галёнка. Для мяне ўсе роўныя.

Адна. Ну? Ня верым! Іван Іванавіч! *(Цягнуць яго ў лес).*

*(Урбановіч адна. З-за дрэва Бабіновіч).*

Бабіновіч. А куды?

Урбановіч. І ня спужаў, ані. Я была ўпэўнена, што вы недзе тут.

Бабіновіч. Чаму? Я-ж, здаецца, не падходзіў да вас сёньня.

Урбановіч. І ўсё-ж...

Бабіновіч. Гм... Усё-ж. Вы пасябравалі, здаецца, з жонкай Ясінскага?..

Урбановіч. Ня столькі пасябравала, колькі пагаварыла. Кінем пра гэта!

Бабіновіч. Давайце пра іншае... Толькі як пачаць... вось пытаньне...

Урбановіч. А вы без Гамлетаўскіх пытаньняў.

Бабіновіч. Тады пачнем з намёкаў... Хто пра любоў ні слова, той ня любіць, праўда?

Урбановіч. Ня любіць той, хто пра любоў усім трубіць. Ха-ха! (*Абое сьмяюцца*). Вось мне з вамі лёгка неяк, проста.

Бабіновіч. А ня боязна? Тут у лесе? Я-ж, як мядзьведзь. Ха-ха!

Урбановіч. Таму і ня боязна. Каб вы былі... мужчынам спэцыфічным...

Бабіновіч. Дык, значыць, я ня мужчына? Вы-ж мяне абражаеце?

Урбановіч. Вы мне падабаецеся... разумееце?

Бабіновіч. Разумею... (*Падумаўшы*). Ах ты, божа-ж мой, які я дурны! Гэта-ж у такім выпадку трэба нешта рабіць... Пацалаваць трэба! (*Цалуе*). Ух!

Урбановіч. Ха-ха-ха! Ну, і мядзьведзь, праўда, касалапы,

Бабіновіч. Марыначка! Гэта так, ад засмучэньня. Я магу быць лоўкім, спрытным... як... як... ну, словам, я-ж вас люблю даўно. Вы самая лепшая дзяўчына!

Урбановіч. У сьвеце?.. так? Ха-ха!

Бабіновіч. Не, у гэтым лесе. Ха-ха-ха! я ведаю добра, што я крыху таго... Таліяй ня вышаў...

Урбановіч. Кіньце, Васіль, глупства казаць.

Бабіновіч. Не, Марыначка! У чалавека павінна быць усё прыгожа: і твар, і вопратка, і думкі... Ну, вопратку я зраблю хутка новую...

Урбановіч. Думкі ў вас, я ведаю, ясныя, рэальныя, значыць, разумныя. Значыць, прыгожыя,—гэта галоўнае...

Бабіновіч. Ну, а твар?

Урбановіч. Во! (*Цалуе яго ў голаў*).

Бабіновіч. Марыначка, ды я сёньня самы шчасьлівы чалавек!..

Урбановіч. У гэтым лесе. (*Сьмяюцца. Цалуюцца*).

Бабіновіч. Марыначка, што-ж гэта: мы цалуемся, і на „вы“?

Урбановіч. Адразу неяк дзіўна сказаць табе—„ты“.

Бабіновіч. А пацалаваць адразу? ха-ха! (*Цалуюцца*). Хвоі з коранем выверну. Давай мне які хоць фронт,—вайсковы, культурны,—усё перавярну, што супроць нас будзе!..

Урбановіч. Супроць нас з табой?

Бабіновіч. Супроць усяго, што мы тут рабілі, творым... Эх, ды ці нам з табой тут у лесе агітацыяй займацца? Добра тут, Марыначка?

Урбановіч. Добра, Васіль.

Бабіновіч. Нехта хруснуў. Пойдзем далей, тут дарога...

Урбановіч. Пойдзем, Васіль, слаўны мой, моцны!

Бабіновіч. Ну, а... ён?

Урбановіч. Маўчы. Усё скончана там, дый ня было нічога... Так...

Бабіновіч. Ён таксама слаўны і... прыгожы.

Урбановіч. Маўчы! *(Закрывае рот пацалункам. Абое ў захапленьні імчацца ў гушчар. Праз нейкі момант—Млынкоў з блёк-нотам і алоўкам. Запісвае, праходзіць).*

*(Праз сцэну праходзіць гімнастычны гурток студэнтаў і студэнтак. Фігуры. Музыка. Сцэна напаўняецца народам).*

Галасы. — Тут, тут закончым.
— Апошняя палянка.
— Сюды цягнеце ўсё.

*(Паселі. Гульні. Сьпевы).*

Ясінскі. Таварышы!

Галасы. — Ціха, ціха!
— Слухайце!
— Таварыш Ясінскі хоча казаць.
— Дзядзька Ясінскі.

Ясінскі. Таварышы! Ад імя ячэйкі і дэканату дазвольце па-таварыску разьвітацца з вамі. Вось гэты лес, што акаляе нас, некалі быў поўны дзікага зьвяр'я. Сёньня ў ім замест дзікага выцьця гучаць галасы маладых, поўных сіл і веры ў новае жыцьцё, работнікаў. У гэтым лесе, дзе яшчэ ня так даўно хаваліся недабіткі старога сьвету, розныя бандыцкія зграі, сёньня гучаць музыка і сьпевы маладых, асьвечаных пролетараў, сыноў рабоча-сялянскага адроджанага краю. Хай тыя веды і тая колектыўная вытрыманая ідэолёгія, якую вы набылі там, у горадзе, пойдуць з вамі і па іншых падобных, яшчэ глухіх лясох і прывучаць іх слухаць галасы новага, вольнага, організаванага жыцьця! За нашую моладзь, за нашую моц, за нашую зьмену! (*Ур-ра! Кіліхі віна, піва*).

Профэсар. *(расчулена)*. Таварышы!

Галасы. — Ціха, цішэй!
— Профэсару слова!

Профэсар. Маладыя таварышы мае! Я ніколі яшчэ не адчуваў сябе такім бадзёрым, такім маладым, як сёньня.

Галасы. Го-го! Урра! Ціха!

Профэсар. Я сёньня проста студэнт, якім я быў 35 год назад у адным старым нямецкім унівэрсытэце... Мы таксама наведвалі маляўнічыя ваколіцы гэтага гораду, сьпявалі, весяліліся... Але адно ў вас зьяўляецца перавагай: тая ідэёвасьць, з якой вы выходзіце ў жыцьцё. Вы ня проста вясёлыя буршы-студэнты, вы—будаўнікі новага, можа быць не ва ўсім для мяне зразумелага—я стары ўжо чалавек—але я ўпэў-

нены, лепшага вышэйшага жыцьця. За вашую радасьць! *(Ур-ра).* За вашае „заўтра“, за сьвядомы, поўны жыцьцёвай энэргіі...

Голас. Незалежна ад гормонаў. Так, незалежна ад гормонаў колектыў. *(Ур-ра).*

Бабіновіч. Таварышы! Дазвольце ад імя гэтага самага новага маладога жыцьця падзякаваць нашых старэйшых таварышоў, якія кіравалі на працягу некалькіх год нашай падрыхтоўкай да барацьбы за... я скажу проста і ясна—за комунізм. *(Ур-ра).* Як довад таго, што мы ўсур'ёз пачнем праводзіць нават новы быт, дазвольце зарэгістравацца перад вамі: Васіль Бабіновіч—Марына Урбановіч, з гэтага дня муж і жонка, — вось! *(Цалуюцца пад „ура“, музыку).*

Галасы. Дый мы, і мы!

*(Выходзяць Тамара—Алесь; Тацяна—Янка).*

Галасы. Ого! Хэмік наш! Сугубая хэмія!

*(Затым Панаў, Галёнка, Сьцяпан, Гаўрылік, Ганна Будоль, Вольга Прасінская).*

Галёнка. Дазвольце, дазвольце. Калі так проста цяпер заключаць... э... брак, шлюб, то дазвольце... зарэгістравацца... *(Хоча ўзяць Вольгу Прасінскую за руку; тая вырываецца, яе бярэ Панаў і яны пад „ура“ цалуюцца).*

Ясінскі. Таварышы! Не забудземся пры новых шлюбах і аб тых, хто многа гадоў здолеў аддаць для сумеснай работы з намі ў цяжкія часы, калі... *(Расчулена і разам сьмяючыся выводзіць Галіну Тодараўну. Музыка. Ура-а).*

*(Брацянкоў у групе з Дзежкам і Лімпіядай).*

Брацянкоў. Таварышы! Таварыш профэсар зусім правільна сказаў. Дазвольце далучыцца і мне да вашага слова, — згаджаюся з вамі. Толькі прашу вас, таварыш профэсар,—ня мучце зоолёгію!

*(Сьмех. Ур-ра. Музыка).*

*ЗАСЛОНА*

## ЧЫРВОНАЯ СТАЛІЦА

**М. Хведаровіч**

Вянкі гісторыі
Уславілі твой лёс.
Яны ўпісаны
У славутыя старонкі кнігі.
О, колькі,
Колькі зьдзекаў перанёс
І колькі калацілі грудзі зямляздрыгі.

Тут што ні пядзь,
Тут што ні ступіш крок,—
Бацькоў і прадзедаў курганішча-магілы.
Яны як быццам-бы
Прыходзілі знарок
Пакласьці тут
Жыцьцё,
І волю,
Й сілу.

Гісторыя змалола косьці іх,
І ў ежу аддала
Зямельнаму скляпеньню.
Каб ў вуліцах тваіх
Заўсёды рух ня ціх,
Каб гулка адгукалася каменьне.

Гады ішлі.
Ўзрастаў за мурам мур.
Адны прыходзілі,
Адходзілі другія.
І ўсякі госьць і гаспадар быў,
А таму—
Вывозілі ў кішэнях залатыя.

Адзін сьпяшаў
З чырвонцамі ў Маскву,
Другі з паклонамі
Хутчэй імчаў у Рыгу.
А мы, ў ярмо
Ўсадзіўшы галаву,
У камень залейдроўвалі Нямігу.

І кожны сват
І кожны лепшы брат.
К высокім берагом
Цягнула моцна Сьвіслач.
І кожны цар,
А гэтулькі і кат,
Імкнуўся сьпіны беларуса высеч.

Расьлі муры.
Расла у сэрцы злосьць.
Галота,
Бедната...
Ня людзі,
А калекі.
Браткі, паўстанем!..
. . . . . . . . . . .
Зноў не павязло
І куляй ворага
Забіт у Вільні Лекерт.

Рэакцыі бязьмернай жорсткай здань,
За вуглам вока
Зоркае жандара.
Ледзь толькі ўзыдзе
Сонечная рань,
Як раптам
Чорнае навалы
Прыдуць хмары.

А час бяжыць...
Ня зьлічыш дзён такіх,
Што сэрца без нажа
Катуюць і тыраняць...
. . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . .
І ў Менску на пляцы:
Палкі,

Палкі,
Палкі,
На Аўстрыю!
На туркаў,
На „Германію“.

Ішлі,
Змагаліся,
Цякла ракою кроў.
Ў начную ціш
Бабухкалі гарматы.
І маці Беларусь,
Даваючы сыноў,
Праклёны пасылала
Моўчкі катам.

А Менск заціх,
Чакаючы цяпер,
Што будзе вызваленьня хутка бура.
Захараўская сьпіць...
Заснуў бяздомны сквэр.
Хавай дабро,
Уласну сваю скуру.

Ізноў ідуць;
Бяз меры, без канца:
Гарматы і абоз,
Шынэлі і шынэлі.
Давайце пораху!!
Сьвінца!
Сьвінца!
Сьвінца!
Хай раз хоць пад'ядуць,
Бо тыднямі ня елі.

Ламі!
Рабуй!
Крышы!
Хапай!
Бяры!
А што ня зьнішчыш,
Дык пускай пажарам.
. . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . .
Закрылі хмары
Бляск начных зарніц.

Куды ні глянь—
Усюды:
Хмары,
Хмары.

Ніхто ня ведаў,
Ад якіх кален
Прыходзілі узброеныя людзі.
І ноч і дзень
Бяз меры й перамен
Душылі маці-Беларусі грудзі.

І рухалі муры,
Зьвіхаючы хрыбты,
І на зямлі
Зяхалі горкім дымам.
Няведамых людзей
Ламаліся шчыты,
Ў вялікіх парываньнях
І уздыме.

Адходзілі адны,
Прыходзіў новы строй,
Праз цела раненых
І галавы забітых...
І зноўку людзі пралівалі кроў,
На менскіх вуліцах
На камяніцах,
Плітах.

Усход гарэў змаганьнем перамог,
Вялікай барацьбою
І імкненьнем.
Шукалі людзі каляін-дарог
Да новага жыцьця
І вызваленьня.

І вось прышоў
Жаданы шчасны дзень.
— Улада ўся рабочаму савету...

. . . . . . . . . . . . . . . .

На вуліцах людзей
Ідзе!
Ідзе!
Ідзе!

Яны нясуць паклон
Краіне сонца,
Сьвету.

Ўзьняліся вежы
Новых фабрык,
Труб.
І на касьцях загінуўшых змаганнцаў
Спаткалі людзі
Новую зару,
Пачулі новыя гудкі
Электростанцый.

І зноў растуць муры.
Цьвіце,
Красуе Менск.
Захараўская тая
І ня тая...
І хутка, хутка
Паласьне прамень
Ад новага
Бліскучага трамваю.

А хутка прыдзе час,
Узьнімем фабрык строй.
І хто пажар рабіў,
Прыедуць к нам дзівіцца.
Што тут ня дарам
Пралівалі кроў,
Што Менск сапраўдная
Чырвоная сталіца.

Што тут,
Дзе быў нядолі плач,
І скрух,
Дзе кожны госьцем быў
Нязваным,
Беспатрэбным.
Ўзьнімаюць галаву
Вышэй
Ўгару,
Ўгару.
З жалеза і бэтону
Небаскрэбы.

І той народ,
Што крыж няволі нёс,
І паміраў ў зьнямозе
І пад крыжам,
Спаткаў сягоньня
Лепшай долі лёс,
І сам сабе
Законы сёньня піша.

Каменным волатам
Ты на касьцях узрос.
Ня літасны чужыя-чужаніцы.
Вякі гісторыі
Уславілі твой лёс,
І Менск стары—
Чырвоная сталіца.

11/II—29 г.
Менск.

## ПАРТЫЗАНКА ЛЮБА

**П. Шукайла**

*(Урывак з поэмы)*

Галыцьба...
        Вочы ўпалыя—
Галыцьба...
        У Вачох сум...
Палягла
        На дарозе
                Шпаламі,
        Каб праехаць
                Сьмерьці-цягніку...

А наўкол
        Сьпяваў вецер,
Нахіляючы вербы
        Над Нёмнам..
У песьнях гудзелі
                Сталецьці
З сьлязьмі,
        З горам,
                З праклёнам...

* * *

Плакалі мацяркі
        Над сынамі,
Абнімалі
        Сырую зямлю
І кожны
        Жоўценькі камень
Цалавалі,
        Як сыну,
                Галаву.

Прыходзілі
        Ў постаці суровай

З жахам
Незьмярымым
У вачох
З сіротамі
Маладыя ўдовы
Сьлязьмі,
Зьліваць пясок.
„О-ой ты, Яська,
Сыночак любы,
Паўстань!
Паглядзі!
Сонца
Сьвеціць,
На высотах
Нашых дзён...
Схаваліся
За гарамі
сталецьці
Не схаваўся толькі
Праклён...
— „О-ой
Ты, Яська,
Мой ты мілы...
А наўкол:—
Сьвежыя магілы...

А наўкол:
Трах, та-та-тах
Упаў адзін...
Трах...
Другі...
Гоўх..
Трэці...

Вецер
У полі
Сьпяваў паніхіду
І праклён сталецьцям.

І пад песьню
Кулямётаў
І гармат
Грымотны гул
Ходзіць Люба
Каля плоту
І зьбірае лебяду.

І з сумотай.
І з нудою,
З горам дзікім
У вачох
Корміць Люба
Лебядою
Дванаццацёх...

* * *

Ноч.
Чорны вугаль
Замаляваў абшар.
Дванаццацёх...
Люба...
Жытняя
Мяжа.

Ноч.
Чорны вугаль
І прожэктары
Ліжуць
Кожны вугал,
Неба
І палі.

Абнімае вецер
Сьпелае калосьсе,
Нагінае нізка,
Да грудзей зямлі,
А жнея—восень
Вытрасае зёрны,
Каб
У руні раньняй
Зацьвілі палі.

Шапаціць калосьсе,
Шалясьціць мяжа,
Дзесьці недалёка
Конік заіржаў.

У вёсцы
Певень поўнач
Прасьпяваў
І змоўк...
Хтосьці вышаў
З жыта...
Карабіна шчолк...

Лякстрык-ліхтарык
Заблішчэў з цемнаты
Голас:
— Стой!
Хто ты?!

— Я тутэйшы,
Вышаў
Жыцейка
Нажаць,
Знаеш, кулі
Сьвішчуць днямі,
Нельга твару
Паказаць...

— Ідзь
Дадому!
Псякрэў, галгане,
Дзісяй час
Не да жніва,
Тшэба вальчыць
З бальшавікамі,
За айчызну,
За наш край!..

— Так, паночку,
За айчыну
І за сьлёзы
Нашых дзён!

(Цень із лесу...
Нож у сьпіну...
Крык...
І ціхі стогн...)

Зайржаў конь...
Падкоў звон...
Кінуўся ў поле,
Пачуяўшы волю...

Абсыпаў вецер
Зерняткі
На жандара
Мёртвы стан,
Зашуршэла
Сухою травою
Жытняя мяжа...

Тра-та-та...
Бах... боўх...
Тра...
Ура!
Ура!
Ура!
Тра...
Тра...

— Сядай на коні!
А коняй
Няма...
На небе
Пажару зара.

— Да кулямётаў!
Кулямётаў
Няма...
А з лесу:
Тра-тра
Та!
Тра-та-та!..

Да тэлефону
Бяжыць гарніст.
Няма тэлефону,
Ляжыць тэлефоніст...

Утоптаны ў зямлю
Польскі герб,
На горле
Сялянскі серп...
Упіліся адпомсьціць
У валасы
Акрываўленыя каласы.

Маёнтак...
Жандары...
Штаб...

На сьценках:—
Пілсудзкі...
І кроў...
Чуўся дзесьці
Храп
І гоман
пьяных
паноў.

Зазваніў
тэлефон,
А ў тэлефона—
Самы ён,
Пілсудзкага
Палкоўнік
— Альлё!
— Пан Пшэдоўнік?

— Так я,
Слухам пане...
Цо, Люба?!
Бардзо добжэ,
А дванастай ноцы ў клебане...
(Адняў трубку
Ад вуха...
Праверыў
Патроны
Ў нагане).

* * *

Ноч...
Стук
Прагручэў
У цішы.
Ляснула
Клямка
У клебане...
— Пане праборшчу!
Маці
Пакінула жыць,
Прасіла зрабіць
Пахаваньне...

* * *

Хвіліна...
Крыж на грудзёх...
Малітву
Чытае праборшч...
(Жандары
Ў дзьвярах):
— „Ха-ха!..
Папалась
Жэрабіца ў вобруць!“

Здавілі
Халодныя рукі
Гарачыя вусны
Дзяўчыны,
Сэрца
Дынамай
Стукала,
Крывёй напінаючы
Жылы.
Кроў напірала
Ў гартань...
Крыкнуць
Давілі рукі...
Перад
Езусам
У клебане,
Пачыналіся
Пякельныя мукі.
— Поведзь нам,
Хто ты ест?
— Гм... Каго-ж лавіць
Мелі...
— Муў псякрэў,
А то зробім
Такі гест,
Цо д'яблі
Ня відзелі.
— Пан пробаршч
Знае, хто я,
Пан пробаршч
Запрошаны
На пахаваньне...
Я—сірата!..
І вам ня трэба
Ні імені майго,
Ні званьня...
— Я бандытам
Малітвы ня чытам!
Нех сьвенцо іх
Пяруны нябеске...
Пан комэндант!
То ёсьць
Бандытка—
Люба Мяцельска!..

— Ах ты,
Даношчык у сутане,—
Крыкнула дзяўчына.
Замахнуўся ксёндз;
Крыжам у брыво
Ударыў...
Кроў
З мясам вока
Паплыла па твары...

Не сказала Люба
Пра братоў—
Таварышаў,
Не сказала Люба
І пра цёмны
Гай...
Білі...
Разьдзявалі нагішам..
Лазілі!..
Рвалі!..
Кусалі!..

Ап'янелы крывёю
Рваў за грудзі
Ксёндз,
Біў акрываўленым
Крыжам
Па месцу
Выбітых воч...

* * *

Ні слова...
Моўчкі...
Сьціснула зубы,
Сэрца быццам
Акамянела...
Толькі цела
Ў партызанкі Любы
Дрыжэла
У трагічным
Трасеньні.

Не сказала Люба
Пра братоў,
Таварышаў,

Не сказала Люба
І пра цёмны
Гай...
Білі...
Разьдзявалі нагішам...
Лазілі...
Рвалі...
Кусалі...

Трашчалі
Кулямёты...
Арматы
Грахаталі...
Сонца глядзела.
Як кожны дзень.
Ішла постаць..
Абарваная...
У хістаньні...
Чырванелі
На сонцы
Акрываўленыя калені.

### Аркадзь Моркаўка

* * *

Срэбнай казкай сад у сьнежні стыне,
Дрэвы шэпчуць у глыбокім сьне.
Грузна шэрань лапамі сваімі
Зьвісла ў сьнег.

Крохкім шклом абложаны галінкі,—
У палёх закутыя вятры...
Сны пра сонца, пра снапы,
Дажынкі,
Вецер, вецер,
Не сатры!

Сьніцца дрэвам сьвежасьць кволай руні,
Рыскі думак лёгкіх, коўдры хмар;
Сьніцца моцны,
Многаструнны
Пяруноў удар.

Сьніцца дрэвам...
А мо' сэрцу сьніцца
Строма жыцьця, дзён інакшых даль,
Сонца поўдня, васількі у жыце,
І зямля ў садах.

11/XII-28 г.

## Рыгор Казак

* * *

Багна воч і вуснаў цяплыня
Не схаваюць смагу парываньняў.
Хоць сьнягі навокала зьвіняць,
Але вёсны ў сэрцы не завянуць.

Хочацца любіць і даравацъ
І пяро ламаць у расчуленьні;
Поглядам задзірыстым сказаць,
Што нічым юнацтва не заменіш.

Я сустрэў агні прывабных воч
На парозе юнай маладосьці.
У іх цьвілі таемна, нібы ноч,
Студні-зрэнкі, клічучы кагосьці.

Я шукаў разгадку глыбіні.
Як у люстры, бачыў свой адбітак
І цяпер прыемны успамін
Загучэў акордам неразьбітым.

Зацьвітае думак сенажаць,
Нават кветкі так не зацьвіталі.
Чую, чую—клявішы дрыжаць,
Не заціхлі гукі на роялі.

І жывуць у палкасьці агню
Песьні й вёсны ў сэрцы, як паўстаньне.
Багну воч і вуснаў цяплыню
Я пазнаў у смазе парываньняў.

# НА ВЯЛІКІМ ГІСТАРЫЧНЫМ ПЕРАВАЛЕ [1])

Л. Расін

*(Соцыяльная програма пяцігадовага пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі БССР).*

Процэсы аграмаджаньня зьяўляюцца тым цэнтральным вузлом, дзе концэнтруюцца і ўвязваюцца ўсе асноўныя проблемы экономікі пераходнага пэрыоду. Тут знаходзіць свой конкрэтны адбітак экономічная політыка пролетарскае дзяржавы, якая будуе соцыялізм.

Проблемы „дагнаць і перагнаць" і „хто каго", рост вытворчых сіл і соцыяльныя формы гэтага росту непадзельныя адна ад аднае, яны ўзаемна пераплятаюцца, утвараючы дыялектычнае адзінства. Політыка індустрыялізацыі самым цесным чынам зьвязана з пытаньнямі „клясавага замяшчэньня", а процэсы аграмаджаньня, іх тэмпы, залежаць і ў значнай ступені вызначаюцца інтэнсыўнасьцю індустрыялізацыі краіны, тэмпамі росту соцыялістычнай прамысловасьці з усімі матэрыяльнымі і надбудовачнымі фактарамі колектывізацыі, што адсюль выплываюць.

„Паміж капіталістычным і соцыялістычным грамадзтвам ляжыць *пэрыод рэволюцыйнае перабудовы* аднаго ў другое" (Маркс). Узровень разьвіцьця процэсаў аграмаджаньня і зьяўляецца паказьнікам таго фазісу, у якім знаходзіцца перабудаваньне новага грамадзтва, і вызначаюць адлегласьць, якая пройдзена намі ад выйсьцёвага пункту—капіталізму, да канцовага пункту—комунізму.

Але рэволюцыйная перабудова грамадзтва сустракае процідзеяньне з боку варожых капіталістычных элемэнтаў краіны. Сіла гэтага процідзеяньня вызначаецца велічынёй і значэньнем тых апорных пунктаў, якія заваёваны пролетарыятам у выніку соцыялістычнай рэволюцыі, і суадносінамі кляс унутры краіны. Суадносіны грамадзкіх кляс у асноўным выражаюцца ў суадносінах соцыяльных сэктараў народнае гаспадаркі. Кожны новы крок у бок аграмаджаньня азначае, значыцца, пэўную перагрупоўку клясавых сіл, узмацненьне элемэнтаў соцыялізму і адпаведнае ўзмацненьне позыцый рабочае клясы. Узмацненьне процэсаў аграмаджаньня на даным этапе разьвіцьця, немінуча выклікае абвастрэньне клясавае барацьбы, а апошняя ў сваю чаргу можа служыць сымптомам тэмпу аграмаджаньня.

[1]) Гл. заўвагу ў канцы гэтага артыкула.

Процэсы аграмаджаньня, падагульняючы соцыяльныя зрухі, якія адбываюцца ў народнай гаспадарцы, становяць сабою вынікі, што ўсплываюць, многагранная унутраная, не заўсёды бачная няўзброеным вокам, клясавай барацьбы.

Проектуючы пэўныя тэмпы аграмаджаньня на бліжэйшае пяцігодзьдзе, мы тым самым вызначаем маштаб інтэнсыўнасьці клясавай барацьбы, якая павінна разгарнуцца за рэконструкцыю і разьмеркаваньне вытворчых сіл, як між прыватным і аграмаджанымі сэктарамі народнае гаспадаркі, так і ўнутры самога прыватнага сэктару, вызначаем ступень „соцыяльнай напружанасьці“ гаспадарчага пляну.

Аднэй з цэнтральных проблем будаўніцтва соцыялізму ва ўмовах СССР зьяўляецца ператварэньне дробна-таварнае бядняцка-серадняцкае гаспадаркі ў соцыялістычную. Тэмп гэтага процэсу вызначаецца ўсёй сумай сродкаў, якія знаходзяцца ў распараджэньні савецкае дзяржавы для ўзьдзеяньня на дынаміку дробна-таварнае гаспадаркі, у першую чаргу сродкаў экономічных, якія могуць накіраваць яе разьвіцьцё ў соцыялістычнае рэчышча. Важнейшым падважнікам у гэтых адносінах зьяўляецца буйная соцыялістычная прамысловасьць, гэтая кіроўная галіна народнае гаспадаркі. Адсюль вынікае, што ў БССР—краіне параўнаўча адсталай, дзе буйная прамысловасьць разьвіта слаба і дзе трансформуючы цэнтр—горад, у моцы спэцыфічных умоў яго разьвіцьця заключае ў сабе вельмі мала матэрыяльных фактараў рэволюцыйнае перабудовы грамадзтва,—процэсы аграмаджаньня павінны былі і будуць адбывацца ў вельмі складанай абстаноўцы і ў значнай ступені базавацца на агульным соцыялістычным разьвіцьці ўсяго Саюзу ў цэлым. Ня гледзячы, аднак на гэта, мы, проектуючы аграмаджаньне на бліжэйшае пяцігодзьдзе, накіроўваемся ад выйсьцёвых пунктаў, якія мала адрозьніваюцца ад узроўню аграмаджаньня, якое дасягнута па Саюзу ў цэлым.

Асноўныя прынцыповыя ўстаноўкі пяцігадовага пляну даны XII партыйным зьездам КП (б) Б. Важнейшай з іх зьяўляецца дырэктыва аб „правядзеньні соцыялістычнай рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, шляхам рашучага курсу на індустрыялізацыю краіны (павялічэньне адноснае вагі прамысловасьці ў народнай гаспадарцы БССР) і ўсямернага ўздыму сельскае гаспадаркі, якая ў сучасны пэрыод надзвычайна адстала ў тэмпе свайго разьвіцьця, шляхам колектывізацыі, будаўніцтва саўгасаў, вытворчага коопэраваньня і стымуляваньня ўздыму індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Дабіцца ўсямернага ўмацаваньня і разгортваньня соцыялістычных элемэнтаў у народнай гаспадарцы краіны, рашучага і сыстэматычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі“.

Гэтай кіруючай ідэяй прасякнуты ўвесь пэрспэктыўны плян разьвіцьця народнае гаспадаркі. Сваё афармленьне гэтая ідэя атрымлівае ў процэсах аграмаджаньня.

1

Адным з найбольш істотных элемэнтаў народнае гаспадаркі зьяўляюцца асноўныя фонды, якія служаць мэтам вытворчасьці. Разьмеры гэтых фондаў вызначаюць ступень тэхнічнай узброенасьці, індустрыялізацыі народнае гаспадаркі, а сэктарыяльнае іх разьмеркаваньне характарызуе спосаб і соцыяльныя формы народна-гаспадарчай вытворчасьці. „Той асаблівы характар, якім ажыцьцяўляецца спалучэньне рабочых і сродкаў вытворчасьці, адрозьніваюць асобныя экономічныя эпохі соцыяльнай структуры“ (Маркс). Зьвяртаючыся да гэтага важнейшага паказьніка, мы атрымліваем наступныя даныя:

**Дынаміка асноўных фондаў народнае гаспадаркі БССР.**




У гэтай дыяграме вельмі выразна выступае тая карэнная соцыяльна-экономічная рэконструкцыя народнае гаспадаркі, якая павінна быць зьдзейсьнена на працягу проектаванай пяцігодкі. Пры агульным росьце асноўных фондаў на 47,1%, фонды прамысловасьці ўзрастаюць на 269,8%, сельскае гаспадаркі—на 29,3%, транспорту—на 265,0%, і жыльлёвага фонду—на 31,4%. Такое разьмеркаваньне капітальных укладаньняў у народную гаспадарку, павінна прывесьці да рэзкага павялічэньня адноснае вагі прамысловасьці, значэньне якой у асноўных фондах узрастае з 4,8% у 1925-26 годзе і 6,6% з пачатку пяцігодкі, да 16,5% к канцу 1932-33 году. Адпаведна зьніжаецца адносная вага іншых галін народнае гаспадаркі, а іменна: сельскае гаспадаркі з 72,7% да 64,0%, жылфонду з 20,0% да 17,8%, пры адзначаным ужо абсолютным іх росьце.

Вельмі істотныя зьмены павінны адбыцца і ў разьмеркаваньні асноўных фондаў між паасобнымі соцыяльнымі сэктарамі. Запроектаваны рост асноўных фондаў прамысловасьці, які ў пераважнай сваёй частцы адбываецца коштам новага соцыялістычнага будаўніцтва, і агульнае павя-

лічэньне ўдзельнае вагі прамысловасьці ў народнай гаспадарцы краіны ўжо само па сабе заметна павялічвае значэньне аграмаджанага сэктару ў асноўных фондах.

На долю аграмаджанага сэктару к канцу пяцігодкі прыпадае ўжо 29,6% асноўных фондаў супроць 11,1% на пачатак 1928-29 г. і 7,5% у 1925-26 годзе. Пры гэтым асноўныя фонды прамысловасьці будуць аграмаджаны на 98,0% супроць 88,8% у пачатку пяцігодкі. Сельская гаспадарка на 8,69% супроць 1,58% і жыльлёвы фонд на 34,8% супроць 17,1%. Такім чынам, процэс аграмаджаньня асноўных фондаў у галіне прамысловае вытворчасьці да канца пяцігодкі ў асноўным заканчваецца. Тое нямногае, што застаецца яшчэ ў руках прыватнага сэктару, прыпадае выключна на дробную саматужна-рамесьніцкую прамысловасьць.

| Сэктары | Буйная прамысловасьць | | | | | Дробная прамысловасьць | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Прырост або зьмяншэньне (—) асноўных фондаў | | Соцыяльная структура асноўных фондаў на канец году (у процантах да зьлічва) | | | Прырост або зьмяншэньне (—) асноўных фондаў | | Соцыяльная структура асноўных фондаў на канец году (у процантах да зьлічва) | | |
| | у мільёнах руб. | у % | 1925-26 г. | 1927-28 г. | 1932-33 г | у мільёнах руб. | у % | 1925-26 г. | 1927-28 г. | 1932-33 г. |
| Дзяржаўны . . | 220,4 | 317,6 | 97,2 | 96,6 | 95,6 | 3,7 | 105,5 | 11,8 | 17,7 | 19,8 |
| Коопэрацыйны . | 10,9 | 458,7 | 0,7 | 3,3 | 4,4 | 16,6 | 263,0 | 20,9 | 31,4 | 62,3 |
| А. Увесь аграмаджаны . . | 231,3 | 322,2 | 97,9 | 99,9 | 100,0 | 20,3 | 206,3 | 32,2 | 49,1 | 82,1 |
| Б. Неаграмаджаны . . | —0,01 | —11,2 | 2,1 | 0,1 | — | —3,6 | —35,4 | 67,8 | 50,9 | 17,9 |
| Разам . . | 231,3 | 321,8 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 16,7 | 83,3 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |

Пры агульным росьце асноўных фондаў прамысловасьці на 259,8%, фонды буйнай прамысловасьці ўзрастаюць на 321,8%, а дробнай на 83,3%, прычым рост апошніх адбываецца выключна па лініі аграмаджанага сэктару (плюс 206,3%), прыватны-ж сэктар зьніжае свае фонды на 3,6 мільёнаў рублёў, або на 35,4%, адносная яго вага зьмяншаецца з 67,8% у 1925-26 годзе да 50,2% у 1927-28 годзе і 17,9% на канец пяцігодкі. Гэтыя 17,9% асноўных фондаў дробнае прамысловасьці, што прыпадаюць на долю прыватнага сэктару і складаюць 2%, якімі вызначаецца адносная вага неаграмаджанага сэктару ў асноўных фондах усяе прамысловасьці краіны. І ў галіне дробнай прамысловасьці проектаваная

пяцігодка павінна, значыцца даць рэзкае ўзмацненьне процэсаў аграджаньня, галоўным чынам, па лініі коопэраваньня прамысловых процэсаў саматужна-рамесьніцкіх промыслаў.

Інакш складваецца становішча ў *сельскай гаспадарцы*. Тут, ня гледзячы на значны рост колектывізацыі і капітальных укладаньняў, якія ідуць па лініі аграмаджанага сэктару, апошні ў канцы пяцігодкі па асноўных фондах будзе займаць толькі 8,69 проц., усіх фондаў сельскае гаспадаркі. Праўда, супроць 1,58 проц. у пачатку 1928-29 г. Аднак, у абсолютных-жа лічбах вызначаецца вялізны, па сваіх памерах, рост, які вызначаецца ў 97,539 мільёнаў рублёў, ці на 566,8 проц. параўнаўча з выйсьцёвым годам пяцігадовага пляну.

Дынаміка асноўных фондаў сельскае гаспадаркі па соцыяльных сэктарах відаць з наступных даных.

| | Прырост за пяцігодку у % | | | Адносная вага аграмаджанага сэктару ў % | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Аграмаджаны сэктар | Прыватны | Усяго | 1925—1926 г. (На пачатак году) | 1926—1927 г. (На пачатак году) | 1927—1928 г. (На пачатак году) | 1928—1929 г. (На пачатак году) | У канцы 1932-33 г. |
| Уся сельская гаспадарка . . . . . | 569,7 | 20,0 | 29,3 | 1,0 | 1,09 | 1,36 | 1,68 | 8,69 |
| У тым ліку: | | | | | | | | |
| 1. Мёртвы інвэнтар . | 788,5 | 25,2 | 49,8 | 2,1 | 2,3 | 2, 8 | 3.23 | 19, 1 |
| 2. Скаціна і птушкі . | 401.0 | 18,7 | 25,1 | 1,0 | 1.05 | 1,29 | 1.69 | 6,71 |
| 3. Будынкі . . . . | 567.8 | 19,7 | 27,4 | 0,86 | 0,9 | 1,14 | 1, 4 | 7,34 |
| У тым ліку: | | | | | | | | |
| Жыльлёв. . . . . | 530,7 | 19,5 | 25.7 | 0,61 | 0,63 | 0,72 | 0,85 | 4.27 |
| Уся сельская гаспадарка бяз жыльлёвых будынкаў. . | 578,4 | 20,0 | 31,1 | 1,2 | 1,31 | 1,67 | 2,08 | 10,74 |

Перш за ўсё неабходна адзначыць, што значнаму інтэнсыўнаму росту процэсаў аграмаджаньня павінен адказваць і агульны ўздым усёй бядняцка-серадняцкай масы вёскі. Асноўныя фонды прыватнага сэктару ўзрастаюць за пяцігодку на 20 проц., у тым ліку мёртвы інвэнтар павялічваецца на 25,2 проц., а скаціна і птушкі на 18,7 проц. Пры гэтым прыватны сэктар ня толькі павялічвае абсолютныя памеры сваіх фондаў, але тэмпы гэтага росту адбіваюцца павышанымі параўнальна з папярэднімі гадамі. Так штогодні прырост асноўных фондаў неаграмаджанага сэктару сельскае гаспадаркі складаў: у 1926-27 годзе—3 проц., у 1927-28 годзе—3,5 проц., а сярэдні гадавы прырост за проектаваную пяцігодку дасьць 5 проц. Адносная вага аграмаджанага сэктару ў сродках вытворчасьці (бяз жыльлёв. будынкаў), якая за мінулыя гады вельмі

слаба ўзрасла, запроектаваная пяцігодка дасьць павялічаньне з 2,08 проц. на пачатак 1928-29 г. да 10,74 проц. на канец пяцігодкі, а ў мёртвым інвэнтары яго адносная вага будзе даведзена да 19,1 проц., супроць 3,23 проц. на пачатак пяцігодкі. У гэтых апошніх лічбах знаходзіць свой адбітак узяты рашучы курс на машынізацыю сельскае гаспадаркі наогул і яе аграмаджанага сэктару асабліва.

Такім чынам, у галіне сельскае гаспадаркі неаграмаджаны сэктар і к канцу пяцігодкі будзе займаць 1/10 усіх асноўных фондаў гэтае галіны народна-гаспадарчае працы.

Разам з тым, аднак цікава высьветліць тып вытворчых адносін, які склаўся на аснове гэтага пераважваньня прыватна-капіталістычнага ўладаньня сродкамі вытворчасьці. На жаль, мы ня маем патрэбных даных для лічбовага выражэньня пытаньня, якое нас цікавіць. Мы можам для гэтае мэты карыстацца толькі некаторымі данымі дынамічнага перапісу сельскае гаспадаркі 1927 году. Даныя гэтага перапісу даюць такі малюнак разьмеркаваньня сродкаў вытворчасьці па асобных соцыяльных групах сялянскіх гаспадарак.

| | Лік гаспадарак у % | Сродкаў вытворчасьці ў іх (у %) |
|---|---|---|
| 1. Бяз сродкаў вытворчасьці | 0,7 | — |
| 2 Са сродкамі вытворчасьці да 100 руб. | 4,8 | 0,6 |
| 3. „ „ ад 101 „ 200 „ | 12,1 | 4,0 |
| 4. „ „ „ 201 „ 400 „ | 35,6 | 22,7 |
| 5. „ „ „ 401 „ 800 „ | 34,6 | 41,1 |
| 6. „ „ „ 801 „1600 „ | 10,6 | 24,2 |
| 7. „ „ звыш 1600 „ | 1,6 | 7,4 |
| Разам | 100% | 100 % |

**Разьмеркаваньне сялянскіх гаспадарак па колькасьці ў іх сродкаў вытворчасьці.**




Сродкі вытворчасьці ўнутры прыватнага сэктару разьмяркоўваюцца далёка ня роўнамерна. На долю апошніх дзьвюх груп сялянскіх гаспада-

рак, адносная вага якіх вызначаецца ў 12,2, прыпадае 31,6 проц. усіх сродкаў вытворчасьці, а на долю 1,6 проц. з сродкамі вытворчасьці звыш 1.600 рублёў прыпадае 7,4 проц. усіх сродкаў вытворчасьці. На аснове гэтага няроўнамернага разьмеркаваньня сродкаў вытворчасьці ў вёсцы складаюцца капіталістычныя адносіны на грунце арэнды і здачы. Па тых-жа даных звыш 20 проц. гаспадарак карыстаецца арэндай сродкаў вытворчасьці, пры гэтым бядняцка-серадняцкія гаспадаркі арандуюць пераважна цягавую сілу і ральнічы інвэнтар. Па меры пераходу да больш заможных груп вёскі затраты на арэнду сродкаў вытворчасьці правільна зьмяншаюцца, а выручка за здачу сродкаў вытворчасьці, наадварот, павялічваецца, пры гэтым зьвяртае на сябе ўвагу пашырэньне ў кулацка-верхавіннай групы атрыманьня арэнды за сродкі вытворчасьці адработкамі. Так, пры агульным коэфіцыенце пашыранасьці здачы сродкаў вытворчасьці за адработкі ў 1,8 проц., у 7-ай групе гэты коэфіцыент складае 7,4 проц.

Пра гэта сьведчаць даныя аб частаце выпадкаў уплаты адработкамі ў паасобных групах гаспадарак (10,6 проц. у другой групе і 1,1 проц. у сёмай).

Аналёгічныя адносіны складаюцца на аснове арэнды зямлі. Пашырэньне арэнды павялічваецца па меры пераходу да гаспадарак больш забясьпечаных сродкамі вытворчасьці (3,8 у першай групе і 14,6 проц. у сёмай групе), выпадкі здачы зямлі, наадварот, правільна паніжаюцца з павышэньнем забясьпечанасьці сродкамі вытворчасьці (38,2 проц. у першай групе і 2,4 проц. у сёмай). Кулацкія гаспадаркі, абмежаваныя ў сваім зямлякарыстаньні нашым законадаўствам, ужываюць акумуляцыі сельска-гаспадарчай плошчы шляхам арэнды. Так, пры агульным коэфіцыенце выпадкаў арэнды ральлі ў двух і больш контр-агентаў у 9,3 проц. (у адносінах да ўсіх гаспадарак, якія арандуюць ральлю), адпаведны коэфіцыент па сёмай групе складае 22,5 проц. Аб капіталістычным характары арэнды сьведчыць яшчэ і тая акалічнасьць, што з агульнага ліку гаспадарак, якія арандуюць ральлю, 25 проц. усіх гаспадарак ужывае наём рабочых, пры гэтым пашырэньне найму ў залежнасьці ад арэнды падвышаецца па меры пераходу да больш заможных груп. (11,1 проц. у другой групе і 55 проц. у сёмай, у тым ліку наймаючых звыш 50 дзён адпаведна 1,4 проц. і 40 проц. На долю апошніх дзьвюх груп гаспадарак прыпадае 31,8 проц. усіх дзён вытворчага найму).

Такім чынам, пэрыяд нэпу характарызаваўся разьвіцьцём капіталістычных адносін у вёсцы. Проектаванае пяцігодзьдзе адпаведна з дырэктывамі партыйных зьездаў павінна прайсьці пад знакам „рашучага і сыстэматычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі“; неабходна будзе дабіцца перараьмеркаваньня сродкаў вытворчасьці ня толькі між аграмаджанымі і неаграмаджанымі сэктарамі сельскае гаспадаркі, але і ўнутры прыватнага сэктару ў бок узмацненьня экономічнай магутнасьці асноўнай масы сялянства за кошт кулацкіх груповак вёскі.

Гэтае наступленьне на капіталістычныя элемэнты краіны ўжо пачалося ў 1928 годзе і павінна будзе знайсьці сваё далейшае разьвіцьцё ў працягу ўсяе проектаванай пяцігодкі.

2

Апісаная дынаміка асноўных фондаў народнае гаспадаркі мае сваім бліжэйшым вынікам перагрупоўку насельніцтва па асобных галінах народнае гаспадарчае працы і пераразьмеркаваньня працоўных рэсурсаў краіны між паасобнымі соцыяльнымі сэктарамі.

Перш за ўсё адзначым, што пры агульным росьце насельніцтва за пяцігодку (з вылічэньнем перасяленьня) на 5,9 проц., гарадзкое насельніцтва ўзрастае на 13 проц., у тым ліку насельніцтва акруговых гарадоў павялічваецца на 16,2 проц., а сельскае насельніцтва на 4,4 проц.; процант гарадзкога насельніцтва ў складзе ўсяго насельніцтва краіны ўзрастае ў сярэдзіне 1932-33 году да 18,4 проц., супроць 17,2 проц. у 1927-28 годзе. Такім чынам, ажыцьцяўленьне запроектаваных мерапрыемстваў у галіне народнае гаспадаркі краіны павінна прывесьці да абсолютнага і адноснага росту гарадоў, прычым тэмп гэтага росту ўдвойчы перавышае адпаведныя тэмпы ў даваенныя гады. Так, за тры пяцігодкі ад першага перапісу насельніцтва ў 1897 годзе да 1914 году адносная вага гарадзкога насельніцтва ў беларускіх губэрнях павялічылася толькі на 1,2 проц., тады як проектаваная адна пяцігодка дасьць прырост адноснае вагі гарадоў на 1,2 проц.

Побач з агульным ростам гарадоў, праектаваная пяцігодка павінна будзе таксама даць значную перагрупоўку насельніцтва ў бок заметнага росту пролетарыяту за кошт абсолютнага і адноснага зьмяншэньня буржуазных груп, колькасны склад якіх у складзе ўсяго насельніцтва зьмяншаецца за пяцігодку на 26%. Адноснае значэньне гэтых груп зьмяншаецца з 4,2% у 1926-27 годзе да 2,9% у 1932-33 годзе.

**Соцыяльная структура насельніцтва БССР у %.**

| | Усё насельніцтва | | У тым ліку самастойнае | |
|---|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1932-33 г. | 1926-27 г. | 1932-33 г. |
| 1. Наёмная праца | 12,9 | 18,2 | 24,8 | 31,7 |
| У тым ліку: | | | | |
| У сельскай гаспадарцы | 2,7 | 3,3 | 7,6 | 7,3 |
| Прамысловасьці | 2,7 | 5,1 | 4,3 | 8,1 |
| Транспорце і сувязі | 2,2 | 2,2 | 2,8 | 2,7 |
| Будаўніцтве | 0,9 | 2,2 | 1,6 | 3,5 |
| 2. Беспрацоўныя | 0,9 | 0,7 | 2,1 | 1,6 |

| | Усё насельніцтва | | У тым ліку самастойнае | |
|---|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1932-33 г. | 1926-27 г. | 1932-33 г. |
| 3. Утрыманцы дзярж. і грамадзкіх устаноў . | 1,1 | 1,3 | 3,3 | 3,5 |
| 4. Непролетарская праца . . . . . | 80,7 | 76.8 | 64,90 | 60,0 |
| У тым ліку: | | | | |
| У сельскай гаспадарцы . . . . . . | 77,6 | 73.5 | 61,0 | 55,7 |
| Саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці . | 2,7 | 3,0 | 3,3 | 3,8 |
| 5. Буржуазія . . . . . . . | 4,2 | 2,9 | 4,4 | 2.9 |
| 6. Дэклясаваныя (жабракі, бяспрытульныя і г. д.) . . . . . . . . | 0,2 | 0,1 | 0.5 | 0,3 |

**Соцыяльная структура насельніцтва БССР.**




**Адносная вага паасобных соцыяльных груп насельніцтва ў 1932-33 г. ў %% да 1926-27 г.**




Лік асоб, непролетарскае працы павялічваецца за пяцігодзьдзе на 5,5%. Аднак, адноснае значэньне гэтае групы насельніцтва таксама зьніжаецца (ва ўсім насельніцтве з 80,7% у 1926-27 годзе да 76,8% у 1932-33 г., а ў ліку самастойных з 64,9% да 60%). Пры гэтым неабходна яшчэ

ўлічыць, што ў склад асоб, аднесеных намі да непролетарскае працы, уключана таксама і коопэраванае насельніцтва, якое к канцу пяцігодзьдзя будзе складаць 12,4% усіх асоб непролетарскае працы, супроць 1,1% у 1926-27 г. Калі выключыць гэтае коопэраванае насельніцтва з групы непролетарскае працы, то мы атрымаем і абсолютнае зьмяншэньне колькасьці гэтае групы на 10,2%, а адноснае яе значэньне ў складзе самастойных, зьменшыцца з 64,2% у 1926-27 годзе да 50,6% у 1932-33 г. Разьмеркаваўшы ўсё самастойнае насельніцтва на дзьве групы: пролетарскую з усімі групамі, што непасрэдна далучаюцца да яе (беспрацоўнымі, утрыманцамі дзяржаўных і грамадзкіх устаноў і коопэраваным насельніцтвам з групы непролетарскае працы), з аднаго боку, і рэшту насельніцтва—з другога, атрымліваем наступныя коэфіцыенты:

| | Зьмены за пяцігодзьдзе ў % | Адносная вага: | |
|---|---|---|---|
| | | 1926-27 г. | 1932-33 г. |
| 1. Пролетарскае насельніцтва з усімі групамі, якія далучаюцца . . . . . . . . | +70,4 | 30.9 | 46,2 |
| 2. Іншае насельніцтва . . . . . . | — 8.1 | 69,1 | 53,8 |
| Разам . . . . . | + 9,2 | 100% | 100% |

Але гэтыя даныя, характарызуючы процэс „пролетарызацыі краіны“, самі па сабе не адказваюць яшчэ на пытаньне—„хто каго“. Яшчэ патрэбна высьветліць, дзе і ў якіх соцыяльных сэктарах уся гэтая маса працы прыводзіцца ў рух. У наступнай табліцы намі даецца соцыяльная структура наёмнага пэрсоналу БССР.

| | У тыс. чалавек | | Зьмены за пяцігодку ў % | Разьмеркаваньне наёмнага пэрсоналу па галінах у % | | Адносная вага аграмаджанага сэктару ў % | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1927—28 г. | 1932—33 г. | | 1927—28 г. | 1932—33 г. | 1927—28 г. | 1932—33 г. |
| Увесь наёмны пэрсонал . | 308,5 | 411,6 | +33,4 | 100.0 | 100,0 | 74,8 | 83,7 |
| У тым ліку: | | | | | | | |
| 1. У сельскай гаспадарцы . | 91,2 | 94,7 | +3,9 | 29,6 | 23,0 | 37,9 | 52,2 |
| 2. Прамысловасьці . . . | 54,0 | 104,8 | +94,1 | 17,5 | 25,5 | 88,7 | 97,8 |
| У тым ліку: | | | | | | | |
| Буйнай . . . . . . | 40,1 | 93,7 | +133,3 | 13,0 | 22,8 | 99,8 | 99,9 |
| Дробнай . . . . . . | 13,9 | 11,1 | —20,1 | 4.5 | 2,7 | 56,8 | 80,2 |
| 3. Будаўніцтва . . . . | 26,4 | 45,1 | +70.8 | 8,6 | 11,0 | 84,9 | 88,9 |
| 4. Транспорт . . . . | 27,7 | 32,1 | +15,9 | 9,0 | 7,8 | 100,0 | 100.0 |
| 5. Сувязь . . . . . | 2,9 | 3,4 | +17,3 | 0,9 | 0,8 | 100,0 | 100,0 |
| 6. Гандаль і крэдыт . . | 14,1 | 23,9 | +69,5 | 4,6 | 5,8 | 97,9 | 99,2 |
| 7. Установы . . . . . | 61,8 | 77,2 | +24,9 | 20,0 | 18,8 | 99,2 | 99,9 |

## СТРУКТУРА НАЁМНАГА ПЭРСОНАЛУ БССР

У ТЫСЯЧ. ЧАЛАВЕК.




У ПРОЦАНТАХ.




АДНОСНАЯ ВАГА АГРАМАДЖАНАГА СЭКТАРУ.




Пры агульным росьце наёмнага пэрсоналу краіны, на 33,4% сельская гаспадарка павялічвае свой наёмны пэрсонал усяго на 3,9%, а ў дробнай прамысловасьці колькасьць наёмнага пэрсоналу нават зьмяншаецца на 20,1%. Увесь прырост наёмнага пэрсоналу прыпадае пераважна на індустрыяльныя галіны народнае гаспадаркі, адносная вага якіх ва ўсім наёмным пэрсонале павялічваецца з 35% у 1927-28 годзе да 44,2% у 1932-33 годзе. Пераважная большасьць усяе гэтае наёмнае працы сконцэнтравана ў аграмаджаным сэктары. На долю прыватнага сэктару прыпадае толькі 16,3% усяго наёмнага пэрсоналу, пры гэтым 67,6% усяго наёмнага пэрсоналу, сконцэнтраванага ў прыватным сэктары, прыпадае на сельскую гаспадарку, дзе адносная вага прыватнага найму рабочай сілы ў 1932-33 годзе будзе складаць 47,8% усяго гаспадарчага найму, праўда, пры абсолютным зьмяншэньні ліку асоб, працуючых у прыватным сэктары, на 20%.

### 3

Памеры народна-гаспадарчай продукцыі і яе разьмеркаваньне па асноўных галінах і соцыяльных сэктарах зьяўляюцца вываднымі ад дынамікі асноўных фондаў і разьмеркаваньня людзкіх рэзэрваў. Адпаведна з апісанай дынамікай матэрыяльных фактараў вытворчасьці вызначаецца агульны рост народна-гаспадарчай продукцыі і значнай структурнай зьмены ў яе складзе. Пры агульным росьце продукцыі на 100%, продукцыя прамысловасьці ўзрастае на 190%, у тым ліку буйнай на 332%, продукцыя будаўніцтва на 150%, у тым ліку вытворчая на 198,8%, продукцыя сельскай гаспадаркі на 52,3%,—такая дынаміка продукцыі асобных галін прыводзіць да карэннай рэконструкцыі ўсёй народна-гаспа-

дарчай продукцыі краіны ў бок рэзкага ўздыму значэньня індустрыяльных галін. Рост-жа індустрыялізацыі ў нашых умовах у сваю чаргу абумоўлівае значнае ўзмацненьне аграмаджаньня.

**Дынаміка агуловай продукцыі БССР.**

| | У мільёнах рублёў | | 1932—1933 г. ў % да 1927—1928 г. | Адносная вага паасобных галін | | Адносная вага аграмаджанага сэктару ў народна-гаспадарчай продукцыі краіны | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1927—1928 г. | 1932—1933 г. | | 1927—1928 г. | 1932—1933 г. | 1925—1926 г. | 1926—1927 г. | 1927—1928 г. | 1928—1929 г. | 1932—1933 г. |
| Уся продукцыя . . . | 1229,2 | 2470,0 | 200,9 | 100,0 | 100,0 | 19,4 | 20,6 | 25,9 | 33,1 | 52,6 |
| У тым ліку: | | | | | | | | | | |
| 1. Сельска-гаспадарчае . | 789,8 | 1234,5 | 156,3 | 64,3 | 50,0 | 6,2 | 6,9 | 7,2 | 8,5 | 16,6 |
| У тым ліку рольніцтва . | 717,9 | 1168,2 | 162,7 | 58,4 | 47,3 | 1,9 | 2,0 | 2,3 | 3,0 | 13,7 |
| 2. Прамысловасьць . . | 338,1 | 981,5 | 290,4 | 27,5 | 39,7 | 50,9 | 51,6 | 64,0 | 74,9 | 90,7 |
| У тым ліку: | | | | | | | | | | |
| Буйная . . . . . | 177,4 | 765,6 | 431,8 | 14,4 | 31,0 | 96,7 | 98,5 | 99,5 | 99,9 | 100,0 |
| Дробная [1]). . . . . | 160,7 | 215,9 | 134,3 | 13,1 | 8,7 | 24,1 | 14.5 | 25,0 | 37,0 | 57,9 |
| 3. Будаўніцтва . . . | 101,3 | 254.0 | 250,6 | 8,2 | 10,3 | 25,2 | 32,8 | 44,6 | 57,7 | 80,6 |
| У тым ліку: | | | | | | | | | | |
| Вытворчае . . . . . | 45,9 | 137,3 | 298,8 | 3,7 | 5,6 | 24,8 | 34,9 | 50,8 | 63,6 | 85,7 |
| Нявытворчае . . . . | 55,4 | 116,7 | 210,6 | 4,5 | 4,7 | 25,5 | 31,1 | 39,5 | 52,2 | 74,6 |

СТРУКТУРА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАЕ ПРОДУКЦЫІ ПА ГАЛІНАХ




АДНОСНАЯ ВАГА АГРАМАДЖАНАГА СЭКТАРУ




Да канца пяцігодкі народна-гаспадарчая продукцыя будзе аграмаджанай на 52,6%. Па паасобных галінах, аднак, ступень аграмаджаньня

[1]) Да продукцыі коопэраванай дробнай прамысловасьці аднесена толькі продукцыя арцеляй, продукцыя-ж таварыстваў у данай табліцы аднесена намі да прыватнага сэктару.

хістаецца ў вельмі высокай меры: ад 13,7% у рольніцтве да 90,7% ва ўсёй прамысловасьці і 100% у буйнай прамыслоласьці. У дробнай прамысловасьці прыватны сэктар і да канца пяцігодкі будзе займаць амаль 42,1%. Гэтая продукцыя, аднак, у пераважнай сваёй частцы прыпадае на некоопэраваныя дробныя саматужна-рамесьніцкія промыслы, якія яшчэ засталіся і якія працуюць на сыравіне заказчыка. Рост аграмаджанага сэктару ў дробнай прамысловасьці ў першую чаргу абавязаны інтэнсыўнаму росту сыстэмы саматужна-прамысловай коопэрацыі. Так, пры вызначаным агульным росьце ліку саматужнікаў за пяцігодку на 12% лік коопэраваных саматужнікаў павінен узрасьці на 127%, а лік некоопэраваных саматужнікаў—зьменшыцца на 29%. Пры гэтым, коопэраваньне вытворчых процэсаў (лік членаў арцеляй) павінна павялічыцца на 303%. Коопэраваньне саматужнікаў да канца пяцігодкі будзе даведзена да 56,8% усіх асоб, занятых саматужнымі промысламі, супроць 27,2% у 1927-28 годзе, а коопэраванасьць вытворчых процэсаў, аб'яднаньне ў арцелі, павінна абхапіць 42,1% усіх саматужнікаў супроць 11,4% у 1927-28 годзе. Такім чынам, проектаваная пяцігодка, апрача агульнага росту коопэраваньня саматужных промыслаў павінна даць значную зьмену структуры самой прамысловай коопэрацыі ў бок узмацненьня арцельнага коопэраваньня. Адносная вага вытворчага коопэраваньня павялічыцца з 41,9% у 1927-28 годзе да 74,1% у 1932-33 годзе (у адносінах да ўсіх коопэраваных саматужнікаў). Бліжэйшым вынікам ажыцьцяўленьня запроектаваных тэмпаў саматужна-прамысловага коопэраваньня зьяўляецца рост коопэраванай продукцыі дробнай прамысловасьці на 157,8% і павялічэньне яе адноснае вагі ва ўсёй дробнай прамысловасьці з 25% у 1927-28 годзе да 57,9% у 1932-33 г. Пры гэтым патрэбна яшчэ ўлічыць, што ў коопэрацыйны сэктар дробнай прамысловасьці намі ўключана толькі продукцыя арцеляй. Калі сюды дадаць яшчэ продукцыю рэшты коопэраваных саматужнікаў па лініі забясьпечаньня і збыту, то адпаведны коэфіцыент павялічыцца з 40,2% у 1927-28 г. да 70,1% у 1932-33 годзе.

Асобнае ўвагі заслугоўваюць даныя аб продукцыі аграмаджанага сэктару ў сельскай гаспадарцы, асабліва ў земляробстве. На плянаваную пяцігодку вызначаецца вялізарны па сваіх памерах рост, які вызначаецца ў 32,1% па дзяржаўнаму сэктару і 1.480% па коопэрацыйнаму сэктару, у тым ліку продукцыя земляробства адпаведна на 123% і 1.772,6%. Увесь аграмаджаны сэктар у цэлым павінен даць рост продукцыі сельскае гаспадаркі наогул на 258,3%, а продукцыя земляробства—на 889,5%. Для адказу на пытаньне, у якой меры зьяўляюцца рэальнымі гэтыя запроектаваныя тэмпы, зьвернемся да дынамікі асноўных элемэнтаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці ў аграмаджаным сэктары.

Перш за ўсё адзначым, што ў працягу проектаванай пяцігодкі вызначана організаваць на розных колфондах 12 саўгасаў на плошчы 50 тысяч гектараў; усяго да канца пяцігодкі ў эксплёатацыі саўгасаў

будзе знаходзіцца 169,7% гектараў зямлі, супроць 114,1 тысячы гектараў у 1927-28 годзе (плюс 48,7%). Што да колгасаў, то іх дынаміка відаць з наступных даных:

| | Комуны | | Арцелі | | Таварыствы па супол. апрацоўцы зямлі | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1927—1928 г. | 1932—1933 г. | 1927—1928 г. | 1932—1933 г. | 1927—1928 г. | 1932—1933 г. | 1927—1928 г. | 1932—1933 г. |
| Колькасьць аб'яднаньняў . . | 76 | 450 | 771 | 3411 | 147 | 700 | 994 | 4561 |
| Агульная зямельная плошча (у тысячах гектараў) . . . . | 11,2 | 101,2 | 72,5 | 553,0 | 10,8 | 102,5 | 94,5 | 756,7 |
| Колькасьць коопэраваных сем'яў | 829 | 8245 | 6185 | 57415 | 1485 | 13730 | 8499 | 79390 |

Лік калгасаў павялічваецца за пяцігодку на 358,9 проц., колектывізаваная зямельная плошча павялічыцца ў 8 раз, а лік коопэраваных сем'яў павялічваецца на 834 проц.

Побач з гэтым агульным ростам колгаснага руху, вызначаецца шэраг мерапрыемстваў па павялічэньню іх продукцыйнасьці, у першую чаргу шляхам узбуйненьня і падвышэньня іх тэхнічнай узброенасьці. Сярэдні памер зямельнай плошчы колгасу вызначаецца давесьці да 166 гектараў, супроць 95,1 гектара ў 1927-28 годзе, а колькасьць сем'яў у сярэднім на колгас з 8,55 да 17,41. Мы ўжо адзначылі вялізарны рост асноўных фондаў аграмаджанага сэктару. Гэты рост пойдзе галоўным чынам па лініі машынізацыі колгасаў; паасобку вызначана да завозу ў Беларусь 2.300 трактараў: 575 для саўгасаў, 1.470 для колгасаў і 255 для мэліорацыйных і машыновых таварыстваў.

На жаль, мы ня маем яшчэ больш падрабязных даных аб прадукцыйнасьці колгасаў і саўгасаў параўнаўча з індывідуальнымі сялянскімі гаспадаркамі. Але тыя даныя, якія знаходзяцца ў нашым распараджэньні ў дачыненьні да рольніцтва дазваляюць констатаваць адносна большую продукцыйнасьць у аграмаджаным сэктары [1]).

Вызначаны на пяцігодку рост асноўных фондаў аграмаджанага сэктару, а таксама шэраг мерапрыемстваў агрыкультурнага характару, павінны будуць яшчэ ў большай меры выявіць перавагі буйнае колектыўнае гаспадаркі. Паасобку ўраджайнасьць у саўгасах і колгасах проектуецца падняць за пяцігодку адпаведна на 70 і 60 проц. супроць падвышэньня ўраджайнасьці ў індывідуальных сялянскіх гаспадарках на 45 проц.

1) Гл. наш артыкул у часопісу „Полымя" № 3 за 1929 г.

4

Зробім некаторыя выпікі.

Сума ўсіх вызначаных у пяцігадовым пляне мерапрыемстваў і, па-асобку, накіраваньне фінансаваньня павінна прывесьці да карэннай рэконструкцыі народнае гаспадаркі краіны, як у матэрыяльных, так і ў соцыяльных адносінах. Вялізарны па сваіх памерах рост народнае гаспадаркі, які ў значнай сваёй частцы адбываецца ў соцыялістычных формах, заметна наблізіць нас да ажыцьцяўленьня першай фазы комуністычнага грамадзтва—соцыялізму.

У галіне прамысловае вытворчасьці процэсы аграмаджаньня шырока ахапляюць саматужна-рамесьніцкую прамысловасьць, уцягваючы значныя масы дробных таваравытворцаў у соцыялістычнае кола, падпарадкуючы іх, такім чынам, агульнай задачы будаўніцтва соцыялізму.

Побач з агульным ростам значэньня прамысловасьці ў народнай гаспадарцы краіны: па асноўных фондах з 6,6 проц. да 16,5 проц. і агуловай продукцыі з 27,3 да 39,7 проц., проектаваная пяцігодка павінна даць далейшае разьвіцьцё процэсаў аграмаджаньня, якія да канца пяцігодкі ў прамысловасьці ў асноўным заканчваюцца. Асноўныя фонды прамысловасьці аграмаджваюцца на 98,0 проц., супроць 88,8 проц. у пачатку пяцігодкі, агуловая продукцыя на 90,7 проц. супроць 64,0 проц., наёмны пэрсонал з 88,7 проц. да 97,8 проц. Частка прамысловасьці якая застаецца яшчэ не аграмаджанай, прыпадае выключна на дробную саматужна-рамесьніцкую прамысловасьць, якая ў значнай частцы шляхам коопэраваньня забясьпечаньня і збыту таксама падпарадкавана аграмаджанаму сэктару. У галіне прамысловасьці проектаваная пяцігодка ў агульным заканчвае толькі больш прысьпешаным тэмпам процэс, які пачаўся ўжо даўно.

І ў галіне сельскае гаспадаркі на працягу проектаванай пяцігодкі павінен быць закладзены трывалы фундамант колектывізацыі і аграмаджаньня, павінны быць створаны ўстойлівыя апорныя пункты ў вёсцы, якія разам з соцыялістычнай прамысловасьцю гораду забясьпечылі-б прысьпешанае соцыялістычнае перабудаваньне вёскі ў далейшым. Аграмаджаны сэктар гэтае галіны народнае гаспадаркі павінен даць вялізарны па сваіх памерах рост. Адносная вага яго ў асноўных фондах (бяз жыльлёвых будынкаў) павялічыцца з 2,08 да 10,74, у агуловай продукцыі земляробства з 2,3 проц. да 13,7 проц., а ў таварнай продукцыі з 11,3 проц. у 1928-29 годзе (першы год пяцігодкі), да 31,5 проц. у 1932-33 г., у тым ліку па расьлінаводзтву 37,5 проц. і жывёлагадоўлі 29,3 проц. Гэтыя апошнія лічбы заслугоўваюць асаблівае ўвагі, паколькі яны дазваляюць меркаваць, наколькі ў выніку ажыцьцяўленьня запроектаваных тэмпаў колектывізацыі паслабляецца наша залежнасьць ад капіталістычных элемэнтаў вёскі і ствараецца аграмаджаная база, якая палягчае рэалізацыю вызначаных тэмпаў індустрыялізацыі краіны. На жаль, мы ня маем адпа-

ведных падлікаў аб ролі паасобных соцыяльных груп вёскі ў таварнай вытворчасьці сельскае гаспадаркі. Аднак, даныя дынамічнага перапісу 1927 году аб разьмеркаваньні засеву па паасобных групах сялянскіх гаспадарак у залежнасьці ад памераў наяўных сродкаў вытворчасьці дазваляюць зрабіць некаторыя, хоць-бы прыблізныя, супастаўленьні. Паводле гэтых даных верхавінныя групы вёскі са сродкамі вытворчасьці коштам ад 801 да 1.600 рублёў і вышэй 1.600 рублёў, адносная вага якіх ва ўсёй сялянскай масе краіны вызначаецца ў 12,2 проц., концэнтруе ў сваіх руках 31,6 проц. усіх сродкаў вытворчасьці і 21 проц. усяго засеву, у тым ліку 17,6 проц. засеву тэхнічных культур, 20,3 проц. засеву бульбы і нават 38,1 проц. засеву кармовых траў. Калі ўлічыць, што ўраджайнасьць у гэтых гаспадарках вышэй сярэдняй і адносна большую тварнасьць, то мы павінны будзем прыйсьці да вываду, што сучаснае значэньне таварнае продукцыі гэтых груп сялян блізка да тэй лічбы, якой характарызуецца адносная вага аграмаджанага сэктару ў канцы пяцігодкі.

Аднак, гэтымі данымі ня вычэрпваюцца яшчэ паказальнікі ў галіне аграмаджаньня сельскае гаспадаркі. У вылічаную намі продукцыю аграмаджанага сэктару не ўвайшла продукцыя таварыстваў малочных і жывёлагадоўчых, якая па сутнасьці таксама аграмаджана. Калі ўключыць гэтую продукцыю, то адносная вага аграмаджанага сэктару ў таварнай частцы рольніцтва, паасобку жывёлагадоўлі яшчэ больш павялічыцца.

Разам з тым адзначым, што гэты від коопэрацыі павінен даць рост ліку аб'яднаньняў за пяцігодку на 82,7 проц., лік членаў таварыстваў павінен павялічыцца больш як у дзесяць раз, а коопэраванасьць сялянскіх гаспадарак павялічыцца з 3,7 проц. до 40,1 проц. на канец пяцігодкі (разам з колгасамі). Лік дойных кароў, продукцыя якіх аграмаджваецца, павялічыцца з 45,6 тысяч галоў да 660 тысяч, г. зн. у 17 раз, процант коопэраванасьці кароў (сялянскіх і колгасаў) павялічыцца з 3,7 проц. у 1927-28 годзе да 38 проц. у 1932-33 годзе. Адносная вага колгасаў у складзе малочных таварыстваў па жывёлагадоўлі к канцу пяцігодкі вызначаецца па ліку гаспадарак у 8,5 проц., і па ліку кароў— у 11 проц. Галоўная маса коопэраваных прыпадае, такім чынам, на індывідуальныя сялянскія гаспадаркі. Агуловая продукцыя таварыстваў малочных і па жывёлагадоўлі павялічыцца за пяцігодку на 57,9 проц., як за кошт агульнага росту ліку коопэраваных кароў, так і павялічэньня продукцыйнасьці стада. Меркаваньне стварыць 16 буйных мэханізаваных маслазаводаў з радыусам дзеяньня 20 кілёмэтраў кожны і пашырэньня сеткі малочных прадпрыемстваў наогул павінны будуць дапамагаць павялічэньню тарнасьці малочнае продукцыі таварыстваў. Процант таварнасьці малака павялічваецца за пяцігодку з 21 да 28. Ахоп таварнай часткі малака коопэраваных кароў к канцу пяцігодкі будзе складаць 70,7 проц. супроць 17,3 проц. у 1927-28 годзе.

Што да іншых відаў коопэраваньня, то тут таксама проектуецца значны рост.

**Прырост за пяцігодку.**

| | Абсолютна | | ў процантах | |
|---|---|---|---|---|
| | Лік аб'яднаньняў | Колькасьць членаў (у тысяч.) | Лік аб'яднаньняў | Колькасьць членаў (у тысяч.) |
| Усе с.-г. коопэрацыйныя аб'яднаньні (бяз колгасаў . . . . . . . | 8837 | 918,4 | 385,7 | 212,3 |
| У тым ліку: | | | | |
| 1. Сельска-гаспадарчыя крэдытовыя таварыствы . . . . . . . | 92 | 378,4 | 30,0 | 117,7 |
| 2. Машыновыя т-вы . . . . . . | 2170 | 71,7 | 586,8 | 1593,4 |
| 3. Малочна-жывёлагадоўныя таварыствы . | 220 | 298,0 | 82,7 | 993,4 |
| 4. Пасёлкавыя . . . . . . . | 5325 | 79,9 | 4260,0 | 4202,7 |
| 5. Мэліорацыйныя . . . . . . | 647 | 59,6 | 63,1 | 90,6 |

У канцы пяцігодкі мяркуецца абхапіць вытворчымі коопэрацыйнымі аб'яднаньнямі да 650 тысяч сялянскіх гаспадарак (бяз колгасаў), або 81,7 проц. гаспадарак на пачатак пяцігодкі. У сельска-гаспадарчыя крэдытовыя таварыствы будзе ўцягнута 700 тысяч гаспадарак супроць 321, 6 тысяч на пачатак пяцігодкі. У галіне будаўніцтва сельска-гаспадарчай коопэрацыі трымаецца курс на коопэраваньне, галоўным чынам. вытворчых процэсаў, на стварэньне аб'яднаньняў больш высокага соцыяльнага тыпу. Адносная вага комун у складзе ўсіх колгасаў павялічваецца па колькасьці організацый з 7,6 проц. у 1927-28 годзе да 9,9 проц. да 1932-33 г., па зямельнай плошчы з 11,9 проц. да 13,4 проц., а па ліку аб'яднаных сем'яў з 9,7 проц. да 10,4 проц. Асабліва значны рост павінны будуць даць машыновыя таварыствы, лік якіх за пяцігодку павялічваецца амаль у 7 раз, а лік аб'яднаных імі гаспадарак у 17 раз.

Росту сельска-гаспадарчага коопэраваньня ў значнай ступені будзе дапамагаць вызначаная на пяцігодку шырокая контрактацыя засеву. Аб'ём контрактацыі к 1932-33 году мяркуецца давесьці да 20 мільёнаў рублёў супроць 1,6 мільёна рублёў у 1927-28 годзе, прычым засевы ільну мяркуецца абхапіць контрактацыяй цалкам, а засевы бульбы ў памерах, якія цалкам забясьпечваюць патрэбнасьці прамысловасьці.

Проектаваная пяцігодка павінна, такім чынам, даць вялізарны рост аграмаджаньня сельскае гаспадаркі і значнае паслабленьне экономічнага значэньня, а адсюль і палітычнай ролі, верхавінных пластоў вёскі.

Побач з гэтым агульным ростам аграмаджаньня, праектаваная пяцігодка павінна будзе таксама даць агульнае паляпшэньне якасьці працы аграмаджанага сэктару. У першую чаргу патрэбна будзе дабіцца падвышэньня якасьці коопэраваньня як у калгасах, так і ў іншых коопэрацыйных аб'яднаньнях, дабіцца „сапраўднага аб'яднаньня, сапраўдных мас насельніцтва“ (Ленін).

Каб больш поўна азначыць аб'ём процэсаў аграмаджаньня, спынімся кораценька на пытаньнях аграмаджаньня тавараз вароту. У гэтых адносінах задача праектаванай пяцігодкі зводзіцца пераважна да якаснага замацаваньня позыцый, заваёваных у папярэднія гады. У колькасных-жа адносінах процэс „клясавага замяшчэньня“ ў галіне гуртавога гандлю ўжо закончаны. Тут на долю прыватнага сэктару ў пачатку праектаванай пяцігодкі прыпадае толькі 1,8 проц. усяго гуртавога гандлю краіны. К канцу пяцігодкі гуртавы гандаль ужо будзе аграмаджаны цалкам.

І ў адносінах раздробнага гандлю мінулыя гады характарызаваліся значным і няўхільным зьмяншэньнем ролі прыватнага сэктару. Пры абсолютным росьце тавараз вароту краіны ў 1926-27 годзе на 13,9 проц. і ў 1927-28 годзе на 18,5 проц., звароты прыватнага гандлю зьмяншаюцца адпаведна на 3,3 проц. і 22,3 проц. Адносная вага прыватнага сэктару ва ўсім раздробным звароце краіны зьмяншаецца з 46,3 проц. у 1925-26 годзе да 29,6 проц. у 1927-28 годзе, у тым ліку ў горадзе— з 49,4 проц. да 32,5 проц. і ў вёсцы—з 33,3 проц. да 19,7 проц. На пяцігодку вызначаецца далейшае зьмяншэньне звароту прыватнага гандлю на 18,7 проц. пры агульным росьце раздробнага звароту краіны на 199,1 проц. Адпаведна зьніжаецца і адносная вага прыватнага сэктару з 29,6 проц. у 1927-28 годзе да 12,8 проц. у 1932-33 годзе, прычым у сельскіх мясцовасьцях значэньне прыватнага гандлю зьмяншаецца нават да 5,1 проц.

Што да значэньня прыватнага сэктару ў загатоўках сельска-гаспадарчых тавараў, то адносная вага яго зьменшыцца з 63,6 проц. у 1927-28 г. да 20 проц. у 1932-33 г. (гл. дыяграму на стар. 121).

Дасягнуты ўзровень аграмаджаньня памены і ажыцьцяўленьня вызначаных на пяцігодку тэмпаў будзе дапамагаць найбольш небалючаму вырашэньню задач па індустрыялізацыі краіны і колектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Такія асноўныя элемэнты соцыяльнай програмы пяцігадовага пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі БССР азначаюць сабой новы этап у разьвіцьці краіны. На базе індустрыялізацыі, на аснове электрычнасьці і трактару павінна быць зьдзейсьнена грандыёзная соцыялістычная будоўля, пашырэньне і ўзмацненьне соцыялістычных элемэнтаў у народнай гаспадарцы краіны. Павінен быць зроблены буйны крок у бок далейшага перабудаваньня клясавага грамадзтва ў пазаклясавае. Зразумела, што будаўніцтва соцыялізму ў нашых сучасных умовах су-

стракае шэраг труднасьцяй, якія ўзмацняюцца растучым супраціўленьнем кулацка-нэпманскіх элемэнтаў гораду і вёскі. Аднак, дасягнуты ўзровень грамаджаньня, з аднаго боку, і ўся скупнасьць умоў, якія ствараюцца

**Соцыяльная структура таваразвароту БССР.**




рэволюцыйнай дыктатурай пролетарыяту, з другога, забясьпечваюць выкананьне запроектаваных тэмпаў.

*Увага.* Усе разьлікі грамаджаньня ў сельскай гаспадарцы зроблены паводле першага варыянту пяцігадовага пляну, які прадугледжваў давядзеньне ўдзельнае вагі грамаджанага сэктару па засеўных плошчах да канца пяцігодкі да 12%.

Дырэктывай IX Усебеларускага Зьезду Саветаў да канца пяцігодзьдзя павінна быць грамаджана 18% засеўных плошчаў. Зразумела, што ажыцьцяўленьне гэтай дырэктывы яшчэ ў большай меры ўзвысіць значэньне грамаджанага сэктару ўва ўсіх галінах сельскай гаспадаркі краіны, чым гэта вылічана ў нашым артыкуле.

Практыка першага году пяцігодкі сьведчыць аб тым, што ня толькі першапачатковая проектыроўка Дзяржпляну (паданая ў нашым артыкуле), але і дадатковыя дырэктывы Зьезду Саветаў у галіне грамаджаньня сельскай гаспадаркі будуць выкананы з перавышэньнем.

# ДА ХАРАКТАРЫСТЫКІ ІДЭОЛЁГІІ ФАШЫЗМУ [1])

**М. Канаплін**

Якавы ідэолёгічныя прадпасылкі палітычнай сыстэмы фашызму, якавы асноўныя прынцыпы „тэорыі фашызму“?

Трэба адзначыць, што да зацьверджаньня дзяржаўнай сыстэмы фашызму кіраўнікі руху ня вельмі задумваліся над програмнымі пытаньнямі. Ніякай суцэльнай палітычнай пляцформы, з якой магчыма было-б устанавіць агульныя прынцыпы фашызму, фашыцкая партыя ў пэрыод сваёй організацыі і нават у першы час пасьля захопу ўлады не выпрацоўвала.

Гэта адсутнасьць програмы дзеяньня адзначаецца шэрагам дасьледчыкаў палітычнага жыцьця фашыцкай Італіі. Больш таго. Сам Мусоліні ў пачатку ня зусім ясна ўяўляў сабе, у што выльлецца гэты новы рух, ня цікавіўся распрацоўкай спэцыяльнай програмы. На яго думку, кожны, седзячы за зялёным сталом, можа вырашаць проблемы сусьвету. На думку „дучэ“, важны не програмы, а рашаючае значэньне ў жыцьці маюць практычныя вынікі, што атрымліваюцца пры вырашэньні таго ці іншага пытаньня. Згодна з гэтым, Мусоліні спачатку ўстанаўляе надта прымітыўнае credo фашызму. Так, напрыклад, у 1919 г., праз некалькі месяцаў пасьля організацыі „фашыо“, існасьць апошняга вызначаецца наступным чынам: „Мэлянхолікі, маніякі, розныя ханжы, бязглуздыя містыкі... усе яны, пэўна, не зразумеюць прыроды фашызму, гэтага прытулку ўсіх герэтыкаў...“

У 1920 г., на другім зьезьдзе „фашыо“, было заяўлена: „У сучасны момант нашы атрады ня зьбіраюццаператварацца ў новую партыю; *мы ня лічым сябе зьвязанымі з якой-небудзь спэцыфічнай доктрынай або традыцыйнай формулай.* Таму мы адмаўляемся штучна ўпіхаць у вузкія рамкі партыйнай недатыкальнасьці ўсякую практыку, усялякія нясталыя і рознастайныя тэорыі, якія з часам могуць зрабіцца ўмоўнымі“ [2]). У гэтым можна ўбачыць асаблівы практыцызм фашызму, здольны ўсякую зьяву прыстасаваць да патрэб той клясы, інтарэсы якой ён прадстаўляе і абараняе. Таму тэрмінова адбываецца перагляд усіх тэо-

[1]) Разьдзел з кнігі, якая рыхтуецца да друку.

[2]) J. Marschak. „Der korporative und ber hierarchische Gedanke im Faschismus“. „Archtv für Sozialwiss. und Sozialpolitik“, т. 52, стар. 704—705.

рытычных каштоўнасьцяй і скарыстоўваецца ўсякая ідэя, якая можа прывесьці фашызм да ажыцьцяўленьня практычнага рэзультату. Але гэта зусім не азначае, што Мусоліні гэту беспраграмнасьць уводзіць у прынцып. Ён толькі ўстанаўляе пэўную пасьлядоўнасьць у яе ажыцьцяўленьні: тое, што сёньня ўмоўна, заўтра можа даць вельмі рэальныя рэзультаты.

У далейшым фашызм паступова адмаўляецца ад сваёй тэорытычнай няяснасьці і набывае ўсё больш выразныя праграмныя ўстаноўкі і тэорытычныя формулёўкі. У сучасны момант ёсьць шэраг тэорэтыкаў і ідэолёгаў фашызму, якія спэцыяльна займаюцца распрацоўкай філёзофіі фашызму. Утварылася ўжо соцыолёгія фашызму, навука аб фашыцкай дзяржаве і да т. п. Організаваны шэраг новых спэцыяльных факультэтаў політычных навук (Facoltá di Scienza Politiche), дзе асаблівая ўвага зварочваецца на такія дысцыпліны, як гісторыя і тэорыя фашызму, гісторыя фашыцкага законадаўства, фашыцкая дзяржава і інш.[1]). Але як-бы ні хацелі сучасныя ідэолёгі фашызму апрануць яго ў самастойную орыгінальную тэорытычную тогу і паднесьці сьвету навуку аб фашызьме, як аб нечым зусім новым,—гэта ім ня ўдасца. Рознароднасьць, нясталасьць, несамастойнасьць, паўтарэньне старога ў новых тонах— вось тое асноўнае, што адчуваецца ў ідэолёгічнай сутнасьці фашызму. Як-бы пацьвярджаючы гэта, статут фашыцкай партыі і падкрэсьлівае хісткасьць існасьці ідэі, заяўляючы: „Пазбаўлены догматычных формул і нярухомых схэм, фашызм адчувае, што перамога заключаецца ў магчымасьці яго заўсёднага абнаўленьня".

Адзначальнай рысай фашыцкай доктрыны зьяўляецца тое, што яе апалёгеты займаюцца адшуканьнем каранёў свае навукі як у мысьліцеляў старажытнасьці і ў сярэднявяковых тэорыях, гэтак і ў вучэньнях соцыолёгаў і дзяржавазнаўцаў навейшага часу. Прычым чырвонай ніткай церaз усе разважаньні праходзіць думка аб утварэньні новай дзяржавы і новага грамадзкага ладу, які адказвае патрэбам сучаснага чалавецтва. Гэта новая грамада павінна быць пабудавана згодна з патрабаваньнямі экономікі краю і ўся політыка новай дзяржавы павінна быць падпарадкавана інтарэсам разьвіцьця вытворчых сіл. Ва ўсёй устаноўцы адзначаецца імкненьне апраўдаць існуючы капіталістычны лад і імпэрыялістычныя тэндэнцыі буржуазіі. Але, з прычыны таго, што ні лібэральная дзяржава, ні буржуазна-дэмократычная рэспубліка ня могуць аднавіць у сябе „нацыянальную гармонію" і падпарадкаваць інтарэсы групавыя і клясавыя інтарэсам дзяржавы, дык трэба вынайсьці нешта новае, якое, з аднаго боку, не адмаўляе мэтодаў замацаваньня ўлады капіталу, а, з другога боку, адмаўляе ўсякі лібэралізм і дэмократызм эпохі XVIII і першай паловы XIX стагодзьдзяў. Ідэя парлямантарызму, ідэя рэволюцыйная і прогрэсыўная ў адносінах да фэўдалізму ў эпоху фінансавага капіталу зжывае сябе, бо зьяўляецца перашкодай для новага тыпу дзяржавы.

[1]) R. Michels. „Einige Materialeu Z. Geschichte d. ital. Hochschulwesen", „Archiv..", т. 60, вып. 3, 1928 г., стар. 567.

Таму і фашызм, які па сваёй існасьці зьяўляецца выказьнікам інтарэсаў буйнейшай буржуазіі эпохі фінансавага капіталу, ня можа мірыцца са старым адрыганьнем капіталізму, якое нагадвае яму яго дзяцінства і романтычнае юнацтва. Старэчы век капіталізму патрабуе перагляду пляну, адмаўляецца ад усякай лібэральнай і дэмократычнай погані.

Але ва ўсіх гэтых шуканьнях фашызм ня можа стварыць сваёй самастойнай тэорыі. Яшчэ задоўга да зьяўленьня фашызму шэраг ідэолёгаў буржуазіі ўжо займаліся пытаньнямі апраўданьня політычнай і экономічнай сыстэмы імпэрыялізму і фінансавага капіталу. Вось чаму ў выкладаньні фашыцкай доктрыны можна наткнуцца і на ідэю цэзарызму, і на ідэю ангельскага торызму. Ня раз можна сустрэць спасылкі на сорэлізм, солідарызм. Нямала ўвагі надаецца ідэі народнай, нацыянальнай рэволюцыі, якая павінна падрыхтаваць сьвядомасьць шырокіх народных мас да ўтварэньня „моцнай улады", улады выбранай меншасьці, улады, якая знаходзіцца ў руках самым лёсам пасланага правадыра.

Мусоліні, а за ім усе тэорэтыкі новага ладу пачалі займацца разьвязаньнем проблем „рэволюцыі" па-свойму: уводзячы гэту рэволюцыю ў рамкі агульна-нацыянальнага і па-заклясавага сужыцьця дзяржаўнага організму.

Недарма Мусоліні называе фашыцкі пераварот найвялікшай нацыянальнай рэволюцыяй, якая стварыла солідарнасьць тых кляс, што да гэтага часу змагаліся.

Тут-жа мімаволі ўспамінаецца і найноўшая тэорыя буржуазіі аб „міры ў прамысловасьці", які фашызм хоча ўтварыць праз організацыю сваіх корпорацый і сындыкатаў.

Можна было-б прывесьці яшчэ цэлы шэраг поглядаў, але ўсе яны пацьвярджаюць палажэньне аб тым, што *фашызм сваёй самастойнай і суцэльнай тэорыі ня мае.*

Але ва ўсёй гэтай блытаніне і неорыгінальнасьці ўсё-ж намячаюцца асобныя тычкі, якія дазваляюць выявіць зьмест ідэолёгіі фашызму.

Перш за ўсё трэба адзначыць моцна разьвітую ідэю нацыяналізму, нацыянальнай магутнасьці, якая дае магчымасьць фашызму гаварыць аб „выбранай нацыі". Гэта ідэя Мусоліні была выражана вельмі ярка яшчэ да захопу ўлады ў прамове, якую ён сказаў у лістападзе 1920 г. з поваду 50-годзьдзя захвату Рыму. Ён сказаў, што „асновай фашызму зьяўляецца любоў да бацькаўшчыны". „Мы ганарымся тым,—кажа далей „дучэ"—што мы італьянцы, бо на нашай цудоўнай поўвысьпе складалася найцікавейшая гісторыя чалавецтва. Ці магчыма ўявіць сабе чалавека ў далёкай Японіі або Амэрыцы, або ў самым далёкім куту зямлі і з якім палічыўся-б навуковы сьвет, калі-б гэты чалавек ня ведаў гісторыі Рыму. Гэта немагчыма... Заўважце добра: задача Рыму яшчэ ня выканана"[1]). Гэта ідэя велічы Рыму была актыўна падтрымана італьянскімі

[1]) Dr. Max H. Meyer. „Benito Mussolini Reden". Leipzig. 1925 г., стар. 75.

нацыяналістымі, якія ўвайшлі пасьля захопу ўлады фашыстамі ў новую нацыянальную фашыцкую партыю. Такім чынам, партыя італьянскіх нацыяналістых, уваходзячы ў фашыцкую партыю, гэтым самым даручыла апошняй ахову інтарэсаў нацыянальнай буржуазіі. Далейшыя падзеі паказалі, што італьянская буржуазія ў выбары не памылілася. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ідэя нацыяналізму і нацыянальнага адзінства, пакладзеная ў аснову і вучэньня аб дзяржаве, і програмы фашыцкай партыі, зьмяшчае ў сабе асноўныя прынцыпы тэорыі дзяржавы, яшчэ раней выкладзеныя шэрагам італьянскіх вучоных-нацыяналістых, і ў першую чаргу—Энрыко Корадзіні.

Ён яшчэ да вайны зьвёў у адну сыстэму нацыяналізму, утварыўшы ў Італіі соцыолёгічную школу нацыяналізму, па сьлядох якой пашлі і ідуць такія вядомыя тэорэтыкі фашызму, як Масьсіма Рокко і Джыованні Джэнтыле. У кароткіх рысах філёзофія грамады і дзяржавы Корадзіні з одзіцца да наступнага. Жыцьцё паходзіць не з індывідуальнага пачатку,—яно зьяўляецца рэзультатам колектыўных сіл, і гэта колектыўная істота выяўляецца, як дзяржава, народ, культура. Таму народ, які не разьбіваецца на індывідуальныя інтарэсы, зьяўляецца сапраўдным ідэалам грамады, і веліч яго ня будзе разьядацца інтэрнацыяналізмам, які ня можа давесьці нацыю да сапраўднай велічы. Сучасная грамада разглядаецца Корадзіні, як біолёгічнае паняцьце. Гэта—організм, які падупадае ўсялякім знадворным і ўнутраным уплывам. Перш за ўсё, ён павінен падпарадкавацца ідэі ахвяры, якая прыносіцца часткаю організму на карысьць цэлага, г. зн. дзяржавы, нацыі.

У сувязі з гэтым рымская гісторыя да апошняга часу разглядаецца толькі, як першыя разьдзелы з гісторыі сучаснай дзяржавы, якая пераходзіць у больш высокую фазу разьвіцьця і намячае новыя разьдзелы далейшага шляху разьвіцьця гісторыі Італіі.

*Перш за ўсё гэтыя новыя шляхі разьвіцьця Італіі павінны выразіцца ў імкненьні нацыі зноў зрабіцца сусьветнай дзяржавай.* У выніку такой устаноўкі ўзьнікае тэорыя нацыянальнай дзяржавы, якая паглынае ўсе інтарэсы індывідууму. Нічога для індывідууму—усё для Італіі. Вось які лёзунг італьянскіх нацыяналістых. Да падобных-жа вывадаў прыходзіць памянёны вышэй М. Рокко. Аналізуючы людзкое грамадзтва і дзяржаву, ён прыходзіць да вываду, што сучаснае грамадзтва ёсьць разуменьне ня толькі соцыяльнае, але і біолёгічнае, і зьяўляючыся фракцыямі людзкога роду, яно ўздымаецца ўжо не як сума аддзельных асоб, якія складаюць яго ў даны момант. Для фашызму, на думку Рокко, грамадзтва мае свае сталыя гістарычныя мэты самазахаваньня, экспансіі, якія, быць можа, нават супярэчаць мэтам асобных людзей. Больш таго, для фашызму жыцьцё грамадзтва вышэй жыцьця пакаленьня, якое нараджаецца і памірае, у той час, як грамадзтва застаецца заўсёды самым сабой. Асоба—толькі сродак, інструмант для дасягненьня мэты—організацыі і захаваньня грамадзтва ад распаду.

Вось чаму нацыя павінна быць зацікаўлена пытаньнем кіраўніцтва дзяржавай і перадаваць усю сілу ўлады ў рукі тых, што можа падняцца вышэй сваіх уласных інтарэсаў (асабістых або клясавых) і ажыцьцяўляць соцыяльна-колектыўныя інтарэсы.

Адсюль Рокко прыходзіць да заключэньня, што ўлада павінна быць толькі ў руках выбраных людзей. Гэта палажэньне непасрэдна зьвязана з ідэяй верхаводзтва „выбранай меншасьці". У гэтай пастаноўцы пытаньня вельмі выразна вызначаюцца адносіны фашызму да доктрыны лібэралізму і дэмократызму. Адгэтуль-жа ў далейшым выцякае пытаньне і аб адносінах яго да парлямантарызму.

Ня менш выразна пытаньне аб нацыянальным верхаводзтве выражана ў „Програме нацыянальнай фашыцкай партыі". У першым яе разьдзеле ўстанаўляецца, што нацыя ёсьць ня проста злучнасьць жывых індывідуумаў або прылада партый для дасягненьня іх мэт, а організм, які ўключае ў сябе многія рады пакаленьняў, асобныя прадстаўнікі якіх зьяўляюцца мімаходнымі элемэнтамі, яна зьяўляецца найвялікшым сынтэзам свайго матэрыяльнага і духоўнага значэньня гэтых пакаленьняў.

Фашыцкая партыя сьцьвярджае, што ў сучасны гістарычны момант пануючай соцыяльнай організацыяй зьяўляецца нацыянальнае грамадзтва і што ў сьвеце галоўным жыцьцёвым законам павінна быць не аб'яднаньне рознастайных грамадзтваў, згодна з навукаю інтэрнацыяналізму, у адно вялізнае грамадзтва „чалавецтва", але плодатворнае і мірнае спаборніцтва рознастайных нацыянальных грамадзтваў.

У адпаведнасьці з гэтым, натуральна, *дзяржава* разглядаецца, як *юрыдычнае ўцягненьне нацыі*.

Гэтыя думкі ў асноўным пацьвярджае і першы параграф фашыцкай „Хартыі працы", прынятай у красавіку 1927 г. „Італьянская нацыя зьяўляецца організмам,—гаворыцца ў гэтым параграфе,—мэты, жыцьцё і сродкі дзеяньня якога перавышаюць мэты, жыцьцё і сродкі дзеяньня аддзельных асоб і груп іх, што складаюць гэты організм. Яна зьяўляецца моральным, палітычным і экономічным адзінствам і цалкам ажыцьцяўляецца ў фашыцкай дзяржаве". Гэтыя-ж погляды выказаны ў шматлікіх выступленьнях Мусоліні, асабліва пасьля захопу ўлады.

Гэта-ж ідэя нацыянальнай велічы вызначае моцна разьвіты шовіністычны чад некаторых соцыяльных груп сучаснай Італіі.

Яшчэ ў 40-х гадох XIX сталецьця філёзоф і дзяржаўны дзеяч Джыобэрці стварыў тэорыю аб тым, што італьянскі народ зьяўляецца выбраным народам сярод іншых народаў, што ён усмактаў у сябе ўсе вялікія традыцыі мінулых сталецьцяў і мае ў будучым бліскучыя пэрспэктывы разьвіцьця і магутнасьці. У гэтым адчуваецца, між іншым, і тэндэнцыя італьянскай буйнай прамысловай буржуазіі да імпэрыялістычнай экспансіі. І сапраўды, Мусоліні, ідучы сьледам за Джыобэрці, імкнецца пры дапамозе „фашыо" і пры падтрыманьні магнатаў капіталу паставіць Італію

на месца „выбранай меншасьці“. Гэта ідэя нацыянальнай велічы праходзіць чырвонай ніткай па ўсёй політыцы фашыцкай дзяржавы. Так, яшчэ ў сваёй прамове ў Неаполі перад паходам на Рым, Мусоліні ахарактарызаваў фашыцкі рух, як нешта такое, што аб‘ядноае сабой элемэнты політычнага, профэсіянальнага, ваеннага і рэлігійнага. Ён адзначае, што толькі фашызм мог стварыць такую нацыянальную веліч і што гэту веліч канечна патрэбна зьдзейсьніць у адчувальную сапраўднасьць, якой павінна быць усё падпарадкавана. „Для нас нацыя,—кажа ён,—ня проста тэрыторыя, а дух. Нацыя вялікая, калі яна імкненьні свайго духу ажыцьцяўляе ў сапраўднасьць“.

Падпарадкуючы ўсё ідэі нацыянальнай велічы, фашызм, натуральна, павінен рашуча стаяць і за нацыянальнае адзінства, гармонію і падпарадкаваньне асабістага і клясавага інтарэсу ідэі цэлага ў імя нацыянальнага інтарэсу. У імя таго-ж нацыянальнага інтарэсу гаворыцца пра супрацоўніцтва кляс, адмову ад клясавай барацьбы. Гэта вельмі выпрабаваная тэорыя пануючых кляс у капіталістычных краёх. Яна нарабіла нямала шкоды чалавецтву ў пэрыод сусьветнай вайны, нямала шкоды яна робіць працоўным масам і цяпер. Зусім натуральна, што маса, якая зьяўляецца адзіным цэлым з нацыяй і зьліваецца з гісторыяй, як кажа Мусоліні, павінна адмовіцца ад клясавай барацьбы. Такую масу лепш за ўсё эксплёатаваць, такую масу лягчэй за ўсё абарачаць, пры патрэбе, у гарматнае мяса.

Мусоліні думае, што аднэй з асноўных памылак марксызму зьяўляецца сьцьвярджэньне, што існуць толькі дзьве клясы, заўсёды варожыя адна аднэй. На яго думку, супярэчнасьці, пэўна, могуць быць, але гэта часовая зьява, якая не паўтараецца сыстэматычна. Гэтыя два лягеры ў пэўных умовах могуць і пачынаюць супрацоўнічаць пасьля таго, як устанаўляюцца межы, цераз якія ніводзін бок ня мае права перайсьці. Арбітрам у гэтых адносінах павінна выступаць вышэйшая воля нацыі.

Да якіх-жа конкрэтных програмных пунктаў прыводзіць падобная ідэолёгічная ўстаноўка? Перш за ўсё, да таго, што „рабочым няма чаго баяцца і губляць, але яны могуць усё заваяваць, падтрымліваючы парадак і пільна працуючы“. А потым да надмернага мілітарызму і разьвіцьця імпэрыялістычных тэндэнцый італьянскай буйнай буржуазіі.

Варта спыніцца на парляманцкай прамове Мусоліні 20 мая 1927 г., каб зразумець увесь сэнс імкненьня фашызму да нацыянальнага адзінства і велічы. „Першы абавязак наш,—кажа прем‘ер,—павялічыць нашы ўзброеныя сілы. Мы павінны быць гатовы да пэўнага часу мобілізаваць 5 мільёнаў людзей і мець магчымасьць іх узброіць. Мы павінны павялічыць нашу флёту і так узмацніць нашы вайсковыя паветраныя сілы, *каб шум іх мотораў зрабіў нячутным усякі другі шум і каб іх цень закрыў сонца над італьянскай зямлёй* (курсіў мой. *М. К.*). І калі між 1935 і 1940 гадамі, як я чакаю, наступіць рашучы момант у гісторыі

Эўропы, мы здолеем прымусіць прыслухацца да нашага голасу і канчаткова прызнаць нашы правы“ [1]).

Усе гэтыя траскучыя і ваяўнічыя словы, заснаваныя на ідэі нацыянальнай велічы, выражаюць нішто іншае, як экономічныя мары капіталізму, які пазбаўлены досыць шырокага ўнутранага рынку. У гэтых прамовах Мусоліні можна ўбачыць яркую пропаганду сапраўднай політыкі фашызму, да якой усё больш схіляюцца і іншыя краіны, кажучы пры гэтым аб сваёй ціхамірнасьці.

У аднэй з фашыцкіх газэт „Brennero“, 20 ліпня 1926 г. зьмешчаны дзесяць запаведзяй нацыяналізму і шовінізму, якія ніводзін сапраўдны італьянец ня мае права забыць. Прыводжу некаторыя з гэтых запаведзяй: 1) сьвятасьць Італіі, 2) старажытныя рымляне перамаглі ўсе народы земнай кулі, таксама і сучасны італьянец неперighаможны, 4) апошні італьянец варты тысячы не італьянцаў, 5) італьянская мова зьяўляецца найпрыгажэйшай у сьвеце, 7) для таго, каб зразумець прыгожасьць італьянскага ляндшафту, трэба мець вочы і зрок італьянца, 9) усё, што да гэтага часу вынайдзена і адкрыта, зьвязана ў тэй ці іншай меры з італьянскім паходжаньнем, 10) кожны чужаземец павінен падыходзіць да Італіі з павагай [2]). Вось так фашызм займаецца апрацоўкай сьвядомасьці шырокіх мас працоўных.

Але ажыцьцёвіць волю нацыі і памянёныя вышэй задачы можа толькі выбраная, выдатная асоба. Прычым гэта апошняя звычайна ідэнтыфікуецца з нацыяй, з дзяржавай. Практычна гэта выразілася ў політычнай сыстэме фашыцкай Італіі, якая ажыцьцёвіла лёзунг Мусоліні: „Парлямант—гэта я“.

Міхэльс у адным амэрыканскім часопісу прыводзіць наступны характарны эпізод. Пасьля аднаго з замахаў на Мусоліні, апошні сказаў перад натоўпам прыхільнікаў, якія сабраліся вакол яго, прамову, у якой ахарактарызаваў сучаснае палажэньне Італіі і паказаў на тыя небясьпекі, у якіх краіна апынулася-б пасьля яго сьмерці. У гэты час прамоўца быў перапынены словамі „Tu sei l‘ Jtalia“ („Ты—Італія“) [3]). Гэтымі словамі асоба, парушыўшая цішыню, хацела падкрэсьліць значэньне Мусоліні—гэтага ідэолёга нацыяналізму—для краіны.

У гэтых словах выражана надзея буйнага капіталу на фашызм, сьмерць якога можа быць роўназначна сьмерці капіталістычнай гаспадаркі. Такім чынам, гэты разьвіты да крайнасьці нацыяналізм павінен разглядацца, як ідэолёгія імпэрыялізму. Нацыяналізм выступае ў вопратцы, у якой імкненьні імпэрыялізму, што хутка разьвіваецца, ня так кідаліся-б у вочы і якая дазваляла-б апошняму прыцягнуць на свой бок найшырэйшыя народныя масы. Прынцып нацыяналізму ўводзіцца ў сьвя-

[1]) Варга, „Пути развития итальянского капитализма“ ў „Миров. хозяйство и миров. политика“ № 8, 1927 г.

[2]) „Der Kampf“ № 3, 1927 г. „Fashismus und Kriegsgefahr“.

[3]) R. Michels. „The American Politikae science Revino“, т. XXI, № 4, стар. 756.

тыню, што падтрымліваецца самым папай рымскім, да якога Мусоліні з некаторага часу пачаў адносіцца вельмі папярэдліва і з павагай.

Ідэя нацыянальнай велічы і ўсёпаглынаючай сілы нацыі карыстаецца ня толькі італьянскім фашызмам. Яна шырока ўжываецца перш за ўсё ў шэрагах польскіх пасьлядоўцаў Мусоліні. Асабліва гэта нягледаецца ў апошні час пры абмеркаваньні пытаньня аб пераглядзе польскай конституцыі. Прадстаўнікі беспартыйнага блёку супрацоўніцтва з урадам, бароначы свой проект конституцыі, як мага стараюцца ўгрунтаваць яго нацыянальны сэнс. На іх думку, гэты проект „не зьяўляецца рэзультатам партыйнай доктрыны або клясавай барацьбы. Ён—дзіця згоды і супрацоўніцтва розных нацыянальных, расавых груп і кляс“. І таму прыхільнікі гэтага новага палітычнага дакуманту „спакойны за лёс яго, бо ён адлюстроўвае важнейшыя нацыянальныя інтарэсы дзяржавы“ [1]).

У органе пілсудчыкаў „Głos Prawdy“ на працягу некалькіх месяцаў друкаваліся артыкулы і прамовы, дзе з дастатковай сур'ёзнасьцю даводзілася гістарычнае права польскага народу на лепшую будучыню, на вялікія гістарычныя справы, у іх-жа польскі народ заклікаўся да адпору ўсіх, хто адмаўляецца прызнаць „сілу генія польскага народу“.

Ні для каго не сакрэт, што спадарожнікам гэтага ваяўнічага польскага нацыяналізму зьяўляецца, з аднаго боку, вельмі агрэсыўная ўнутраная палітыка фашызму, а з другога—імпэрыялістычная замежная палітыка.

Ня менш характарную сувязь нацыяналізму з фашызмам уяўляе сабой Нямеччына.

Капаўскі і гітлераўскі путчы, сучасныя нацыянал-соцыялістычныя нямецкія нацыяналістыя, „Стальны шлем“ і інш.—усе яны ў цэнтры сваёй увагі маюць асноўную ідэю: нацыянальную веліч і гістарычнае значэньне нямецкага народу.

У апошнія гады ўтварылася цэлая пляяда нямецкіх тэорэтыкаў, якія адлюстроўваюць у сваіх работах асновы ідэолёгіі фашызму і ў першую чаргу доктрыну нацыянальнай дзяржавы з яе адзінымі, агульна-нацыянальнымі інтарэсамі. Да гэтых ідэолёгаў нямецкага фашызму можна залічыць Отмара Шпанна, Мізэса, Зомбарта, Мэйзэля і інш.

Усе яны, хаваючыся за заслону нацыяналізму, па сутнасьці прапаведваюць нямецкі імпэрыялізм і фашызм. Асабліва яскрава гэта выражана ў Шпанна. У аднэй з сваіх работ ён даводзіць канечную патрэбнасьць павялічэньня ўзбраеньня для Нямеччыны, якая ня можа супакоіцца да таго часу, пакуль ёй ня ўдасца заняць у Эўропе адпаведнае яе культурнаму разьвіцьцю месца. Ён лічыць, што духоўныя сілы нямецкага народу маюць права на тое, каб рэшта сьвету з ім лічылася. Нямецкі народ, які яшчэ не пасьпеў канчаткова „аднавіцца“ пасьля сусьветнай вайны, пав'нен прыняцца за ўтварэньне новага палітычнага арга-

[1]) „Głos Prawdy“, 23/II-1920 г., № 53.

нізму. Гарантыяй гэтага зьяўляюцца нацыянальная ідэя і канечная патрэбнасьць. Шпанн прадбачыць падыход новай эры ў гісторыі нямецкага народу. Гэта абумоўлена наступнымі акалічнасьцямі. Нямеччына адзіная, найвялікшая, найбольш абяцаючая ў будучым, контынэнтальная сіла Эўропы... Ніхто, апрача Нямеччыны, ня можа ўстанавіць парадак і ўтрымаць народы ад заўсёдных сутычак і войн аднаго з адным. Заканчваецца гэта думка вельмі ясна: „Мы цяпер разумеем, чаму Польшча, Богемія, Вэнгрыя, Паўднёва-Славія ў мінулым былі лэнамі Нямеччыны. Так павінна быць зноў“ [1]).

Узмацненьне ваяўнічага нацыяналізму ў Нямеччыне адзначаецца таксама шэрагам дасьледчыкаў палітычнага жыцьця краіны. Паказваюць на падобнасьць гэтага зьявішча з становішчам у Італіі пасьля вайны, калі народныя масы, зьняверыўшыся ў асобных дзяржаўных дзеячох, выкінулі лёзунг аб моцным чалавеку, які здольны адратаваць нацыянальны гонар італьянцаў. Таксама і цяпер нямецкі народ імкнецца да ўзмацненьня сваёй палітычнай ролі. Гэтыя тэндэнцыі могуць прывесьці нават да нямецкага Мусоліні, бо парлямант ня можа ў дастатковай меры адлюстраваць інтарэсы нацыянальнай магутнасьці Нямеччыны. Ідэя нацыі, нацыі ўсёпаглынаючай, якая выключае якія-б там ні было групавыя інтарэсы, павінна выклікаць да жыцьця другую ідэю—ідэю ўтварэньня новай формы дзяржавы, здольнай кіраваць гэтым адзінствам. Такой дзяржавай можа быць толькі такое юрыдычнае ўцяленьне нацыі, якое не разглядаецца групавымі і партыйнымі спрэчкамі. Яно павінна быць зусім пазбаўлена ад цесных клешчаў дэмократыі і парлямантарызму. *Поўная або частковая і часовая адмова ад парлямантарызму, яго ліквідацыя—вось наступная важная доктрына фашызму.*

Замест няздольнае да вырашэньня сучасных проблем буржуазнай дзяржавы з яе формальнай дэмократыяй ідэолёгіі фашызму высоўваюць *ідэю моцнай улады моцнай-жа*, пэўна, *асобы.* Яшчэ ў лістападзе 1921 г. на III конгрэсе фашыстых Мусоліні заявіў аб тым, што нацыю можна будзе адратаваць толькі тады, калі з палітыкі будзе выгнаны лібэралізм. І калі для таго, каб стварыць аўторытэт у дзяржаве, прыдзецца ісьці супроць усіх, дык і перад гэтым тады няма чаго спыняцца. Усё, што нагадвае сантымэнтальны дэмократызм і носіць на сабе соцыялістычнае адценьне, патрэбна зьніштожыць. Гэта выражана Мусоліні досыць пераконваюча на тым-жа конгрэсе.

„Дэмократыя можа, бадай, быць сродкам, але ніколі ня можа быць мэтай. Калі-б заўтра занадта дэмократычнае разьвіцьцё нашага нацыянальнага жыцьця паставіла нас перад небясьпекай, напрыклад, заняпаду нацыі, дык мы паўсталі-б супроць дэмократыі і налажылі-б сваё „вэто“. Ад гэтай устаноўкі „дучэ“ не адступае ні на крок. Чым далей, тым з большай упартасьцю ён настойвае на ліквідацыі парлямантарызму.

[1]) Othmar Spann „Die Wahte Staat“, Leipzig, 1923, стар. 102—104.

„Мы зьніштожым,—гаворыць ён у аднэй з сваіх прамоў,—усе соцыялістычныя і дэмократычныя надбудоўкі. Мы будзем мець дзяржаву, якая стане выконваць сваю прыродную задачу: яна будзе прадстаўляць ня партыю, а ўвесь колектыў нацыі, браць пад сваю апеку ўсіх, змагаючыся супроць тых, хто пасьмее зрабіць замах на яго бязумоўны сувэрэнітэт“. Але падобная політыка магчыма толькі там, дзе „дзяржава прасякнута духам жыцьця, сьвядомасьці і сілы“. Гэтую програму „мэтазгоднага“ гвалту могуць праводзіць толькі новыя людзі,—людзі, якія ня спыняюцца ні перад чым. „Гвалт,—гаворыць далей правадыр фашызму,—ужываны ў канечна патрэбных выпадках, бязумоўна зьяўляецца вызваляючым гвалтам“. Як прыклад такога памыснага ўплыву гвалту Мусоліні прыводзіць восень 1920 г. (захоп фабрык), калі фашыстыя „дасяглі пры сыстэматычным ужываньні гвалту ў 48 гадзін таго, чаго шляхам пераконаньня або пропагандай не дасяглі-б за 48 год“ [1]).

Гэта адмаўленьне парлямантарызму і дэмократызму зусім адпавядае інтарэсам міжнароднай буйнейшай буржуазіі эпохі імпэрыялізму; яе ідэолёгі ўжо стварылі новую тэорыю дзяржавы, якая прызнае бязумоўны крызіс парлямэнтарызму, і ня верыць у збавіцельныя яго сілы. Размова аб ілюзорнасьці і слабасьці сучаснага парлямантарызму зьяўляецца ўлюбёнай тэмай шэрагу політычных дзеячоў і тэорэтыкаў буржуазнага дзяржаўнага права. Такім чынам, і ў гэтым вельмі важным програмным пытаньні фашызм і, прыватна, Мусоліні нічога новага не сказаў.

З вялікім энтузыязмам фашыстыя розных краёў успрынялі практыку барацьбы з парлямантарызмам і пастанавілі яе галоўнай задачай сваёй дзяржаўна-прававой тактыкі. Вельмі ярка гэта акалічнасьць адлюстравана ў ідэолёгаў польскага фашызму.

„Тое, што адбываецца ў Італіі,—піша адзін з іх,—гэта толькі адзін з многіх довадаў, якія сьведчаць аб агульным крызісе парлямантарызму. Народжаны ў Англіі, ён, уласна кажучы, не знаходзіў сабе глебы на сухазем‘і. Толькі доктрынэры, прасякнутыя тэорыямі XVIII сталецьця, маглі думаць, што заходня-эўропэйскія грамадзтвы скончылі сваю політычную рэволюцыю, што ўсеагульнае галасаваньне... і рэспубліканскі лад зьяўляюцца ідэалам політычнага рэжыму“.

„Мусоліні,—піша Войцех Дамброўскі ў „Рэчы Посполітай“,—асудзіў на сьмерць парлямантарызм у сучаснай яго форме. Соцыялістыя карысталіся парлямантарызмам, як зброяй для абвастрэньня клясавай барацьбы і, бязумоўна, палічылі-б яго непатрэбным пасьля сваёй перамогі. Мусоліні папярэдзіў іх“.

Уражаньне ад італьянскага парлямантарызму, што раскладаецца, было настолькі моцным, што пры наведваньні польскімі фашыстымі будынку італьянскага парляманту яны не маглі ўтрымацца, каб не сказаць: „так, мы знаходзімся ў доме шляхетнага нябожчыка“ [2]). Гэта было напісана

[1]) „Reden“, стар. 102.

[2]) Зборнік „Мировой фашизм“, стар. 154.

яшчэ задоўга да фашыцкага перавароту ў Польшчы і да зацьверджаньня новай, цалкам фашызаванай польскай конституцыі.

Ня менш пераконваючы супроць парлямантарызму выступаюць прыхільнікі новай конституцыі. Пілсудчыкі ў сваёй газэце „Глос Праўды“, ад 22 лютага 1929 г. зьмясьцілі адозву да польскага народу, дзе паказваюць на „шкоднасьць“ старой констытуцыі 17 сакавіка 1921 г., утворанай „сувэрэнным соймам“.

Сувэрэннасьць сойму падпадае гіронічнаму і бязьлітаснаму абстрэлу. Такому-ж абстрэлу падпадаюць прынцыпы буржуазнай дэмократыі, якія, на думку пілсудчыкаў, у старой констытуцыі атрымалі занадта шырокае разьвіцьцё. Роспуск сойму ў канцы сакавіка 1929 г. паказаў, што польскі фашызм не асабліва сьціскае сябе парляманцкімі нормамі і рыхтуецца „ўсур'ёз і надоўга“ зьмяніць формы кіраваньня дзяржавай. Нездарма ў памянёнай вышэй адозьве гаворыцца аб тым, што „дэмократычныя формулы зьяўляюцца толькі заслонай для безадказных дзеяньняў дэпутатаў у сур'ёзных дзяржаўных пытаньнях“.

Прызнаючы крызіс парлямантарызму, пілсудчыкі адмаўляюцца ад сыстэмы кіраваньня, якая праводзілася да мая 1926 г. „Майскія дні 1926 г.,— кажуць яны,—зьяўляюцца ў гісторыі Польшчы паваротным пунктам. Звароту назад няма... А калі гэты аргумант ня будзе для нашай опозыцыі пераканальным, дык існуе другі, больш моцны довад, які здолее пранязь гэтыя зьедзеныя маной душы і хворае на гангрэну дэмократычнае сумленьне“ [1]). Прайшло ня больш месяца і пагроза была выканана. Жадаючы прыручыць насяленьне да думкі аб ліквідацыі парлямантарызму, цытаваны ўжо пан Палякевіч досыць вобразна і ў гіронічных тонах рэкамэндуе з пяці пакояў, занятых самапраўна соймам, тры аддаць прэзыдэнту ўраду, а сойму пакінуць толькі два пакоі. Такім чынам, польскія фашысты літаральна паўтараюць Мусоліні. Пілсудчыкі прысутнічаюць на хаўтурах свайго „шляхетнага нябожчыка“. Прычым характар гэтага жалобнага акту і мэтады дзеяньня нічым па існасьці не адрозьніваюцца ад мэтодаў Мусоліні. Апошні, перамогшы ідэю парлямантарызму, кажа аб гэтым мерцьвяку так: „Я штодзень чытаю газэты і выкарыстоўваю ўсё неабходнае. Чаму я абавязаны прымушаць сябе слухаць у палаце таго ці іншага дэпутата, калі я аб усім гэтым ужо прачытаў у газэце. Калі ствараліся парляманты, ня было яшчэ ні камэр працы, ні сындыкатаў. Кожнае сталецьце мае ўласьцівыя яму ўстановы [2]). Гэтым шляхам пашлі тэорэтыкі і практыкі нямецкага фашызму. Кіраўнікі „Сталёвага шлему“ ўсё часьцей і часьцей выступаюць з адкрытай прапановай ліквідаваць няздатную для кіраўніцтва дзяржавай форму палітычнага кіраваньня. Быў час (улетку 1923 г.), калі правадыры гэтай самай буйнай фашыцкай організацыі ўмовіліся з канцлерам аб устанаўленьні нацыянальнай дыктатуры.

[1]) „Glos Prawdy“, № 52, 1920 г.

[2]) R. Michels. Назв. тв., стар. 79.

Размовы аб нацыянальнай дыктатуры з асаблівай сілай паўтараюцца ў 1927 і ў 1928 г. г. Устанаўленьне нацыянальнай дыктатуры па сутнасьці азначае захоп улады фашыстымі. У штогодніку „Сталёвага шлему“ за 1927 год адкрыта выказваюцца імкненьні гэтай організацыі „заваяваць нямецкую дзяржаву“. Там адзначаюцца мэты гэтай заваёвы: „Мы жадаем заваяваць і падпарадкаваць сабе дзяржаву, каб ауладаць усёй паўнатой дзяржаўнай улады і каб ператварыць дзяржаву на той узор, які нам здаецца ідэалам здаровай дзяржавы“.

Адзін з вышэйпамянёных правадыроў „Сталёвага шлему“—Зэльдтэ расшыфроўвае гэту агульную пастаноўку і ў адной з сваіх прамоў кажа: „Мы спакойна пойдзем у Бэрлін і спакойна з яго выйдзем, але ў адзін прыгожы дзень мы прыдзем у Бэрлін і там застанемся. Праз год з блаславеньня фашыстага Кэйдэля, „Сталёвы шлем“ падняў галаву яшчэ больш і вуснамі свайго другога правадыра Дэютэрбэргера на сходзе ў г. Кілі заявіў: *„Палепшаньне нашай дзяржаўнай сыстэмы ніколі ня можа быць ажыцьцёўлена парляманцкім шляхам. Мы падрыхтоўваем сваю бояздольнасьць, мы рыхтуемся да выступленьня. Мы сьвядома змагаемся мячом і крыжам“*.

Абвешчаныя нямецкімі фашыстымі мэтоды і програма барацьбы з парлямантарызмам не адрозьніваюцца ад мэтодаў і спосабаў італьянскага фашызму. Толькі бег падзей іншы, але гэта ўжо не залежыць ад „добрага жаданьня пасьлядоўцаў Мусоліні.

Нядаўна ў адным з лейпцыгскіх выдавецтваў вышла кніга проф. Г. Мэліс. Работа профэсара зьяўляецца выключна абаронай фашызму. Ужо ў прадмове можна заўважыць захаваную тэндэнцыю аўтара. Ён думае, што кніга яго павінна пагаджаць інтарэсы і паразуменьне дзьвюх краін, якія маглі-б жыць у добрым суседзтве. Кніга напісана аўтарам пад уплывам „каханьня да Германіі, для якой ён палка жадае сапраўднага правадыра“...[1]). Пасьля такой прадмовы аўтару нічога не застаецца, як у далейшым выкладаньні ісьці сьледам за Мусоліні, услаўляць кожнае яго мерапрыемства і рэкомэндаваць нямецкаму народу вучыцца ў „вялікага і геніяльнага правадыра“. Фашызм разглядаецца, як эпоха рэнэсансу, эпоха адраджэньня лепшых нацыянальных традыцый. Чаму лепшым абаронцам народу павінна быць сыстэма лібэралізму з яго парляманцкімі прынцыпамі? Чаму абавязкова парлямантарызму належыць апошняе і рашучае слова ў пытаньнях організацыі сыстэмы дзяржаўнага кіраваньня? Так пытаецца аўтар, з запалам абараняючы ідэолёгію фашызму. На месцы слабога і варожа настроенага супроць ідэі моцнай дзяржавы парлямантарызму ўзьнікае фашызм, які народнае прадстаўніцтва організуе па-новаму[2]). Толькі фашызм здолее аднавіць соцыяльнае жыцьцё краіны і ўдыхнуць у яе моральныя ідэі[3]). Ідэалізуючы

[1]) Prof. D-r G. Michlis. „Die Idee Mussolini“. Leipzig 1923, стар. 7.

[2]) Тамсама, стар. 7.

[3]) Тамсама, стар. 91,

фашызм, аўтар прыходзіць да вываду, што і Нямеччына павінна падумаць аб сваім моральным адраджэньні, яна павінна паставіць перад сабою задачу і мэту: стварыць магутны, адухоўлены энтузыязмам рух. Проф. Мэліс зусім сьвядома становіць проблему ўстанаўленьня фашыцкай дыктатуры ў Нямеччыне і ў яго асобе нямецкія нацыяналістыя і фашыстыя набываюць вельмі пасьлядоўнага тэорэтыка. І дарэмна прыхільны да фашызму профэсар турбуецца: шуканы „адухоўлены энтузыязмам (і акрываўлены крывёю рабочых, скажам мы. *М. К.*) рух“ існуе і выяўляе ўвесь час значную актыўнасьць: гэта ўсё той-жа „Сталёвы шлем“, ці „нацыянальны запас Нямеччыны“, як гэты саюз нямецкіх франтавікоў называюць самі фашыстыя.

Антыпарляманцкая дзейнасьць „Сталёвага шлему“ настолькі ярка выражана і вядзецца так паступова, што адна з блізкіх да італьянскіх урадовых колаў газэта не магла не адзначыць годнасьць тактыкі нямецкіх фашыстых і выразіла захапленьне з поваду дзейнасьці нямецкіх патрыотычных саюзаў на чале з „С. Ш.“ і паказала, якімі шляхамі нямецкі фашызм павінен крочыць да ўлады.

„Новая Германія“,—кажа газэта,—ня знойдзе сябе ні ў выбарчай барацьбе, ні ў разьвіцьці дэмократыі, ні ў парлямантарнай сыстэме. Супроць рэйхстагу, супроць соцыялістых... і не ў парляманце, а на вуліцы будуць вырашаць новыя сілы лёс Германіі, тае Германіі, якая ўжо адбудоўваецца [1]). І як-бы ў адказ на гэты „брацкі“ заклік, баявая організацыя нямецкага фашызму 8 ліпеня ў Бэрліне, на спэцыяльным пасяджэньні свайго кіраўнічага органу, пастанаўляе „весьці з новай сілай барацьбу супроць парлямантарызму [2]).

Тое самае, толькі больш падкрэсьлена паўтараецца ў наступных нумарох органу „С. Ш.“. І чым бліжэй да сьвяткаваньня дня Вэймарскай конституцыі (11 жніўня), тым вастрэй.

Асабліва характарным зьяўляецца артыкул проф. Шнэйдэр-Зігена, члена „Сталёвага шлему“, з поваду трыццацігодзьдзя з дня сьмерці Бісмарка. Ідэю Бісмарка і ідэю „С. Ш.“ аўтар робіць ідэнтычнай. Падобна да таго, як Бісмарк імкнуўся да стварэньня адзінай магутнай нацыі і да замацаваньня нямецкай дзяржавы, так і „С. Ш.“ ставіць перад сабою вялікія задачы аб'яднаньня і збавеньня дзяржавы і нацыі ад распаду [3]).

Не застаецца ззаду і Францыя. Яе рознастайныя фашыцкія організацыі выступаюць супроць існуючай дзяржаўнай сыстэмы. Усе яны за ўстанаўленьне фашыцкай дыктатуры, за аднаўленьне аўторытэту дзяржавы, за моцную ўладу. Так, напрыклад, „Саюз патрыотычнай моладзі“ ў „Лібэртэ“ ад 19/XI—24 г. абвясьціў сваё крэдо наступнымі словамі: „адраджэньне дзяржавы, яе аўторытэту і яе гонару праз наданьне выка-

[1]) „Giornale d'Italia“, 30/VI-1928 г.

[2]) „Der Stahlhedm“ № 29, ад 15/VII-1928 г.

[3]) Тамсама, № 31, ад 29/VII-1928 г.

наўчай уладзе канечна патрэбных поўнамоцтваў, устанаўленьне шляхам перагляду констытуцыі моцнага шкілету, канечна патрэбнага для разьвіцьця Францыі... Дыктатарская палітыка Клемансо выратавала краіну ў вайну. У сучасны момант мы хочам устанавіць цьвёрдую ўладу".

Але погляды „Саюзу" ня блукаюць у бязьмежнай прасторы. Ён орыентуецца на прыклад Італіі і заяўляе, як-бы пераконваючы сябе ў правільнасьці выбару кіраўніка: „Што зрабіў Мусоліні? Ён узьняў нацыянальны штандар над бясьсільнымі і безадказнымі грабежнікамі. (Так, прыблізна, цяпер выражаюцца пілсудчыкі. *М. К.*)... Францыя павінна натхніцца гэтым прыкладам" [1]).

Другая фашыцкая організацыя „Фессо" ставіць пытаньне больш рэальна і пляны яе ў пытаньнях устанаўленьня новых форм дзяржаўнага кіраваньня больш дакладныя. Яна ставіць перад сабой, у асноўным, такія задачы: „Скасаваць парлямантарызм і забясьпечыць кіраваньне краінай тымі мэтодамі, якія далі магчымасьць атрымаць перамогу, г. зн. шляхам дыктатуры, складзенай з нацыянальнага правадыра ці дырэкторыі, якія стаяць над партыямі і клясамі і адказваюць за дзяржаву" [2]). Як бачыць чытач, усё „по образу и подобию" італьянскага прыкладу.

У сувязі з дыскрэдытаваньнем ідэі дэмократыі і адмовы ад парляманцкіх ілюзій, фашызм высоўвае тэорыю панаваньня не парляманцкай большасьці, выпадкова выбранае і не адпавядаючае ўсім вымаганьням нацыі, а „выбранай меншасьці (elite). Гэта ідэя „выбранай меншасьці", лепшых людзей нацыі, урэшце, паднясеньне нацыянальнага героя, правадыра, вялікага „дучэ", як нельга лепей адпавядае сучасным запатрабаваньням капіталістычнай олігархіі, якая імкнецца да згрупаваньня ўлады ў руках самых надзейных людзей, здольных дзейнічаць хутка і рашуча. Гэтая тэорыя „выбранай меншасьці" зьяўляецца вельмі важнай прадпасылкай для організацыі фашыцкай дзяржавы і яе ідэолёгічнага апраўданьня.

Заснавальнікамі гэтай тэорыі зьяўляюцца вядомыя італьянскія экономістыя і соцыолёгі Маффео Пантэлеоні і Вілфрэдо Парэто, лекцыі якіх Мусоліні ў свой час слухаў у Лёзане.

Паводле навукі Парэто, большасьць народу ня прымае ўдзелу ў непасрэдным кіраваньні дзяржавай і досыць таго, калі ён выяўляе сваё спачуваньне. Парлямант можа разглядацца, толькі як псыхолёгічны інструмант народных мас. Пытаньні-ж практычнай палітыкі разьвязваюцца выбранай меншасьцю народу, лепшай яго часткаю, народнай арыстократыяй, прычым гэта меншасьць можа дзейнічаць праз спэцыяльныя па-за-парляманцкія організацыі.

На падставе падобных сьцьвярджэньняў філёзофія фашызму высоўвае ідэю аб бязгрэшным нацыянальным правадыры, народным герої,

[1]) Франсуа Берри. „Фашызм во Франции". Ленинград, 1927 г., стар. 72.
[2]) Ф. Берри. Назв. твор., стар. 82.

дучэ, які стаіць на чале ўсяго дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця і ва ўсім карыстаецца неабмежаванай уладай. Вырасшы з нетраў нацыі, ўвабраўшы ў сябе ўсю нацыянальную веліч, волю нацыі, правадыр мае права гаварыць ад імя нацыі, непадзельна панаваць. Ніхто яго не выбірае і не назначае, бо выбары заўсёды зьвязаны з шэрагам неспадзяванасьцяй, якія могуць пашкодзіць нацыі. Выбары народных прадстаўнікоў і прэзыдэнтаў у буржуазных краінах прымусілі кіраўнікоў фашызму перайсьці да іншых мэтодаў організацыі кіраўніцтва дзяржавай. Пастулова праводзячы ідэю адмовы ад парлямантарызму і пераходу да цэзарызму, фашызм унёс у статут сваёй партыі наступнае апраўданьне бязгрэшнасьці правадыра: *„у лютую цяжкую гадзіну... народ пазнаў правадыра па яго волі, яго сіле, яго працы“.* Вось чаму правадыр павінен быць адначасна і на чале дзяржавы. Гэтая ідэнтычнасьць фашызму і Італіі ідэолёгамі фашызму падкрэсьліваецца вельмі часта. Выраз „фашыцкая нацыя“ набыў ужо правы грамадзянства ў сучаснай фашыцкай літаратуры. Ня меншай популярнасьцю карыстаецца формула: „правадыр нацыі—ажыцьцёўленая ідэя і воля нацыі“.

Але дзеля таго, што фашызм разглядаецца як моральнае адраджэньне народу і новая этыка соцыяльнага жыцьця, то правадыр, адказны за нацыю, адначасна прызнаецца і найвышэйшай істотай, якая стварае новыя духоўныя сілы народу. Ён, так сказаць, чараўнік, прарок, які знаходзіць у нацыі каштоўныя захаваныя сілы. Ён лічыцца творцам новай рэлігіі, існуючай сёньня, як функцыя будучага, захоўваючай новыя пакаленьні і сілы, прызваныя дасягнуць мэт, пастаўленых народнай воляй. Зразумела, што такому нацыянальнаму генію, правадыру і герою належыць права загадваць дзяржаваю па свайму ўласнаму пагляду і жаданьню. Прызнаючы за сабой права кіраваць лёсам італьянскага народу, Мусоліні бярэ на сябе поўную політычную, моральную і гістарычную адказнасьць за ўсё вынікшае. У аднэй сваёй прамове ён патэтычна выкрыкзае: „Калі фашызм зьяўляецца толькі розгай і рыцынай, а ня яркім палам лепшых сыноў народу, дык адказнасьць за гэта я бяру на сябе. І калі лічыць, што фашызм абярнуўся ў банду злачынцаў, дык я зьяўляюся верхаводам гэтай злачыннай банды“.

Ідэя найвышэйшага правадыра як-бы завяршае прынцып стварэньня нацыянальнай дзяржавы бяз усякіх дэмократычных ілюзій. У гэтую-ж ідэю ўпіраецца прынцып гіерархізму, які складае аснову організацыі фашыцкай партыі і корпорацыйнай дзяржавы. Само сабой зразумела, што правадыр перш за ўсё павінен уладаць якасьцямі магутнай асобы. Гэта акалічнасьць асабліва важна для сучаснай буржуазнай дзяржавы, дзе загніўшы капіталізм у перадсьмяротнай агоніі адважваецца пайсьці на ўсякія комбінацыі.

У пошуках магутнай асобы, нацыянальнага героя і правадыра ў сучасны момант знаходзіцца і Германія. Коаліцыйны ўрад с.-д. Мюльлера ня можа задаволіць у поўнай меры інтарэсы нямецкіх імпэрыялістых. Фігура

с.-д. правадыра для гэтага амплуа ня зусім прыгодна. Дый кандыдатура іншых партый, якія ўваходзяць у коаліцыю, нічога асабліва каштоўнага для сучаснай нямецкай плютократыі не прадстаўляюць. Вось чаму нямецкія нацыяналістыя вядуць упарта барацьбу за рэорганізацыю ўраду, за стварэньне такога габінэту, які рашуча павёў-бы барацьбу супроць формальных свабод і парляманцкіх прынцыпаў.

Тое самае і ў Польшчы. Толькі там абставіны значна прасьцейшыя. Магутная асоба, правадыр, там ужо знойдзены. Толькі трэба (яшчэ пакуль констытуцыйнымі мэтодамі) зафіксаваць за ім права найвышэйшага і безапэляцыйнага кіраўніцтва. Пілсудзкі адзначаны, аказваецца, самой гісторыяй для вялікай ролі. Заключаецца яна ў тым, што ён і толькі ён можа прадбачыць і зьдзейсьніць усе шляхі разьвіцьця Польшчы. Аднаўленьне міру і парадку ў Эўропе, устанаўленьне соцыяльнага міру ў краіне, дасягненьне меж 1772 г. магчыма толькі пад кіраваньнем Пілсудзкага. Тут поўнасьцю выражана імпэрыялістычная сутнасьць буржуазнай Польшчы і яе бліжэйшыя задачы. Практычна ідэя магутнай асобы, абранца народу, выяўлена ў проекце новай польскай констытуцыі, згодна якой уся найвышэйшая ўлада перадаецца ў рукі галавы дзяржавы. Высоўваючы ў якасьці палітычнага правадыра Пілсудзкага, фашыстыя прыводзяць на карысьць перадачы найвышэйшай улады ў рукі аднаго чалавека наступныя аргуманты. „Хто лепей ведае краіну і яе патрэбы: 444 дэпутаты, якім вядомы патрэбы сваіх раёнаў, ці адзін чалавек, незнаёмы, быць можа, у дэталях з кожным паветам, але які ведае гісторыю свайго народу і прымаў удзел у яго жыцьці? Пэўна, што права кіраваць застаецца за тым, хто грунтоўна вывучаў палажэньне краіны і яе інтарэсы і ўважна сачыў за разьвіцьцём асноўных пытаньняў гісторыі свайго народу [1]). Зусім зразумела, што, застаючыся пасьлядоўнымі, пілсудчыкі высоўваюць думку аб тым, што ўсякая ўлада выходзіць не ад народнага прадстаўніцтва, а адзінай крыніцай яе зьяўляецца галава дзяржавы, якая выбіраецца *не для таго, каб толькі прадстаўляць народ, але для таго, каб надзяляць гэты народ дзяржаўным сувэрэнітэтам.*

Такім чынам, усюды, дзе зьяўляюцца клясычныя ўзоры фашызму, апошні стварае орыгінальную форму капіталістычнага цэзарызму, вельмі выгодны для ажыцьцяўленьня дыктатуры буйнага капіталу.

* * *

Наступнай істотнай ідэяй фашыцкага сьветапогляду зьяўляецца прынцып корпорацыйнасьці. Думка аб пабудове дзяржавы на корпорацыйным прынцыпе праходзіць чырвонай ніткаю па ўсёй палітычнай дзейнасьці Мусоліні і яго прыбліжаных. Апошнія гады далі некалькі асноўных законадаўчых актаў, стварыўшых, так званую, „фашыцкую корпорацыйную дзяржаву“. Самаю істотнаю і цікаваю па зьместу зьяўляецца вядомая

[1]) „Glos Prawdy“ № 51, 21/II-1929 г.

„Хартыя працы“, якая яшчэ іначай завецца „конституцыяй корпарацыйнага ладу“. Гэтая „хартыя“ сапраўды можа быць названа праграмай пабудовы фашыцкай „бясклясавай“ дзяржавы. Выходзячы з навукі аб вытворчасьці, як асноўным элемэнце разьвіцьця нацыі, фашызм усю сваю навуку аб дзяржаве будуе на прынцыпе соцыяльна організаванай аднароднай, па-заклясавай адзінкі. Гэтаму павінна адпавядаць і сама сыстэма дзяржаўнага кіраўніцтва, політыка і законадаўства.

Згодна „Хартыі“ італьянская нацыя зьяўляецца організмам, які стаіць па сваіх мэтах, жыцьці і сродках вышэй паасобных, складаючых яе асоб ці груп (§ 1).

Таму, натуральна, патрабуецца захаваньне нацыянальнай солідарнасьці, якая захоўвае вытворчасьць, як адзінае цэлае, і стварае дабрабыт продуктараў. Але такая солідарнасьць дасягаецца толькі пагаджэньнем разыходжаньня інтарэсаў работадаўцаў і рабочых і падпарадкаваньнем іх вышэйшым інтарэсам вытворчасьці (§ 2 і 4). Гэта солідарнасьць гарантуецца законам, а роўнасьць паміж работадаўцам і рабочым ахоўваецца адпаведнымі нормамі (§ 6).

Маючы пад свэім кіраўніцтвам такога роду „нацыянальнае яднаньне“ ці корпорацыю, якая так „поўна прадстаўляе інтарэсы розных кляс“, дзе „інтарэсы вытворчасьці і нацыі супадаюць“, фашыцкі закон прызнае корпорацыі дзяржаўнымі органамі (6, п. 3).

Такім чынам, фашыцкая дзяржава ўвасабляе сабой нацыю, якая выражае „духоўнае, політычнае і экономічнае адзінства“ (§ 1).

Гэта сучасная програма фашызму прыводзіць да тэорыі пабудовы сыстэмы дзяржавы, дзе ўлада павінна належаць „вытворчым элемэнтам“, г. зн. тым грамадзкім элемэнтам, якія трымаюць у сваіх руках нацыянальныя багацьці і сродкі вытворчасьці, накіраваныя на зьняволеньне рабочае клясы, да ліквідацыі яго найбольш каштоўных заваёў.

Корпорацыйны рэжым—гэта фікцыя рабочага саюзнага прадстаўніцтва ў дзяржаўнай машыне, створаны ў мэтах замацаваньня тылу капіталізму, які вядзе ўпартую барацьбу за замежныя рынкі і рыхтуецца разьвязаць спрэчку аб гэтых рынках сілай зброі. Гэтую думку адкрыта выказаў і галава фашыцкіх профсаюзаў—профсаюзны Мусоліні—Россоні яшчэ ў красавіку 1926 г.: „Заваёва новых колёній для бацькаўшчыны магчыма толькі пры ўмове супрацоўніцтва з моцна, па-фашыцку, організаванай працай“.

Успрыняўшы ад соцыял-дэмократычнага рэформізму навуку аб супрацоўніцтве кляс, фашызм ліквідаваў з дапамогай правадыроў Генэральную конфэрэнцыю працы і гэтым самым палажыў граніцу італьянскаму клясаваму профруху.

Замест сваіх, сапраўды клясавых профэсіянальных організацый, разьбітая і разброеная рабочая кляса Італіі атрымала ў падарунак куртатыя „надклясавыя“ організацыі, куды прымаюцца грамадзяне „добрых моральных і політычных паводзін з нацыянальнага пункту гледжаньня“, якія

поўнасьцю падпарадкуюцца контролю фашыцкай партыі і дзяржаўных органаў, г. зн. аддалі сябе добраахвотна і поўнасьцю пад загад буржуазіі.

Гэтымі організацыямі, якія закліканы ліквідаваць клясавую барацьбу, зьяўляюцца адзяржаўленыя монопольныя фашыцкія профэсіянальныя організацыі ці афашызаваныя профсаюзы („сындыкаты").

Гэтыя профсаюзы павінны стварыць „клясавы мір", „прымат вышэйшых інтарэсаў нацыі", ажыцьцёвіць „роўнасьць паміж працай і капіталам" і такім чынам дапамагаць экономічнай перамозе італьянскай буйнай буржуазіі.

Ня менш важным элемэнтам фашыцкай філёзофскай сыстэмы зьяўляецца прынцып гіерархізму. Гэтая гіерархія, ідэальна выяўленая ў фашыцкай партыі, мае сваёй мэтай ажыцьцёвіць тыя функцыі, што не пад сілу паасобным зьвеньням дзяржаўнага апарату. Прынцып гіерархізму зьяўляецца адначасна тым цэмэнтам, які замацоўвае ўвесь фашыцкі лад, які прадпалагае стройную організацыю падпарадкаваньня ніжэйшых ступеняй грамадзка-політычнаму жыцьцю вышэйшых. Гэты прынцып істотна вырашае ідэю строга цэнтралізаванай дзяржавы, дзе інтарэсы месц, поўнасьцю падпарадкаваны політыцы цэнтру з яго дырэктывамі, якія поўнасьцю абхапляюць усе пытаньні грамадзка-дзяржаўнага характару. Гэта цалкам адпавядае запатрабаваньням і інтарэсам сучаснай буржуазіі. Эпоха фінансавага капіталу азначае вельмі моцную канцэнтрацыю і цэнтралізацыю капіталу. Натуральна, што гэтым тэндэнцыям капіталу павінны адпавядаць і політычныя формы кіраваньня. Выражаецца гэта ў згрупаваньні ўлады ў руках невялікай групы буйнай буржуазіі, якая не дае самастойнасьці провінцыі. Для лепшага правядзеньня ў жыцьцё гэтага прынцыпу ствараецца магутны дзяржаўны кулак, які концэнтруе ў сябе ўсю паўнату ўлады. У фашыцкай Італіі гэта вырашана ў стварэньні спэцыяльнай гіерархічнай ступнёвасьці, наверсе якой стаіць сам „дучэ", а ўнізе дзейнічае спэцыяльная фашыцкая ўзброеная організацыя: міліцыя нацыянальнай бясьпекі, непасрэдна падпарадкаваная Мусоліні. Організаваная павайсковаму, яна ў сьнежні 1922 г. пастановай ураду была легалізавана. Цяпер яна зьяўляецца своеасаблівай прэторыянскай гвардыяй побач з кадравым войскам. Апроч таго, як аб гэтым заявіў Мусоліні ў сваёй прамове 1 лютага 1928 г. з прычыны 5-ай гадавіны існаваньня гэтай міліцыі, у далейшым усе навабранцы спачатку павінны будуць уступаць у міліцыю, дзе атрымаюць належную падрыхтоўку і абернуцца ў „дасканалы людзкі матэрыял для арміі". У гэтай школе фашызму будучыя жаўнеры італьянскай арміі атрымаюць адпаведную антысоцыялістычную і контррэволюцыйную муштру.

Уся дзяржаўная структура і яе організацыйныя прынцыпы выцякаюць непасрэдна з навукі фашызму аб сучасным грамадзкім організьме, пабудаваным на ідэі нацыянальнай супольнасьці і адмаўленьні клясавай барацьбы. Успрыняўшы прынцып гіерархізму, як сыстэму сувязі паасобных зьвеньняў організаванай сваёй магутнасьці, фашыцкая тэорыя дзяр-

жавы высоўвае гэты прынцып у аснову разьвіцьця дзяржаўнага кіраваньня. Прычым трэба адзначыць, што гэты гіерархізм мысьліцца, як гіерархізм абраных элемэнтаў нацыі, соцыяльных цэннасьцяй, ажыцьцяўляючых сыстэму падпарадкаваньня менш складаных больш складаным і адказным адзінкам, на чале якіх знаходзіцца сам правадыр. Але дзеля таго, што нацыя сама павінна выяўляць актыўнасьць у організаваным дзеяньні, дык трэба мець нейкую сілу, якая-б здолела ажыцьцёвіць розум і волю нацыі. Гэтай сілай і зьяўляецца фашыцкая партыя, якая знаходзіцца на службе нацыі, але і адначасна зьяўляецца і міліцыяй. Пры такіх суадносінах сіл, разумеецца, партыя павінна цалкам супадаць з нацыяй, павінна цалкам яе прадставіць і кіраваць дзяржавай.

Фактычна так яно і ёсьць. Уся організацыйная структура фашыцкай дзяржавы пабудавана па прынцыпу зрошчваньня партыі і дзяржаўнага кіраваньня. Дыктатура фашыцкай партыі выпукляецца на кожным кроку. Усе вытворчыя, палітычныя і іншыя інтарэсы краіны падпарадкаваны выключна інтарэсам невялікай купкі людзей, усю сваю палітыку зьвязаўшых з лёсам разьвіцьця буйнага капіталу, усё ахвяраваўшых яму.

Але гэты прынцып яднаньня партыі з дзяржавай як нельга лепей выкрывае клясавую існасьць апошняй. Ня раз называючы сябе і партыю „кіруючай клясай“ і „мазгамі краіны“, кіраўнікі фашызму гэтым самым ідэнтыфікуюць сябе з пануючай клясай. Сумнявацца-ж у клясавым характары гэтага панаваньня нельга, як нельга сумнявацца ў тым, што фашызм навочны прыклад зрошчваньня буржуазнай дзяржавы з гаспадаркай. Гэта цалкам адпавядае прынцыпу: „усё ў дзяржаве, нічога па-за дзяржавай“. Але гэта адначасна адзначае і тое, што ўсе грамадзяне—і капіталістыя, і пролетары працуюць над дасягненьнем аднэй і той-жа мэты,—павялічэньня багацьцяў і магутнасьці продуктараў. Тут, зразумела, нельга пазбыцца некаторых конфліктаў. Разьвязаць гэтыя конфлікты заклікана дзяржава, інтарэсам якой падпарадкаваны ўсе інтарэсы як нацыі, так і паасобных індывідуумаў. Такім чынам, дзяржава павінна выступаць у жыцьці ў якасьці арбітра, які пагаджае інтарэсы розных груп грамадзтва, інтарэсы якіх, аднак, паводле навукі фашызму, не павінны быць узаемна процілеглы. У гэтай справе дзяржаве лепш за ўсё можа памагчы формула „корпарацыйнай дзяржавы“, якая організуе інтарэсы розных вытворчых і іншых сындыкатаў, падпарадкаваных пастановам прадстаўнікоў фашыцкай партыі, якія стаяць на чале памянёных сындыкатаў. Гэтым адзяржаўленьнем профсаюзаў заканчваецца кола ідэолёгічных прадпасылак, пакладзеных у аснову фашыцкай тэорыі дзяржавы.

# УЛАДЫСЛАЎ ГАЛУБОК

[redacted] М. Касьпяровіч

*(Біографічны нарыс першага беларускага народнага артысты)*

Дзед Уладыслава Язэпавіча Голуба, Тамаш, жыў стала ў в. Галубох б. Віленскай губ., каля ст. Вуша, што перад Маладэчнам. Тамаш з сваім братам прымалі ўдзел у паўстаньні 1863 г. на баку бядняцкага сялянства. Пасьля прыдушэньня паўстаньня царскай Расіяй, для таго, каб схаваць канцы свайго ўдзелу ў ім, Тамаш з сваім братам шмат год ганялі плыты і не аднойчы бывалі заграніцай. Урэшце, яны пераехалі ў Барысаўшчыну, дзе яшчэ значны час хаваліся, а пазьней пасяліліся—дзедаў брат у в. Наўсалода б. Барысаўскага пав., а сам дзед Тамаш—у г. Барысаве.

Тамаш Голуб меў у Барысаве пляц і хату і жыў гаспадаром-мешчанінам. Быў жанаты два разы і меў аднаго сына Язэпа ад першай жонкі з дробна-шляхоцкай сям'і. Памёр Тамаш у Барысаве ў 1889 годзе, маючы каля 50 год.

Сярод здольных асоб Галубковага роду трэба адзначыць блізкага Тамашовага сваяка Флёрыяна Ржавускага. Ён зьбіраў вусную народную творчасьць, быў здольным да пісьменства і шмат пісаў. Будучы вандроўным бесхацінцам, усё гэта насіў з сабой з месца на месца. Таму пасьля сьмерці яго зборы і творы дзесь загінулі. Прабабка Ўладыслава Галубка паходзіла з дробнай шляхты, як і бабка, і была вельмі разьвітой кабецінай, дажыўшай амаль да 100 год.

Уладыславаў бацька, Язэп Тамашавіч, нарадзіўся ў гор. Барысаве, дзе і скончыў гарадзкую школу. Скончыўшы апошнюю, Язэп паехаў у гор. Лібаву. Там ён служыў кваліфікаваным рабочым. Маючы каля 20 год, пераехаў на службу ў Менск, на чыгунку. Езьдзіў памочнікам машыністага, а пасьля быў прызначаны машыністым на вадакачку на ст. Вуша. Пазьней быў перамешчаны на такую-ж працу на ст. Лясная, пад Баранавічы. Адсюль ён перавёўся ў Менск майстрам сьлясарнай справы. У Менску ён служыў сьлесарам да дня сьмерці—7 кастрычніка 1895 году, калі ён у часе звароту са службы дадому быў забіты злачынцамі рэвальвэрнымі стрэламі.

Язэп Тамашавіч быў вельмі здольны чалавек, меў цьвёрдую волю і моцную памяць ды лічыўся строгім аўторытэтам у сям'і, якому ўсе падпарадкаваліся. Ведаў беларускую, расійскую і польскую мовы, але заўсёды гаварыў па-беларуску. Чытаў кнігі з мясцовых бібліотэк. Маючы

каля 20 год, Язэп пабраўся з Галінай Уладыславаўнай Рэут з дробнашляхоцкай сялянскай сям'і з засьценку Дразы на Барысаўшчыне.

Галіна Рэут-Галубок малапісьменная, але вельмі разьвітая. Добра пяе беларускія народныя песьні, якія ад яе часта запісвалі. Падобна мужу, ведае беларускую, расійскую і польскую мовы, але гаворыць выключна па-беларуску. Як і ўся яе радня ў мінулым, так і яна слыне выдатнай варажбіткай на картах. Пасьля сьмерці мужа выгадавала ўсіх шасьцёра дзяцей: Уладыслава, Івана, Леонарда, Станіслава, Браніслава і Зосю, якія ўсе і цяпер жывуць, апрача Івана. Апошняга белапалякі замучылі ў Берасьці ў дэфэнзыве за тое, што ў часе Кастрычнікавае рэволюцыі быў камісарам. Уладыслававай матцы было вельмі цяжка гадаваць дзяцей і ёй нічога не памагло тое, што забойца мужа быў сасланы на 12 год у катаргу.

Уладыслаў Галубок быў першым сынам у бацькоў. Ён нарадзіўся на ст. Лясной 3 мая 1882 году па ст. ст. Калі Ўладыславу было каля году, бацькі яго пераехалі ў Менск. У сям'і жыла Ўладыславава прабабка, якая асабліва шчыра даглядала свайго праўнука.

Першыя крокі ў навучаньні былі зроблены Ўладыславам дома. Вучыла нейкая нанятая паненка Ліза, вельмі суровая. Пачаў вучыцца на расійскай мове, хоць у сям'і заўсёды гаварылі па-беларуску.

Калі Ўладыславу было каля 6—7 год, яго аддалі вучыцца ў Менскае другое прыходзкае вучылішча, дзе на ўсе тры групы быў толькі адзін настаўнік Уладзімер Ярмаловіч. Вучыў ён вельмі добра, асабліва прыгожаму пісьму, і быў здольным сьпеваком. У яго хоры пеў і Ўладыслаў каля 2—3 год. За тры гады навучаньня ў школе Ўладыслаў атрымаў ўсё, што ў ёй можна было атрымаць. Найбольш яго цікавіла гісторыя і географія, але ён рабіў добрыя посьпехі і ў іншых навуках, аб чым сьведчаць наступныя:

Свѣдѣнія

объ успѣхах и поведеніи ученика II отд. 2-го Минскаго приходскаго училища ГОЛУБЕВА Владислава за 1891/92 учебный годъ.

| Законъ Божій | | Русскій языкъ | | Славянскій языкъ | | Арифметика | | Исторія | | Географія | | Чистописаніе | | Пѣніе | | Поведеніе | | Замѣчанія |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | |
| „ | „ | 4+ | 4+ | 4+ | 4+ | 5 | 3+ | „ | „ | „ | „ | 3 | 4 | „ | „ | 5 | „ | Перевод. во 2-й классъ. Явиться 16 августа |

Учитель 2-го Минскаго приходскаго училища

*В. Ярмоловичъ.*

Подпись родителей. Читал *Иосиф Голубев.*

Яшчэ з большымі посьпехамі Ўладыслаў Галубок скончыў гэту школу. Гэта пацьвярджаюць новыя

Свѣдѣнія
об успѣхахъ и поведеніи ученика III отд. 2-го Минскаго приходскаго училища
ГОЛУБЕВА Владислава зз 1892/93 учебн. годъ

| Законъ Божій | | Русскій языкъ | | Славянскій языкъ | | Арифметика | | Исторія | | Географія | | Чистописаніе | | Пѣніе | | Поведеніе | | Замѣчанія |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | Год. | Экз. | |
| | 5 | | 5 | | 5 | | 4 | | 4 | | 4+ | | 5 | | 4 | | 5 | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | Окончилъ курс ученія |

Учитель 2-го Минскаго приходскаго училища
*В. Ярмоловичъ.*

Подпись родителей.

У гэты час любіў гуляць у бабкі і гуляў віртуозна, так, што з ім баяліся гуляць—усёроўна (заранеў вядома) абыграе. Гулялі пераважна дзеці рабочых і дробных чыноўнікаў з чыгункі. Прыяцелямі Ўладыслава былі хлопцы. Дзяўчат ён саромеўся і чураўся іх.

Па-за навучаньнем у школе малы Ўладыслаў любіў маляваць. Свае малюнкі дэманстраваў у знаёмых па хатах. Ужо тады знаходзілі ў яго здольнасьці да маляваньня.

Гады са два Ўладыслаў любіў гарэлку, часамі проста з хлебам, а пасьля зьненавідзеў яе.

Пасьля пачатковай школы, Уладыслаў быў аддавы ў першае Менскае гарадзкое вучылішча, дзе з посьпехам правучыўся толькі два гады. З прычыны сьмерці бацькі сям'я апынулася ў надзвычайна цяжкіх матэрыяльных умовах і Ўладыславу прышлося школу кінуць і пачаць зарабляць выгрузкай дроў з вагонаў на ст. Менск.

У другой школе, як і ў першай, Уладыслаў любіў пісаць школьныя ўкладаньні і захапляўся імі. Даваліся яны яму дужа лёгка.

Амаль з 10 год прымаў актыўны ўдзел, як актор і бутафор, у прадстаўленьнях „Трох каралёў“, „Зьвязды“ і г. д., і т. п. Рэпэтыцыі гэтых народных п'ес і падрыхтоўка да іх цягнулася з месяц а то і больш і ўвесь гэты час Уладыслаў толькі і жыў гэтым сваім тэатрам. З валачобнікамі не хадзіў і гэтага ня любіў.

Маючы год 13—14, захапляўся танцамі цыганят і аддаваў апошнія грошы на цукеркі ім, каб яны танцавалі, а ён мог любавацца.

Год з 12-ці пачаў чытаць мастацкую літаратуру і захапляўся Гогалем і Горкім.

Амаль ад 13 да 15 год дасканала гуляў на більярдзе і лічыўся спэцыялістым, як раней па гульні ў бабкі.

Бадай на 15 годзе першы раз у жыцьці ўбачыў „сапраўдны“ тэатр. Ставілася „Нешчаснэ каханьне“, ігралі Занковэцька і Манько. П'еса была ўспрынята, як сапраўднасьць, і пакінула надзвычайна моцны сьлед на вельмі доўгі час. Уладыслаў з поўгода хадзіў сам ня свой і лічыў, што людзі сьцэны—найшчасьлівейшыя людзі.

З 14 да 20 год Уладыслаў Язэпавіч захапляўся музыкай на гармоніку, а гады са два—ад дваццацігадовага ўзросту—атлетыкай і быў членам спортыўна-гімнастычнага таварыства „Сокал“.

Першае любоўнае захапленьне Ўладыслава Язэпавіча застала яго пятнаццацігадовым хлопцам. З гэтага часу ён трохі падняў вочы на дзяўчат і шукаў знаёмства з людзьмі з больш культурных, адукаваных колаў.

Атрымаўшы ад бацькоў добрае здароўе ды ад бацькі ўпартую волю і памяць і ад прабабкі і маткі здаровую фантазію, Уладыслаў Язэпавіч пераэкыў усе гэтыя захапленьні і захаваў і разьвіў асноўныя свае здольнасьці—літаратурна-драматычную, акторскую, музычную і мастацкую. Ён вынес апошнія і праз сваё нялёгкае службовае жыцьцё.

У 1896 годзе Ўладыслаў Язэпавіч паступіў прыказчыкам у гастраномічны магазын Стараневіча па б. Захараўскай вул. ў Менску. Але за нейкую правіннасьць Стараневіч аднойчы ўдарыў Галубка па твары. У адказ Уладыслаў Язэпавіч пусьціў у гаспадара бутэлькай і назаўсёды пакінуў магазын. У 1897 годзе Галубок паступіў на чыгунку сьпісчыкам вагонаў з заробкам 6 руб. у месяц. А далей ён працаваў на наступных пасадах: з 15 лістапада 1899 году—сьлесарам дэпо Менск з адкамандыраваньнем у кантору; з 1 красавіка 1902 году—штатным канторшчыкам; з 1 студзеня 1917 году — старшым канторшчыкам; з 1 студзеня 1919 году—старшым рахункаводам; з 16 сакавіка 1919 году—загадчыкам агульнага аддзелу ўправы заходніх чыгунак у Менску; з 1920 году—загадчыкам мастацкага аддзелу ў Народным камісарыяце асьветы, выхавальнікам у дзіцячым доме, у політасьветных установах і г. д., працуючы ўжо і з сваёй трупай; з 1925 году—кіраўнікам сваёй трупы—Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатру.

Служачы, Уладыслаў Язэпавіч у 1906 годзе здаў экзамін за курс першага Менскага гарадзкога вучылішча. На гэтым яго агульная адукацыя канчаткова падмянілася самаадукацыяй. Амаль таксама сталася і ў іншых галінах навучаньня.

З 1906 да 1908 году Ўладыслаў Язэпавіч вучыўся духавой музыцы на барытоне і трамбоне, у спэцыяльнага настаўніка Валенкі, якому плаціў 5—6 руб. у месяц. Іграў у оркестры Менскага добраахвотнага пажарнага таварыства. З гадоў 14 да 21 вучыўся іграць на гармоніку

ў былога марака Ціта. Проста прападаў за музыкай. Ціт—быў геніяльны гармоністы і бадай такі-ж геніяльны п‘яніца, але разьвіты і мастак свае справы. Таму ён меў значны ўплыў на свайго вучня. Цітам скончылася Галубкова гармонікавая навука і далей ён удасканальваўся ў гэтай галіне самавукам.

Маючы год 9—10, Уладыслаў сур‘ёзна ўзяўся вучыцца рысаваць алоўкам, але ў школе настаўнік маляваньня ніякага добрага ўплыву на яго не зрабіў. У 1901—1902 годзе пачаў маляваць фарбамі. Ня было за што купляць матэрыялаў, але Галубок перамагаў усё. У Менску мастацкай школы ня было. Таму Галубок паступіў у навуку да мастака Пракоф‘ева. Той вучыў яго капіраваць. Глядзець, як сам малюе, Пракоф‘еў Галубку не дазваляў. Калі апошні набыў дасканаласьць у копіраваньні і абмежаваны Пракоф‘еў убачыў, што вучань можа абагнаць настаўніка, адносіны іх зусім разладзіліся. Галубок працягваў вучыцца самавукам дома. Ім зацікавіліся Менскія мастакі—Сухоўскі і Ярэменка. Да іх Уладыслаў Язэпавіч хадзіў вучыцца мастацтву з 1908 да 1912 году. І Ярэменка, і Сухоўскі былі скончыўшы акадэмію мастацтва. Апрача таго, былі вельмі здольнымі. Таму яны вучылі Галубка мастацтву толькі з натуры, не перашкаджалі вучыцца з таго, як яны самі працуюць і г. д. Яны таксама як і Ціт, зрабілі добры ўплыў на Ўладыслава Язэпавіча. Пасьля іх ён працягваў удасканальвацца ў мастацтве дома. Шмат ён атрымліваў ад наведваньня Маскоўскіх і Пецярбурскіх мастацкіх выставак і музэяў, куды ён мог часта езьдзіць, маючы бясплатны білет ад чыгункі.

Тут яшчэ можна адзначыць захапленьне Галубка палітычнай мэмуарнай літаратурай і палітычнай чыннасьцю. Галубок пэўны час працаваў у падпольным гуртку чыгуначнікаў пад кіраўніцтвам інжынэра Грыгор‘ева.

15 красавіка 1904 году Ўладыслаў Язэпавіч пабраўся з Ядвігай Аляксандраўнай Петрашкевіч з Менску, швачкай, дачкой беднага служачага, з якой пазнаёміўся ў 1901 годзе. Цяпер Уладыслаў Язэпавіч мае трох сыноў і тры дачкі. Першы год жыцьця пасьля вясельля быў асабліва інтэнсыўным у мастацкай працы Ўладыслава Язэпавіча. Наогул з гэтага часу яго жыцьцё крыху палепшала, бо сям‘я маткі крыху сама стала на ногі. Сьмерць бацькі—незапомны цяжкі момант у жыцьці Ўладыслава Язэпавіча, які выклікаў даволі доўгую боязьнь нябожчыкаў, асабліва вісельнікаў, зарэзаных і г. д., і т. п., крыху адышла ў мінулае. Уражлівасьць паспакайнела. Зьявіліся новыя клопаты па сваёй сям‘і.

Галубок заўсёды жыў у Менску і на доўгі час нікуды не выяжджаў. У падарожах быў на Украіне (асабліва—Харкаў), у Крыме, на Каўказе, у Заходняй Беларусі (асабліва—Вільня), а з 1922 году—аб‘ехаў амаль усе куткі сучаснай БССР.

Літаратурныя творы Ўладыслаў Галубок пачаў пісаць па-расійску амаль з 1900 году. Яны нідзе не друкаваліся. Уладыслаў Язэпавіч сам іх чытаў знаёмым, на вячорках і г. д. Па-беларуску пачаў пісаць

з 1906 году, захапіўшыся чытаньнем беларускай літаратуры. Першым было апавяданьне „На вясельле“, надрукаванае ў „Нашай Ніве“ пад псэўдонімам „Сымонка“. Пасьля Ўладыслаў Язэпавіч заўсёды падпісваўся—„У. Галубок“. Першым вершам была „Забытая хатка“, таксама зьмешчаная ў „Нашай Ніве.“ Першым драматычным творам зьявіліся „Пісаравы імяніны“, пастаўленыя ў 1917 годзе; другім—„Апошняе спатканьне“ (1917) і трэцім—„Бязьвінная кроў“ (1918). У друку першым зьявілася „Апошняе спатканьне“.

Значны ўплыў на нацыянальнае самаўсьведамленьне Галубка зрабіў Альбэрт Паўловіч, таварыш з маленства. Так што „Наша Ніва“ толькі ўзмацавала Ўладыслава Язэпавіча ў творчасьці па-беларуску. Наогул, Галубок асабіста знаёмы з усімі беларускімі пісьменьнікамі ад Л. Гмырака і Ї. Буйніцкага да ўсіх сёньнешніх сучасьнікаў. У 1926-27 годзе Галубок быў членам усебеларускага аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“, а з 1927 году зьяўляецца членам беларускага літаратурна-мастацкага аб'яднаньня „Полымя“.

Друкаваўся Ўладыслаў Галубок у „Нашай Ніве“, „Вольнай Беларусі“, „Крыніцы“, „Лучынцы“, „Маладой Беларусі“ ды інш. і асобнымі выдавецтвамі—Грыневіча—„Апавяданьні“, Народнага камісарыяту асьветы—„Апошняе спатканьне“, „Маладняка“—„Пісаравы імяніны“, Дзяржаўнага выдавецтва—„Суд“, „Ганка“ і г. д. Свае выяўленча-мастацкія творы Галубок выстаўляў на другой усебеларускай мастацкай выстаўцы. Пра Галубкову чыннасьць, якую можна падзяліць на два кругабегі: 1908—1916 і з 1917 да сёнешняга дня, пісалася ў „Нашай Ніве“, „Маладой Беларусі“, „Вольнай Беларусі“, „Крыніцы“, „Узвышшы“, „Савецкай Беларусі“ ды інш. пэрыодычных і непэрыодычных выданьнях.

У сваёй творчасьці Ўладыслаў Язэпавіч у значнай меры карыстаецца аўтобіографічным матэрыялам. Асабліва багаты на апошні „Ганка“, якая звалася раней „Ні тая, ні другая“, „Госьць з катаргі“, „Бязьвінная кроў“ ды інш. Пры гэтым фабульны матэрыял Галубок бярэ пераважна, калі не з асабістага жыцьця, дык з навакольных здарэньняў і вусных апавяданьняў людзей. Дзякуючы гэтай вялізнай ролі асабістых нагляданьняў, як крыніц свае творчасьці, і непасрэднаму адлюстраваньню іх у апошняй, у творах Уладыслава Язэпавіча пераважае быт, а не псыхолёгічныя перажываньні, філёзофскія разважаньні і да т. п. У політычным стасунку Ўладыслаў Язэпавіч стаўся шчырым і адданым дойлідам свае галіны ў агульным соцыялістычным будаўніцтве краіны. Стылем яму асабліва спадабаўся Мольер. Ні разу не зьмяніўшы сваіх прынцыпаў адносна крыніц свае творчасьці, ён увесь час застаецца рэалістым і будуе свой тэатр рэалістычным. Ён лічыць, што мастацтва заклікана прасякнуць сьветам цемру і таму павінна быць зразумелым шырокім масам, г. зн. рэальным. Адсюль выцякае і тая ўвага Галубка, з якою ён адносіцца да формальна-мастацкай і соцыялёгічнай крытыкі, спалучанай разам. Адсюль і яго адмоўныя адносіны да розных „лефаў“—ды „ізмаў“, хоць ён сам і разу-

мее іх і, часамі, адчувае асалоду ад іх твораў. Найбольш каштоўным ён, напрыклад, лічыць творы расійскага пісьменьніка М. Горкага.

Зноў-жа, орыентуючыся на свайго гледача, пераважна селяніна і рабочага, Галубок аддае перавагу мэлёдраме, бо яна найлягчэй успрымаецца гледачом сёнешняга дня. Пішучы свае творы выключна для сцэны, Галубок з замілаваньнем карыстаецца прыёмам супроцьстаўленьня („Ганка“ ды інш.). Найбольш удаюцца яму, як ён кажа, масавыя сцэнкі ды характары з цьвёрдай воляй, прычым ён паказвае амаль заўсёды толькі тыповае, а не індывідуальнае. Грамадзка-політычнае і псыхолёгічнае асьвятленьне зьяваў у творах Уладыслава Язэпавіча амаль цалкам адлюстроўвае яго сьветапогляд.

Усе галіны соцыялістычнага будаўніцтва павінны быць ваяўнічымі,— лічыць Галубок. Таму ў сваіх творах ён не адмаўляецца праводзіць тэндэнцыі, якіх вымагае штодзенная праца грамады. Пры гэтым Уладыслаў Язэпавіч мае дасканалае пачуцьцё меры. Ранейшыя яго творы, напрыклад, былі па форме больш агітацыйнымі, чым апошнія. Найбольш удалымі сваімі творамі Ўладыслаў Язэпавіч сам лічыць „Ганку“, „Пана Сурынту“ і „Плытагонаў“. Калі ўжо гаварыць пра Галубковыя погляды, то трэба адзначыць, што ён канстатуе (так яно на справе і ёсьць), што належнай крытыкі яго творчасьці яшчэ ніхто ня даў.

Спыняючыся на псыхолёгічным баку творчасьці Ўладыслава Язэпавіча, трэба адзначыць наступнае. Ужо, як толькі пачаў пісаць свае першыя творы па-беларуску, ён адчуў, што пісаньне па-беларуску даецца яму непараўнальна лягчэй, чым па-расійску. Прымушалі пісаць заўсёды якія-небудзь ідэёвыя меркаваньні, бо належнай платы за сваю працу Галубок ніколі ня меў і ня мог спадзявацца мець. Першымі ацанілі творчасьць Галубка Ўласаў, Паўловіч і Ластоўскі і за іх добрую ацэнку і дапамогу ён застаўся ім вельмі ўдзячны. Слабасьць першых сваіх твораў па-расійску і некаторых вершаў па-беларуску Галубок сам прызнае. І наадварот—першыя апавяданьні па-беларуску лічыць каштоўнымі і добрымі. Пасланыя ў „Нашу Ніву“ ў свой час па пошце, яны адразу-ж былі там надрукаваны.

Свае творы Ўладыслаў Язэпавіч піша сам алоўкам, а непатрэбнае закрэсьлівае пэндзлем з атрамантам, каб не перашкаджала. Пры гэтым заўсёды піша начыста, а пасьля правіць і правіць можа без канца, бывае, што так атрымліваецца да 40 чарнякоў. Звычайна хуткае пісаньне твору пры бесьперашкоднай працы амаль ня мае перапынкаў для абдумліваньня, бо і так трудна пасьпець запісваць. З другога боку—Галубок піша пераважна не тады, калі прыходзіць творчы момант, а калі ёсьць час. Пры гэтым шум у хаце або падобнае яму не перашкаджае ды лепш выходзіць тады, калі ён чым-небудзь раззлаваны, нэрвовы і да т. п. Наадварот—калі спакойны, то горш выходзіць. „Бабы ліхадзейкі“ амаль набела напісаны ў чарзе ў коопэратыве. Алоўка ды паперы або асадкі, атраманту, паперы ды прэспап‘е даволі Галубку, каб адчуваць сябе

ў добрых умовах працы. Ня толькі ў часе працы, але і наогул, Галубок ня курыць і ня ўжывае сьпірытусовых напояў. Шмат твораў напісаны ім у дарозе, у часе вандроўкі з трупай. Пара дня і году не адыгрывае ролі ў працы Ўладыслава Язэпавіча; лепей пішацца ў непагоду, калі вядома, што нікуды ісьці ня трэба.

Звычайна моцным імпульсам да працы служыць прагляд чужой п'есы. У такім разе Галубку хочацца пачаць пісаць сваю і па-свойму. А калі западзе думка ў галаву, то ён пры ўсякіх умовах будзе дамагацца яе аформіць. На конкурс Галубок толькі раз пісаў і гэтага ня любіць. Як сказана, ён піша выключна для свайго тэатру.

Толькі заведама злосная крытыка ўспрымаецца Галубком дражліва. А так ён адносіцца з увагай і пашанай да чужых думак і, калі згодзен з імі, то выпраўляе свае творы. Пастаноўкі сваіх твораў асабліва моцна заахвочваюць Галубка да далейшай працы і ўздымаюць настрой. Бываюць хвіліны, што Галубка так пацягне да пісаньня, што ён кідае ўсё і пачынае пісаць. Часамі со-сну запісвае тэмы. Аднойчы яго хворага мучылі кашмары і ён напісаў „Мужычае шчасьце". Пры гэтым яму аднолькава даецца і пачатак, і сярэдзіна працы. Але бываюць выпадкі, што ён праз доўгі час дарабляў пачатак або канец да раней гатовай п'есы. Першы акт „Плытагонаў" Галубок рэпэтыраваў з трупай, ня ведаючы, што з яго можа быць далей. У часе рэжысаваньня зьявіліся новыя ідэі і ён пачаў пісаць далей. І так цяпер гэта п'еса складаецца з пяцёх актаў. Звычайна-ж Галубок піша па раней абдуманаму пляну.

У часе пісаньня наш аўтар перажывае амаль усё, што апісвае.

„Часамі шэпча штосьць з-за вуха, што адсюль вот,—кажа Ўладыслаў Язэпавіч, — пахаладзееш увесь, бо ўсё-ж бачыш... Спаць пасьля не магу..."

Разам з тым, як казана, Галубок сьпісвае сваіх герояў з натуры, абмяркоўваючы іх учынкі, прычыны, што іх выклікалі і г. д. Кожная пьеса перапрацавана Галубком разы тры-чатыры. Пасьля кожнай пастаноўкі ён уносіць тыя або іншыя зьмены, кіруючыся сваім уласным мастацкім успрыманьнем, якое і пхае на палепшаньне данага твору. Перапробкі і зьмены твору лёгка даюцца, прычым часьцей перарабляецца ўвесь твор, а не паасобныя месцы; больш выпраўляецца дзея і характары, а стыль амаль не чапаецца. У часе працы Ўладыслаў Язэпавіч заўсёды раіцца з сваімі дзецьмі—акторамі яго трупы і студэнтамі—бярэ на ўвагу іх парады, тэмы і працуе, пішучы часамі за адзін прысест да 20 старонак. „Бывае цяжкавата, пакуль увойдзеш у бег дзеі і ўзаемаадносіны асоб, — кажа Галубок,—а пасьля толькі пасьпявай запісваць".

Апрача памянёных Горкага ды Мольера, Галубку вельмі падабаецца Францішак Аляхновіч пабудовай п'ес і Колас ды Купала. З мастакоў—

Айвазоўскі, Шышкін, Левітан і Сероў. Увесь вольны час у вандроўках з трупай у 1927 і 1928 гг. Галубок аддаў мастацтву, варочаючыся і да гэтага віду свае творчасьці. Пісаў алеем і сэпіяй. Пераважна краявіды. Наогул ён больш любіць краявіды. Портрэтаў пісаў мала, жанру—зусім ня пісаў.

Зважаючы на асабліва каштоўную чыннасьць Уладыслава Язэпавіча Галубка, як арганізатара, рэжысэра і артысты Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатру, Савет народных камісараў пастанавіў надать яму годчасьць Народнага артысты рэспублікі. Вось у наступныя разы нам і прыдзецца спыніцца на Ў. Галубку, як драматургу, акторы і музыцы, пісьменьніку і мастаку. Галубок — найусебаковы самародак з шырокіх гушчаў і цалкам заслужыў сваёй чыннасьцю высокую годнасьць.

# ГРАМАТЫЧНЫ СКЛАД МОВЫ Ц. ГАРТНАГА [1])

Я. Лёсік

## Прыметнікі і дзеяпрыметнікі

1) Прыметнікі жаноч. р. адзін л. у *родным* склоне канчаюцца на—„ое(ае)“, нават з ненаціскным *е* на канцы, не зважаючы на поўнае аканьне, якое праводзіў пісьменьнік, напр.: *люцкое* волі. Дз. 8,22, *лівае* рукі. Дз. 8,22, *заўтрашняе* раніцы. Дз. 8,9, *добрае* травы. З. 56, асакі *якое*. З. 10, *чалавечае* вартасьці. Дз. 6,5, *людзкое* здрады. П. 45, *высокае* званіцы. П. 66, *панскае* зямлі. П. 66, долі *горкае*. П. 49, *сырое* зямлі. П. 56.

Але прыметнікі прыналежныя *жаноч.* р. у такіх разох маюць няпоўную форму, напрыклад: з-пад *Цішкавы* хаты. Дз. 6,5, гук *пастуховы* трубы. Дз. 8,33, ад *бацькавы* люлькі. З. 6, на *мацярыны* словы. З. 52.

2) Прыметнікі „адна“ і „тая“ маюць форму па—„эй“, напр.: у *аднэй* хаце. З. 79, у *аднэй* точцы. С. 75, *тэю* ночкаю. З. 79, *тэю* пуцінаю. Дз. 8,35, адна за *аднэю*. З. 50, *аднэю* рукою. Дз. 8,41 і—*аднаею*. Дз. 8,12, а таксама у *адной* руцэ. Дз. 8,12.

3) Як зазначалася ўжо ў разьдзеле фонэтыкі, ненаціскное „о“ ў канчатках прыметнікаў у закрытых складох падмяняецца гукам „у (ю)“, адгэтуль маем: на *пагнутум* крэслу. Дз. 8,22, у *чорнуй тоўстуй* кніжцы. Дз. 8,15, у *вялікум* горадзі. Дз. 8,12, у *нашуй* вёсцы. З. 8. *беднуй* дзяўчыня. Дз. 8,26, *першуй*. Дз. 8,26, у *гэтум* месцу. Дз. 8,9, *сітой*. Дз. 8,14 і г. д.

4) Прыметнікі *мужч.* і *ніякага* р. адзін. ліку ў *месным* склоне канчаюцца на—„ом(ём)“, разумеецца, калі націск прыходзіцца на канчатак, напр.: у *другом* канцы. З. 81, аба *ўсём*. С. 75, па *адном*. С. 68, у *сваём*. П. 52, аб *ком*. С. 138, па сваём. Дз. 8,9, у *ём*. П. 11, аб *том*. П. 12, на *маіом*. З. 34, па *сваём*. Дз. 8,26, на *сваіом* мейсцы. З. 7, ува *усіом*. З. 10, на *іом*. З. 22, аб *усіом*. З. 24, на *усьом*. Дз. 6,5, у *ём*. Дз. 6,4.

Поплеч з гэтым знаходзім і формы на—„ым,—ім“, як відаць, перанятыя з кніжнай мовы, бо пры аб *нечум*. Дз. 6,7 маем „на *гэтым* тыдні“. Дз. 6,7 замест звычайнага „на гэтум“, а таксама: на *сім*. С. 75, у *сім* целі. С. 128, па *ўсім*. П. 30, пры *сім*. С. 69, па *маім*. П. 53, ні ў *чым* З. 10, аб *сім* досі. З. 13, аб *сім* аб *тым*. З. 13, на *адным* месцы. З. 13, у *правым* вуглу. З. 2.

[1]) (Гл. № 3, 29 г.).

5) Паказальны займеньнік „гэты“ у множным ліку мае няпоўную форму: *гэты* радкі. Дз. 8,25, *гэты* два пытаньня. З. 112, *гэты* нівы, а таксама—*гэна* збожжа. С. 157.

6) Прыметнік „рад“ зьмяняецца, напр.: *радую* стрэчу. С. 38, *рады* трызвон. С. 22, ня зусім *радымі*. *С*. 21. Апошні прыклад узяты з фразы: „З гострай прагай чакаемыя сьвяты паказваліся ёй ня зусім цікавымі, ня зусім *радымі*“. *С*. 21.

Зважаючы на тое, што ў гэтай фразе форма „радымі“ пастаўлена не ў належным значэньні замест звычайнага слова „вясёлымі“,—можна прыпусьціць, што зьменныя формы ад „рад“ становяць аўтарскі морфалёгічны новатвор.

7) Часта ўжываецца паказальны займеньнік „сё“: маю на *сё* права. С. 71, за сё. С. 129 і г. далей.

8) З рэдкіх і так ці іначай цікавых прыметнікаў пакажам наступныя: *лісьлівы* (далікатны?.. „ня хочацца, каб гарнітур змачыла: вельмі *лісьлівы* ён у мяне і можа папсавацца, зьбегчыся“. С. 97. У Мікалаўскай гаворцы (родзін. Якуба Коласа) слова „лісьлівы“ мае іншае значэньне; там *лісьлівым* называюць чалавека, з далікатна-мяккім падыйсьцём, а ў некаторых разох слова „лісьлівы“ блізка тое самае, што расійскае „*похотливый*“), але ў Гартнага знаходзім гэты прыметнік і ў правільным значэньні: „*лісьлівым* голасам запытаў Платон“. Т. 119, пакорліва-*лісьлівым* голасам пачаў сваю гутарку. Т. 119; к рабоце *пілай*. П. 20 (пільнай? І к рабоце сьпешнай, *пілай* дасьць ахвоту, дасьць пазыў. П. 20), *зыркага* (Ад сонца *зыркага* й яскрастага плыве прамень палосамі. П. 24), *цямлівай* (Сярод ночы *цямлівай*, глухой... П. 29), *скнарная* (як кабета дужа *скнарная*, хцівая-ж бяз меры і надзіва скупая, яна раптам так і ўскіпела ад злосьці на мужа: чаму ён так не шануе грошы? С. 50), *нялапая*. С. 65 (даволі вялікая), *нялапыя*. С. 65 (дзеткі ўжо *нялапыя*. С. 29), *нялапай* рэчцы. Т. 210), *бойнымі* апукамі. С. 69 (поўныя грудзі яе туга напялі кофтачку і абмаляваліся пекнымі (*бойнымі* апукамі. С. 69), пілявая. Дз. 6,7, С. 5, *пілявая* бабка. З. 50,1, *пілявая* замурзаная Тэклечка. С. 5, *рыжовая*. Дз. 8,41, *рыжовыя*. Дз. 6,3, *няпрыменнае*. С. 152 (самае *няпрыменнае*, г. зн. самае патрэбнае), *гарацешны* мужык. П. 16, *барскае* мыла. Дз. 8,30 (мыла няпростае, пахучае), *каразьлівы*. Дз. 8,12, С. 122, Т. 5 (туман густы і *каразьлівы*. С. 122, адвярнулася ад вакна з нейкай *каразьліваю* пасьпехаю. Т. 51[1]), *швыдкія*. С. 18, *нашароханыя*. С. 5 (напалоханыя), гранатавым. С. 5 (дастала адтуль скрэмзаную *гранатавым* атрамэнтам паперачку. С. 5), *паністы*. С. 40, *паністыя* ўсе. Т. 177, *паністае* публікі Сц. 60, *нічэмная*, але трывалая. З. 1, *няхлюяваты*. Дз. 6,2, *пранозаваты* пах бэзу. Дз. 8,30, *утрапёная*. Т. 28 (яна тут-жа, як *утрапёная*, з закасанымі за локаць рукамі, падбегла да вакна. Т. 28),

[1]) У проф. Бузука гэты прыметнік няправільна тлумачыцца як *каросьлівы* („Ц. Гартны ў літар. крытыцы“, стар. 184).

*хванабэрыстыя.* С. 122, *дасьціпны.* С. 115. *нізкагорсавую* кашулю. С. 98 (кашулю з нізкім *горсам,* з вялікім выразам на шыі), *картуновае* спадніцы. С. 82 (край яе лёгкае *картуновае* спадніцы дакратаўся яго пакудлачаных валос. С. 82), *бяздоннымі* вачамі. С. 57 (рас.: бездонными), *нафуфыраныя.* Сц. 9, *гарсаванай* кашулі. С. 96, *дзівосныя* цені. Сц. 239, *порсткі.* Сц. 269 (А Рыгор такі *порсткі.* Сц. 269, гарачы, нястрыманы).

Поплеч з рэдкімі, уласьцівымі адной мове Цішкі Гартнага, знаходзім многа *прыметнікаў-новатвораў,* незаўсёды трапных і удалых, напр.: *хуткацечная* рэчка. С. 79, *лямагільны* ўзгорак. С. 81, *пытацельная* ухмылка. С. 81, *трапеткае* паветра. С. 85 (ёсьць і прыслоўе—*трапятко.* Сц. 272, пільна і *трапятко* пачала азіраць пад подам, у рэчаі жарон. Сц. 272), *сьмяртовы.* П. 76 (рас.: сьмертельный), *сьмяртовай* бойцы. П. 74, *агнёнай* помстай. П. 78 і—*агнявою.* П. 75, у гутарцы *душовай.* П. 46 (рас.: душевной), у *мроклуй* хаця. Дз. 8,14, *жальлівая* спагада. С. 30, у *супроцьным* канцы. С. 29 (рас.: противоположным), *правідкія вочы.* В. 127, *супроцьны.* Дз. 8,31 (рас.: противоположный), *саднае* агарожы. Дз. 8,31 (садовае), *сумленных.* П. 81 (рас.: сомневающихся. „І“ пуглівасьць *сумленных* расьсей“. П. 81.; белр.: сумленный-рас.: добросовестный), *мажлівую.* Т. 248, *жыцьцерадай* кабеце. Т. 224 (рас.: жизнерадостной), *правідловымі.* Т. 224 (замест *правільнымі*), *бескраёваю.* С. 81 пры—*бязмежнаю.* С. 81, *няможнай* песьні. С. 49 (забароненай, рас.: запрещенной), *давернаю.* Сц. 55 (рас.: доверчивою), *усяведнае* гутаркі. Сц. 55, *надуманае.* Сц. 56 (рас.: нарочное), *правіловы.* Сц. 77 пры—*правідловымі.* Т. 224, *надуманае.* Сц. 56 (рас.: парочнай), *спакойліў* Сц. 169, з *надворнай* лёгкасьцю. Сц. 180 (рас.. наружной), *бясьцікаўны* ля ўсіх. Сц. 190, *настойным* пытаньнем. Сц. 202 (рас.: настойчивым), *крывасмагнага* самадзяржаўя. Сц. 242 (рас.: кровожадного), *заключным.* Сц. 252, (рас. заключенным), *спанраўныя.* Сц. 62 (спанараўныя?) і многа іншых.

Калі такія словы, як *правідловымі.* Т. 244, выразныя палёнізмы, то наступныя прыметнікі зьяўляюцца расіізмамі: *залацістаму.* П. 24, *напрасных.* Дз. 8,25, *кружным* пуцём. С. 30, *зашчытнага* колеру. Т. 37, *шалаўлівыя* дзеці. Сц. 134, *малейшы* шорах. Сц. 184, нічога *падобнага.* Сц. 327, *чалавечаскі.* З. 31, *ўжыўчывы.* З. 1 і іншыя.

Аб дзеяпрыметніках дзейнага і залежнага значэньня гаварылася ўжо ў пачатку гэтага разьдзелу. Тут пакажам яшчэ некалькі дзеяпрыметных новатвораў: *просячны* голас. З. 52, *нерашаючым* крокам. З. 6 (рас.: нерешительным), *наточны* меч. П. 72 (І ў ножнах жджэ *наточны* меч. П. 72), *прыназначаны.* П. 52 (І вось зноў ты прышла ў *прыназначаны* час. П. 52), з *варожачым* станам. П. 66 (рас.: враждебным), быў *палішчан* словамі. Т. 218 (рас.: польщен), *выяўную* перамену. Т. 213, зьвязаныя *неабачнымі* ланцугамі. Т. 210 (рас.: невидимыми), пайсьці на *папрошную.* Т. 76, *спадобных* ім. С. 133, *акаляючай.* Сц. 252.

Тут зварачаюць увагу дзеяпрыметнікі: *настаяшчы* дубальт. Сц. 46, *настаяшчаю.* С. 86, *падхадяшчага.* З. 52, якіх нельга лічыць за запазы-

чаныя пісьменьнікам з расійскай мовы. Гэтыя формы мне даводзілася чуць у розных народных дыялектах і ў народных песьнях „Настаяшчы" значыць *сапраўдны*.

Складаныя прыметнікі лічэбныя: *трыццацігадовы*. З. 52, *васьмігадовы*. Дз. 8,22.

## Нязьменныя словы і прыслоўныя выражэньні.

1) Прыслоўі. У прыслоўях зварачаюць увагу наступныя словы, узятыя пісьменьнікам з свайго роднага дыялекту: *спрэс*. П. 94 („жывучы спрэс для багачоў". П. 94) трохі не ў належнай для гэтага прыслоўя пазыцыі (*Спрэс*=саўсім, дазваньня), *спрэс*. Сц. 136, *наспрэс*. З. 121, *церасчур*. Дз 8,31, С. 100; *налпам* адвярнуўся. С. 110 (раптам, неспадзявана), *анэгды*. С. 128 („інакшым ад таго, якім яна яго стрэціла *анэгды*". С. 128; Польск.: onegdaj, onegda, onegdy), *сюдэма*. С. 124, *тудэма*. С. 80, *кудэма*. С. 80, *кудэю*. С. 84 (бач. Карскі „Белоруссы" т. II, 2, стр. 84—85), *дзеньня і ночна*. С. 81, *Кагадзе*. Сц. 13 (толькі што), *дзе-кольвак*. С. 74, *наўдагад*. С. 67, *адаля* (а потым). Сц. 104, *наўсягды* С. 70, *наўрад*. Дз. 67 (ёсьць і ў Насовіча: „*Наўрад*, ці хваціць хлеба да каляд"), *паўсюдах*. З. 116, *усякся*. З. 51, *усягды*. Дз. 8,22, *упадрад*. С. 147, *мэрам* С. 148, (=нібы, быццам), *цяперыча*. С. 153, *раз-по-разу*. Дз. 8,11, *беспрастанку*. П. 80, *мусібыць*. Дз. 8,12, *кудыю*. Дз. 6,5, *гасьцінньнє*. С. 36, *такведя*. Сц. 288, *ракама̀*. Сц. 150 („*ракама* нікому ня было ўшманкі"), *празапас*. Сц. 141 („які *празапас* ляжаў"), *вуньдзека*. Сц. 167, *дзівавей*. Сц. 133, *засаб*. Сц. 130, („некалькі раз *засаб*"; трэба „засаб", г. зн., у вадзін пярэдых), *заўзента*. З. 6 (польск.) *заўчэсьня*. З. 14, *суздром*. Сц. 161, *раз-ад-разу*. Сц. 180, *раз-по-раз*. Сц. 323, *дзень-у-дзень*. Сц. 223, *цёнгля*. Сц. 246, *старэнна*. С. 77, *паягонаму*. Т. 159, *порстка* шмыгнуў. Т. 56, *ніцма* Т. 32, *латва*. Т. 24, *горна*. Т. 14, *упічна* Т. 14, *двойчы*. Т. 7, *напяроймы*. С. 109, *церасчур*. С. 101, *далікатна* С. 90, *настаяшча*. С. 34, *нізашта* Дз. 8,9, *напамкі*. П. 97, *дзе-індзя*. З. 35, Т. 103, *зьнянацку*. Дз. 8,15, *займаздароў*. С. 138, *заўсягалоў*. С. 122, *надоячы*. Дз. 8,14, С. 24, *увішна*. С. 8, *нагальна* лезучы. Дз. 8,30, *жывасілам*. С. 81, чытаю *ўчуткі*. С. 74, *учорых*. С. 70, валяецца *займа*. Дз. 8,4 (дарма), *налпам* (раптам). С. 110, *омегам*. Т. 105 („ён вам *омегам* вылезе, калі я данясу, куды трэба". Т. 105).

Такія прыслоўі, як *анэгды*, *такведя*, *заўзента*, *цёнгля*—дыялектычныя палёнізмы, а поруч з імі знаходзім многа прыслоўных расіізмаў, уведзеных самым пісьменьнікам, напр.; *трэзва*. С. 138, *Увераней*. П. 35, *беражна*. Дз. 8,12, *у расплох*. Т. 240, *паміма*. Сц. 31, *нахальна*. Сц. 201, *прыятна*. С. 91, *безжаласна*. З. 78 і іншыя.

Новатворы: *прадлюдня*. С. 23,4, *гультайна*. С. 83, Т. 210, *ня ўмочу*. П. 81 (рас.: невмоготу), *спакойліва*. Сц. 15, *незаўважна*. Сц. 39, *бяспомачна*. Сц. 45 (рас.: беспомощно), *беспаварухна*. Сц. 71 (рас.: непо-

движно), *кепліва* падсьмейваліся. Сц. 137, *перасьцярожна.* Сц. 94, *пытальна.* Сц. 142 (рас.: вопросительно), *неадгінна.* Сц. 183, *безадгукна.* Сц. 199, *бязмэтна.* Сц. 260 (рас.: бесцельно), *трапятко.* Сц. 272, *бяспытальна.* Т. 249, *міжвольна.* (рас.: невольно). Т. 246, *канчаткова* [1]) (рас.: окончательно). Т. 228, *пахвільна* (белр.: што хвілю, рас.: ежеминутно) Т. 225, *нязмігутна.* Т. 208, *скорамоўна.* Т. 195, С. 4, *усебакова.* Т. 195 (рас.: всесторонне), *бясьціханна.* Т. 222 пры белар. народн.: *бесперасьціханку.* С. 157, *недавяркова.* С. 134 (новатвор ад польск. кораню, рас.: недаверчива), *прыслухна* к усяму. П. 89, *нямерна* трасучы. С. 30, *бясьцікаўна.* С. 30 *нямоўчна* (рас.: немолчно). Сц. 307 і іншыя.

Ц. Гартны ўжывае і такія прыслоўныя формы, як *сроць=сродзь.* П. 32, 38, 53, *восеняй.* Сц. 199, сёньня *вечарам.* Т. 70, Сц. 307, пры звычайным у беларускай мове—*увосень увечар.*

Д а п а м о ж н і к і. Сярод дапаможнікаў зварачаюць увагу наступныя словы: *але.* С. 43 ужываецца як слова згоды і падцьвярджэньня і як злучнік; *патом.* З. 22, П. 30 як супярочны дапаможнік „аднак"; *прэч* Т. 188 („*прэч* усе думкі!), *ласьне.* Т. 68 (пытальны дапаможнік=*хіба*), *бок.* Дз. 8,30, С. Т. 23 (=рас.: *впрочем*; „як, *бок,* завецца яна? Т. 23). А дзе-ж, *бок*, наш татка, мама? Т. 39), *тобата і то* (=то-бо-та і то). Сц. 298, *бы* як параўнальны злучнік: *бы мора.* П. 94, *бы пушча.* П. 94.

3) П р ы с л о ў н ы я  в ы р а ж э н ь н і розная значэньня. У мове Гартнага знаходзім многа прыслоўных выражэньняў чыста народнага пахаджэньня, напрыклад: *каліва. ў каліва.* З. 1 („спадобен да бацькі *каліва ў каліва*"), *ні каліва ні беднага.* Т. 10, С. 73, Дз. 8,25, ня відаць было *нікаліва.* С. 90, *заўсягалоў* яны. С. 122, Дз. 6,5, *дар-за-дар.* Сц. 76, *на ўстрым вачу.* Сц. 76, *а ён і ні рыдае.* Сц. 155, марудна, *як на заўтра трэба.* Т. 210, *няхай іх пярун спаліць.* Т. 61, *хоць язык на паліцу кладзі.* Т. 47 (скажуць, калі няма чаго есьці), *каб прымеў.* Т. 44. („Паганы лад,—*каб прымеў* дык зьнішчыў-бы да рэшты". Т. 44. Вочы-б павыколвалі табе, каменьнямі-б закідалі, *каб прымелі.* Т. 35), бадзяемся, *як сьвят бяз вума.* Т. 43, хвалілася яна *займаздароў* кожнай. С. 30, *кішмя кішыць.* С. 40, *у шкуры ня ўтоўпіцца.* С. 44, *німа ды німа.* З. 5, *каб іх дохлая узяла.* Дз. 8,9, *што за мацыя такая?* Дз. 8,33, *мацыя нашлася!* Дз. 8,33, што там *за мацыя?* С. 143 („пакажэцца мне яго, што там *за мацыя*". С. 143), *ня блізкі сьвет ісьці.* З. 50, *у шпэлах разьнясецца* П. 55, ноч цёмная, *як цалун.* Дз. 8,19, *цемь, хоць вочы выкалі.* С. 138, *займаздароў стараешся.* С. 138 (дарма стараешся), *каб цябе цяміла!* С. 10, *як нібы-та тая, той.* С. 9, *усыпалі хэферу.* С. 125, *хай-жа яе проглая возьме!* С. 126, *невялікі хвэрт.* С. 131, *запуліў гарнец гарэлкі.* С. 107, *каб на вас дохлую бог паслаў.* С. 75, *за німа нішто.* С. 78, *няхай ты залядзейся.* С. 48, *немач вас ведае.* С. 67, *ліха ведае што.* Дз. 8,4, Сц. 309. Т. С., *проглая на вас.* Дз. 8,41, *дзіва з дзіў.* З. 116,

---

[1]) Слова „канчатак" у беларускай мове чыста граматычны тэрмін.

*ходырам хадзіла.* Сц. 307 („карчма *ходырам хадзіла*“. Сц. 307), *падало ліха.* Сц. 308, *кепскія паперы.* Т. 43 („кепскія паперы, брат“. Т. 43), *не давядзі госпад.* Т. 56 („страляніна гэткая, што *не давядзі госпад*“. Т. 56), *шыварат на выварат.* Т. 84 („Усё *шыварат на выварат* цяпер робіцца“. Т. 84), *лахі пад пахі.* Т. 85 („Узяў *лахі пад пахі*, сеў на цягнікі... і дабраўся дамоў“. Т. 85), *ні званьня, ні беднага.* Т. 99, *пропадам* прападай. Т. 122, *бяз-дай-прычыны.* Т. 120.

Поплеч з гэтым у Гартнага знаходзім чыста народнае перапрашэньне: *даруй мне* С. 89 (рас.: прости и извини), народную кляцьбу і лаянкі: *дальбог-жа.* С. 45, *пся маць твая.* С. 37, *ліха матары.* З. 26, *каб цябе халера* Т. 153.

## Сынтакс

### 1) Выказьнікі і дзейнік

1) Выказьнік-дзеяслоў ставіцца ў 3-яй асобе адзін. л. ў зваротах да асобы і старэйшае і паважнае, напр.: Што, сват, гэтым *хоча* сказаць? С. 115. У такіх разох у шляхецкіх гаворках заходняе Беларусі выказьнік-дзеяслоў можа стаяць і ў другой асобе адзіночнага ліку, калі старэйшая і паважная асоба бліжэй знаёмая, але з клічным словам, выражаным спэцыяльнымі іменьнікамі, як *пан*, *васпан* ці *васан*, *ягомасьць*, *імасьць*, *вашаць* ці *вашэць*, і з пропускам асабовага займеньніка, напр.: Чаго, васпан, *шукаеш?* Ня тое, васпані, *кажаш!* Куды, ягомасьць, *едзеш?*

Але, як паказваюць звароткі (іменьнік „ягомасьць“ нават з выбухным „г“), такія моўныя звароты разьвіліся пад уплывам польскае мовы.

2) Чыста беларускімі народнымі зваротамі зьяўляюцца звароты дзяцей да бацькоў, калі выказьнік ставіцца ў множным ліку пры дзейніку „вы“, які найчасьцей не называецца. Гэта знаходзім і ў Гартнага, напр.: *Не клапацецеся*, матуля! С. 142, Мама, *ня плачце!* Т. 34.

Наогул, у Гартнага дзеці да бацькоў зварочваюцца на „вы“: Я *вас* люблю, мамачка! Т, 245. Пэўна й *вам мама*, прыдзецца йсьці. Т. 35.

Гэтак сама звычай вымагае зварочвацца на „вы“ да кожнага старэйшага ці незнаёмага чалавека. „Если младший“, чытаем у запісах Шэйна (т. II, стр. 516), „скажет старшему „ты“, то старший начинает его ругать“.

3) Прыметнікі ў сустаўным выказьніку звычайна ставяцца ў кароткай форме, напр.: Для мяне цяпер ты *не патрэбен.* Т. 181. З часам сьвет гэты будзе так *міл*, так *люб* кожнаму чалавеку. С. 36. *Вясел і рачыст* я. П. 12. Ён быў *пэвен.* Сц. 285. *Рыгор* быў *прычан...* ня спаць. Сц. 26. Сьвет *адчынен* ва ўсе бакі. Сц. 33. Ён быў *асьцярожан.* Сц. 171, будзь *спакойліў.* Сц. 169. А ты-ж хаця *здаволен?* Сц. 169. Тут не пасаг *важан.* Сц. 167, павінен быць *забясьпечан.* Сц. 168. Няўжо ён *здацен* да благіх дзей? Сц. 203. Упраўляючы быў *паліщан* словамі Ладымера. Т. 218

Людзкія гушчы... былі ім *чужы, адваротны і няцікавы.* Сц. 209. Рыгор быў *весел.* С. 83.

Гэтак сама пры выражэньні пажаданьня: Няхай здароў едзе! Сц. 106.

Радзей знаходзім у такіх разох поўную форму: А ласьня я тут *вінаваты?* Т. 68. Тры разы быў *ранены.* Т. 85. Панкел стаў *жвавы, рачысты, рухавы.* Т. 182. Усе яны некія *скрытныя, патайныя...* Т. 213. А Рыгор такі *порсткі.* Сц. 269, дык і ты *нездаволены?* Сц. 83. Рыгор быў *палішчаны.* Сц. 85. Наплыў ахвотнікаў быў *тысячны.* Сц. 207.

4) У састаўным выказьніку на месцы другога назоўнага склону часта знаходзім дзеяпрыслоўе на—„шы" або параўнальнае прыслоўе, напр.: Бацька быў здорава *вымерхаўшыся.* С. 18, жонка яго... была *вышаўшы* ў двор. С. 111, ато яны, небаракі, цэлы дзень *ня еўшы.* Т. 34. Было зусім *сьцямнеўшы.* С. 21. Натальля была *адвярнуўшыся* ад акна. Сц. 235, вярнуўся на работу *неабедаўшы.* Т. 18, дзеткі рабіліся *неспакойней і падазроньней.* Т. 19. Куды ты *невячэраўшы?* Сц. 300.

У газэце Дз. 8,33 сустрэлася раз зьменная форма па месцы дзеяпрыслоўя: Чулася *ня выспаўшай.*

Тут мы маем творны прэдыкатыўны, выражаны дзеяпрыметнікам дзейнага значэньня прошлага часу. Гэта рэдкая ў беларускай народнай мове форма дзеяпрыметніка дзейнага значэньня, як відаць, не аўтарскі морфалёгічны новатвор, а ўзяты пісьменьнікам з прыроднага дыялекту.

Цікавы дзеяпрыслоўныя пазыцыі знаходзім у такіх сказах: Ужо маем *праехаўшы* больш соткі вёрст. Сц. 57, і дома *быўшы,* чуў яго шолам. Сц. 76. Я сустрэла яе з бацькамі *ідучы* з поля, Дз. 8,30. Я прышоў і застаў яе *лежачы.* Т. 129.

У вапошніх прыкладах мы маем дзеяпрыслоўе „ідучы", „лежачы" ў ролі другога вінавальнага склону. У такіх разох сувязь дзеяпрыслоўя з сваім словам у сказе няяснаю, і пісьменьнік у сваіх пазьнейшых творах часта абарачае такое дзеяпрыслоўе ў зьменную форму, напр.: („пазіралі ў вакно, думаючы угледзіць іх) *ідучымі*", замест звычайных у народнай мове зваротаў з дзеяпрыслоўямі, як напр.: Ці ня бачыў ты войска *ідучы?* Знайшлі яго пад кустом *сплючы.* Ой зіма мая маразьлівая! не марозь мяне з паходу *ідучы,* каня *вядучы,* шаблю *нясучы,* зброю *вязучы* (н. песьня). Пад вароты пад'яжджаючы, чую брата *гаворачы.* (Н. П.).

Разумеецца, у навуковай мове, якая патрабуе сьціслай дакладнасьці, ужываць дзеяпрыслоўі ў гэтай пазыцыі нельга, бо іх можна было-б зьвязаць з дзейнікам і тым зацямніць сэнс сказу, але ў прыгожым пісьменстве ўхіляцца ад такіх зваротаў няма ніякай падставы, бо ў народнай звычайнай і песеннай мове яны вельмі пашыраны [1]).

5) Пры наяўнасьці дзеяслова ў састаўных выказьчіках, на месцы другога назоўнага склону, выражанага назоўнікам, прыметнікам ці дзеяпрыметнікам, знаходзім творны прэдыкатыўны, напр.:

[1]) Глядз. наш „Сынтакс белар. мовы" стр. 220—221, а таксама „Некаторыя ўвагі да белар. літаратурнай мовы" (Журнал „Полымя" за 1924 г. № 2, стр. 199--201).

Скора стала *цяжкаю*. Сц. 309. *Ганнаю* завуся я. Сц. 50. Вярнулася дамоў *аднэю*. Сц. 328. Янка *пашоў адным* цераз пасекі. Сц. 22, *вышаў адным* на ўзьбярэжную. Сц. 179, яму вельмі *цікавым было* кожнае слова таварыша. Сц. 33. Абы прышоў *цэлым*. Сц. 153. Каб ты была *добраю*. Сц. 265. Пагода выдалася *ціоплаю, пекнаю*. Дз. 6,4, стаў *заядлым, нeўтамімым змаганьнікам*. Сц. 33, рэвольвэр... *ляжаў* празапас *захаваным* у страсе падпаветкі. Сц. 141, Птаства *было* датаго *сьмелым*, што... Сц. 109, стаялі *перастаўленымі* тры крэслы. Сц. 67. Прышлі *першымі*. Сц. 133, была *добраю рахманаю дзяўчынаю*. Сц. 121. Пэўна, што *галодным* паехаў, небарака. Т. 12. Дзень выдаўся *ясным пагодным*. С. 141. Толечкі вярнуўся з фронту *раненым, пакалечаным*. Т. 174, мы астаёмся *параможанымі*. Сц. 298, якімі-б мы былі *моцнымі*. Сц. 298. Што-ж будзе, калі яна застанецца *аднэй?* Т. 121.

Пры адсутнасьці дзеяслова стаіць другі назоўны склон часам з творным для памацненьня, напр.: Наша рэч *старыкоўская*. Т. 90. Старасьвецкія людзі *хітрэйшыя* за сучасных. Т. 90. Я *адна аднэю* тут. Сц. 323. Яна засталася *аднэю адна*. Т. 249. Невялікае памяшканьне было *біткам набіта* людзьмі. Т. 164. А ласьне тут я *вінаваты?* Т. 68.

Творны прэдыкатыўны можа стаяць і на месцы другога вінавальнага склону, напр.: Пакінулі яго *адным*. Сц. 263. Сёмка знарок пратрымаў каня *спыненым* некалькі хвілін. Сц. 117. Наліў яго *поўным* ізноў. Дз. 6,3.

Поплеч з гэтым часта ўжываецца і другі вінавальны склон: Застаў хворую маці *адну-адзінюткую*. Т. 131.

б) Творны прэдыкатыўны як-бы чаргуецца з давальным прэдыкатыўным, напр.: Можа няшчасьненькаму, трапляецца цэлымі днямі *галоднаму і халоднаму быць*. С. 78. Як тут сядзець ...*галоднаму?* Т. 83. Думай, ня быць мне *жывому*. Т. 85. Часта траплялася... *быць бітымі*. С. 80. Ня шкодзіць *быць старожкім*. Сц. 143. *Дзеравянаму* трэба *быць чалавеку, бяздушнаму*... Т. 88.

Пасьля „быць“ знаходзім і другі назоўны склон: „Ды ці мог ён, Рыгор, *быць праконан* да поўнасьці, што Зося ні каліва, ні беднага ня любіць Васіля?“ С. 86.

7) Што да простага выказьніка, то тут заўважваюцца наступныя асаблівасьці:

а) форма загаднага ладу на месцы абвеснага: А Сёмка *вазьмі і прыедзь*. Сц. 101, а тыя *вазьмі і паслухай*. Сц. 120, а мне—пропадам *прападай*. Т. 122.

б) незваротны стан замест зваротнага: Яны *накіравалі* да дзьвярэй. Сц. 129.

в) пераходны дзеяслоў на месцы непераходнага: з коміну *гнаў* слупамі дым. Т. 83.

г) абагульненьне двух працівалежных паняцьцяў з адмоўем „не“: *Зробіць ня зробіць, вылячыць ня вылячыць*, а тут яшчэ да задзіру можа дайсьці. З. 9. *Будзе ня будзе* пагоды, а... трэба зьбірацца на касавіцу. Сц. 130. *Утаміўся* не ўтаміўся, а трэба йсьці. Т. 41.

Такія звароты вельмі пашыраны ў народнай і песеннай мове, напр.: *Купіў—ня купіў*, а патаргавацца трэба. *Хітры—ня хітры*, а сядло есьць. (Федароўскі, т. III, ч. II, стр. 161). Ці *стаяла—не стаяла* толькі тая слава (п.) (Параўнайце гэтыя звароты з такімі прыслоўямі, як—*калі-ні-калі, як-ні-як, дзе-ні-дзе)*[1]).

д) выказьнік, выражаны некалькімі дзеясловамі: На грошы ды *пайдзі пастарайся купіць*. Т. 249.

е) дзеясловы „ведае“ і „знае“: Бог сьвяты *ведае*, бог сьвяты *знае*, як яму там паводзіцца. С. 78.

ж) форма ўмоўнага ладу для выражэньня просьбы, пажаданьня: *Няхай-бы* ты, сынок, *пасьцярогся, няхай-бы* ты *памаўчаў*. Сц. 323.

8) У падвойных выказьніках знаходзім такія звароты: і яна *засталася маўчаць*. Т. 155 („Агнэса перш штосьці хацела папярэчыць Андрэю, але разам загразла ў яе горле тое, што яна мелася выказаць, і яна *засталася маўчаць*“. Т. 155). А прыедзе сюды—і *давай пераймаць* другіх. Сц. 120.

9) Форма „проша“ (польск.: proszę): *Проша* сядаць. С. 34. *Проша* Васіль! Дз. 6,3. Гэта дзеяслоўная форма польскага пахаджэньня вельмі пашырана ў заходня-беларускіх дыялектах. Страціўшы ў беларускай мове сваю асабовасьць, яна стала ўжывацца ў зваротах для вырашэньня ветласьці, гасьціннасьці як некае прыслоўе гасьцінна-ветлага характару, напр.: Можна ўвайсьці?—*Проша* (замест „прашу“). *Проша* есьці! *Проша* за стол! *Проша* закусіць! *Проша*, слаўны гаспадару! (валачбн. п., чачот). *Проша*, музыканце, перастаць іграць: будзем княгіню бослаўляць! (з вясельн. прамоваў). А вы, калядныкі, *проша* ад нас! а вы, малойчыкі, *проша* к нам! (з калядных песень)[2]).

10) У мове Гартнага часта знаходзім дзеяслоў „маецца“, поплеч з правільным яго значэньнем („А паглядзець хочацца, як і што ён там *маецца*“. Сц. 34), у значэньні расійскага дзеяслова „имеется“ на месцы звычайнага ў беларускай мове „ёсьць“, напрыкл.: У вас *маецца* здольнасьць добрага гаспадара. Т. 223. Вось у нас *маецца* мізэрнае гаспадарства. Сц. 128. А дзе *маецца* хоць зданьне... С. 71, *маяцца* прыці. Дз. 8,31, *маюцца* адбыцца. С. 71 і г. далей.

Звароты з дзеясловам „маецца“ замест „ёсьць“ ужываюцца і іншымі нашымі маладзейшымі пісьменьнікамі. Тымчасам у Коласа, Купалы, Каганца, Ядвігіна Ш., Гаруна, а таксама ў старых нашых пісьменьнікаў, як

[1]) „Некат. увагі да белар. літ. мовы“, „Полымя“ № 3, 1924. О. Курыло „Увагі да сучасн. украін. літ. мовы“, стар. 63. выд. 1923 г.

[2]) У нашых „Увагах да белар. літар. мовы“ („Полымя“ № 5, за 1925 г.) слова „проша“ няправільна тлумачыцца як беларускае прыслоўе.

Марцінкевіч, Багушэвіч, Няслухоўскі, мне не даводзілася спатыкаць сказаў з зваротным дзеясловам „маецца“ ў гэтым значэньні. Гэтак сама народная вусная творчасьць не дае нам прыкладаў на такія звароты.

Аб значэньні дзеяслова „маецца“ ў беларускай мове мне даводзілася пісаць у журнале „Полымя“ за 1925 г. (глядз. „Увагі да белар. літар. мовы“, стр. 145), а таксама ў „Узвышшы“ за 1927, № 5, стр. 195—7. У нашай мове „маецца“ выражае стан чалавека—душэўны ці матар'яльны („Як *маешся*? Як-жа дзеткі вашы *маюцца*?“), і гэтым словам нельга перадаваць расійскага дзеяслова „имеется“. Калі парасійску скажуць: „У меня имеется три рубля“, то пабеларуску трэба сказаць: „Я *маю* тры рублі“, або—„У мяне *ёсьць* тры рублі“. Карацей кажучы, зваротная форма дзеяслова ад „маць“—„мець“ у беларускай мове ўжываецца толькі ў адносінах да стану чалавека.

Такім парадкам трэба прызнаць, што паказаныя звароты з „маецца“ пачалі заходзіць у нашу літаратурную мову пад уплывам расійскіх зваротаў, дзе суадпаведная морфалёгічная форма „имеется“ ня мае таго значэньня, якое маюць беларускія формы *маешся, маецца*.

11) Гэтак сама няправільна ўжываюцца формы ад „адчыніць“, напр.: выняла... канвэрт ды намерылася яго *адчыніць*. Сц. 302. Цяпер яны прыселі да стала і шчыра, да адказу *адчынілі* вусны. Сц. 122, *адчыніць* сваё дзела. Сц. 104, нарэшце знашлася магчымасьць *адчыніць* рот. Сц. 53, парываўся *расчыніць* рот. Сц. 47. Вочы заплюшчыліся самі, і як ня тужыўся ён *адчыніць* іх—ня мог. Т. 58, маніфэстацыя... спынілася й *адчыніла* мітынг. Т. 184. А пакуль пасьпеў *адчыніць* рот. Т. 123.

З гэтым значэньнем ужываюцца гэтыя формы і некаторымі іншымі нашымі маладзейшымі пісьменьнікамі, а таксама ў перакладзе тэксту да вядомай „Калыханкі“ Мацарта: „вочкі свае *зачыні*“.

Тымчасам у народнай мове „адчыніць“ „зачыніць“ значаць тое самае што расійскія „отворить, „затворить“. *Адчыніць* ці *зачыніць* можна дзьверы, вокны, хату, краму, гумны, хлявы—усё, што мае дзьверы, але ня вочы ня рот, ня вусны або мітынг, курсы ці сходы [1]). Пра мітынгі курсы, сходы, ці што падобнае лепш сказаць, як і па расійску, *адкрыць* ці *закрыць* бо гэтыя словы маюць агульнае значэньне.

У „Віцебскім краёвым слоўніку“ чытаем: „*адчыніць*, 93 с.—открыть [2]). *Адчыні дзьверы!* Зачыняць, 93 с.—закрывать [3]). *Зачыні дзьверы!*

У слоўніку Насовіча: *Зачиняць, зачыниць*—затворять. Твой бацька хлѣвы зачыняв, коли коній, крав, а ты, не зачинивши дзьвери, пошов (пага-

---

[1]) Глядзі О. Курыло „Увагі да сучасної укр. літ. мови“. Выд. 1923 г. Стр. 67.

[2]) „Увагі да белар. літ. мовы“. „Полымя“ 1925 г. № 5. Стр. 145.

[3]) Журнал „Узвышша“ за 1927 г. № 5, Стр. 197. Няправільна, трэба—*отворить* і *открыть*.

ворка). *Зачиняцьца, зачиницьца*—затворяться. Дзьвери не зачиняюцца, не зачинились. А пад словамі „отчиненый, отчиниць, отчиницьца, отчиняць, отчиняцьца“ чытаем: В *отчиненую* хвортку коні сойдуць со двара. *Отчиняць, отчиниць* вороты, вокно. Отчини, мамухна, вaконце, везём невестку, як сонце“.

Нават нашы акадэмічныя выданьні [1]) няправільна ўжываюць слова „адчыніць“, пішучы *адчынены* або *зачынены* склад, не зважаючы на тое, што такога граматычнага тэрміна ў нас няма. У Тарашкевіча—„Беларуская граматыка для школ“, стр. 12-ая ў вынасцы,—і ў нашай лінгвістычна-граматычнай тэрміналёгіі знаходзім: *закрыты* і *адкрыты* склад.

Пра *вочы* ў слоўніку Насовіча пад словамі *заплюскиваць, заплюснутый, заплюснуць, заплющеный, заплющиваць, заплющивацьца* чытаем: „Спиць, а вочи не заплюснутыя. Не заплющивай вачей. Лежиць, заплющивши вочи, нибыто спиць“. Гэтак і ў „Віцебскім краёвым слоўніку“ пад словам „заплюснуць“: „Заплюсьні ты вочы. Сядзіць, заплюснуўшы вочы“. Гэтак сама і ў Гартнага: „Вочы *заплюшчыліся* самі.“ Т. 58 і тут-жа—„і як ня тужыўся ён *адчыніць* іх—ня мог“. Т. 58, а таксама—з *адплюшчанымі* вачыма. С. 6.

Ясна, што няправільнае ўжываньне ў нашай літаратуры слова „адчыніць“ становіць рэзультат няправільнага перакладу расійскага слова „открыть“.

12) З безасабовых сказаў зварачаюць увагу сказы, дзе дзейнікам мог быць назоўнік лічэбны, напрыклад: *Таўклося* каля дзьвёх соцень народу. Сц. 174. *Сядзела* дзесяткаў са тры пасажыраў. Сц. 43. Рынак не даваў і знаку, што колькі *соцень* людзей *пералілася* з яго на цьвінтар. Сц. 135, з павятовага гораду *зьяжджаецца* на гэты дзень *тысячы* народу. Сц. 134. Пацікавіцца гэтым *падасьпела* з рынку яшчэ *каля сотні* чалавек Сц. 136. Вас *двaіх* у бацькоўды абое дома. Сц. 103. *Сядзела* дзесяткаў са тры пасажыраў. Сц. 43. На лаўках *сядзела* з пяць сялян у жоўтых кажухох Т. 89.

Пры дзейніку-лічэбніку з больш пэўным значэньнем, а часамі і бяз гэтага выказьнік закасоўваецца з ім, напр.: *Стаялі* перастаўленымі *тры* крэслы. Сц. 67. *Тупалі тысячы* людзей. Сц. 135. Адна за аднэю *трое* хурманак *загрукацелі* усьцяж вёскі. Сц. 37. Настрэчу *прашло некалькі* чалавек. Сц. 197. *Стаяла некалькі* дзесяткаў сельскіх падвод. Сц. 42.

13) Пры некалькіх дзейніках адзіночн. л., пастаўленых перад выказьнікам, або пасьля яго, выказьнік ставіцца ў множным ліку, напр.

[1]) Напр.: П. А. Бузук „Спроба лінгвіст. географ. Беларусі“, „Запіскі аддзелу гуманітарн. навук“ т. І-ы і іншыя.

Шолам, стукат, бразгатня *аддаваліся* ў кожным шораху дрэў у садох, у скрыпе варот. Сц. 269. Дзе *дзеліся* тыя ўтома, млявасьць і санлівасьць. Сц. 110.

14) Цікавы зварот знаходзім з дзейнікам „людзі" у такіх, сказах: Мяне... вельмі любіў настаўнік: заўсёды казаў, што... з мяне *могуць выйсьці людзі.* Т. 54. Ай, ды ты мой разумнік!—гладзіў Андрэй па галоўцы сынка,—*выйдуць, выйдуць людзі!* Т. 54.

15) Пры назоўніках лічэбных „два"—„дзьве", пры якіх даўней стаяў парны лік, а таксама пасьля „тры" і „чатыры" прыметнік-азначэньне стаіць у *родным* склоне, а іменьнік—у назоўным або вінавальным склоне множнога ліку, напр.: Прыкмецілі пры адным стале *дзьве парожных крэслы.* Сц. 43, два *нявысокіх* кастры кніжак. Сц. 68, стаялі тры *старэнькіх* хацінкі. Т. 45. Гэта-ж за ноч не ўбярэш *гэтых* пятнаццаць вёрст. Т. 60.

Але, як і ў народнай мове, знаходзім і граматычна-правільнае дапасаваньне, напр.: Спрэчкі... напаўнялі дзьве *невялікія* каморкі. Т. 139 [1]).

## Дапаўненьні без прыназоўнікаў

**1) Вінавальны склон:** а) пасьля пераходных дзеясловаў стаіць форма назоўнага склону, напр.: Заганяць *каровы.* Дз. 8, 30, пасьвіць *каровы.* Сц. 32, помніць твае *дзеці.* П. 74, заганяйце *каровы.* Дз. 8, 31. Гаўрыла па чарзе хвасянуў па разу *коні.* Т. 212, але шкадавала *мацярок,* шкадавала *хлапцоў.* Сц. 266, ганяе *курэй* З. 33. Вучы *дзяцей* бацькі не ўважаць. Т. 15, не пасьпеў ён рассупоніць *хамута* Сц. 102.

б) вінавальны часу: Спаў цэлую *пару.* С. 39. Мінула *гадзіну* часу. С. 140. Бывала Янка *што-тыдзень* у мяне, а я ў яго. Т. 90. У рабочых раёнах *каторы дзень* ня сьціхалі маніфэстацыі. Сц. 254.

в) другі вінавальны склон, выражаны дзеяпрыслоўем: Я сустрэла яе з бацькам *едучы* ў поля. Дз. 8, 30, застаў яе *лежачы,* Т. 131.

2) вінавальны склон з месным значэньнем: Адганяючы *прэч* усе страшныя думкі. Т. 188.

д) вінавальны склон пасьля „думаць": думаць усялякую *ўсялячыну.* Сц. 325.

**2) Родны склон:** а) на месцы роднага прыналежнага звычайна стаіць прыметнік прыналежны, напр.: *Зосін* твар. С. 87, таварышы *Грыгоравы.* С. 100, *сынава* гора. С. 120, *мацерын* рассуд. С. 122, *мацерыных* грудзей. С. 122, *Людвісінага* пахаджэньня. Т. 31, *дзяўчынінага* (дзявочага?) нутра. Сц. 256, ішла між *Васілёву* хату. Дз. 6,4, *Сёмкавы* думкі. Сц. 100, з *Сёмкавым* бацькам. Сц. 123, *ведзьмін*

[1]) Глядз. наш „Сынтакс белар. мовы", стар. 160 і Карскі „Белоруссы", т. II, 3, стр. 125.

сын. С. 80, *Ганьніна* прычоска. Сц. 52, *Вольчыны* намёкі. Сц. 287, *мацерын* твар. Сц. 216, на *Ганьніным* твары. Сц. 52 і тут-жа—на твары *Рыгора*. Сц. 52.

І наогул, ёсьць многа зваротаў з родным склонам пры назоўніках рознага значэньня, напр.: Салодкі водыр *мёду*. Т. 229, варотамі *хлявоў*. Т. 236, паветра *панадворку*. Сц. 176, тупату *кабылкі*. Сц. 39, стуку *калёс*. Сц. 39, песень *касцоў і жняцоў*. С. 148, боль *сэрца*. Сц. 20, шула *вешніц*. Т. 26, бéрага *сажалкі*. Т. 253, паветра *панадворку*. Сц. 178, словы *мацеры*. С. 122, будынкаў *гораду*. Сц. 59, сьцяна *паркану*. Сц. 226, варт назовы *будаўніка*. Сц. 63, з вобразаў *мастака*. Сц. 68, стýпу *ног*. Сц. 74, з вокан *хат*. Сц. 116, на тэму *дня*. Сц. 244, поскубы *жыцьця*. Сц. 257, да пытаньняў *роду*. Сц. 258 і іншыя.

Родны і азначальны з прыметнікамі. Стэпы *Нязвычнай сын*. С. 143, небасхіл *яго агляду*. Дз. 6,3, плян *сёнешняга дня*. Сц. 72, шапка *чорных кос*. Сц. 257, за рогам *суседняга будынку*. Т. 107, анталяжамі *лёгкага сьнегу*. Т. 94.

б) родны склон часьці (пры дзеясловах): Няхай павыскальваюць *зубоў*. З. 19, густыя камякі *дыму*. Сц. 126.

в) родны прэдыкатыўны: і ты *маіх думак?* Т. 87. (рас.: и ты моего мнения?).

**3) Давальны склон**: а) давальны: для абазначэньня асобы або прадмета, на карысьць ці на шкоду якога накірована дзеяньне. Яно бадай і праўда *гэтаму*. С. 143. Я сама *таму* вінавата. С. 4. А хто і што *таму* віною? Т. 68. Няўжо *таму* праўда? Сц. 219. *Мне* сэрца баліць. Т. 129. Як-бы была яна абрадавана яго *пісьму!* Сц. 294, *гэтаму* яна мусіць радавацца. С. 23.

в) давальны прэдыкатыўны: Васіль яшчэ малы, а гаспадарства (?) дзякуй богу, нялапае,—і што-ж ты *аднэй бабе* зробіш?! Сц. 118.

г) давальны склон пасьля „вучыць“, „паведаміць“: вучыліся *гэтаму*. С. 23, хутчэй паведаміць *Рыгору* ў пісьме аб Зосіным жыцьці. Сц. 294.

**4) Творны склон**: а) творны часу: калі мы былі яшчэ *хлопцамі* С. 120. Сабралі *нядзеляю* сход мужыкоў. Сц. 120. Прыходзьце *нядзеляю* Сц. 129. А летась *восеняй* кінула. Сц. 199, сёньня *вечарам*. Т. 70, скончылася на чацьвёрты дзень *вечарам* Сц. 203.

б) творны прэдыкатыўны: Усё роўна карчма *карчмою*. Т. 80, тыя, што прышлі *першымі*. Сц. 133, жыцьцё было для яе *саракма пакутамі*. Сц. 133, прышоўшы *трэцімі*. Сц. 299.

в) творны на месцы назоўнага: Ушчуваць можаш, нябось, а *самой* зрабіць няздатна. Сц. 130 (аб творным прэдыкатыўным глядз. яшчэ вышэй).

г) творны параўнальны: карчма *ходырам* хадзіла. Сц. 307.

### Дапаўненьні з прыназоўнікамі

1) *Прыназоўнік* **аб** з *вінавальным* склонам для выражэньня прадмета мовы: Васіль дачуецца аб *Зосін* грэх і будзе мсьціць (?) ёй за гэта. Сц. 160 і з *месным* склонам з тым-жа значэньнем: гаварыцьме з сялянамі *аб* гарадзкім *жыцьці*. Т. 212.

2) *Прыназоўнік* **ад** з родным склонам для выражэньня параўнаньня і выдзяленьня часьці з цэлага: а) багацей *ад нас*. Т. 15, інакшым *ад таго*. С. 128; б) Рыгор спадзяваўся стрэць каго-колечы *ад* знаёмых. Сц. 247.

3) *Прыназоўнік* **да** з родным склонам для выражэньня мяжы, да якой даходзіць дзеяньне ў месным і пераносным значэньні: Паехалі *да хаты, да гасподы*. З. 27, *да трыццаці гадоў*. С. 26, сапраўдны сэнс позвы *да станавога* (чаго выклікаюць да станавога). Сц. 319, вылавіла ўсё *да дробкі*. Т. 208. Я так сабе, *да слова*, сказаў. Сц. 100.

4) *Прыназоўнікі* **для і дзеля** ставяцца бяз розьніцы ў значэньні часта ў няправільнай пазыцыі з парушэньнем яснасьці сказу, напр.: са шчырасьцю працуе *для* савецкае *ўлады*. Т. 252 (гэта можна зразумець і ў месным значэньні). *Дзеля яго* зямля—як абраз *дзеля мастака*. Сц. 100 (гэты зварот можна зразумець і ў прычынным значэньні, а тады адразу траціць сэнс). Харашу я яго *дзеля густу* людзям. П. 11. Каму і *дзеля чаго* я карысна? Сц. 104 (тут-бы трэ' было сказаць: каму і на што я патрэбна). Вы *дзеля мяне* найлепшыя сваякі. Сц. 123 (зноў можна зразумець у прычынным значэньні). Дэмонстрацыя вышла досі выдатнай (?), хоць закончылася *дзеля* самое *Наталі* пабоямі. Сц. 255, арышты... нічога нявартыя рады, якія вораг карыстае *для змаганьня* з магутнаю сілаю дзесяткаў тысяч рабочых. Сц. 256 (гэтаю фразаю пісьменьнік хацеў сказаць, што „аресты—бессильные меры, предпринимаемые врагом для борьбы с рабочими“), ішла „на кватэру да Грыгора, які... станавіўся неадрыўным (?) *дзеля яе* бягучага (?) існаваньня. Сц. 256.

Карскі піша, што „для“ і „дзеля“ зусім супалі ў сваім значэньні („Белоруссы“ т. II, 3, стр. 171), аднак ў літаратурнай мове іх трэба разрозьніваць. Звычайна ў народнай мове прыназоўнік „дзеля“ ставіцца для выражэньня прычыны з значэньнем ц.-сл. „ради“. (*Дзеля дружбы* цыган павесіўся. Паканец столу настаялася, усім піцюхны надавалася: старому *дзеля старасьці*, малому *дзеля маласьці*, роўнаму *дзеля роўнасьці*. п); у іншых выпадках знаходзім „для“ або скарочан. „ля“: Гэта кветка не *для* твайго *носу*. З таго сэрца (са злосьці) зельле варыла не *для друга*, не *для мілага*, а *для брата, ля радзімага* (п.) (глядз. наш „Сынтакс. Белар. мовы“, стр. 190; а таксама артыкул „Увагі да бел. літ. мовы“, „Полымя“ за 1925 г. № 5, стр. 139—140).

5) *Прыназоўнік* **з** а) з *родным* склонам для выражэньня часу: пашоў *з цемнага*, дык і цяпер няма. Т. 56; пасьля „сьмяяцца": А мне толькі сьмешна было з *гэтага.* Сц. 175;

б) **з** *творным* склонам пасьля „жаніць": мы цябе згодны жаніць *з ёю.* С. 28. Калі жаніцца, то толькі *з Зосяй.* С. 28.

Але пасьля „жаніць" знаходзім і расійскія звароты, напр.: я думаю гэтага хлапца жаніць *на тваёй дачцы.* С. 51.

6) *Прыназоўнік* **за** а) для выражэньня параўнаньня з *вінавальным* склонам замест *роднага* адыходнага: разумнейшы *за яго.* С. 82, лепей *за* другога вучонага. С. 82. Старасьвецкія людзі ўсе хітрэйшыя *за сучасных.* Т. 90.

Але поплеч з гэтым знаходзім і *родны* склон для параўнаньня пад уплывам расійскай мовы, напр.: больш *сямі* месяцаў. С. 32, ня больш *дваццаці* хвілін. С. 22, ніжэй *яе* па значнасьці. Т. 130.

б) для выражэньня зьмены ў стане прадмета: Старэйшая сястра... была за *гаспадыню.* Т. 90. Не здарма каторы раз яго воласьць абірае *за старшыню.* Сц. 119, дачка яго... у дварэ *за ахмістрыню.* З. 4, за вошта мне ўчапіцца дома? Ці да Бэркі шкляра *за балагола?* Ці да Вагуцкага ў двор *за парабка?* Сц. 32.

Рэдкі зварот *з прыназ.* „за" знаходзім у сказе: Белыя хвартухі служак... сьведчылі *за ахайнасьць.* Сц. 179.

в) пасьля „вучыць": за год пасьпеў падвучыцца *за сьлесара.* Сц. 32. Як Сымонка паедзе вучыцца *за інжынэра,* хай нам лялек прышле. Т. 54, *за інжынэра* навучым Т. 54.

г) **з** *творным* склонам для выражэньня спосабу дзеяньня: паабедалі за *хэўраю.* С. 132, прычыны—ня было росту траве *за непагодаю.* З. 2.

7) Прыназоўнік **з-за** з *родным* склонам для выражэньня прычыны: А ты ведаеш, Мартуля, *з-за якой прычыны* я сёньні крыху пахмяліўся? С. 51. І тут-жа, у вадказе Марты, зусім небеларускі зварот з прыназоўнікам „па": Марта... запытала: „А *па якой?*" С. 51.

8) *Прыназоўнік* **між** а) з творным і вінавальным склонам для паказаньня месца дзеяньня на граніцы паміж якімі-нібудзь прадметамі: Тоўсты жоўты сабака... чутліва ляжаў у кутку *між плотам і брамаю.* Сц. 143. Хлопцы пераглянуліся *між сабою* і некі час памаўчалі. Сц. 128, *між* іх *зелень* відаць было некалькі крыжоў. С. 90.

б) з *родным* і *вінавальным* склонам для выражэньня руху дзеяньня побач чаго-нібудзь, напр.: Марыля Рубец... не прапусьціла Ігнася *між ваччу* і *між увагі.* Т. 105, нюхам чуў гэта майстар і сёньня ні разу не прайшоў *між Рыгора.* Сц. 223. *Між бакі* вялікага квадратнага пляцу цягнуліся праходы—дарогі, а па іх бесканечнаю чарадою тупалі тысячы людзей. Сц. 135. А кудэю пойдзем—*між граніцу* ці лесам? С. 84, зварочваўся да ўсіх, *між каго* праходзіў.

Сц. 245. Волька праязджала *між хаты* Прыдатных. Сц. 277. Цьвінтар... быў абгароджан каменным павапленым парканам, *між якога* ў радок кругом царкві расьлі высокія плакучыя бярозы. С. 90, белым уборам пахучага квету, як макам, засыпаў (? няма дапасаваньня. Я. Л.) гразкаватую зямлю *між* новага *частаколу* як у садку, так і знадворку. С. 111. Ладымер разам спыніўся і паглядзеў *між бераг* сажалкі, да якой яны падышлі Т. 253, ішла між Васілёву *хату*, Дз. 6,4, падыходзілі новыя пасажыры, мігаючыся *між* Сёмкаў *погляд*. Сц. 45.

Гэтыя звароты трэба прызнаць рэдкімі ў нашай літаратурнай мове. Калі *творна-вінавальны* склон з прыназоўнікам „між“ у першых прыкладах выражаў дзеяньне паміж *дапаўняльнымі* прадметамі, то ў зваротах з *родна-вінавальным* склонам выражаецца месца дзеяньня паміж самым дзейнікам і дапаўненьнем.

в) *З родным* склонам прыназоўнік „між“ ужываецца і з творна-вінавальным значэньнем, але рэдка, напр.: Пралазячы *між людзей*, разглядала і азіралася назад. Сц. 136.

г) Спатыкаецца і прыназоўнік „паміж“ з родным склонам гэтак сама з месным значэньнем: *паміж плоцьця, паміж сьцен*. Дз. 8,3.

д) *Прыназоўнік* **на**, апроч звычайнага меснага значэньня, з *вінавальным* склонам выражае а) пры *дзеясловах* спосаб дзеяньня, мэту ці што падобнае: сэрца *на вугаль* счарнела, жылы на дрот згартаваліся. Сц. 76, расчэсаныя *на прадзел* валасы. С. 83, увіхаўся з сухастоінаю-ялінаю, апрацоўваючы яе *на рубель* (прыладу). Сц. 131. Рабочых можна было палічыць *на пальцы*. Сц. 247. Абое разьнялі рукі *на ператоч* шырыні дзьвярэй. Т. 110, некі цяжар... кідаў *на сударгі*. Сц. 6, пайсьці *на папрошную*. Т. 76.

б) пры *іменьніках*: вокны *на чатыры* шыбы. С. 76, ідзе гандль *на збожжа, на жывёлу, на рэчы* хатняга вырабу. Сц. 134.

в) пасьля слова „падобен“: дзяўчына была падобна *на Зосю*. Сц. 45, клямка з прадоўжнаю ручкаю таксама падобілася *на тройку* (цыфру). Сц. 89, калі тое будзе, што магчыму я з поля прыехаць падобным *на чалавека*. Сц. 124, і я *на пудзіла* нейкае падобна. Сц. 12.

Поплеч з гэтым часта спатыкаюцца чыста расійскія звароты з прыназоўнікам „на“ напр.: „Вось *на днях* павінен адбыцца паўторны станоўчы (?) сход дэлегатаў“. Сц. 81 (тут нават расійская морфалёгічная форма—„на днях“; пабеларуску было-б „на днёх“). Такія *часоўныя* звароты прыназоўніка „на“ з *месным* склонам *множн*. л. ужываюцца нашымі газэтамі і ў канцылярскай перапісцы пад уплывам расійскай мовы. У такіх разох пабеларуску трэба ставіць *творны* склон—*гэтымі днямі*, як у народнай мове, напр.: „Калі-ж цябе, сынку, у госьці чакаці? ці *глыбокімі сьнягамі, ці зялёнымі лугамі, ці вішнёвымі садамі?*“ [1]).

[1]) Глядз. нашы „Граматычныя нататкі“, журн. „Узвышша“ № 5, 27 г., стар. 106.

Але зусім правільна пабеларуску, калі сказаць: *на тым тыдні* або *на гэтым тыдні* ці *на гэтай нядзелі* („сядзелі *на гэтай нядзелі*"— прыказк.), дзе для выращэньня часу прыназоўнік „на" злучаецца з *месным* склонам *адзін. л.*

Гэтак сама прыназоўнік „па" ў беларускай мове злучаецца з *давальным* склонам *адзін.* ліку, але ня ставіцца з давальным склонам *множн.* ліку; у такіх разох стаіць *месны* склон *множн.* ліку, напр.: Павявайце вы, ціхія вятры, *па полю шырокаму, па жыту ядронаму,* ах павявайце! (песьн.), але—*Па межах* хадзіў жыта радзіў (п.). *Па вуліцах* пацяклі равочкі каламутнае вады (Я. Колас). Чарот расьце *па балотах.*

10) *Прыназоўнік* **над** з *вінавальным* склонам пры выражэньні переваґі, параўнаньня: *над* родны *край, над* родную *старонку* нічога даражэй не знайсьці ў сьвеце. С. 77.

11) *Прыназоўнік* **па** з вінавальным склонам—ад для выражэньня *мэты* ці руху да пэўнае мяжы: прышоў *па грошы па даўгі.* З. 24, зьбегаць *па каня.* Дз. 6,4, я *па цябе* забягу. С. 75, прыбег *па яе* Васіль. Сц. 309, паслала *па траву,* ішлі *па ваду.* С. 16, 18.

б) для выражэньня меры або колькасьці: маюць *па пятнаццаць, па дваццаць, па сорак* і *па больш* дзесяцін. Сц. 99, раз *па дзесяць.* З. 9, *па дваццаць* нітак. Т. 104.

*З давальна-месным* склонам а) пасьля „плакаць", „журыцца" і для азначэньня назоўніка: Ссох, сьпятрэў у журбе *па дому.* Т. 92, плакала *па ім.* Сц. 21, ні на мінуту не пакідала дрэніць (?) *па* родным *краю, па* сваіх *людзях.* С. 35. Уся радня, як *па гаспадару,* так і яе,—вымерла. С. 41.

б) для выражэньня спосабу дзеяньня з *месным* скл.: праседжваюць з імі *па пары* аж да сьвітаньня. Т. 27, кожны *па адным.* С. 24.

*З давальным* скл. у адзін. л. і з *месным* ў множн. л. а) у месным значэньні: Так і *па ўсяму краю.* Т. 91, *па твару-ж* чыстаму і рыжоваму. Дз. 6,5. Рыгор насіўся ў марах *па полю* да *па лесу.* Сц. 154. Ня йсьці-ж .. ім *па* нашых *сьлядох.* Сц. 22, шкробае галінкамі *па шыбах* вакна. З. 22, тапчуся *па* калючым *іржышчы.* Сц. 23, тупаў *па сенцах.* Т. 111, раскладваць *па* ўсяму *сталу.* Т. 111, *па* усяму *целу.* С. 150.

б) для выражэньня часу ў значэньні „пасьля чаго" і спосабу дзеяньня, напр.: Хіба *па сьвятах* ужо. Т. 16, не *панашаму нораву.* С. 22, сказаць *падобраму.* З. 6, рабіць *па ягоннаму разуменьню.* Т. 65, *не панашаму* з табой. Сц. 27.

Але ёсьць многа зваротаў з прыназоўнікам „па", неўласьлівых беларускай мове, узятых з расійскае мовы, прычым, пасьля, „па" ставіцца нават *давальны* склон *множн.* ліку, напр.: разышліся-б *па гаспадам.*

С. 136. *Па дамам*, хлопцы! С. 95. У бога ўжо прыпасён такоўскі закон, *па якому* ён кіруе думкамі людзей. С. 129, усё выходзіла не *па* яе *хаценьню*. С. 153, гаварыцьме з сялянамі аб гарадзкім жыцьці *па нядзелях* на прызьбе. Т. 212, карысьць, якую, *па яго* дае тэатр. Т. 221. Запіваўся звычай, *па якому* ўваходзіла маладая ў мужаву сям'ю. Сц. 307, *па чыйму прыказу*. З. 23, *па* яе *меркаваньню*. З. 28, усё бегае *па справах*. Сц. 256, таварышы мы *па сваім адзіноцтве*. С. 27, будуйце *па знаньню*. П. 32, таварыш *па цэху* і настаўнік *па практычных* ведах палітычнага руху. Сц. 79, ведаў не *па тэорыі*. С. 92, вымаўлялі *па іх адрасу* пару слоў. Сц. 52, быць *па сяму*. Сц. 35, клопаты *па адшуканьню* грошай. Т. 18, *па* іншым *справам*. Дз. 8, 31, *па* неадкладным *справам*. З. 20, ніжэй яе *па значнасьці*. Т. 130, устала і *па* старой *прывычцы* перажагналася. Т. 3.

Асабліва выразна не беларускія звароты з прыназоўнікам „па“ ў тых разох, калі „па“ стаіць з *давальна-месным* склонам не для выражэньня меснага значэньня—пашырэньня па паверхні чаго-нібудзь, як напр.: бегае *па справах*. Сц. 256, або—„клопаты *па адшуканьню* грошай“ Т. 18.

Гэтак сама з месным склонам „па“ ўжываецца ў значэньні „посьля“, напр.: *па сьвятах*, *па абедзі*. Сказаць—„гаварыць з сялянамі *па нядзелях* на прызбах“. Т. 212, або—„сходы адбываюцца *па панядзелках* і *па аўторках*“—значыць, сказаць ня тое, што трэба. Але ў беларускай мове ў гэтым выпадку месны склон падмяніў і давальны; дзеля гэтага ён ставіцца і для азначэньня прасторы, па якой пашыраецца якое-нібудзь дзеяньне. („Белоруссы“, т. II, 3, стр. 190) [1]).

12) *Прыназоўнік* **праз** з вінавальным склонам а) замест „пра“ або „аб“, напр.: Гутарка ішла *праз яе ці праз жывёлу*. Дз. 8,26. *Праз бацькоў* і не шманае. Т. 5, забывае *праз яду*. З. 35; б) для выражэньня меры, способу дзеяньня і падобнага: галодны *праз* увесь *дзень*. Сц. 153, выратавалася *праз замуж* за Васіля. Сц. 223.

Першыя звароты становяць вузкія правінцыялізмы, і для літаратурнай мовы не падаюцца.

13) *Прыназоўнікі* **паўз, паўзвыш** з вінавальным і родным склонам: яна (рэчка) вярцелася *паўз будынкі і сады*. Сц. 59, прыглядаюся *паўз хат* і бачу. Сц. 26, ідучы *паўз хату*. Т. 107, прашоў *паўз таварышоў*. Сц. 264, *паўз сьцяну* будынкаў дайшла да платоў. Т. 106, кінула вокам *паўзвыш* брамы. Сц. 89.

16) *Прыназоўнік* **усьцяж** з родным склонам: прашлі адзін раз узад ды ўперад *усьцяж поезду*. Сц. 61.

---

[1]) Глядз. яшчэ нашы „Граматычн. нататкі“, „Узвышша“ № 5, 27 г., стар. 196.

15) *Прыназоўнік* **у** з родным склонам у прыслоўных выражэньнях: Сёмка і тыдню не прабыў *у дому*. С. 42, нікога ня было *ўдому*. Сц. 102, а тут, *удому*, яна адна. Сц. 23.

У сказе „ты патрэбен для Сілцоў і *паміма таго,* што гэта цікава мацеры“ Сц. 31—знаходзім расійскі прыназоўнік „паміма“.

У выражэньнях іншых часьцін сказу знаходзім:

1. Чыста народнае паўтарэньне займеньнікаў „хто“ і „што“ для памацненьня: *Хто-хто*, а я сёе-тое ведаю. Т. 210. *Што-што*, а вясельле трэба адзначыць (!) добраю бяседаю. Сц. 285.

У такіх разох гэтыя займеньнікі могуць стаяць у розных склонах, у залежнасьці ад таго слова, да якога яны адносяцца.

У паўтарэньне злучнікаў і іншых слоў для памацненьня: Вось *ды* каб у мой бок! Сц. 46. Каб *ды* ведаў, што будзе такі сын. Сц. 118. Каб *ды* гэта на мяне, я-б пехам пашоў. Т. 210. Калі *бо* наш тата вельмі брыдкі. Т. 34, *ніколі-ніколі* не змагу забыць. С. 128. А сонца *толькі-толькі* падбіралася к полудню. Сц. 213. Была *цёмная-цёмная* ноч, хоць вока выкаль. Т. 60.

3. Памацняльны дапаможнік „то“ з даўнейшага азначальнага члена: і дома-*та* німа як кінуць. З. 5. Ён-жа такі-*та* хрышчоны бацька. Т. 104.

4. Займеньнік „што“ з прыслоўным значэньнем: хто ведае, чым і *што* кончацца здарэньні. Сц. 240, ня ведаў, куды і *што* пакіраваць свае думкі. Сц. 306.

5. *Акалічнасьці:* Абгаварыць сёе-тое *адзін на адзін*. Сц. 31 (франц.: tête-a-tête). Я-ж табе казаў, *скора* прыехаў: каля пяцьсот будзе. Сц. 34. Прысеў *прамеж* са Стэпаю. Сц. 105, усе гэта палажыла на *пагатове* ў хаце за ложкам. Т. 27. І ўжо пасьпеў як барджэй сюды прыбегчы. С. 66.

6. Так званае вобразнае адмоўе: Не, *ні каліва* ня хлушу, *ні беднага*. Т. 10. Бачыш не рамесьнік ён у нас, ды й досьціпу няма, непракідкі *нікаліва*, *нізваньня*. Т. 15.

7. Пабочнае слова „бок“: Як, *бок*, завецца яна—ты ня пытала часамі? А дзе-ж, бок, наш татка? Т. 39.

8. Прыдатак „адзін другому“ замест звычайнага ў беларускай мове „адзін аднаму“: *Адзін другому* расказалі. Т. 164, кінуліся *адзін другому* на шыю. Т. 83, браліся адзін за другога. Сц. 101, пры— і што якое схлусіць *адно аднаму*. Сц. 62.

9. *Злучнікі* **то, ато, ніж:** Зьясі гэта, *то* яшчэ дам. Сц. 14. Калі глядзела, *то* не магла знайсьці. Т. 27. Адчыненьне зборні—*то* верная стрэча з ім. Т. 26. На добры лад, *то* гэта трэ‘ было ім і малака, і мяса. Т. 73. А няма—*то* што-ж зробіш. Т. 18. Хаця няхай хлопцы супакояцца, *ато* часта пытаюць, калі-ж мы адкрыем сваю зборню. Т. 24, пашукай дзяцей, *ато* яны, небаракі, цэлы дзень ня еўшы. Т. 34. Лепі ела-б траву, *ніж* сена. З. 5.

10. „Пачуйце адно“ замест „паслухайце толькі“: Чаго добрага—спуджана (?) загаварыла яна—не здарма... *Пачуйце адно...* здаецца сяджу так адна... Сц. 156. *Чуй*, маці,—спыніўшыся вымавіў Васіль. С. 28.

---

Граматычна-лексычны аналіз паказвае, што мова Ц. Гартнага, агулам кажучы, багата на граматычна-лексычныя асаблівасьці як вузка-дыялектычнага капыльскага, так і агульна-народнага пахаджэньня, і ў поўнай меры адбівае этнаграфічны калёрыт свайго роднага дыялекту. З гэтага боку Гартны арыгінальны і самабытны, як ніводзін старэйшы пісьменьнік.

Але граматычна-лексычнае багацьце, узятае з народнае мовы, часта ўжываецца ім у сырой, неапрацованай форме, у некаторых разох ў няясным і незразумелым контэксьце, з непамерна вялікім лікам т. зв. *барбарызмаў* (звычайна—расійскіх) і *нэолёгізмаў* (новатвораў) у пераважнай большасьці няўдалых і зусім непатрэбных, выкліканых няўважлівым і часта неспрактыкаваным падыходам да *стылізацыі*.

Граматычны, а таксама лексычны склад мовы, як набытак цэлай дыялектычнай групы, становіць *об‘ектыўна* даны элемэнт у мове кожнага пісьменьніка і, агулам кажучы, ня можа ў поўнай меры характарызаваць мовы *самога* пісьменьніка. Мова самога пісьменьніка выражаецца ў *стылізацыі* гэтага об‘ектыўна данага граматычна-лексычнага матарыялу, у яго здольнасьці пісаць правільна, *ясна* і *дакладна*, а ў прыгожым пісьменстве—і *вобразна*.

Такім парадкам, каб даць агульнае заключэньне аб мове таго ці іншага пісьменьніка, трэба яшчэ *прааналізаваць* яго *стыль*.

# КНІГАПІС

**Акадэмічная бібліотэка беларускіх пісьменьнікаў. Творы М. Багдановіча.** *Том II. Выданьне Інстытуту беларускае культуры. Менск, 1928 г. стар. 90+418. Цана 2 р.*

З знадворнага боку выданьне зроблена добра. Узьнікае толькі пытаньне, ці орнамэнт (аздоба на вокладцы) сапраўды дакладна беларускі, ці гэта нешта іншае? Але гэта аздоба была зроблена яшчэ для першага тому.

Другі том зьмяшчае ў сабе пасьля ня вельмі доўгае прадмовы кіраўніка літаратуразнаўчае катэдры ІБК, цяпер БАН, І. І. Замоціна напісаны ім-жа крытычна-біографічны нарыс і рэшту літаратурных прац нябожчыка-поэты.

У першым томе былі зьмешчаны ўсе вершаваныя творы: орыгінальныя і перакладныя, ды апроч таго, яшчэ і невершаваныя орыгінальныя мастацкія творы („мастацкая проза“, як гавораць часам). У другім томе мы знаходзім навуковыя і навукова-популярныя работы (пераважна, але ня выключна ў галіне літаратуразнаўства) ды ў разьдзеле „Varia“ некаторыя мастацкія пераклады на расійскую мову украінскіх, невершаваных рэчаў. Корэспондэнцыі нябожчыка песьняра мы не пабачым у друку (дзеля вельмі зразумелае прычыны—звычайнае корэктнасьці) магчыма нават да таго часу, калі і яго корэспондэнтаў таксама спаткае агульны лёс усяго органічнага жыцьця.

Разгледзім зьмест данага тому больш падрабязна. У прадмове кіраўнік выданьня профэсар (цяпер акадэмік) І. І. Замоцін зноў паўтарае прыняты „камісіяй для выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў“ прынцып перадаваньня тэксту паводле цяперашняга правапісу за выключэньнем рэдкіх выпадкаў.

Аб гэтых выпадках часта гаворыцца ў даных у канцы ўвагах. На нашую думку гэта зроблена правільна, але толькі таму, што мова Максіма Багдановіча ня мела тае фонэтычнае яскравасьці, як мова іншых нашых пісьменьнікаў. Карыстаючыся друкаванымі, а часткова і рукапіснымі крыніцамі, М. Багдановіч авалодаў морфолёгіяй слоў і сказаў (г. зн. этымолёгіяй і сынтаксам), а таксама і фразэолёгіяй нашае мовы, але яе фонэтыка была яму знаёма ў меншай меры, чымся шмат якім іншым беларускім пісьменьнікам.

Праўда і тое, што і на іншых аўтараў у нашаніўскую эпоху значны ўплыў мела рэдакцыйная правапісная традыцыя. Некаторыя стараліся пісаць так, як пісала рэдакцыя, выпраўляючы ортографію перад здачай твораў ў друк. Але яны жылі шмат часу ў беларускім абкружэньні, іх фонэтыка, іх ортоэпія маглі быць дыялектычнымі, але ні ў якім выпадку ня кніжнымі. Таму ўсіх пісьменьнікаў аднэй меркаю мераць (што да ортографічных прынцыпаў выданьня іх твораў)—наўрад ці будзе мэтазгодна. Здаецца, што гэта пытаньне спрэчнае.

Работа акад. Замоціна (крытычна-біографічны нарыс аб М. Багдановічу) надзвычайна цікавая з боку свайго зьместу і мэтоду. Шмат новага, дагэтуль невядомага біографічнага матэрыялу, улічваньне псыхофізыолёгічнае спадчыннасьці, гэнэзіс

разьвіцьця пясьнярскага і крытычнага таленту ў пісьменьніка, аналіз ідэолёгіі і крыніц творчасьці—усё тут знойдзе чытач. Нядобрае ўражаньне робяць толькі чыста знадворныя дробязі, як, напрыклад, „аб Нібялунгах“ (стар. XXI парушэньне прынятага правапісу), адметкаю (у сэнсе: адзначэньнем, аднатацыяй школьных посьпехаў, стар. XXVII), улаўліваў (замест нормальнага „улоўліваў“, стар. XXXVII), праізносіў (у сэнсе „вымаўляў“ стар. XXXVIII), варта яму было (у неадпаведным сэнсе, бо—даволі яму было XLIX), слухальніцаю (=слухачкаю), абнаўленьне (XXXIV) замест: аднаўленьне. Ня ўсе гэтыя хібы можна тлумачыць друкарскімі памылкамі.

У багатым зьмесьце гэтага нарысу вялікую цікавасьць узбуджае ў чытача разьдзел аб ідэолёгіі М. Багдановіча. Пісьменьнік з грамадзкімі імкненьнямі, але інтэлігент-індывідуалісты, ён нездарма цікавіўся ў розныя пэрыяды свайго жыцьця і анархізмам, і народніцтвам (прадстаўнікі апошняга вялікую вагу надавалі зьяўленьню ў людзкой грамадзе крытычна-ўдумлевых адзінак). Таксама цікавы і разьдзелы: тэматыка, крыніцы творчасьці ды інш.

Гісторыка-літаратурныя і крытычныя творы самога М. Багдановіча даволі рознастайны і зьместам, і якасьцю. Мы тут бачым і ня зусім апрацаваныя фрагмэнты (як кавалачак аб Няслухоўскім), але значная частка гэтага матэрыялу і цяпер чытаецца з цікавасьцю. Агульныя агляды беларускае літаратуры за пэўны працяг часу, што друкаваліся ў „Нашай ніве“, з большага вядомы нашым чытачом.

Але ёсьць і менш вядомыя, і саўсім яшчэ недрукаваныя рэчы. З усяго гэтага матэрыялу адзначым некаторыя работы, якія і цяпер маюць вялікае значэньне. Напрыклад, „Краса и сила“ („опыт исследования стиха Т. Г. Шевченка“)—мае цану проста як узор навуковае працы ў галіне мэтрыкі паасобнага пісьменьніка. Артыкул „Памяти Т. Г. Шевченко“ кароткі, але таксама зьмястоўны. Асабліва важна тое, што М. Багдановіч зазначае на ступянёвы пераход Шэўчэнка ад ідэй нацыяналізму да асьвятленьня клясавага змаганьня. Поэтам В. Самійленку і Г. Чупрынку таксама прысьвечаны артыкулы, якія і цяпер яшчэ чытаюцца з цікавасьцю і карысьцю. Расійская літаратура таксама ўвайшла ў абсяг крытычных досьледаў М. Багдановіча: ёсьць артыкулы аб Лермантаве, Ламаносаве, Дрожджыне.

Дзе магчыма, там М. Багдановіч робіць увязку паміж фактамі розных літаратур, або паміж літаратурай і фольклёрам. У артыкуліку: „Булгарин в белорусской шуточной поэме“ М. Багдановіч падкрэсьлівае той факт, што расійскі літаратар—афіцыйны публіцысты Т. Булгарын быў беларус таксама як беларус быў лібэральны аўтар „Тараса на Парнасе“. Але гэтаму надта ўжо не спадабалася рэакцыйная публіцыстыка свайго земляка і ён высьмеяў, выкпіў Булгарына ў сваім творы. У артыкуле „К генеологии одного стихотворения“—М. Багдановіч паказвае як мотывы з беларускага фольклёру праходзілі ў творчасьці А. К. Толстого. (Праўда, гэта ўдалося заўважыць усяго толькі ў адным выпадку). Маёнтак, дзе жыў Талстой, знаходзіцца ў Чарнігаўшчыне, у Імглінскім павеце, г. зн. у межах этнографічнае Беларусі.

У падразьдзеле „Літаратура“ (разьдзелу „Нататкі і рэцэнзіі“) знаходзіцца шмат кароткіх рэцэнзій. Яны часам цікавы і дасьціпны, амаль заўсёды справядлівы і бесстаронны, але вялікага значэньня, зразумела, маюць. Тэорэтычна-гістарычны нарыс аб сонэце толькі пачаты, не даведзены нават да (відавочна прадбачанага) разгляду розьніц у форме паміж сонэтамі найбольш выдатных мастакоў вершаваньня. Цяпер гэты кавалак (хоць ён і зьяўляецца толькі

нейкім рэзюмэ больш падрабязных досьледаў) чытаецца з цікавасьцю, але пасьля кніжкі проф. А. Барычэўскага на гэтую тэму—ужо ня мае практычнага і навуковага значэньня. У гэтых-жа „Нататках і рэцэнзіях“ можна знайсьці каштоўныя заўвагі аб цэлым радзе пісьменьнікаў самых розных эпох, аб часопісах і г. д. У разьдзеле „Varia“ ёсьць і прыгожа зробленыя пераклады з украінскае на расійскую мову некаторых невершаваных твораў (В. Стефаник „Кленовые листочки“, „Смерть“; Иван Франко „Каменщик“). У разьдзеле „Славянства“ большая часьць матэрыялу прысьвечана прыкарпацкай Украіне. Аднак, ёсьць і артыкул больш агульнага зьместу „Аб веры нашых прашчураў“.

Разьдзел „Беларуская грамадзкасьць“ асабліва каштоўны тым жывым пачуцьцём справядлівасьці, якое б'е магутнай крыніцай у гэтых публіцыстычных творах, як толькі хтонебудзь хоча дэнацыяналізаваць прыгнечаны моцнымі суседзямі, пакрыўджаны народ,—пясьняр-публіцысты павінен рэагаваць, калі ня рэзкім вершам, то, прынамсі, добрым адказам у прозе (напрыклад, глядзі артыкул: „О гуманизме и неосмотрительности“). Нельга сказаць, аднак, каб М. Багдановіч паблажліва адносіўся і да недахопаў, заганаў і хібаў у сваёй беларускай сям'і. Ён не ідэалізуе надмерна свой народ. Усе чыста артыкулы гэтага разьдзелу, дзе гаворыцца аб беларусах і ранейшага часу, і самае апошняе эпохі—імпэрыялістычнае вайны,—трэба раіць для ўважлівага і ўдумлівага чытаньня.

Асабліва каштоўны артыкул „Белорусское возрождение“.

У кніжцы ёсьць тэксты ў расійскай, беларускай і нават адзін у украінскай мове („Забутий шлях“) (стар. 63)—яны даны па разьдзелах і ў хронолёгічным парадку. Дапусьцім, што іншага выхаду ў даным выпадку ня было, але гэтая стракатасьць усё-ткі не пажадана. Пры выдаваньні іншых дзьвюхмоўных аўтараў (напрыклад, Яна Чачота, Няслухоўскага і г. д.) лепш будзе там, дзе магчыма, групаваць творы (прынамсі, у межах кожнага разьдзелу) у асобныя падразьдзелы, паводле моўнае адзнакі.

**Л. П.**

**Всеукраїнська академія наук. Список праць академії навук виданих за 10 літ існування (1918-1928). К. 1929, с. 18.**

Усеукраінская акадэмія навук працуе ужо 10 год. З прычыны свайго юбілею, сьвяткаваньне якога перанесена на 1930 г., яна выдала брошурку, дзе пералічваюцца толькі назвы выданьняў Украінскае акадэміі, толькі сьпіскі гэтых выданьняў. Відавочна, гэта ёсьць адзін з першых крокаў популярызацыі працы гэтае украінскае культурнае ўстановы перад шырокімі масамі грамадзян і Савецкай Украіны і ўсяго Саюзу, якую праводзіць цяперашні прэзыдыум гэтае акадэміі. Паколькі гэты сьпісак у некаторай меры можа характызаваць ды ілюстраваць працу Ўсеукраінскае акадэміі навук, паколькі дасьведчаньне працы асобных устаноў розных рэспублік, цікавае ды карыснае для іншых рэспублік, менавіта для тых, дзе, як і на Украіне, Кастрычнікавая рэволюцыя адкрыла шырокія магчымасьці для разьвіцьця культурна-нацыянальнай працы і паміж гэтым і працы нав.-дасьледчай, паколькі, урэшце, і на Беларусі ёсьць цяпер свая акадэмія навук, для якой дасьведчаньні старэйшай сястры—Украінскай акадэміі—карысны і навучальны,—дык гэтыя некалькі радкоў прысьвячаем кароткаму разгляду гэтай юбілейнай брошуры Ўсеукраінскай акадэміі навук.

Агульны лік выданьняў Усеукраінскай акадэміі—380 нумароў. Колькасьць немалая, менавіта, калі згадаць, што большая яе частка пры-

падае на апошнія некалькі гадоў і калі згадаць што Ўсесаюзная акадэмія навук—установа ў шмат разоў з большым бюджэтам, чым украінская акадэмія—выдала выданьняў за тойжа час ня больш, калі ня менш, яе. Чым гэта будзем тлумачыць? Думаецца, што ў першую чаргу тым, што Ўсеукраінская акадэмія ёсьць заваяваньне рэволюцыі. Тое, за што змагаліся украінскія працоўныя масы ў барацьбе за сваё культурнае адраджэньне гэта здабылі яны ад рэволюцыі Кастрычніка. У новых парэволюцыйных установах культуры ды навукі распачалася шырокая культурная праца, праца, якая вялася з вялікім энтузыязмам і пры шырокім падтрыманьні мясцовага савецкага грамадзтва ды рэспубліканскіх савецкіх урадаў. Вось элемэнты гэтага энтузыязму, тая акалічнасьць, што каля Ўсеукраінскай акадэміі працуюць ня толькі профэсыяналы-вучоныя, але, што яна мае—гэта відаць з яе справаздач—шмат няштатных навуковых супрацоўнікаў, якія працуюць добраахвотна і якія нямала даюць прац для акадэміі.—Усё гэта шмат павялічыла яя навуковую продукцыю.

Цікавыя адмены ў продукцыі Украінскае акадэміі ў асобныя гады. У першыя 1918-19 г. г. выдана 13 нумароў. Але навукова-дасьледчых прац паміж іх мы ня знойдзем, у большасьці—гэта законы пра акадэмію ды яе статуты. 1920 год ня прынёс нічога для выданьняў акадэміі—яна ў гэтым годзе ня выдала нічога. Гэта, пэўна, ня значыць, што ўстанова ды яе супрацоўнікі не працавалі, але сьведчыць пра недахоп сродкаў у гэты год вайны з палякамі. Наступныя 1921 ды 1922 г. г. нямнога далі ў гэтым сэнсе—выдана толькі па два нумары выданьняў. Затое з 1923 году, калі пачала ўзмацняцца народная гаспадарка савецкіх рэспублік, савецкая ўлада пачынае даваць усё большыя сродкі на навукова-дасьледчую працу. І ў 1923 г. Украінская акадэмія выдае ўжо 11 выданьняў. А далей бачым буйны ўзрост яе продукцыі. У 1924 годзе—34 нумары, у 1925—51, у 1926—74, у 1927—88, у 1928—90. Да гэтага трэба дадаць, што ў аркушох друку лічбы ўзрастаньня былі-б яшчэ большыя, паколькі цяпер выдаюцца тоўстыя кнігі, але колькасьць друкаваных аркушоў, на жаль, у сьпісе не падаецца.

Па аддзелах акадэміі—іх ёсьць тры: гістарычна-філёлёгічны, фізыка-матэматычны ды соцыяльна-эконамічны—відаць перавага першага з іх. Выдаваў ён далёка больш, чым іншыя два. Цалкам нормальным прызнаць гэта ў наш час з яго вялікім інтарэсам да проблем экономікі ды соцыялёгіі, з аднаго боку, і з яго вялікай патрэбай ў разьвіцьці дакладных навук у сувязі з вялікімі задачамі індустрыялізацыі краю, з другога—нельга. Але ёсьць прычыны, што тлумачаць гэты прыорытэт гістарычна-філёлёгічнага аддзелу ва Ўсеукраінскай акадэміі навук. Першая і найгалоўнейшая з іх—гэта палажэньне украінскай культуры ў царскія часы. Нормальна працаваць у галіне ўкраіназнаўства ў тыя часы было нельга. У сувязі з гэтым тут і цяпер—у гісторыі, літаратуры, культуры украінскай наогул—ёсьць столькі няяснага, зроблена так яшчэ нямнога, што ўвага, якую аддавала акадэмія гэтай галіне навук, да пэўнай меры апраўдалася. Да таго-ж фізыка-матэматычны аддзел зусім нядаўна атрымаў новыя лябараторыі і толькі цяпер пачаў весьці сапраўды шырокую навукова-дасьледчую працу.

Трэба сказаць, што кніжная продукцыя Украінскае акадэміі раскладаецца на дзьве часткі. З аднаго боку, яна выдае асобныя навуковыя дасьледваньні—монографіі. З другога—яна выдае шэраг пэрыодычных зборнікаў, якія па якасьці ёсьць нешта накшталт спэцыяльна-навуковых часопісаў. Некаторыя з іх так часопісамі і называюцца, напр., „Украіна“—двохмесячны часопіс гістарычнае

сэкцыі Украінскае акадэміі, які з 1924 г. выходзіць пэрыядычна і рэгулярна. Іншыя не выходзяць рэгулярна і толькі гэта адрозьнівае іх ад навуковых часопісаў. З гэтага тыпу магчыма адмеціць „Этнографічвы весьнік“, „Першапачатковае грамадзтва“, „Працы камісіі для дасьледваньня звычаёвага права Украіны“, „Працы камісіі для дасьледваньня гісторыі заходня-рускага ды украінскага права“, „Украінскі дыялектолёгічны зборнік“, зборнік „За сто лет“ ды некаторыя іншыя. Большасьць з іх выходзяць па гістарычна-філёлёгічных ды па соцыяльна-экономічных аддзелах. Апроч гэтага, кожны з аддзелаў мае свае „Запіскі“. Гістарычна-філёлёгічны аддзел выпусьціў надоечы XXI—XXII том сваіх „Запісак“, соцыяльна-экономічны—V—VI том, фізыка-матэматычны—т. IV.

Апроч гэтага, трэба адзначыць „Запіскі“, „Бюлетэні“, „Зборнікі“ розных навуковых таварыстваў пры Украінскай акадэміі, якія большай часткай працуюць ня ў Кіеве і становяць нешта накшталт неофіцыйных філіялаў яе, а таксама трэба адзначыць слоўнікавую працу. Выдана шмат тэрмінолёгічных слоўнікаў украінскае навуковае мовы ды выдаецца вельмі карысны акадэмічны слоўнік „Жывой украінскай мовы“.

Пра якасьць асобных выданьняў Усеукраінскай акадэміі навук тут пісаць ня месца. Для гэтага давялося-б разглядаць паасобку кожны артыкул ды кожную монографію. Нагул-жа трэба сказаць, што навуковая якасьць друкаваных выданьняў яе незаўсёды роўная. Побач з працамі, якім трэба даць самую вышэйшую ацэнку, якімі-б мела ганарыцца кожная акадэмія навук, ёсьць зборнікі з нетакімі моцнымі ў навуковым сэнсе артыкуламі, артыкуламі вучнёўскага характару. Тлумачыцца гэта тым, што ў першыя гады існаваньня новай установы бывала, што стаўка ставілася на колькасьць друкаваных прац.

Мэтоды апрацоўкі сваіх досьледаў у вучоных, якія друкуюць свае працы ў выданьнях Украінскае акадэміі навук, розныя. Але ясна відаць, што з кожным годам усё больш і больш сустракаецца прац збудаваных на мэтодзе гістарычнага матэрыялізму.

Канчаючы гэтую нататку, хочам сказаць, што ў выданьнях Усеукраінскае акадэміі навук ёсьць шмат артыкулаў ды прац цікавых для беларусазнаўцаў. Гэта перш-на-перш працы з галіны украінскае гісторыі, гісторыі літаратуры, мовы, гісторыі мастацтва, гісторыі права і г. д. Тлумачыцца гэта тым, што ў пэўныя эпохі Украіна і Беларусь жылі супольным жыцьцём, мелі аднолькавы гістарычны лёс. Вось гэтае, а таксама і тое, што ў выданьнях Украінскае акадэміі раз-по-разу рэцэнзуюцца працы беларускіх вучоных, робіць яе выданьні менавіта цікавымі для беларускіх культурных працаўнікоў.

**Л. А.**

**И. Мещанинов. Введение в яфэтидологию И. Л. Я. З. В.** *Издательство „Прибой“, Ленинград 1929 г. Стр. 202. Ц. 1 р. 50 к.*

Пад гэтай, не для ўсіх зразумелай назвай вышла кніжка, якая разглядае вельмі важнае пытаньне, што стаіць на парадку дня, пытаньне аб набліжэньні мовазнаўства да жыцьця. Гэтае набліжэньне ня трэба разумець у сэнсе выключна коордынацыі з штодзённай граматычна-правапіснай, фразэолёгічнай і тэрмінолёгічнай працай. Пытаньне ставіцца ў іншай роўніцы. Ці трэба, каб мовазнаўства цьвёрда стала на грунце матэрыялістычнага сьветапогляду, каб яно карысталася і адпаведнымі мэтодамі ў сваіх досьледах. Бясспрэчна, трэба. Даная кніжка (у сэрыі „Вопросы методологии и теории языка и литературы“),—ідзе насустрач тым чытачом, якія цікавяцца пытаньнямі матэрыялістычнае лінгвістыкі. Відавочна, аўтар жадаў зрабіць кніжку агульнадаступнаю (у сэнсе зразумеласьці),

бо старанна ўнікаў прыкладаў з розных моваў. Але гэта якраз і няправільна, бо ў выніку гэтага кніжка зрабілася сухаватаю, менш конкрэтнаю. З другога боку, у самым выкладаньні належнае популярнасьці няма. Чытачу прыходзіцца над шмат якімі сказамі падумаць ня з прычыны цікавага іх зьместу, а з прычыны сухога і ня вельмі выразнага выкладаньня. Прыкладаў падаваць ня буду, бо прышлося-б выпісваць цэлыя старонкі. Гэты дэфэкт значна зьмяншае кола спажыўцоў. Тымчасам у прадмове абяцаецца популярная кніжка. Дэклярацыя гэтая выканана толькі часткова—фактычныя даныя пераказваюцца для ўсіх зразумела, а тэорыя—ня ўсімі будзе ўспрынята яскрава і выразна.

Плян кніжкі наступны: прадмова аб гісторыі ўзьнікненьня данае яфэтыдолёгічнае працы, потым—тэзы, далей—агляд разьвіцьця яфэтыдолёгіі і, урэшце—процэс эволюцыі мовы ў асьвятленьні, даным яфэтычнаю тэорыяй (сучасныя дасягненьні).

Некаторыя пункты данае тэорыі зьяўляюцца толькі паглыбленьнем і новым асьвятленьнем ідэй, раней ужо прадчуваных у лінгвістыцы. Напрыклад, думка аб тым, што тры асноўныя тыпы моваў: бясформны, аглютынацыйны і флексыйны—зьяўляюцца трыма фазамі аднаго і таго-ж самага процэсу эволюцыі, што адны мовы затрымаліся ў сваім разьвіцьці, а другія больш ці менш пасунуліся наперад—гэтая ідэя існавала ўжо даўно ў некаторых дасьледчыкаў. І сапраўды: аморфныя мовы (напрыклад, кітайская) выражаюць ролю слова яго месцам у сказе—гэта замяняе флексыі. Словаўтваральныя суфіксы і прэфіксы замяняюцца дадатковымі каранямі, кожнае слова мае шмат значэньняў і г. д. Калі дадатковыя карані робяцца толькі прычэпленымі да галоўнага кораня часьцінкамі, тады мы бачым ужо пераход да аглютынацыйнае мовы, а пры зьяўленьні сапраўдных формаў словаўтварэньня і словазьмену, неразрыўна зьвязаных у сваіх частках, а часам ужо і нялёгка аналізаваных, мы маем, урэшце, флексыйную мову. Думка гэтая ня новая, але заслугаю яфэтыдолёгаў і наогул прыхільнікаў матэрыялістычнае лінгвістыкі ёсьць тое, што яны на гэтай падставе адкінулі ранейшы тэрмін „сям'і моваў", а сталі гаварыць ужо аб „моўных сыстэмах", падкрэсьліваючы, такім чынам, адзінства процэсу моўнае эволюцыі і яго агульна-людзкі характар. Далей, вялікай заслугай матэрыялістычнае лінгвістыкі зьяўляецца ўвязка моўнае эволюцыі з эволюцыяй матэрыяльнае культуры, гаспадаркі, эканомікі, соцыяльных дачыненьняў. Праўда, гэта пакуль-што толькі спробы, але ўстаноўка ўзята правільна.

Ад першапачатковых зародкаў гукавое мовы (пры панаваньні мовы мімічнае—„на мігі"), ад так званага *дыфузнага* стану, праз стадыі *магічную* (калі гаспадарчая праца зьяўлялася часткова і культавым актам), *тотэмную* (калі кляны называліся кожны імем нейкае сакральнае жывёліны) *і косьмічную* (калі поруч з больш разьвітымі гаспадаркаю'і культам стварыліся ўжо і сапраўдныя пляменьні)—мы ўсё больш і больш набліжаемся да гістарычнае эпохі.

Вось два пляменьні сустракаюцца і кожнае пры сваіх работах ужывае для аднолькавых прадметаў розныя назвы. Пры цяперашніх умовах дзьве групы рабочых могуць ужываць пры сумеснай працы розныя назвы для прадметаў, скажам „тапор" і „сякера" і гэтыя назвы ня зьліваюцца, не атрымліваецца нейкая: „тапасякера" ці нешта падобнае. Але ў падгістарычныя часы было ня так—тады словы зьліваліся і пры гэтым не такім спосабам, што атрымліваліся „тапасякера" (прыдуманае намі), а так, што ў новым слове ранейшыя і пазнаць было цяжка. Гэта былі словы *скрыжаваньня*. Апроч іх былі і словы *„сустаўныя"* створаныя з назваў не ідэнтычных прадметаў, але ўсё-ткі

ня цалкам суадпаведныя нашым „параходу“, „саматужніку“ ды інш., а толькі ў пэўных адносінах ім аналёгічныя.

Трэцім важным дасягненьнем новае тэорыі зьяўляецца вялікая ўвага да эволюцыі значэньня слоў. Ранейшаю лінгвістыкаю ў гэтым сэнсе зроблена мала. Тымчасам, калі-б мы думалі, што слова ў ранейшыя пэрыоды моўнае эволюцыі мела такую-ж прыблізна амплітуду (размах) ваганьняў у сваім значэньні, як цяпер, то зрабілі-б вялікую памылку. Словы раней зьмянялі сваё значэньне ў надта шырокіх межах. Першапачатковы запас іх быў надзвычайна малы і таму сэнс іх быў шырокі. Пры зьменах у матэрыяльных умовах быту, пры нясупынным, хоць і павольным, руху грамадзкай эволюцыі, зьмяняўся сэнс словаў так значна, як цяпер гэтага ня бывае нават пры вялікіх пераваротах. А побач з гэтымі ўтварыліся яшчэ скрыжаваныя і сустаўныя словы, якія зноў уступалі ў новыя комбінацыі, нанова зьмяняліся, злучаліся і зьліваліся паміж сабою. Цікавою навінай у мовазнаўстве зьяўляецца і вялікая ўвага да пляменных і нацыянальных назваў, дзякуючы якой яфэтыдолёгі выкрылі шмат чаго новага і нечаканага. Пачалі яны (галоўным чынам акадэмік М. Я. Мар) з вывучэньня закаўкаскіх і паўночнакаўкаскіх моваў (якія назвалі яфэтыдзкімі), але цяпер і баскі, і чувашы, і шмат іншых народаў зьяўляюцца об'ектам яфэтыдолёгічных досьледаў. Як бачым, у кніжцы ёсьць шмат чаго цікавага.

Тэзы ў пачатку напісаны даволі зразумела. Далей пэўная колькасьць не заўсёды канечна патрэбных спэцыяльных тэрмінаў абцяжае выкладаньне значна менш, чым няўдалая пабудова сказаў. Але той, хто, ня гледзячы на перашкоды, прачытае кніжку, атрымае шмат чаго цікавага і карыснага.

Л. С.

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* У лістападзе г. г. ў Маскве адкрыецца ўсесаюзная выстаўка беларускага мастацтва, галоўным арганізатарам якой зьяўляецца беларускі аддзел камітэту мастацтва нацыянальнасьцяй СССР пры ГАХН'е. У Беларусі і ў іншых месцах СССР (напрыклад, у Сібіры, дзе ёсьць каля 700.000 чал. беларускага насяленьня) мастацкія і культурныя арганізацыі цяпер вядуць падрыхтоўчую работу.

На выстаўцы будуць прадстаўлены выяўленчыя мастацтвы, кіно, тэатр і народная музыка Беларусі.

* У ленінградзкіх навучальных установах вучыцца каля 3-х тысяч студэнтаў — жыхароў і грамадзян БССР. Ленінградзкія ВНУ дадуць беларускай прамысловасьці, сельскай гаспадарцы і культурным установам не адну сотню спэцыялістых. Каб памагчы будучым работнікам на фронце соцыялістычнага будаўніцтва БССР, беларускае студэнцкае зямляцтва ў Ленінградзе організавала ў студзені навуковае таварыства па вывучэньні Беларусі. У члены таварыства ўцягнута шмат студэнтаў, для работы ў таварыстве запрошаны рад навуковых працаўнікоў-беларусаў—прафэсараў і доцэнтаў ленінградзкіх ВНУ. Зараз уцягнута ў таварыства звыш 30 навуковых працаўнікоў.

Задачы таварыства наступныя: аб'яднаць усе навуковыя сілы, якія жадаюць працаваць па дасьледваньні Савецкай Беларусі, прыцягнуць увагу навуковага сьвету і савецкай грамадзкасьці да гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, падрыхтаваць кадры навуковых работнікаў для дасьледчых устаноў БССР, памагчы вывучэньню прыроды і гаспадаркі Савецкай Беларусі.

Таварыства наладжвае навуковыя даклады і лекцыі, друкуе ў навуковых часопісах працы, прысьвечаныя гаспадарцы і культуры БССР. Таварыства мяркуе выпусьціць свой часопіс і наладзіць 3 экспэдыцыі ў БССР—па вывучэньні сельскай гаспадаркі, па санітарным абсьледваньні і па этнографіі. Старшынёю праўленьня таварыства зьяўляецца доцэнт А. Дрозд, навуковым сакратаром—доцэнт Пратасэвіч—выкладчык Ваенна-мэдыцынскай акадэміі. Абодва—беларусы, члены ЎсеКП(б).

* Катэдра этнографіі БАН мае організаваць на ўсебеларускай с.-г. выстаўцы аддзел беларускага народнага мастацтва. Наркамасьветы таксама прадэмонструе экспонаты, якія будуць адбіваць разьвіцьцё беларускага народнага мастацтва. На стадыёне каля выстаўкі Галоўмастацтва наладзіць сэрыю розных концэртаў, а таксама пастаноўкі некаторых беларускіх тэатраў.

* Беларускі вандроўны тэатр пад кіраўніцтвам Ул. Галубка зараз працуе на Гомельшчыне. Гомельскі акруг-ком партыі прыкамандыраваў да тэатру пропагандыстага, які езьдзіць разам з тэатрам і праводзіць палітычна-асьветную работу.

За месяц падарожжа тэатр абслужыў, апрача мястэчак: Буда-Кашалеўск, Чачэрск, Ветка, самыя глухія вёскі Гомельшчыны: Кашалёва, Рагіна, Прасна, Навасёлкі, Рэчкі. Спэктаклі ладзілі ў вялікіх пунях, куды дапушчалі на дармовыя паказы сялян. Зацікаўленасьць да беларускіх

спэктакляў была такая вялікая, што і вялікія пуні не зьмяшчалі гледачоў, якія былі ня толькі з месц, але прыходзілі за 10 вёрст.

Апрача пастановак п'ес, даецца концэрт, дзе тэатр знаёміць гледача з беларускім мастацтвам усебакова.

Цяпер тэатр пераехаў у Гомель, а адтуль накіруецца па р. Сожу далей.

* Колегія Наркамасьветы прыняла пяцігадовы плян кінофікацыі БССР.

Пяцігодкай прадугледжваецца выпуск Белдзяржкіно 52 мастацкіх фільм і 41 культфільм. Выпуск кінохронікі павялічваецца з 10 нумараў за год да 24 нумароў.

У канцы пяцігодкі ў Віцебску намячаецца пабудова новай кінофабрыкі, для якое мэты вызначана 2.350.000 рублёў.

Сетка кіноўстановак будзе разгорнута з такім разьлікам, каб усе найбольш буйныя пункты і раёны мелі кіно-тэатры. Лік кіно-перасовак павялічваецца на 190. У Віцебску і Гомелі будуць адкрыты курсы на 440 кіно-мэханікаў.

Новыя кіно-тэатры будуць пабудаваны ў Менску, Бабруйску і Воршы.

* Юбілейная камісія ЦВК СССР па організацыі сьвяткаваньня 10-ці годзьдзя Кастрычнікавае рэволюцыі ў Маскве выдала Наркамасьветы БССР ганаровую грамату за ўважлівы падыход да збору экспонатаў у беларускі аддзел выстаўкі мастацтва народаў СССР.

Апрача таго, выдана ганаровая грамата Беларускай дзяржаўнай капэлі за мастацкае выкананьне і пропаганду ў масах узораў бытавой і рэволюцыйнай песьні, членам усебеларускага аб'яднаньня мастакоў—мастаком М. Філіповічу, А. Касьцялянскаму за іх работы.

Таксама камісія ўдзячна мастаку Ю. Пэну за яго работы і Віцебскаму мастацкаму тэхнікуму за работы вучняў.

* БДТ-2 большую частку сэзону правядзе ў Віцебску. У сваім рэпэртуары на новы сэзон тэатр уключае рад новых пастановак—орыгінальных і перакладных п'ес. Паміж іншымі чакаюць п'есу Якуба Коласа—„Вайна да пераможнага канца“, сатыры рэжысэра Разанава ды інш.

* Мазырскі краязнаўца А. Круkоўскі на падставе карткавага матэрыялу, сабранага Мазырскім краязнаўчым таварыствам, уклаў Мазырскі краёвы слоўнік. Рэдагавацъ слоўнік будзе праф. Бузук.

* Этнографічная камісія польскага сэктару БАН вядзе далей стацыянарныя досьледы польскага насяленьня некаторых сельсаветаў Гомельшчыны. На падставе гэтых матэрыялаў рыхтуецца монографічная праца. Апроч таго, камісія пачала зьбіраньне матэрыялу аб пахаджэньні польскага насяленьня на Беларусі.

* Адпушчаецца да 10.000 руб. на распрацоўку проектаў будынкаў гарадзкога тэатру і мастацкага тэхнікуму. Пабудову тэатру мяркуецца пачаць у 1930 г. Будаўніцтва яго будзе каштаваць каля 1 мільёну руб. Тэатр разьлічаны для пастановак опэр, балету, масавых драм.

* Гастролі БДАТ-1 у Бабруйску праходзяць з вялікім посьпехам.

Пасьля чарговага водпуску тэатр пачне сваю работу ў Гомелі, дзе прабудзе цэлы сэзон. Да адчыненьня сэзону БДАТ-1 рэжысэр т. Міровіч рыхтуе п'есу Бурдзіна „Паміж навальніцамі“, якая малюе жыцьцё Чырвонай арміі ў часе мірнага будаўніцтва.

П'еса ў пяршыню пойдзе на сьветавым гукавым фоне, які непасрэдна будзе адбіваць перажываньні герояў.

* Сакратар Беларускай акадэміі навук акадэмік Ластоўскі, навуковы работнік Сербаў і сакратар ЦБ краязнаўства Касьпяровіч выехалі ў вялікую этнографічную экспэдыцыю ў Мазыршчыну. Сабраныя матэрыялы паступяць для распрацоўкі ў этнографічную камісію акадэміі навук.

* У рэпэртуар БДТ-1 на будучы сэзон апроч п'есы Бурдзіна „Паміж

навальніцамі", уключаны п'есы „Салавей"—паводле аповесьці Бядулі, новыя творы Міровіча, Грамыкі, Рамановіча, п'еса Ўсевалада Іванова „Верность" і п'еса Г. Кобеца—„Карусель" (з жыцьця рабочых гуты). Мяркуецца таксама пастаноўка арыгінальнага балету „Сон комсамолкі", лібрэто для якога склалі Сямёнаў і Рамановіч. Музыку піша композытар Маркевіч. З старых пастановак у рэпэртуары пакінута 14 п'ес. Зьняты з рэпэртуару „Перамога", „Крывая аблона", „Панскі Гайдук", „Савецкі чорт" і „Месяц зьлева".

* У другой палове чэрвеня, пад старшынствам прэзыдэнта БАН таварыша Ігнатоўскага адбылося пасяджэньне Акадэмічнай рады, на якім абраны два новыя акадэмікі: проф. Шкацелаў—па катэдры хэміі і проф. Васількоў—па катэдры батанікі.

Акадэмік Шкацелаў мае 60 друкаваных прац, у тым ліку больш 30 артыкулаў у с.-г. энцыклёпэдыі. Адну працу мае на францускай мове.

Проф. Язэп Юравіч Васількоў займае катэдру батанікі Беларускай с.-г. акадэміі. Проф. Васількоў організаваў у Горках батанічны сад, які зьяўляецца лепшым батанічным садам у БССР. У гэтым садзе сабрана флёра з усяе Беларусі і вядзецца вялікая дасьледчая навуковая праца.

Язэп Юравіч вядомы, як адзін з нямногіх ў СССР тэорэтыкаў у галіне цыталёгіі. Профэсар Васількоў, апрача іншых навуковых работ мае работы па флёры Беларусі.

* Белдзяржкіно праводзіць здымкі кіно-карціны, якая малюе жыцьцё і быт працоўных палякаў у БССР. Робяцца здымкі польскіх калгасаў, сельсаветаў, клюбаў, школ, пэдтэхнікуму, дзіцячых дамоў, выбараў дэлегатаў на зьезд працоўных палякоў.

* Катэдра марксызму і ленінізму пры Беларускай акадэміі навук пачала работу. Катэдра разьбіваецца на тры асноўныя камісіі: дыялектычнага матэрыялізму, ленінізму і гістарычнага матэрыялізму. Катэдрай кіруе акадэмік Вольфсон.

* Латыская камісія БАН рыхтуе гістарычны нарыс на тэму: „Перасяленьне латышоў у БССР і сумежныя з ёю губэрні". У гэтым нарысе будуць высьветлены прычыны перасяленьня латышоў і процэс утварэньня латыскіх колёній. Аўтар нарысу К. Шкільтар.

* Камісія мовы і літаратуры польскага сэктару БАН укладае польска-беларускі слоўнік, слоўнік польскіх провінцыялізмаў і распрацоўвае польскія песьні на Беларусі.

* У Полацкую і Бабруйскую акругі выехала экспэдыцыя для вывучэньня глебы. На чале экспэдыцыі знаходзіцца геолёг Мядзьведзеў.

Профэсар Фядзюшын выехаў у Гомельскую і некаторыя іншыя акругі для зьбіраньня новых экспонатаў для зоолёгічнага музэю акадэміі навук.

У Магілеўскую акругу выехалі работнікі камісіі хатніх рамёстваў акадэміі навук для вывучэньня прадзільнае і ткацкае справы.

* У часе навуковай экспэдыцыі па Камарынскім раёне, Гомельскай акр., супрацоўнік ЦБ краязнаўства т. Жураўскі і археолёг т. Юшчэнка выкрылі недалёка ад м. Камарына цікавае гарадзішча. Характарнай асаблівасьцю гэтае мясцовасьці зьяўляюцца вялікія пяскі, якія ад ветру перасыпаюцца, нібы гурбы, з месца на месца. Нядаўна такая пясчаная гурба, перамясьціўшыся на іншае месца, агаліла пляцоўку, на якой знаходзіцца старое гарадзішча. Тут-жа была выкрыта з пад пяску вялікая пасудзіна, накшталт гіганцкага макатра, выдзеўбленая з пяшчаніку, якога шмат у гэтым раёне. Пасудзіна мае каля мэтра ў дыямэтры. На гэтым гарадзішчы знойдзена таксама шмат чарапкоў пасуды, каменных стрэлаў, скрабкоў, нажоў.

У Лоеўскім раёне пры здабываньні з дна р. Дняпра кавалкаў пяшчаніку сяляне знаходзяць косьці mаманта, чарапы тура ды інш.

Археолёгічная камісія БАН пасылае спэцыяльных работнікаў для вывучэньня гарадзішчаў гэтага раёну.

* Пры Ўсеукраінскай акадэміі навук адчыняецца новая катэдра мастацкай літаратуры. Кіраваць катэдраю будуць новаабраныя акадэмікі—украінскі поэта Тычына і беларускі поэта Янка Купала.

* Каб адзначыць 10-цігодзьдзе вызваленьня ад белапалякаў і паказаць нашы дасягненьні ў падняцьці народнае гаспадаркі і культуры перад шырокімі працоўнымі масамі, наш урад пастанавіў пабудаваць і арганізаваць 1-ю ўсебеларускую выстаўку сельскай гаспадаркі і прамысловасьці. Пабудова выстаўкі павінна быць скончана ў ліпні месяцы 1930 г. Выстаўка будзе адкрыта ў жніўні.

Выстаўка пакажа, што зроблена за 10 год усім колектывам рабочых і сялян БССР. Апрача дэмонстрацыі справаздачы выстаўка павінна найбольш яскрава паказаць шляхі далейшага будаўніцтва па ажыцьцяўленьні соцыялістычнай перабудовы, па ўздыме народнай гаспадаркі і культуры Беларусі.

Выставачны камітэт намеціў арганізаваць на выстаўцы 12 аддзелаў з пададдзеламі:

1) Навукова-дасьледчы аддзел з пададдзеламі: а) прыроды БССР, б) эканомікі і арганізацыі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці БССР, в) сельска-гаспадарчай дасьледчай справы, г) сельска-гаспадарчай і індустрыяльнай справы, д) агродапамогі насельніцтву, е) літаратуры.

2) Аддзел земляробства з пададдзеламі: а) паляводзтва, б) садоўніцтва, в) гародніцтва, г) насеннаводзтва, д) аховы расьлін.

3) Аддзел жывёлагадоўлі, малочнай гаспадаркі і вэтэрынарыі з пададдзеламі: а) буйнай рагатай жывёлы, б) каняводзтва, в) свінагадоўлі, г) аўцаводзтва і каняводзтва, д) птушніцтва, е) трусаводзтва, ж) пчалярства, з) малочнай гаспадаркі.

4) Аддзел лясной гаспадаркі з пададдзеламі: а) лесаўпарадкаваньня, б) лесаабнаўленьня, в) лесаэксплёатацыі, г) лесамэліорацыі, д) лясной дасьледчай справы.

5) Аддзел зямляўпарадкаваньня і сельскага будаўніцтва з пададдзеламі: а) зямляўпарадкаваньне, б) сельскае будаўніцтва.

6) Аддзел мэліорацыі і культуры балот з пададдзеламі: а) гідротэхнікі, б) культуры балот, в) торфу.

7) Аддзел грамаджанага сэктару з пададдзеламі: а) саўгасы, б) колгасы, в) вытворчай сельска-гаспадарчай коопэрацыі.

8) Аддзел мэханізацыі і электрыфікацыі з пададдзеламі: а) мэханізацыі сельскай гаспадаркі, б) электрыфікацыі сельскай гаспадаркі.

9) Аддзел рыбнай гаспадаркі.

10) Аддзел дамаводзтва і быту.

11) Аддзел прамысловасьці з пададдзеламі: а) цэнзавай прамысловасьці, б) саматужнай прамысловасьці.

12) Аддзел экспорту, імпорту і гандлю з такімі-ж пададдзеламі.

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА ЗА МЕЖАМІ

* Малады, але здольны беларускі поэта ў Латвіі гр. Пятро Масальскі, які выступае тутака пад псэўдонімам Пятро Сакол, друкаваўся ўжо ў газэце „Голас Беларуса“, у зборніку „Ластаўка“ і ў зборніку „першакрокаўцаў“ („Першы крок“ вышаў у 1925 годзе), а зараз выпускае свой самастойны зборнік „На сьвітаньні“. Зборнік выходзіць коштам Беларускага выдавецтва ў Латвіі.

* Рыскія беларускія дзяржаўныя настаўніцкія курсы, якія працуюць з 1921-22 навучальнага году сёлета робяць ужо восьмы выпуск. Кваліфікацыя настаўнікаў гэтых курсаў ўсё больш павышаецца. Спачатку прымаліся на курсы, асобы, якія скончылі 4 клясы былых расійскіх сярэдніх школ, потым цэнз быў падняты да 6-ці клясаў, а калі беларуская гімназія ў Дзьвінску здолела зрабіць свой першы выпуск, дык цэнз для паступленьня на курсы быў зноў павышаны і цяперака прымаюцца толькі тыя, хто скончыў поўны курс беларускае гімназіі. Калі першапачатковая патрэба ў настаўніках была поўнасьцю задаволена, дык курсы з аднагадовых былі перароблены на двухгадовыя. Такім чынам, беларускія настаўнікі ў Латвіі маюць цяперака вельмі добрую для пачатковых школ кваліфікацыю.

* Беларуская дзяржаўная гімназія ў Дзьвінску зрабіла ў гэтым годзе сёмы выпуск абітурыентаў. Гімназію скончыла шаснаццаць чалавек. Большасьць выпуску пойдзе на беларускія настаўніцкія курсы. У вышэйшую школу ў Латвіі беларусы амаль зусім ня маюць магчымасьці трапіць, бо штогод „зрэзваюцца“ па латыскай мове, якой яны бадай ня чуюць у Латгаліі. Магчыма, што некалькі чалавек выедзе за межы: у Менскі Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт і ў Віленскі унівэрсытэт.

* Чым больш насядаюць на беларускую школу ў Латвіі розныя шовіністыя і паасобныя ўрадаўцы, тым больш сіл дакладаюць беларускія настаўнікі і дзеячы, каб вышэй падняць беларускую школу і згуртаваць каля яе беларускую меншасьць.

У гэтым годзе ня толькі Дзьвінская беларуская дзяржаўная гімназія, якая штогод робіць вялікія выстаўкі вучнёўскіх прац, але і іншыя беларускія школы ў Латвіі наладзілі выстаўкі вучнёўскіх твораў, каб дэманстраваць дасягненьні беларускіх школ у Латвіі.

Найцікавейшай з гэтых выставак можна лічыць выстаўку вучнёўскіх твораў 2-ое Рыскае гарадзкое беларускае асноўнае школы на Чырвонай Дзьвіне. Выстаўка гэтая была адкрыта на працягу тыдня спачатку для бацькоў і вучняў школы, а потым для ўсяго грамадзтва. Выстаўку наведалі некалькі беларускіх экскурсій, курсанты беларускіх настаўніцкіх курсаў, провінцыяльныя беларускія настаўнікі, што сабраліся былі ў Рыгу на Беларускі настаўніцкі конгрэс, а таксама вучні беларускіх провінцыяльных школ, што былі некалькі дзён у Рызе.

* У Дзьвінску адбылася 2 чэрвеня Ўселатгальскае сьвята сьпевакаў, на якім выступалі хоры: латгальскі, беларускі, польскі, расійскі і яўрэйскі. Беларускі хор прасьпяваў

некалькі беларускіх песень, якія былі дужа прыхільна спатканы прысутным грамадзтвам. Асабліва былі зацікаўлены прыежджыя з Рыгі латышы і прэзыдэнт рэспублікі, якія чулі беларускі хор упяршыню ў сваім жыцьці.

* У Дзьвінску адбылася 4-ая Ўселатвійская нарада прадстаўнікоў беларускае меншасьці ў Латвіі. Нарада працягнулася два дні, 29 і 30 сакавіка, і разгледзела рад насьпеўшых пытаньняў. На нараду былі запрошаны 17 дэлегатаў з правам пастаноўчага голасу і 10 з правам дарадчага голасу. З пастаноў нарады варта, між іншымі, адзначыць пастанову аб арганізацыі ў Латвіі Рады беларускіх нацыянальных арганізацый, якая павінна складацца па прынцыпу дэлегаваньня і мець сэсіі і асобны свой выканаўчы камітэт.

* Матыльда Язавітава, што дала ўжо адну працу на латыскай мове аб новай беларускай літаратуры, скончыла зараз другую працу аб старой беларускай літаратуры. Гэтая праца больш шырокая і будзе выдрукавана як у латыскім штомесячніку „Домас“ („Думка“), гэтак і асобным адбіткам. Увосень абедзьве працы, належна дапаўненыя, выйдуць з фотографіямі беларускіх пісьменьнікаў і беларускіх старадрукаў асобнаю абяднанаю кніжкай. Да кніжкі прадмову згадзіўся напісаць вядомы латыскі поэта і прыхільнік беларусаў Ян Райніс (Плекшан)

* Зноў пачаў выходзіць беларускі штомесячнік „Беларуская школа ў Латвіі“ ў Рызе (Альбертаўская, 5), а таксама і газэта „Голас Беларуса“. Абодва выданьні выходзяць, на жаль, вельмі нерэгулярна, бо ў выдавецтве бракуе грошай.

# КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЬЦЁ Ў РСФСР

* Ул. Лідзін напісаў п'есу на 4 акты „Океан". Гэта—псыхолёгічная драма аб людзях, закінутых на адну з выспаў Лёдавітага акіяну. Адрэзаныя ад чалавецтва, згубіўшы сувязь з тым сьветам, дзе адбываецца вялікая рэволюцыйная барацьба, людзі, закінутыя сярод акіяну, прынесьлі і сюды няўмірушчую надзею і волю да новага жыцьця. Тут на высьпе, апроч жорсткай барацьбы са стыхіяй, разгараецца і барацьба двух соцыяльных сьветаў. „Океан"—п'еса аб патосе барацьбы, у якой не астывае чалавек.

* У Парыжы вышла „Антолёгія сучаснай рускай прозы", складзеная Уладзімерам Позьнэрам. У антолёгію ўключаны творы 19 савецкіх пісьменьнікаў розных кірункаў, у тым ліку Каверына, Пастэрнака, Ціханава, Слонімскага і інш. Кніжка мае біографічны даведнік з паказаньнем існуючых перакладаў і біблiографічныя заметкі аб пісьменьніках, зьмешчаных ў антолёгіі.

* У парыскім выдавецтве „Бонапарт" адбылася выстаўка савецкай ілюстраванай дзіцячай кнігі за апошнія гады. Было паказана свыш паўтараста розных выданьняў „Молодой Гвардии". „Московского Рабочего", „Земли и Фабрики" і некаторых украінскіх выдавецтваў.

* Галоўнавука разгледзела плян навуковых экспэдыцый і дасьледваньняў на 1929 г. Усяго мяркуецца організаваць 80 экспэдыцый і навуковых выездаў у розныя раёны СССР.

Гідролёгічны Інстытут пасылае экспэдыцыю ў Ахоцкае і Японскае моры для акіянаграфічных дасьледаў. Мурманская біолёгічная станцыя будзе весьці работы па вывучэньні паўночных мораў. Для гэтай мэты на поўнач, да кромкі лёду, будзе паслана толькі што набытае у Норвэгіі і нанава абсталяванае судна „Николай Книпович".

Вялікія экспэдыцыі ў зьвязку з проблемай уздыму ўраджайнасьці, наладжваюцца Дзяржаўным інстытутам вывучэньня засушлівых краін у Астраханскую і Сталінградзкую губэрні для дасьледаў глебы і культуры розных расьлін. Інстытут мінэралёгіі пасылае экспэдыцыю ў Прыбайкальле і Туркестан для дасьледаў месцанараджэньня сьлюды.

Намечаны таксама рад экспэдыцый па вывучэньні народнасьцяй Алтаю—зыран, бурат-монголаў і інш. Археолёгічныя інстытуты пасылаюць экспэдыцыі на Паўночны Каўказ, у Олівію, Судак і Туманскую паўвыспу.

* У памяшканьні Музэю прыгожых мастацтваў у нядзелю 9 чэрвеня адкрылася трэцяя выстаўка Таварыства расійскіх скульптараў (ТРС).

Новая выстаўка таварыства, якое ўзьнікла ў 1926 г., дэмонструе работы звыш двух дзесяткаў скульптараў, што прадставілі звыш 80 экспонатаў.

* Група ленінградзкіх пісьменьнікаў— т. т. Федзін, Лібедзінскі, Сямёнаў, Казакоў, Лаўрэнеў, Сяргееў, Браун і інш. былі на Украіне, дзе шмат працавалі ў сувязі з дзесяцілецьцем Дзяржвыдавецтва і двухтыднёвікам савецкай кнігі. Ленін-

градзкія пісьменьнікі выступілі з дакладамі на тэму аб кнізе і абслужылі да 20 тысяч чытачоў.

* На пятай па чарзе „Міжнароднай выстаўцы кніжных знакаў“, наладжанай у Лёс Анжэлёсе (Каліфорнія) у маі, прэмія за лепшы эксьлібрыс, выкананы офортнай тэхнікай, прысуджаны Маскоўскаму графіку С. Шор. За сэрыю эксьлібрысаў, рэзаных па дрэве, Уладзімерам Ів. Сакаловым, мастак атрымаў ганаровую грамату.

* В. А. Гронін скончыў нядаўна п'есу „Извилины“—з жыцьця маладых рабфакаўцаў провінцыяльнага гораду. У п'есе выведзены людзі навукі і рабочае студэнцтва, заснаваньне рабфаку і ўпартасьць рабочай моладзі ў перамаганьні ўсіх труднасьцяй на шляхох да ведаў, змычка лепшай часткі старой профэсуры, у вобразе профэсара-хэміка з рабфакаўскім маладняком.

* З 4 чэрвеня ў першым савецкім кіно-тэатры адбылося ўрачыстае адкрыцьце выстаўкі японскага кіно, якую арганізаваў ВОКС, разам з Саўкіно. Дзякуючы актыўнай дапамозе шэрагу выдатных дзеячоў японскай кінематографіі, здолеў атрымаць з Японіі вельмі цікавыя і добра падабраныя экспонаты.

Шматлікія фотографіі паасобных кадраў, актораў, рабочых момантаў, тэатраў і г. д., даюць ўяўленьне аб мастацкіх і вытворчых маштабах японскага кіно. Выставачны аддзел ВОКС'у ўдала аформіў гэты матэрыял і разьмеркаваў яго па соцыяльна-тэматычных адзнаках; такім чынам, выстаўка дае магчымасьць прасачыць паасобныя этапы японскай гісторыі, розныя грамадзкія моманты ў сучасным японскім жыцьці і г. д.

Вельмі цікавы японскі кіно-плякат, у якім злучаюцца ўплыў старой японскай гравюры і сучаснай рэклямнай афішы амэрыканскага тыпу. Вялікая колькасьць выстаўленых часопісаў па кіно паказваюць, як шырока разьвіта ў Японіі спэцыяльная кінематографічная прэса. Адзін з буйных часопісаў, „Кінемарэкорд“ прыняў непасрэдны ўдзел у арганізацыі выстаўкі.

ВОКС выдаў да адкрыцьця выстаўкі зборнік каталёг з артыкуламі аб японскім кіно і плякаце проф. Н. І. Конрада, Д. Аркінё і Н. Кауфманаў, вельмі цікавым афармленьні Эль Лісіцкага. Зборнік надрукаваны Дзяржзнакам.

* У Балце адбылася першая конфэрэнцыя молдаўскіх пісьменьнікаў „Рэсурит“. Адзначаны значны рост молдаўскай літаратуры. Павялічыўся літаратурны маладняк. Часопіс „Молдавская литература“ мае 7.000 падпісчыкаў.

* Літаратурны аддзел Галоўмастацтва прызнаў патрэбным заснаваць у Маскве літаратурную ВНУ.

Гэтая ВНУ павінна даць пачынаючаму пісьменьніку агульную ідэолёгічную і літаратурную асьвету, а таксама спэцыяльныя звычкі ў галіне мастацкай прозы, вершу і драматургіі. Яна будзе рыхтаваць кваліфікаваных рэдакцыйна-выдавецкіх работнікаў, мастакоў, літаратараў, крытыкаў, кіраўнікоў гурткоў, кваліфікаваных перакладчыкаў і кіно-сцэнарыстых.

Навучальны плян ВНУ прадугледжвае тры аддзелы: політыка-эканомічны, тэорыя і гісторыя літаратуры і спэцыяльныя практычныя заняткі. Пры комплектаваньні гэтае ВНУ спэцыяльную ўвагу пастаноўлена зьвярнуць на ўцягненьне пачынаючых пісьменьнікаў нацыянальных ускраін.

Існуючыя вышэйшыя дзяржаўныя літаратурныя курсы будуць захаваны і рэорганізаваны для палепшаньня соцыяльнага складу датуль, пакуль скончыцца організацыя новае ВНУ.

Новую літаратурную ВНУ мяркуюць адкрыць сёлета ўвосень.

* К. Петрашкевіч перадаў маскоўскаму перасовачнаму драмколектыву „Сучасны тэатр“ новую сваю п'есу „Бульвар“, якая будзе паказана ў

летнім сэзоне, у пастаноўцы рэжысэра Самарына-Вольскага і ў афармленьні мастака Рудзі. Аўтар заклікае да барацьбы з мяшчанскім „бульварам“—за новае жыцьцё, за новага чалавека.

* 13 чэрвеня 1929 г. мінула пяцілецьце Цэнтральнага выдавецтва народаў СССР.

За пяцігадовы пэрыяд свайго існаваньня Цэнтравыдавецтва выдавала літаратуру на 52 мовах. Нацлітаратура выпускалася на мовах розных этнічных груп: на цюрка-татарскіх, угро-фінскіх, заходніх монгола-манчжурскіх і інш. У іх ліку ёсьць рад нацыянальнасьцяй, якія сваю пісьменнасьць атрымалі толькі пасьля Кастрычніка.

У 1923—24 г. Цэнтрвыдавецтва выпусьціла на 29 мовах толькі 124 кнігі, у колькасьці 421.000 экз. На пятым годзе свайго існаваньня яно выпусьціла на 38 мовах 944 кнігі ў 4.099.150 экз. За ўсе пяць год Цэнтрвыдавецтва выпусьціла 2.752 кнігі ў колькасьці 11.669.850 экз.

Зараз Цэнтрвыдавецтва выпускае ў Маскве і Харкаве 12 газэт і 9 часопісаў. Газэты „Эпчэ“ (татарская „Рабочая газэта“), „Чаваш-Хрэсчэн“ („Чувaскі селянін“), „Якстэрэ Гэштэ“ (марыйская газэта „Чырвоная Зорка“) і інш. Татарскі антырэлігійны часопіс „Фэн-Хэм-Дзін“ („Навука і рэлігія“), баўгарскі часопіс „Будзь гатоў“ і г. д. Падпісчыкаў ёсьць звыш 150 тысяч чалавек.

На 1929 год Цэнтрвыдавецтвам, паводле пляну, намечана выпусьціць 6.000 друкаваных аркушоў літаратуры (30 міл. адбіткаў), на 1930 г.—рэзкае павялічэньне продукцыі—10.000 друкаваных аркушоў (100 міл. адбіткаў). Цэнтрвыдавецтва намячае правесьці рад юбілейных вечароў з удзелам усіх нацыянальных выдавецтваў.

* Ф. Ваграмаў, член групы „Пролетарский театр“, напісаў п'есу „Взлет“, прынятую да пастаноўкі на Малой сцэне МХАТ і для спэктакляў гэтага тэатру ў рабочых раёнах. „Взлет“—п'еса аб барацьбе авія-эскадрыльлі з саранчой у Сярэдняй Азіі. На гэтым фоне разгортваецца псыхолёгічная драма, якую перажывае герой на глебе бытавых супярэчнасьцяй.

* У выдавецтве „Теа-кіно-печать“ па выкліку яго ленінградзкага аддзяленьня, пачата правядзеньне соцыялістычнага спаборніцтва па наступных аддзелах выдавецкай работы: павышэньне ідэолёгічнай якасьці выдаванай літаратуры; пасьпяховае прасоўваньне яе ў рабочыя клюбы і на вёску; патаненьне выданьняў і падняцьце працоўнай дысцыпліны.

* „Главсоцвос“ НКП разам з „Теакино-печатью“ абвясьціў конкурс на п'есу аб сям'і і выхаваньні дзяцей. П'еса павінна адлюстраваць пытаньні пэдагогічнае пропаганды выхаваньня дзяцей сярод дарослых. Першая прэмія—1.250 р., другая—750 р. Тэрмін прысылкі рукапісаў—15 кастрычніка г. г. П'есы, якія атрымаюць прэміі і пахвальныя водзывы, будуць выданы на звычайных умовах.

* У Галоўмастацтве адбылася нарада па пытаньні аб перабудаваньні Галоўнага кіраўніцтва па справах мастацкай літаратуры і мастацтва ў Савет па справах мастацкай літаратуры і мастацтва.

Тав. Сьвідэрскім быў ўнесены проэкт пастановы аб паратварэньні Галоўмастацтва.

„Галоўнае кіраўніцтва па справах мастацкае літаратуры і мастацтва Наркамасьветы РСФСР,—гаворыцца ў проекце,—перетвараецца ў савет па справах мастацкай літаратуры і мастацтва на падставе ўстаноўленых зараз палажэньняў аб Галоўмастацтве. Рэорганізацыя „ГІС“ будзе праведзена на падставе пашырэньня яго функцый у бок ідэолёгічнага і гаспадарча-плянававага кіраўніцтва мастацкай работай на мясцох. Дзеля гэтых мэт на мясцох будуць арганізаваны абласныя і краёвыя арганізацыі Галоўмастацтва.“

„У склад колегії Галоўмастацтва павінны ўваходзіць старшыня, 3 намесьнікі і члены, якія назначаюцца Наркамасьветы з ліку прадстаўнікоў грамадзкіх і профэсіянальных організацый, а таксама з найбольш выдатных дзеячоў літаратуры і мастацтва.

* На колегію ўскладаецца кіраўніцтва дзяржаўнымі і грамадзкімі мерапрыемствамі ў галіне мастацкай літаратуры і іншых галін мастацтва ў адпаведнасьці з дырэктывамі ўрадавых органаў“.

* Наркамасьветы павінен у месячны тэрмін разгледзець проект зьмененых палажэньняў аб Галоўмастацтве“.

З паданым проектам Галоўмастацтва мяркуе зьвярнуцца ў Саўнарком РСФСР і ва УсеЦВК.

„Пудоўкін В. разам з сцэнарыстым Ржэшэўскім закончыў рэжысэрскую распрацоўку сцэнарыя „Очень хорошо живется“. Карціна гэта будзе выпушчана „Межрабпом-фильм“.

* Композытар Л. Кныпер, член асоцыяцыі сучаснай музыкі, піша опэру на сюжэт п‘есы Кіршона „Город ветров“.

* У сувязі з 20-годзьдзем са дня сьмерці Чэхава „Межрабпом-фильм“ выпускае на экран „Чэхаўскі альманах“—шэраг кароткамэтражных фільм у пастаноўцы Пратазанава, пад рэдакцыяй Ю. Собалева.

* Завалішын А. здаў сваю новую п‘есу „Партбілет“ тэатру Рэволюцыі, дзе яна пойдзе ў пачатку будучага сэзону.

* С. Мяцежны перакладае нядаўна атрыманую ім п‘есу нямецкага поэты Вальтэра Мэрынка „Бэрлінскі купец“.

* ВОКС супольна з голяндзкім таварыствам зьбліжэньня з СССР організаваў у сярэдзіне красавіка выстаўку савецкай графікі, малюнку, кніг і плякатаў у Амстэрдаме. Зараз гэтая выстаўка вандруе па іншых гарадох Голяндыі.

* Прэабражэнская закончыла карціну „Апошні атракцыён“ і прыступае да пастаноўкі карціны „Ціхі Дон“ па матэрыялу роману М. Шолахава.

* Пачатак падрыхтоўчай работы па пастаноўцы карціны „Евгений Базаров“ на тэму роману Тургенева. Рэжысэр карціны В. Мэйерхольд, яго асыстэнт—Падабед. Сцэнары заказаны О. Брыку.

# ХРОНІКА УКРАІНСКАЙ КУЛЬТУРЫ

* У Харкаў прыехала дэлегацыя нямецкіх пролетарскіх пісьменьнікаў у складзе: Курт Клебэр, Ганс Лёрбэйер, Кароль Грунбэрг, Курт Пэтэрсон, Ганс Мархшвіцэ, разам з дэлегацыяй прыбылі і ўгорскія пролетарскія пісьменьнікі—Бэла Ілеш і Матэ Залка.

* У канцы лютага месяца г. г. ў Буйнос-Айрэсе (Аргентына) вышаў першы нумар украінскага часопісу „Пролетар“.

* А. Гатаў, рэдактар зборніка „Избранные стихи П. Тычыны“—на расійскай мове, што вышаў у 1927 г., зараз рыхтуе для „ГИЗ“а РСФСР другое, значна папоўненае і пераробленае выданьне П. Тычыны. У кнізе будзе каля 3 тыс. радкоў, у перакладзе Багрыцкага, Сьвятлова, Ушакова, Асеева, Салагуба ды інш.

* Мікітэнка Іван працуе над замежным падарожжам пад назваю „Голубі сьвету“, што будзе друкавацца ў часопісу „Гарт“.

* ДВУ выдала зборнік Шэўчэнкі Іона пад назваю „Сучасны украінскі тэатр“.

* Л. Іван друкуе ў ДВУ вялікі роман „Міжгор‘е“. Ён-жа працуе зараз над вялікай аповесьцю „Сьмерць штабу“.

* У Вініпэзіі (у Канадзе) заснаваны ў нацыянальным украінскім будынку вышэйшыя украінскія курсы: курсы гісторыі і літаратуры, геаграфіі, гісторыі музыкі і тэатру, палітычнай экономіі і украінскай філёлёгіі.

* У канцы чэрвеня ў Кіеве адкрылася 2-я Ўсеукраінская мастацкая выстаўка. У ёй прымалі ўдзел мастакі са ўсёй Украіны.

* Быкавец М. падрыхтаваў і здаў да друку ДВУ слоўнік-каляндар дзіцячага мастацтва (літаратура, кіно, тэатр, музыка, крытыка).

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны склала ўмову з мастаком А. Пятрыцкім на выданьне яго работы „Альбом портрэтаў сучасных украінскіх дзеячоў літаратуры і мастацтва“.

* ВАН зараз рыхтуецца да свайго 10-цігадовага юбілею. Да юбілею выдаецца кніга „10 год навуковай дзейнасьці ВУАН“ на дзьвёх мовах—украінскай і францускай.

* Акруговы выканаўчы камітэт даручыў Інстытуту народнай асьветы правесьці ўсю падрыхтоўчую працу па організацыі ў Харкаве, па прыкладу другіх месц, таварыства „Стары Харкаў“.

* Хрысьцюк П. здаў выдавецтву РУХ крытычную працу: „Пісьменьніцкая творчасьць Вінічэнкі“.

* Прэзыдыум Укр. навукі прапанаваў усім навукова-дасьледчым установам Украіны ўзяць актыўны ўдзел у 3-хмесячніку украінскага нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

* У Харкаве адчынена Ўсеукраінская выстаўка кніжнай графікі, організаваная па ініцыятыве дырэктара музэю профэсара Таранучанка з дапамогай выдавецтваў (ДВУ, „Пролетары“, Кнігасьпілка ды інш.).

* Укрнавука апрацавала 5-цігадовы плян разьвіцьця навукова-да-

сьледчых работ на Украіне. Намечаны галоўныя комплексныя проблемы: Днепрастан, Данбас і Ўсход.

На працягу бліжэйшых 5 гадоў прадугледжваецца заснаваць 53 новых навуковадасьледчых інстытуты. Мае быць організавана спэцыяльная акадэмія у першую чаргу сельска-гаспадарчая. Работаю гэтых спэцыяльных акадэмій і інстытутаў будзе кіраваць Усеукраінская акадэмія навук. На працягу 5 гадоў лічба навуковых асьпірантаў павінна дайсьці да 5 тыс. чалавек (цяпер налічваецца 1500). На працу навукова-дасьледчых устаноў на працягу пяцігодзьдзя прадбачыцца затраціць 337 мільёнаў рублёў.

## ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Орган амэрыканскай компартыі „Дэйлі Уокэр“ ужо ў працягу некалькіх месяцаў друкуе рэгулярна паасобныя творы савецкай літаратуры. У газэце ўжо надрукаваны: „Правонарушители“ Сэйфулінай, „Голубыя города“ А. Талстога, „Черныя лепешки“ П. Раманава і г. д. зараз з дня ў дзень друкуецца „Цэмэнт“ Ф. Гладкова.

* У нью-ёрскім выдавецтве „Пейзон и Клаоке“ вышлі нядаўна „Голый год“ Пільняка і „Дневник Кости Рябцева“ Огнева (апошні ў перакладзе называецца так: „Дневник учащегося коммуниста“).

У часопісу „L'Amour de l'Art“ Брыель прысьвячае цэлы артыкул творчасьці Аляксандра Аляксеева. Аляксееў за апошні час у Парыжы заваяваў сабе шырокае прызнаньне, як выдатны разьбяр. Нядаўна ў Парыжы вышлі ў выданьні „Плеяды“ „Братья Карамазовы“ Дастаеўскага з літографіямі, па ацэнцы Брыеля, такімі высокімі і дасканалымі, што маглі-б скласьці эпоху ў гісторыі гравюры і кнігі. Апроч таго, Аляксеевым ілюстраваны „Пиковая дама“ Пушкіна, „Записки сумасшедшего“ Гоголя і шмат іншых кніг.

* У Нью-Ёрку быў паказаны рэльефны фільм Бэгрына на экране з шаршавага шкла. На праглядзе было 500 тэхнікаў і дзеячоў кінопрамысловасьці Амэрыкі. Пры дэмонстраваньні было поўнае ўражаньне глыбокага рэльефу.

* У Нью-Ёрку ў выданьні „Эктив Прес“ вышла пад рэдакцыяй Маркуса Грэхэма „Антолёгія рэволюцыйнай поэзіі“. Кніга прадстаўляе сабою значную цікаўнасьць ужо таму, што зьяўляецца першай спробай на ангельскай мове сабраць вялікую колькасьць твораў рэволюцыйнай поэзіі ня толькі ангельскай, але і перакладаў з чужаземных моў. У антолёгію ўключаны пераклады з нямецкае, француское, італьянскае, японскае, кітайскае, румынскае, расійскае, норвэскае, армянскае, яўрэйскае, гішпанскае, грэцкае, украінскае, вэнгерскае, індыйскае моваў і нават санскрыту. Гэта гіганцкая праца каштавала многіх намаганьняў. Рэдактар шукаў помнікі рэволюцыйнай поэзіі ў многіх паўзбуцьвеўшых старонках старых і забытых газэт і часопісаў. Ім ахоплены пэрыод у 200 год.

* У Парыжы ўзьнікла судовая справа з-за літаратурнае спадчыны Артура Рэмбо, вядомага францускага поэты, поэтычная дзейнасьць якога цягнулася ўсяго толькі два гады (пачаў пісаць з 16 год, абарваў сваю творчасьць у 18 год).

Яго сястра Ізабэла, разам са сваім мужам скульптарам Дзюфортам, старанна сабрала раскіданыя па розных часопісах творы брата і іх выдала. Ізабэла памёрла ў 1927 годзе, яе муж Дзюфор, ажаніўшыся у другі раз, памёр у 1922 годзе. Цяпер дзьве пляменьніцы Артура Рэмбо (дочкі яго брата Мікалая), абедзьве ўдавы спрачаюцца з удавою скульптура Дзюфора наконт права на выданьне твораў Артура Рэмбо.

Слава поэты хутка расьце і прыбытак ад выданьня яго твораў дасягнуў да 1927 году 43.000 франкаў.

* На старонках бэрлінскай літаратурнай газэты „Die Literarishe Welt“

у цяперашні час з усёй сур'ёзнасьцю абмяркоўваецца пытаньне аб актуальнасьці 10 запаведзяй. „Ці трэба,— пытаецца газэта,—каб закон Майсея" стаў інтэрнацыянальным у тым выглядзе, у якім мы маем яго ў біблії, ці ня маюць патрэбы запаведзі ў істотнай апрацоўцы прыстасоўна да „закону сучаснай моралі"?

Побач з прадстаўнікамі буржуазнай літаратуры, Бэрнард Шоу заяўляе: „Законы грунтуюцца на маралі, якая заключаецца ў 10 запаведзях; мараль сучаснага грамадзянскага кодэксу да гэтага часу яшчэ не сформулявана і невядома, ці здарыцца гэта, пакуль капіталізм ахоўвае свабоду друкаванага і жывога слова".

* У Парыжы, пасьля доўгай хваробы, памер адзін з выдатнейшых францускіх сатырыкаў Жорж Куртэлін. Куртэлін—аўтар шматлікіх раманаў і п'ес („Эскадронныя радасьці" „Поезд 8,47", „Безжаласны жандар", „Бубурош" і г. д.). Асноўны мотыў яго творчасьці—рэзкая злая сатыра на мяшчанскую абмежаванасьць, ганарыстасьць, двуліцасьць, нізасьць; едка высьмейвае ён і казарменае жыцьцё гарнізону (якое ведаў на ўласнай практыцы) абсурднае і жывёльнае па сваёй бяссэнсоўнасьці.

Тым ня менш Куртэлін сам падуладны дробнабуржуазнай стыхіі. У яго гневе і сатыры няма нічога рэволюцыйнага; Куртэлін не паднімаецца на вышыню актыўнага протэсту. Ён не шукае таксама соцыяльных карэньняў таго недарэчнага і брыдкага жыцьця, па якім з такой сілай б'е. Росквіт творчасьці нябожчыка прыпадае на 90—900-я гады.

* Вядомая кантата Фэручыо Бузоні (Eerrucio Busoni), якая носіць назву „Il sabato del viaggio", знойдзена сярод папер нябожчыка-композытара і перадана „Societa Musicale" г. Lubecca.

* У ніжняэгіпэцкім сяле Бэхнева нядаўна знойдзены зноў лісты папірусу, якія зьмяшчаюць фрагмэнты драматычнага твору опэрнага характару. Знойдзеныя лісты адносяцца да II веку нашай эры і становяць сабою, напэўна, рэшткі аднэй з старэйшых опэр Рыму.

* Чэхаславацкі габінэт міністраў пастанавіў набыць спадчыну Фрыдрыха Сьмятоны за 2½ мільёны чэскіх крон. Сярод папер нябожчыка-композытара ёсьць рукапісныя партытуры васьмі опэр і тузін неапублікаваных да гэтага часу сьпеваў, а таксама шматлікія заметкі асабістага характару.

* Ігар Стравінскі скончыў новы балет „Пацалунак фэі".

* Гуго Гофмансталь (Hugo v. Gofmanstal), які напісаў нядаўна лібрэто да опэры Рыхарда Штрауса „Эгіпэцкая Галена", працуе цяпер над новым лібрэто для таго-ж композытара. Кніга носіць назву „Arabella". Штраус ужо ўзяўся за композыцыю опэры.

* Пауль Хіндэміт (Paul Hindemith) канчае комічную опэру, назва для якой яшчэ ня прыдумана, пасьля чаго будзе пісаць балет для Дзягулева.

* У Францыі выходзяць наступныя часопісы: штотыднёвы часопіс, які заснаваны і выдаецца пры ўдзеле, галоўным чынам, маладых пісьменнікаў: Жозэф Кесель (Loseph Kessel) Луі Рубо (Louis Roubaud), Марсэль Ашар (Marsel Achard), Жан Дэсборд (Jean Desbordes) Signaux — крытычны штомесячнік пад рэдакцыяй Жорж Дюпей (Georges Dupey), Даніэль Ропс (Daniel Rops). LE Fil D'arianie — бібліографічны часопіс пад рэдакцыяй Мішэль Ванкер Michel Vancairs). Rassemblement— часопіс з пацыфіцкай тэндэнцыяй пад рэдакцыяй Ц'еры Зандр (Tierry Sandre) і пры бліжэйшым удзеле Роланда Доржэлес (Roland Dorgeles).

* Сімон Жанціон (Simon Gantillon)— аўтар „Майі" напісаў новую п'есу „Decaris", з вялікім посьпехам пастаўленую адным з лепшых рэжысэраў Парыжу Гастонам Баці (Gaston Baty) Цэнтральная думка п'есы заключаецца ў тым, што чалавечыя мары значна лепшыя, чым само жыцьцё

і што бяз мар жыцьцё было-б немагчымым. У пятнаццаці карцінах, якія лёгка і хутка зьмяняюць адна адну, аўтар паказвае жыцьцёвы шлях блізьнюкоў Жана і Жанны. У мансардзе бацькаўскага дому яны марыць і будуюць пляны будучыні. Мары робяцца рачаіснасьцю. Жан зрабіўся мараком і вандроўнікам. Жанна—артысткай. Але жыцьцё расчароўвае абодвух і к канцу п'есы яны зноў гатовы марыць.

Крытыка адзначае мастацкасьць п'есы, у якой аўтар парывае з мэтодамі старога тэатру. Крытычныя артыкулы нічога не гавораць аб соцыяльным баку закранутага пытаньня, абмяжоўвачыся „чалавечнасьцю" матэрыялу.

* Шарль Дулін (Charles Dullin), кіраўнік аднаго з тэатраў так званага авангарду (Théâtres d'avant Garde), паставіў „Volcone" п'есу Бэн Джонсона (Ben Jonson), сучасьніка Шэксьпіра. Для францускага тэатру п'еса пераапрацавана Жуль Ромэнам. П'еса зьяўляецца жорсткай сатырай на чалавечую прагнасьць і адзначаецца яскравасьцю фарбаў і моцнасьцю мовы. Тэатральная крытыка высоўвае „Volcone" ў першы шэраг твораў елізавецінскай эпохі, нароўне з „Вэнэцыянскім купцом".

* „Тэатральнае аб'яднаньне маладых аўтараў" узяло тэатр „Studie des Champs Elysées", які да гэтага часу кіраваўся Гастонам Бата. Кіраўніцтва тэатрам перадана рэжысэру Корней (Corney). Першай пастаноўкай тэатру была п'еса Рэжы (Rêgis) „Брут". Герой п'есы вырашае раптам, што жыцьцё наогул і яго пасобку—толькі гульня і што ўсе людзі несьвядома адыгрываюць якую-небудзь ролю. Брут жадае сьвядома выбіраць свае ролі; ён становіцца магутным кіраўніком партыі і даходзіць да тэй ступені віртуознасьці, калі роля ўжо перастае быць роляй. Твор Рэжы становіць псыхолёгічную цікаўнасьць, але ў ім няма пераканальнай сілы таленту.

* Тыраж комуністычнага друку на Захадзе і ў Амэрыцы вылічаецца ў 1.000.000 экз. газэт і 1.500.000 экз. часопісаў. Ва ўсіх буйных комуністычных газэтах ёсьць рабкораўскія аддзелы. На 6-ці мовах выходзіць орган Комінтэрна „Комуністычны Інтэрнацыянал", на 5-ці мовах—„Міжнародная Прэс-Корэспондэнцыя".

У Германіі выдаюцца 43 штодзенныя газэты з тыражом у 400 тыс. экз. і 15 штотыднёвых і штомесячных часопісаў з тыражом у 900 тыс. экз. Буйнейшай і найбольш пашыранай комуністычнай газэтай зьяўляецца цэнтральны орган компартыі Германіі „Ротэ Фане". Часопіс „А-І ЦЕТ", які з посьпехам конкуруе з многімі буржуазнымі ілюстраванымі часопісамі, спачатку быў спэцыяльным органам Міжрабпому, але паступова ператварыўся ў ілюстраваны штотыднёвік. У Германіі выдаецца таксама шэраг спэцыяльных часопісаў, як „Эйленшпітэль" (сатырычны часопіс тыпу „Крокодил"), „Дэр фашызмус" (орган для вывучэньня фашызму), часопісы чырвоных франтавікоў, рабочых фотографаў, рэволюцыйных кінематографістых і г. д.

На другім месцы па тыражы стаіць комуністычны друк Францыі. Тут выдаюцца 4 штодзенныя газэты з тыражом 250.000 экз. і 25 часопісаў з тыражом у 150.000 экз. Найбольш пашыраная газэта—цэнтральны орган францускай компартыі „Юманітэ". У пропагандзе і агітацыі супроць мілітарізму ёй памагае спэцыяльная антымілітарыцкая газэта „Ля Казэрм" („Казарма"). Францускі комсамол выдае часопіс „Юны бальшавік".

На трэцім месцы стаіць Чэха-Славакія з 80-тысячным тыражом штодзенных газэт і 140-тысячным тыражом сваіх 30 штотыднёвых і штомесячных часопісаў.

Далей ідуць Швэцыя (пяць штодзенных газэт з тыражом 20 тыс.

экз. і 1 часопіс з 50-тыс. тыражом), Норвэгія (агульны тыраж газэт і часопісаў 40 тыс экз.), Англія (30 тыс. экз.), Швайцарыя (17 тыс. экз.), Бельгія 14 тыс. экз.) і г. д.

У Аргентыне выдаецца 5 газэт і часопісаў (агульны тыраж 30 тыс. экз.), ва Уругваі—3 (13 тыс. экз.), у Японіі—7 (60 тыс. экз.), у Канадзе, Аўстраліі і Паўднёвай Афрыцы па 1 часопісу (тыражы ад 4 да 8 тыс. экз.).

Значна бядней комуністычны друк у краінах белага тэрору. Тут выдаюцца невялікія нелегальныя ці поўлегальныя газэты і часопісы. У Польшчы выдаецца 12 падпольных газэт і часопісаў, у Латвіі—6 (10 тыс. экз.), у Фінляндыі—3 (6 тыс. экз.), у Эстоніі—6 (8 тыс. экз.), у Літве—5 (6 тыс. экз.) і г. д. У Баўгарыі нядаўна пачаў выдавацца журнал „Рабселькор". Шэраг падпольных газэт выдаецца ў Італіі, Югаславіі, Грэцыі і інш. краінах.

Яшчэ бядней комуністычны друк на ўсходзе. Тут нерэгулярна выходзяць газэты, часопісы ці проста лістоўкі. На выстаўцы Комінтэрну паказаны ўзоры гэтых выданьняў на кітайскай, японскай, карэйскай, арабскай, пэрсыдзкай, турэцкай і яўрэйскай (компартыя Палестыны) мовах.

За апошні час узьнік і няўхільна расьце комуністычны друк на міжнароднай мове эспэранто, які выдаецца комуністычнай фракцыяй міжнароднай асоцыяцыі рэволюцыйных рабочых эспэрантыстых. Выдавецкі апарат гэтай організацыі знаходзіцца ў Лейпцыгу, а рэдакцыя—у Парыжы і Маскве. На эспэранто перакладзены шэраг твораў Леніна і дакумантаў Комінтэрну.

Офіцыяльны орган Выканкому Комінтэрну, часопіс „Комуністычны Інтэрнацыянал" выходзіць ужо 10-ты год. Рэгулярна ён выдаецца на 4-х мовах—расійскай, нямецкай, французкай і ангельскай, нерэгулярна—на італьянскай і швэдзкай. Апроч таго, выканком Комінтэрну выдае для абслугоўваньня комдруку „Міжнародную Прэс-Корэспондэнцыю" на пяці мовах; нямецкай, француской, ангельскай, чэскай і гішпанскай.

* Тосканіні (Toscanini) сьвяткаваў 26 сьнежня 1928 году трыццацігодзьдзе сваёй дырыжэрскай дзейнасьці. У вечар юбілею былі пастаўлены „Майстэрзінгеры", якімі Тосканіні дэбютаваў у міланскай „Scala" трыццаць год таму назад.

* У Мадрыдзе і Барсэлёне ў бягучым сэзоне намечаны да пастаноўкі гішпанскія опэры „Ias Colondrinas" Хозэ Марыя Ўзандзіцага (Jose Maria Ucandizara) і „Ciovanni Ьi Napoli" Хуан Манэн (Ioan Manen).

* У нью-ёрскім Metropolitan-Opera будуць у бягучым сэзоне пастаўлены „Эгіпэцкая Алена" Рыхарда Штраўса, „Затоплены звон" Рэфіджы, „Джоньні наігрывае" Кшэнэка і „Fra Cherardo" Піцэці.

* Флямандзкая каралеўская опэра мяркуе наступныя пастаноўкі: „Lara" Арман Марзік (Armand Mausick), „Тры комэдыі Гольдоні" Маліпіеро (Malipiero), апрацаваныя Анры Прунерам (Henru Prunières) і „Reiżer Karel" Тэо Пітэрса (Ther Pieteus).

* Зімні сэзон рэвэльскага эстонскага тэатру быў адкрыты прэм'ерай опэры „Вікінгі" Эвальда Аава (Ewaln Ąaaw), тэкст Вольдэмара Лёо (Woldemar Loo). „Вікінгі"—першы музычны сцэнічны твор чыста эстонскага пахаджэньня.

У Бэрлінскай гарадзкой опэры (Sagtische Oper) адбілася пад кіраўніцтвам Бруно Вальтэра (Bruno Walter) прем'ера опэры Юліуса Бтнэра (Julius Bitner) „Месячная ноч". Паводле думкі музычнай крытыкі, аўтар, у іншых сваіх творах непазбаўлены дасьціпнасьці, у гэтай опэры захапляецца романтыкай і злоўжывае так званымі „венскімі прыёмамі".

* Венская дзяржаўная опэра прыступае ў канцы лютага 1929 году да офіцыйных гастроляй у Стокгольме і Копэнгагене.

* Нямецкае сьвята ў гонар Баха, што арганізуецца Neue Basch Gesellscaft, адбудзецца з 8 па 10 чэрвеня 1929 г. ў Лейпцыгу. Сьвята прысьвечана 200-годзьдзю са дня першага выкананьня „Matthäns Passion“ і дваццаціпяцігодзьдзю другога па ліку сьвята ў гонар Баха, якое адбылося ў Лейпцыгу.

* У апошнія часы ў Гішпаніі зьявіўся рад кніг прысьвечаных СССР. Гэта сьведчыць аб значнай цікавасьці да СССР ня толькі з боку чытачоў Гішпаніі, але і Паўднёвай Амэрыкі, бо гішпанскія кнігі разыходзяцца і ў паўднёва-амэрыканскіх дзяржавах. Выдавецкія фірмы Мадрыду і Барсэлёны пасылаюць у Паўднёвую Амэрыку значна больш кніг, чым на гішпанскі рынак.

Нядаўна вышлі кнігі двух гішпанскіх журналістых, якія наведалі СССР летась—„Гішпанскі нотарус у Расіі“, Дыего Гідальго і „Дробны буржуа ў чырвонай Расіі“ Чаво Ногалеса.

Діего Гідальго, па профэсіі нотарыус, паехаў у СССР, для вывучэньня савецкага права. Краіна перамогшага пролетарыяту зрабіла на Гідальго вялікае ўражаньне. Яго кніга адзначаецца прастатою і шчырасьцю. Аўтар, захоплены дасягненьнямі расійскага пролетарыяту, прарочыць, што СССР зьменіць сусьветны парадак.

У процівагу Гільдаго, Ногалес адносіцца да СССР яўна варожа. З стараннасьцю і дакладнасьцю гэты сапраўдны дробны буржуа ад літаратуры ўпісвае ў сваю кнігу ўсякія плёткі аб чырвоным мілітарызьме і г. д.

* Кіно-фільм „Уордл Уайд“ мае намер організаваць вялікую вытворчасьць гукавых карцін. Дзеля гэтага каля Лёндону мяркуецца пабудаваць некалькі ательe гукавых фільм, у якіх будуць вырабляцца карціны ў розных варыянтах для ўсіх краін. Вільямс — кіраўнік фірмы — мяркуе заснаваць кіно-таварыства з капіталам у 1 мільён фунтаў стэрлінгаў.

Каралеўская акадэмія драматычнага мастацтва адкрыла ў Лёндоне курсы тэхнікі гукавога кіно. Кіруюць курсамі лепшыя кіно-рэжысэры Англіі.

* Адзін роман, напісаны Наполеонам, які ў юнацтве марыў зрабіцца пісьменьнікам, апублікаваны нядаўна часопісам „Рёвю-дэ Монд“. Яго назва „Плісон і Эўгеньня“. Ён датаваны 1795 годам пад уплывам чытаньня Руссо і Сэн-Прэ і мае аўтобіографічны характар. У ім апісваецца юнацкае каханьне Наполеона да Яўгеньні Клары. Ажаніцца Наполеону на Клары перашкодзілі дрэнныя матэрыяльныя ўмовы, з прычыны якіх Наполеон павінен быў прыехаць з Тулону ў Парыж, дзе хутка ўступіў у армію і адправіўся ў пераможны італьянскі паход.

* Мінула 25 год баявога існаваньна газэты „Юманітэ“, заснаванай у 1904 г. Ж. Жорэсам. Першы нумар вышаў у нябывалым для тае эпохі тыражы — 138.000.

*Рэдакцыйная колегія:* **Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот, І. Шыпіла.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ